


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**10** (1008)

*КАСТРЫЧНІК*

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»**

**Мінск 2013**

## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Іван КАПЫЛОВІЧ

# ПРАВІНЦЫЯЛКА

*Аповесць*

***Прысвячаю маці сваёй***

За шклом невялікай і невысокай кніжнай шафы партрэт малодшай дачкі. Ён з'явіўся на гэтым месцы пасля таго, як Святлану пахавалі на тутэйшых могілках. Маладая яна была, зусім маладая, ёй пайшоў усяго трыццаць восьмы гадочак. Ёй бы жыць ды жыць, але Святлана, выйшаўшы другі раз замуж і нарадзіўшы аднаго за другім двух хлопчыкаў, нечакана захварэла. Надзя не думала і не гадала, што хвароба яе цяжкая, непапраўная. Але ўсё аказалася менавіта так.

Надзя сядзіць у зале на старой, расхістанай, з абшарпанымі вугламі канапе, пазірае на партрэт дачкі і нібы толькі зараз заўважае, якія сумныя ў Святланы вочы. Гэты сум у яе і на твары. Дачка быццам знала, прадчувала, што яе век на гэтым свеце будзе зусім кароткі.

Паміраючы, Святлана распарадзілася, каб маці забрала тое-сёе з нажытага дабра да сябе, а потым, калі старэйшы сын ажэніцца, займее сям'ю, то каб перадала яму.

У дачкі былі залатыя завушніцы, заручальны залаты пярсцёнак, залаты пярсцёнак з брыльянтам, залаты, на ланцужку, крыжык... І гэта, распарадзілася дачка, каб забрала Надзя, а потым таксама перадала сыну. «У меншых маіх хлопцаў ёсць бацька, ён пра іх паклапоціцца, а хто паклапоціцца пра Віталя? Яго бацька п'янчужка, з-за гарэлкі яму не да сына, то няхай хоць тое-сёе застанецца Віталю», — такі быў перадсмяротны наказ дачкі маці...

Двухпакаёвую кватэру, якую першы Святланін муж атрымаў ад сваёй работы, дачка паспела перапісаць на старэйшага сына. Колькі судоў давялося перажыць, перш чым тая кватэра стала Святланінай. Праўдамі і няпраўдамі дачка выпісала свайго першага мужа, судом пазбавіла яго права на жылую плошчу. Жорстка гэта было з яе боку, надта жорстка, мо за гэту жорсткасць

---

***Капыловіч Іван Іванавіч*** *нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. У 1962 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Служыў у Савецкай Арміі. Пасля службы ў войску і заканчэння вучобы ва ўніверсітэце працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную аварыю, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка. Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужыны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003).*

Бог і пакараў дачку. Але які сэнс цяпер аб гэтым гаварыць — што зроблена тое зроблена. Старэйшы Святланін сын ужо дарослы чалавек, не сёння-заўтра яму выпраўляцца на службу ў войска, але вялікага розуму ў яго няма, і Надзя баіцца, што ён, маючы правa на матчыну кватэру, можа пусціць яе ў распыл, пакваліцца на вялікія грошы. Шмат хто мяняе меншую кватэру на большую, прапануючы за гэтакі абмен немалыя грошы, і ўнук можа не ўтрымацца ад нядобрай спакусы. Не дай божа дажыць да гэтага. Куды ў такім разе падзенецца другі Святланін муж з двума малымі дзецьмі?

Надзя хацела адгаварыць дачку ад неабдуманага, паспешлівага рашэння перапісаць кватэру на старэйшага сына, але дачка знаходзілася ў такім стане, што пярэчыць ёй Надзя пабаялася, яна ўсё яшчэ спадзявалася, што Святлана адужае хваробу, як-небудзь выграбецца з незайздроснага становішча і яе распараджэнням-завяшчанням не суджана збыцца. Але ўсё склалася самым горшым чынам... Надзя паспела ўжо і помнік паставіць на магіле і час ад часу наведвае клады, прынясе кветкі, сарваныя ў сваім гародзе, пакладзе на магільную пліту, сядзе на вузкую лавачку, што наўзбоч магілы, цяжка ўздыхае і пачынае размаўляць з дачкой, расказвае ёй пра ўсё тое, што адбылося пасля яе перасялення ў іншы свет.

Усяго, што адбылося, яна, канечне, не перакажа, бо для гэтага, мабыць, мала будзе аднаго дня. Але пра тое, што вярэдзіць душу, яна змаўчаць не можа.

«Жэня, другога Святланінага мужа зваць Жэнем, атрымаў двухпакаёвую кватэру і перабраўся з сынамі ў свой куток. Я ўжо наведвалася да яго і да ўнукаў. Кватэра ладная, на трэцім паверсе пяціпавярховіка, пярэдняя прасторная, у пярэдняй шафа для верхняга адзення. Ёсць балкон, Жэня кажа, што ён ашалюе яго, зашкліць... Я дала, донька, Жэню трыста рублёў. Гэта я выручыла за яблыкі, грушы, слівы, чарэшню. Садавіна ўрадзіла сёлета, дык я з рынку не вылазіла. Кожны дзень устану рана-раненька, назбіраю ападу, нарву, натрушу яблык, груш як панесці — і на рынак... Груша, тая, што перавезлі з нашага вясковага саду сюды, разраслася і добра родзіць... Цяпер ось капейка з нашага саду завялася, то я рада была памагчы Жэню. А што ж — твае меншыя сыночкі, донька, дзякуй богу, растуць, ім жа трэба адзежына, абутак... Жэнінай зарплаты хіба на ўсё хопіць? Знаю, здагадваюся, Святлана, што ты мяне не пахваліш, што я аддала грошы не твайму старэйшаму сыну, не Віталю. Ох, донька мая, донька! Не хацела я цябе засмучаць, не адгаварыла, каб ты не адпісвала Віталю кватэру. Бядовы ён хлапчак, ох, які бядовы! Зблытаўся з нейкай хамхадэрай, якая п’е, курыць, збівае з толку Віталіка, і ён ужо мяняе тваю кватэру з выгодай. Але якая гэта выгода, калі разабрацца? Чула мая душа, што твая кватэра пойдзе ў распыл, так яно і выйшла. Галоўнае — зрабіў жа нягоднік твой сынок усё так быстра, сціхара, што назад ужо нічога не вярнуць. Хіба ў суд падаць. Але што суд? Віталь — чалавек дарослы, псіхічна ўраўнаважаны, але адна бяда — легкадумны...»

Тут яе згадкі-размовы з дачкой нечакана абрываюцца, бо яна бачыць, што сюды, да магілы дачкі, прастуе Валодзь — першы Святланін мужык. Ён невысокага росту, каранасты, рыжавалосы, са скуластым тварам, строгімі, уважлівымі вачыма. На ім кароткі блакітны плашч наросхрыст, на галаве зялёны, пакамечаны капялюш, на нагах растаптаныя, запыленыя чорныя туфлі. У руках — белыя півоні.

Згледзеўшы Надзю, Валодзь нібы разгубіўся, стаў як укопаны, заміргаў вачыма. Але яго разгубленасць цягнулася нейкае імгненне, ён увачавідкі ўзяў сябе ў рукі, зрабіў колькі крокаў, ціха павітаўся з ёю, паклаў на магілу півоні, сеў на лавачку ўпобачкі з ёю, зняў з галавы капялюш, заўздыхаў, зашморгаў носам, заўсхліпаў, загаварыў:

— Ты мяне, Святлана, выгнала з селішча, цыгана з мяне зрабіла, і я цяпер блукаю па свеце як непрыкаяны. Няшчасны я чалавек, Святлана, гэта так. А ты? Чаго ты так рана легла ў сырую зямлю? Хіба я замінаў твайму шчасцю?

Валодзь замаўкае, кулаком расцірае слёзы, што коцяцца па яго абедзвюх шчоках. Надзя адчувае, што ёй трэба сказаць Валодзю добрыя, шчырыя словы, каб ён супакоіўся, пагаварыў з ёю пра тое, дзе ён цяпер жыве, ці працуе па-ранейшаму на той самай рабоце, ці ўладкаваўся на іншую, бо каторы час яны не бачыліся і яна пра яго нічога не ведае. Хіба ёй было да Валодзі? Яна яшчэ не адышла як след ад думак і пачуццяў, што звязаныя з малодшай дачкою, з яе апошнімі словамі на гэтым свеце.

Але Валодзь як нечакана з'явіўся, то гэтак нечакана і падаўся з могілак. Мабыць, не захацеў уступаць з Надзяй у размову, каб не тлумачыць, не кранаць тое балючае, ад якога спакайней на душы не стане. Не кажучы ні слова, ён устаў з лавачкі, надзеў капялюш і па вузкай цупкай сцежцы, што вілася між магіл, падаўся на аўтобусны прыпынак, які непадалёк ад могілак.

Надзя хацела затрымаць яго, хацела пагаварыць з ім пра Віталя, усё ж такі Віталь яго родны сын. Можа, ён паслухаўся б бацьку, спыніў гэтыя свае шахеры-махеры з кватэрай, калі такое яшчэ магчыма.

Пакуль яна думала, якія словы сказаць, каб Валодзь вярнуўся, не спяшаўся, бо да яго ў яе ёсць пільная, неадкладная размова, то ён тым часам знік з вачэй.

Надзя пазірала то ў той бок, куды падаўся Валодзь, то на помнік на магіле дачкі, на якім партрэт Святланы. І помнік, і партрэт дачкі былі асветлены яркімі промнямі летняга сонца, пагоднага дня — гэткага яснага, ласкавага, ад якога ў людзей на душы хораша, светла, ад якога ўзнікае добры настрой і хочацца жыць, усміхацца, радавацца... Але на душы ў Надзі было нядобра і змрочна. Аб якой радасці, аб якім светлым настроі яна магла думаць і гаварыць? Пахавала дачку, засталіся малыя ўнукі, а старэйшы ўнук адбіўся ад рук.

Яна ўсё яшчэ сядзіць у зале на канапе, перад вачыма Святланін партрэт за шклом кніжнай шафы, і думкі варочаюцца ў Надзінай душы, бы цяжкія камяні.

Спахапіўшыся, устае з канапы, набліжаецца да высокага люстра на светлай драўлянай падстаўцы, пакрытай бясколерным лакам, бярэ ў рукі грабянец, прычэсваецца.

Пагодлівы летні ранак заглядвае ў вокны, з акон бачны падворак, вуліца, якая бяжыць з гарадскога шумнага і тлумнага цэнтра сюды, у гэты ціхі куточак, парослы маладымі бярозамі, клёнамі, вязамі ды дубамі. Горад, дзе атабарылася Надзя з таго часу, калі яе другі муж дамогся зямельнага гарадскога ўчастка і перш паставіў-збудаваў часовую хаціну, а потым склаў з цэглы дабрэнны дом на некалькі пакояў, з немалымі сенцамі-кухняй, дзе ёсць глыбокі пограб-склеп для захоўвання садавіны, гародніны. Сям'я ў Надзі немалая — адных дзяцей чацвёра: двое ад першага мужа, двое ад другога. Праўда, адной дачкі ўжо няма... Яе дзеці выраслі, пасталелі, а самы меншы хлапец у шостым класе. Ад першага мужа дачка недзе на Поўначы, там выйшла замуж і нарадзіла дзіця, так што Надзя ўжо і бабуля. А старэйшы сын скончыў інстытут, працуе інжынерам-канструктарам у сталіцы на станкабудаўнічым заводзе.

Заклапочаная, задуманая яна выходзіць на двор. Двор вялікі. З аднаго боку дома сад і агарод. У агародзе яна вырошчвае бульбу, гуркі, капусту, моркву... Адчыніць іншы раз вокны ў зале і такія пахі-водары плывуць у хату, што дыхай не надыхаешся. А што ж ты хочаш — лета, цвіце агурэчнік, бульбоўнік,

пусцілі шырокае лісце буракі, а над капустай з самага ранку кружацца белыя матылі. Не любіць Надзя гэтых матылёў, бо добра знае, што яны адкладваюць на капусту лічынкі, з якіх выводзіцца ненажэрны вусень.

Месца, дзе цяпер яе селішча, высакаватае, гарыстае, але глiністае і гэта добра, бо гліна трымае вільгаць, а ўсяму, што расце ў агародзе, тое і трэба, і таму Надзіны клопаты не дарэмныя — усё родзіць добра, кожнай восенню і бульбы накапае, і качаны капусты вялікія, важкія, і буракоў з цыбуляй ды морквай хапае на ўсю зіму. Тым, што накапае ды назбірае ў сваім гародзе, яшчэ і з дзецьмі падзеліцца. Нават інжынеру свайму, калі той іншы раз наведаецца на ўласнай машыне, не забудзе пакласці ў багажнік гасцінца: колькі трохлітровых слоікаў засоленых агуркоў, бульбы, цыбулі, часнаку...

Мабыць, таму, што месца глiністае, і сад не хварэе, ні адна галінка на яблыні ці грушы не высахла, не пачарнела, не пакрылася слізкім мохам — першай адзнакай захворвання.

Груша ў садзе адна-адзіная. Некалі Аляксей перавёз яе сюды адтуль, з вясковага саду. Яна была яшчэ зусім маладзенькая, кволая, але выжыла, прынялася дзякуючы таму, што на новым месцы зямля такая, што ўваткні ў яе аглоблю, то, здаецца, воз вырасце.

Вымахала груша за колькі гадоў, цвіце, як не кіпіць белым цветам амаль кожнай вясной, і грушы-хунтоўкі па добрым кулаку — сакавітыя, салодкія, чырванабокія, самі ў рот просяцца.

Глядзіць Надзя на свой гарадскі сад, на агарод і ў гэтую хвіліну бачыць вёску, вясковую вуліцу, бачыць гарод і сад, а ў садзе хату, накрытую гонтай, з комінам з чырвонай цэглы над дахам, закапцелым і чорным ад часу і дыму.

От ужо колькі гадоў яна тут, у горадзе, а яе душа ўвесь час лунае недзе там, у вёсцы, на тым агародзе, у тым садзе і доме, дзе пражыты самыя маладыя гады, дзе было і шчасліва, і тужліва, дзе была вайна і вестка пра гібель першага мужа...

Яна дужа разгубілася, калі атрымала паведамленне з ваенкамата, што Цімоха, яе любімы і каханы Ціма, атрымаў цяжкае раненне і ў палявым медсанбаце памёр і пахаваны як герой у брацкай магіле на чужыне. А ў яе на руках двое малых дзяцей: дачцэ хутка споўніцца тры гады, а сын толькі-толькі нарадзіўся. З Цімам яны пажаніліся ў партызанскім атрадзе, у якім былі ўвесь час, пакуль немцаў не прагнала Чырвоная Армія. Вайна блізілася да свайго канца, Ціма слаў з фронту лісты, пісаў, што ён нарадзіўся ў сарочцы, за ўсю вайну яго нават лёгка ні разу не параніла, ён, хваліўся, што загавораны ад кулі і неўзабаве вернецца дадому. Але на вайне і ў самым яе канцы гінулі салдаты, пакідаючы сіротамі дзяцей, удовамі жонак і няўцешных маці. Ёй прапаноўвалі кватэру ў райцэнтры, работу ў райцэнтраўскай школе, але яна чамусьці спалохалася гэтай прапановы, адмовілася ад яе. Яна вырасла ў вёсцы, паступіла яшчэ да вайны ў педвучылішча, збіралася стаць настаўніцай пачатковых класаў, была ўжо на перадапошнім курсе, калі пачалася вайна.

Вясковыя мужыкі, хто вярнуўся дадому пасля перамогі, ды хлапцы, што падраслі-памужнелі за час вайны, дапамаглі ёй паставіць такі-сякі дамок-хаціну з глінабітнай падлогай, трыма маленькімі акенцамі, невялікай печчу. Усё-такі нейкі дах над галавою, дзе яна тулілася з дзецьмі ад халадоў, ад зімовых завеяў, ад ліўняў ды магла хаваць свае беспрасветныя слёзы, сваё гора.

Лес ад селішча поблізу і гэта добра, зручна, можна пайсці назбіраць сухога галля, насекчы лучыны, бо як жа без яе: галлё хоць і сухое, але без

лучыны яго хіба распаліш? Насячэ Надзя кашэль лучыны і кіне яе за комін на чарэн — хай сохне.

Тым часам адкрылася пачатковая школа, і Надзю запрасілі быць яе загадчыцай і настаўніцай. Адкрылася школа ў хаце паліцая Аўдзея, якога пасадзілі на дваццаць гадоў за супрацоўніцтва з акупантамі, яго сям'ю выселілі ў сцёбку, дзе раней Аўдзей захоўваў гародніну, бочку з бярозавікам, дзежкі з салам. Той парой многія туліліся ў халодных, сырых зямлянках, наспех складвалі з сасновых кругляшоў хаціны як і ў яе, Надзі, бо вёска ў вайну была спалена датла. Няхай і паліцэйская сям'я паспытае таго, што напаткала вяскоўцаў. У вайну Аўдзей і яго сямейства раскашавалі, не хаваліся ў лесе, як многія, жылі, не знаючы нястачы. Хіба ж не? Аўдзей быў малады, дужы, трымаў гаспадарку, меў каня, араў, сеяў, скародзіў, збіраў ураджай. Часцяком запрагаў свайго гнедага і на падводзе калесаваў па бліжэйшых вёсках, збіраў для нямецкай арміі цёплае адзенне, абутак, харч... Калі хто не згаджаўся добраахвотна аддаваць тое, што патрабаваў Аўдзей, забіраў гвалтам. І паспрабуй супраціўляцца — Аўдзей у чорным паліцэйскім шынялі з белай на левым рукаве павязкай, на галаве форменны паліцэйскі галаўны ўбор, на плячы — зараджаны нямецкі карабін...

Не сказаць, што хата ў Аўдзея была надта прасторная, але ў ёй месціліся ўсе чатыры класы. Два з іх вяла яна, Надзя, дакладней Надзея Нічыпараўна, а два другія — Ліна Сцяпанаўна. Ліну прыслаў райана, нейкі час яна і жыла ў школе, бо вёска толькі вярталася да мірнага жыцця. На папялішчах, дзе раней стаялі хаты, людзі, аплакваючы тых, хто не вярнуўся з вайны, пачыналі думаць пра заўтрашні дзень.

У яе класах усе і перарасткі. Адным было пятнаццаць гадоў, другім шаснаццаць, а то і ўсіх сямнаццаць ці васямнаццаць. Ім пара заканчваць сярэднюю школу, а яны яшчэ і пачатковай не пераступілі. Хлапцы ўжо заглядваліся на дзяўчат, а дзяўчаты на хлопцаў.

Каля Аўдзеевай хаты, што стала школай, за якую сотню метраў густы бярэзнік, алешнік, сасоннік ды асіннік.

Бывала, знікнуць у тым лесе Надзіны вучні-перарасткі ў час перапынку і не спяшаюцца вяртацца на заняткі. Надзя баялася за іх, баялася за сябе: што, калі яны пачнуць гуляць у каханне? Гэта не выключана, бо і хлопцы, і дзяўчаты для гэтых гульняў за час вайны паспелі. Вунь Маруся Макарова — дзеўка хоць куды, грудзі з пазухі лезуць, колюць хлопцам вочы...

Нездарма Надзя баялася за сваіх вучняў, бо неўзабаве Маруся Макарова пачала круглець, тое добра ўбачылі ўсе, і Надзю тэрмінова паклікалі ў райана: як гэта яна магла дапусціць да такога, што вучаніца загрубела?

Яе хацелі звольніць з работы, але прыкінулі: у любога іншага, хто яе заменіць, хіба не можа здарыцца нешта падобнае? Такі быў час, вайна пераблытала ўсё на свеце, паламала людскія лёсы, яе след усё яшчэ цягнуўся і неўгадно было, калі тое ўсё нядобрае скончыцца, калі, нарэшце, надыдзе лад і спакой.

Надзі закацілі страгача, патрабавалі, каб яна была больш строгай, патрабавальнай да вучняў. Там жа, у райана, нагадалі, каб яна скончыла педвучылішча, а то што ж выходзіць: настаўніца, загадчыца пачатковай школы, а дыплома настаўніка няма.

Трэба было ўпраўляцца і ў школе, і дома, дзе яна і за гаспадара, і за гаспадыню. Выпаліць у печы, накорміць сваіх галадранцаў і бегма ў школу. Вядзе заняткі, а душа не на месцы: дзяцей яна замкнула, а запалкі схаваць забылася. А за комінам сухая смалістая лучына, не дай божа, калі дзеткі агледзяць запалкі...

Яно так і выйшла. Агледзелі дзеці запалкі і пачалі на печы, на чарэні, раскладваць агонь...

Калі яна вярнулася дадому, уся хата была поўная дыму, загарэлася-абвуглілася тая сцяна, што ля печы, а дачка з сынам дзесьці зашыліся і баяліся паказацца ёй на вочы. Як яна ні звала іх, але яны бы ў ваду канулі. Аказваецца, залезлі ў падпечак і баяліся падаць голас, зналі, што нарабілі шкоды і могуць атрымаць ад маці добрага прачуханца. Але хіба магла падняцца на іх рука — малыя яшчэ, неразумныя, для іх агонь — забаўка.

Душу адводзіла ў суседкі — Параскі. У Параскі дзеці ўжо дарослыя, у яе тры сыны і тры дачкі. Ацалелі ў вайну, выжылі, і муж вярнуўся з вайны. Паранены, без адной нагі, замест левай нагі ніжэй калена ў яго драўляная кульба, якую ён сам злаўчыўся рабіць ці з бярозы, ці з дуба або клёна. Дарма, што аднаногі, але Парасчын муж яшчэ і рабіў тое-сёе: плёў кашалі з сасновай дранкі, вярбовыя кошыкі, абстругваў дошкі, з якіх рабіў рамы на вокны, філёнгі для дзвярэй... А яшчэ ён умеў і любіў плесці лутовыя ці лазовыя лапці. Сам ён не хадзіў у лапцях, навошта яны яму аднаногаму, але да яго часцяком звярталіся касары:

— Дзядзька Сцяпан, спляці мне пастолікі-саколікі, у іх так зручна касіць, ногі ані не стамляюцца.

Дзядзька Сцяпан і тым задаволены, што нешта добрае можа зрабіць для людзей, і пляце пасталы кожнаму, хто да яго ні звернецца. Спляце ён лапці касару і, аддаючы іх, разважае не то сам з сабою, не то з тым, хто звярнуўся да яго са сваёй просьбай-заказам:

— Такая мудроная навука — плясці пасталы, а глядзі ты, выходзіць, што я адзіны на ўсё сяло лапцяплёт.

— Скажаце вы, дзядзька Сцяпан. Няўжо, калі б я мог сам, то чаго б дурыў вам галаву? Так што жывіце доўга, дзядзька Сцяпан, без вашага ўмельства нам, касарам, хоць прападзі.

Напляце Парасчын муж кашалёў, кошыкаў, лапцей — і ў горад на базар. Сядзіць на базары днямі і прадае свой тавар. Не сказаць, каб ягоны тавар бралі нарасхват, ды ўсё ж бралі, дзядзька Сцяпан заўсёды вяртаўся з базара дадому з грашыма, выручанымі за свой, які яшчэ не выйшаў з ужытку, тавар...

Кожны раз, прыйшоўшы да Параскі ці ў адведкі, ці па нейкай патрэбе, Надзя глядзіць на дзядзьку Сцяпана і па-добраму зайздросціць Парасцы, таму, што няхай яе шчасце і са слязьмі на вачах , але ўсё ж яна не адзінокая, не такая бядотная ды гаротная як яна, Надзя.

Параска заўсёды ўважліва выслухае Надзю, паспачувае ёй і скажа:

— Бяры маю Вольгу ў нянькі, не то спаляць твае дзеці і хату, і самі загінуць. А што ж ты думала — за дзецьмі трэба догляд, без догляду яны якой хочаш шкоды наробяць.

Параска намнога старэйшая за Надзю, яна добрая, спагадлівая суседка, але зайздрослівая. Зайздросціць, што яна, Надзя, грамацейка, настаўніца, атрымлівае жывыя грошы за сваю работу. Ого, грошы! Тады, адразу пасля вайны, яны мала ў каго вадзіліся. У вёсцы ўжо адкрылася сельпоўская лаўка, у той лаўцы селядцы ў бочцы, мануфактура, цукеркі з пернікамі, газа... Не надта вадзіліся грошы і ў Параскі, бо два яе сыны калгаснікі, адзін падводчыкам, другі пастухом, а трэці завербаваўся і недзе ў Данбасе на шахтах, ад яго іншы раз прыходзяць лісты. Дзве дачкі замужам. У іх свае сем'і. Вольга ж самая малодшая, ёй ужо гадоў васямнаццаць, дамаседка, у яе нешта са здароўем. У школу Вольга ніколі не хадзіла, яна трошкі глухаватая. Корпаецца на сваім гародзе, летам збірае чарніцы, восенню грыбы, ды здае ў сельпоўскую лаўку.

А яшчэ Вольга пасвіць дамашні статак — калі надыходзіць Парасчына чарга гнаць на пашу кароў з тае вуліцы, дзе яна жыве, то чаргу адбывае Вольга. Пастух яна варты, ні разу не было, каб прыганяла кароў з пашы дамоў галодных, ненапоеных.

Не магла адмовіцца Надзя ад Парасчынай прапановы — наняла Вольгу ў нянькі. Усё-такі спакайней на душы будзе, калі яна ў школе праводзіць заняткі. Тым больш, што трэба рыхтавацца і выпраўляцца ў педвучылішча, каб здаваць экзамены за перадапошні і апошні курсы.

У Параскі яна аднойчы ўбачыла Аляксея — Парасчынага роднага брата, які да вайны жыў на Кубані ў невялікім стэпавым гарадку. Пасля службы ў арміі Аляксей там застаўся, ажаніўся, у яго рос сын, была жонка. Калі пачалася вайна, наляцелі варожыя самалёты, дом, у якім жыла Аляксеева сям'я, разбамбілі, жонка з сынам загінулі. Аляксея ў той час дома не было і толькі дзякуючы гэтаму ён застаўся жывы. Калі на Кубань прыйшлі немцы, Аляксей падаўся ў партызаны... І вось вярнуўся на радзіму.

Аляксей, бы і яго сястра Параска, разважлівы, удумлівы, перш чым што сказаць ці зрабіць, засяродзіцца, паглыбіцца ў сябе, а потым ужо прымае рашэнне. Ён маладзейшы за сястру, але на гадоў дзесяць старэйшы за Надзю. Аляксей амаль бесперапынна курыць, мо так ён заспакойваецца, забываецца пра сваё змрочнае мінулае, што напаткала яго на Кубані. У такія хвіліны ён раз-пораз цяжка ўздыхае, апусціць нізка галаву і думае, думае.... Аб чым ён думае можна толькі здагадвацца, але хутчэй за ўсё, мабыць, пра тое, што страціў жонку, сына.

Ён часцяком сядзеў на прызбе, пазіраў, як Надзя на сабе валачэ з лесу сухое галлё, як пачынае гупаць сякерай — секчы галлё на дровы.

— Не жаночае гэта дзела, — казаў, бы спачуваў Аляксей. — Замучышся адна, хіба перавяліся мужыкі? У хадзяйстве без мужыка як без рук.

— Дзе ж яго ўзяць, таго мужыка? — Надзя спыняла сваю работу, думала: здзекуецца з яе Аляксей ці што? Мужыкі... Вайна іх перакасіла, у сяле ўдава на ўдаве. Вунека ў яго сястры Параскі мужык стукае-дыбае сваёю кульбакай па двары, добра, што хоць рукі цэлыя засталіся, то хоць лапці ды кашалі з кошыкамі пляце, дранку сасновую дзярэ на кашалі ды на тое, каб накрыцьзалапіць, калі дзе прадзіравілася, страху.

Аляксей раз дапамог ёй насекчы дроў, другі... Аднойчы Надзя запрасіла яго ў хату, паставіла на стол бутэльку, нарэзала сала, селядца. У сельпоўскай лаўцы купіла і бутэльку, і селядца — як знала, што госць заявіцца.

— Не холадна зімою ў тваім куране? — не то са здзекам, не то шкадуючы яе, спытаў Аляксей. — Глінабітная падлога, між вянкамі шчыліны... Хіба ў цябе няма грошай, каб наняць майстравых людзей, каб патынкавалі твой курэнь, паслалі людскую падлогу, навесілі філянговыя дзверы, прырубілі трохсценак... Будзеш як у Бога за пазухай, а то...

Да Аляксея яна прывыкла хутка. Нейкі час усё раўнавала да Цімы, да памяці аб ім. З Цімафеем яна сышлася па каханні, а з Аляксеем яе звяло няшчасце. Абое яны нешчаслівыя: Аляксей страціў сям'ю, а яна любага мужа.

Аляксей і дом назавідкі выбудаваў, сад каля хаты развёў, паставіў хлеў для каровы, для свінчаці, курэй ды гусей. Двое дзяцей яна нарадзіла ад Аляксея — сына і дачку.

Яна пазірае на сад, на агарод і дом, а згадкі ўсё чэпяцца да яе, не адыходзяць, не адпускаюць.

Так вось амаль кожны дзень. Падымецца завідна і пачынае моўчкі гаварыць то сама з сабою, то з Цімам ці з Аляксеем, са Святланай ды іншымі

дзецьмі. Гэта, мабыць, ад адзіноты. Не, яна не зусім адзінокая — з ёю самы меншы сын, які вучыцца ў шостым класе. Але хіба з ім пагаворыш аб тым, што ў яе робіцца на душы? Лёшка, меншага сына бы і ягонага бацьку, зваць Аляксеем, яшчэ дзіця дзіцём, ён як след, пэўна, і не ўсведамляе, што застаўся без бацькі, і яна, Надзя, і маці яму, і бацька.

— Добры дзень, Надзя! — вітаецца з ёю сусед Міша.

Ён стаіць каля плота, паклаў рукі на частаколіны, усміхаецца, у яго, мабыць, з самага ранку нядрэнны настрой і ён гатовы падзяліцца гэтым настроем з Надзяй.

Яшчэ зусім нядаўна яны былі амаль ворагамі. Міша працаваў шафёрам у аўтакалоне на бартавой машыне. Кожны раз, прыязджаючы дадому, ён што-небудзь ды прывозіў: то дошкі, то цэглу або шыфер, мяхі з бульбай... Зразумела было, што ўсё гэта крадзенае, але Міша ніколі не пападаўся, навазіў, накраў будаўнічых матэрыялаў цэлую гару, што высілася ў яго на агародзе. Ён ашаляваў крадзенымі дошкамі свой даволі немалы драўляны дом, з крадзенай цэглы склаў на гародзе будыніну для садавіны-гародніны-бульбы. Мала было яму свайго гарода, то ён і завулак перагарадзіў-заняў пабудовамі. Той завулак — блізкая дарога да аўтобуснага прыпынку, па ім раней хадзілі Надзя з Аляксеем, хадзілі суседзі, па ім ездзілі на веласіпедах, матацыклах. Зелянгасаўскай аднаконкай завулкам Аляксей падвозіў ад мэблевай фабрыкі аполкі на дровы да самай павеці... Дык Міша, хапіла ж у чалавека розуму ды сумлення, узвёў на ім гараж для легкавіка, якога пакуль Міша не меў, быў у яго толькі матацыкл «ІЖ» з люлькай-каляскай. Ён яго і ставіў у тым гаражы. З Мішам перасварыліся суседзі з-за гэтага ягонага нахабства, Аляксей жа напісаў на яго скаргу ў гарвыканкам. З гарвыканкама прыходзіў землеўпарадчык. Ён, агледзеўшы Мішаў гараж на завулку, сказаў, што пабудова незаконная, але цяпер ужо нічога нельга зрабіць, трэба падаваць у суд, а суд хіба толькі аштрафуе дый годзе.

Такім вось чынам Міша пасварыўся і з Аляксеем, і з Надзяй. Надта ж ён быў бязбожным хапугам. Усяго яму мала, усё яму трэба. Але нечакана захварэла Мішава жонка, злегла і больш не ўстала...

Міша цяпер на пенсіі. Ён дужа памяняўся, раскідаў той гараж, што стаў прычынай сварак ды разборак з суседзямі. Міша прасіў прабачэння ў Аляксея, у Надзі. Яны даравалі яму яго неразумныя выхадкі, але той прыязнасці, што бывае паміж добрымі людзьмі, ужо не было...

Надзя вітаецца з Мішам, перамаўляецца з ім словам-другім і прастуе ў сад.

Дзень выдаўся ясны, бязветраны, на небе ні хмурынкі, і гэта добра, сёння Яблычны спас і Надзя збіралася схадзіць у царкву, а затым да дачкі, да Святланы, на могілкі.

Назбірала ў вярбовы кошык трохі груш, яблык, вярнулася ў дом, перасыпала яблыкі з грушамі ў цэлафанавы пакет. Потым вярнулася ў дом, апранула бардовага колеру доўгую сукенку з паяском, абулася ў карычневыя, на невысокім абцасе, туфлі, зняла з вешалкі ў шафе тонкую, васільковага колеру, хустачку-касынку і на якую хвіліну яшчэ затрымалася. Меншы сын пакуль не прачнуўся, у яго цяпер канікулы, то ён падымаецца позна. Яна напісала яму запіску, што снеданне і абед згатаваныя, яны ў каструльках, у гаршчэчках, на патэльні на газавай пліце на верандзе, хай бярэ і снедае, абедае. Напісала таксама, каб нікуды з дому, пакуль яна не вернецца, не адлучаўся.

Да царквы ад яе цяперашняга селішча добрых кіламетра паўтара. Гэта амаль у цэнтры раённага гарадка. Царква — помнік архітэктуры мінулага

часу: з высокай, з блакітнымі двума купаламі, званіцай, з адмысловай, мо яшчэ дарэвалюцыйнай, металічнай агароджай з высокіх, завостраных зверху, бы пікі, прантоў. Пры ўваходзе ў царкву ўверсе над дзвярыма ікона Божай Маці. Кожны прыхаджанін, перш чым пераступіць парог святога храма, падымае галаву, каб зірнуць на гэтую ікону. Ён абавязкова хрысціцца, прашэпча словы малітвы і толькі затым праступе ўглыб храма, бліжэй да алтара. А там святар з нагоды вялікага праваслаўнага свята звяртаецца да паствы са словамі-віншаваннямі, са словамі-пропаведзямі, якімі ўслаўляе свет зямны і нябесны, заклікае ўсіх быць богапаслухмянымі, спагадлівымі да сваіх блізкіх, да сяброў і ворагаў, заклікае пакаяцца за грахі, заклікае ісці дарогай праўды і любові.

Пастаяўшы трохі каля алтара і памаліўшыся разам з усімі, Надзя выходзіць на царкоўны падворак.

На падворку на доўгіх лавах, на сталах, што каля гэтых лаў, таксама прыхаджане. Сярод іх ёсць і тыя, хто дабраўся сюды з Надзінай вёскі. Надзя пазнае іх, вітаецца, садзіцца ўпобачкі, кладзе свой пакет з садавінай на стол, разгортвае яго так, каб былі бачны яблыкі і грушы. Вось-вось выйдзе з царквы святар і пасвенціць садавіну, якая на сталах.

Пакуль святара не відно, Надзя ціха перамаўляецца з Ёвікавай Аксеняй — адной са сваіх колішніх вясковых суседак. Распытвае пра адно, пра другое, бачыць, што Аксеня дужа пастарэла, гаворка ў яе няспешная, замаруджаная. А што ж ты хочаш — Аксені пад восем дзясяткаў, а яна яшчэ і няблізкай дарогі не баіцца, наведалася ў раённы цэнтр на Яблычны спас. Малітоўнай ды набожнай Аксеня заўсёды была, кожны рэлігійны фэст адзначала-прывячала і пры выпадку не забывала казаць Надзі, што не верыць у Бога — вялікі грэх. Грэх, казала, і тое, што Надзя не пахрысціла па царкоўным абрадзе сваіх дзяцей. А як было Надзі верыць ды хрысціць дзяцей? Яна ж настаўніца. А на кожнай настаўніцкай нарадзе загадчык районa, Касьян, магутны, як дуб, з аблыселай і голай, як бубен, галавой, узышоўшы на трыбуну, гразіўся, калі хто будзе трымацца забабонаў, пахрысціць сваё дзіця, то ён гэткага веруючага настаўніка звольніць з работы, не задумваючыся. Але калі звольняць, то куды ты ў вёсцы пойдзеш на работу, апроч калгаса?

Размаўляючы з ёй, Аксеня, канечне, здзівілася, што яна, настаўніца, гэтак перамянілася ў сваіх поглядах. Надзя бачыць гэтае яе здзіўленне і не тоіцца:

— Ох, Аксенько, адно няшчасце на мяне за другім...

На вачах у Надзі круціліся слёзы, але яна стрымалася, саўладала з сабою і як след выгаварылася. Усё-такі Аксеня блізкі чалавек, колішняя суседка, яна яе зразумее.

— За старэйшага сына ў мяне галава не баліць, — пачала Надзя, — але ж Лёшык яшчэ вучыцца ў школе. Я так баюся захварэць ды злегчы — хто ж тады дагледзіць Лёшыка?

— А Святланіны сыны? — нечакана спытала Аксеня. — Яны ж яшчэ пешкі ходзяць пад стол. Яны дагледжаныя?

— Паспяшалася Святлана са сваім другім замужжам, — непрытворна ўздыхнула Надзя. — Мо з-за гэтага яна і ў магілу раней часу легла.

Паявіўся святар — адслужыўшы святочную службу ў храме, ён выйшаў да прыхаджан. Даволі малады, дужа высокі, з акуратнай, клінам, бародкай, у доўгай светлай рызе, на галаве ў яго святарская скуф’я. Святар ішоў усцяж сталоў, на якіх у кошыках, у развязаных вузельчыках, раскрытых цэлафанавых пакетах яблыкі, грушы, слівы. Ён трымаў у адной руцэ чашу са святой вадой, мачаў у яе раз-пораз крапіла, абпырскваў садавіну, прыгаворваў: «Дзякуй, магутны Божа, за зямныя дары твае».

З пасвянцонай садавінай Надзя падалася да аўтобуснага прыпынку. Ішла, а ёй усё яшчэ чулася размова з Аксеняй. Яна бачыла Аксеніна здзіўленне тым, што яна, спрадвечная настаўніца, атэістка, раптам стала набожнаю, прыходзіць у царкву, каб памаліцца, справіць праваслаўны абрад. Надзя нават сама сабе гэта толкам не можа вытлумачыць, чаму раптам памяняліся яе ўчарашнія погляды на жыццё, на рэчы, на людзей. Але ж памяняліся, ды так крута, што ад учарашняй Надзі Кравец мала што засталося. Няўжо прычынай усяму яе лёс, які раз за разам робіць такія віражы, што неўгадно, як яна да гэтага часу не трапіла ў псіхушку?

Села ў аўтобус, што кіраваўся ў бок могілак. Могілкі за горадам, не надта далёка, да іх мо няма і дзясятка кіламетраў.

За аўтобусным акном мільгалі прыгарадныя вёскі, малыя і вялікія, бачыліся палі, на якіх даспявала збажына, і, трэба чакаць, што не сягоння-заўтра распачнецца ўборачная кампанія. Яна бачыць поле са збажынай, а прад вачыма — вясковы дом, падворак, Аляксей.

Гады за два-тры яе селішча змянілася да непазнавальнасці. Той курэнь, які ёй склалі вясковыя мужыкі адразу пасля вайны, Аляксей раскідаў, а на яго месцы паставіў ладную хату, прыстроіў да яе прасторныя сенцы з кладоўкай-каморай. Хата была з высокай столлю, печ з чарэнню ў пярэдняй, а ў зале грубка, у якую ўкінеш колькі паленцаў дроў — і хоць хадзі па хаце басанож, бо да таго цёпла ды ўтульна, што лепш і прыдумаць нельга. І печ, і грубку склаў дзядзька Гарасім. Ён з суседняга сяла, пячнік, вядомы ў бліжніх і дальніх сёлах. Гарасім падцягваў левую нагу, гугнявіў, гаварыў у нос, курыў люльку і вельмі любіў смачна паесці. Дарма, што адна яго нага трохі пакалечаная, але на здароўе ён не крыўдзіўся, не пакрыўдзіў яго Бог здароўем. Толькі скончыць ён складваць адну печ ці грубку, а праз які дзень-другі бярэцца ўжо за новую. Ні выхадных у яго, ні прахадных.

Дзядзька Гарасім быў нарасхват, без дзела ніколі не сядзеў, і таму трэба было з ім дамаўляцца загадзя. Аляксей і дамовіўся, а калі дзядзька Гарасім паявіўся ў іх і пачаў сваю работу, не адыходзіў ад яго ні на крок, падаваў цэглу, мясіў гліну...

Аляксей уважліва прыглядваўся, як дзядзька Гарасім кладзе спод печы, як выводзіць камінок, бясконца пытаўся ў майстра-пячніка пра адно, другое... Цікавіўся, як гэта выходзіць, што з печаў ды грубак, складзеных яго рукамі, дым на хату не ідзе... І чаму яго каміны не забіваюцца сажай?.. Няўжо таму, што ў іх цяга добрая?

Але дзядзька Гарасім не надта раскрываў сакрэты сваёй работы, нібы баяўся, што з'явіцца канкурэнт, адбярэ ў яго спрадвечны кавалак хлеба. Гэта дужа смяшыла Аляксея, бо гэтакія ўмельцы, як дзядзька Гарасім, яны, мабыць, ад Бога...

Неўзабаве ў іх нарадзілася Святлана, і Аляксей быў як не на сёмым небе. Ён памалу адыходзіў ад вайны, боль па страчанай сям'і ў ім яшчэ заставаўся, але чым далей, то ён, боль той, цішэў, слабеў...

Надзя спраўлялася і дома, і ў школе, заканчвала педвучылішча. Пра тое, як і калі спраўлялася, ведама аднаму Богу ды ёй самой. Добра, што Аляксеева радня была побач і калі якая няўпраўка, то дапамагала, а яго пляменніца даглядала Святлану. Вясною ж, калі зямля ажывала ад святла ды цяпла і надыходзіла пара араць, сеяць ды саджаць, то хіба можна было без Аляксеевай радні ўправіцца з агародам? А ён жа немалы — з паўгектара і не менш. Аляксей расцерабіў кусты, што ў канцы сотак, разараў тое месца, там пасадзілі

бульбу, парабілі грады для гуркоў, морквы, капусты, цыбулі. І ўсё расло як на дражджах. А што ж ты хочаш, гэта ж навіна, зямля аддыхнула, нястомленая, у ёй столькі жыватворнай сілы.

З Аляксеем ёй пашэнціла — рабацяшчы. І не выпівоха. Не, іншы раз чарку возьме, але каб з-за гарэлкі траціць розум — Божа збаў.

Мала-памалу вёска адбудоўвалася, усцяж вуліцы то ў адным яе канцы, то ў другім выраcталі зрубы з сасновага, жоўценькага, пастругага або старанна ачэсанага сякерай-шклюдам дрэва. Тыя зрубы пахлі смалой, а яшчэ, здавалася Надзі, яны пахлі багуном, верасамі, ляснымі глухімі палянамі, узгоркамі і выспамі, дзе выспелі, вымахалі тыя самыя сосны, з якіх гэтыя зрубы і складзены.

Учарашнія Надзіны школьнікі жаніліся, заводзілі сем'і, нараджалі дзяцей і ставілі сабе хаты. Хаты ў маладых былі высокія, з дзесяці вянкоў і не меней, з вялікімі вокнамі, з прасторнымі, светлымі сенцамі і ганкамі.

Перабіраліся з сырых зямлянак у наспех скіданыя хаціны і ўдовы. Але хіба тыя ўдовіны халабуды можна было параўнаць з сялібамі маладых мужчын, якія абзаводзіліся сем'ямі? Толькі ўдовы былі рады і таму , што пакідалі зямлянкі, нізкія, змрочныя, прапахлыя мышамі, старымі латунамі, дзе галеча і беднасць былі штодзённасцю і адметнасцю.

— Ці не пара табе, мая дарагая жонка, падумаць пра новую школу? — неяк аднойчы звярнуўся да Надзі Аляксей. — Збіраешся векаваць у паліцаевай хаце?

Яна і сама ўжо не раз задумвалася пра тое ж самае. Бо дзеці падрасталі, іх станавілася ўсё больш і больш і ў той будыніне, дзе месцілася школа, было дужа цесна і няўтульна. Яна не раз звярталася да загадчыка райана і казала яму, што класакамплекты перапоўненыя, няма дзе паставіць ні парты, ні класнай дошкі, няма месца для шафы, дзе можна захоўваць наглядныя дапаможнікі, няма месца для гардэроба і неўгадно, дзе можна дзецям трымаць верхняе адзенне.

«Шукай будаўнікоў, наймай — хай зрубяць, зробяць ладную школу, — падтрымаў яе загадчык райана. — Фінансы ў нас заўсёды спяваюць рамансы, але дзеля таго, аб чым мы зараз гаворым, што даўно ўжо наспела і пераспела, грошы, думаю, знойдуцца. Пара, пара, Надзея Нічыпараўна, перабірацца тваёй пачатковай у новыя сцены. Шмат хто тым часам перабраўся ўжо, а ты от усё марудзіш. Чаго ты чакаеш? Каб я сам узяўся будаваць у Востраве школу? Але я павінен забяспечваць вучэбны працэс ва ўсім раёне, павінен клапаціцца пра кадры, шмат у якіх школах не хапае настаўнікаў-прадметнікаў, нестае падручнікаў...»

Дзелавы гэты загадчык райана, ох які дзелавы! На плечы жанчыны ўздумаў узваліць вунь які клопат — будаўніцтва школы. Яна і хацела яму сказаць, што надта ж ён мудры — у яе сям'я, дзеці, работа, гаспадарка... А тут яшчэ і школу трэба будаваць. Ці не занадта? Але... Хіба не яе загадчык райана прызначыў узначаліць пачатковую школу? Прызначыў, ведаючы, што яна не скончыла педвучылішча, не мела дыплома педагога... Яна, пэўна, усё-ткі і не пагадзілася б з Касьянам, бо школу будаваць — не сякерай махаць. І толькі тое, што Аляксей можа быць яе правай рукой у гэтай справе, пераконвала, што не каму іншаму, а ёй асабіста трэба распачынаць усё з нуля...

Вярталася з райана ў Востраў і непакоілася, даймала сябе роздумам: а калі Аляксей не пагодзіцца з ёю, не захоча ўзвальваць на свае плечы тое, аб чым, па сутнасці, яна ўжо дамовілася з загадчыкам райана? Хіба мала дасталося Аляксею, пакуль даводзіў да ладу свой дом?

Навіна, якую пачуў ад яе Аляксей, прымусіла яго задумацца.

— Збіраўся сцёбачку паставіць, а то бульба ў нас у пограбе, не дзела гэта. У пограбе цёпла, прарастае бульбачка, расткі высмоктваюць з яе ўсю смакату — хіба добра гэта? — сказаў ён і дадаў: — І лазеньку сваю таксама збіраўся... Ды лазенька можа пачакаць, а сцёбачку ўсё адно трэба ў любым выпадку пачынаць. І школу строіць трэба — хіба не надаела табе з вучнямі ў паліцаевай хаце? Але без мяне ты не ўправішся, не жаночы гэта клопат — будаваць.

— Скажаш ты — не жаночы... Чаму ж тады Касьян ледзь не загадвае мне брацца за гэтую работу неадкладна?

— Быццам Касьян не правяраў цябе, не прыязджаў у Востраў. І прыязджаў, і быў у нас у гасцях, бачыў сваімі вачыма, у якой хаце ты жывеш. І ўсё цікавіўся ў мяне: няўжо я гэты наш дамок ад пачатку і да канца сам, сваімі рукамі? Я й сказаў, што работа цеслі мне вядомая, але дамок узводзіць дапамагалі, аднаму з гэткай работай хіба можна ўправіцца? Ён і прыкінуў, што нідзе я не дзенуся, не пакіну цябе сам-насам з будоўляй...

На школу трэба было адкляйміць, выразаць ды ачасаць уга колькі лесу. Гэтым і заняўся Аляксей з тымі вясковымі мужыкамі, хто быў дужы, хто хацеў падзарабіць, бо Касьян паабяцаў Надзі, што на будоўлю школы грошы знойдуцца...

Усё лета і восень брыгада, якую сабраў Аляксей, валіла сосны, дубы, рэзала іх на бёрны, часала... Акораныя ды ачэсаныя бёрны вывезлі туды, дзе яны і былі патрэбны. Вывезлі і склалі роўнымі штабялямі так, каб між бёрнамі гуляў вецер, каб яны не гнілі, каб іх не круціла...

А на наступнае лета на тым месцы, дзе павінна была з'явіцца школа, заварушыліся шабашнікі, якіх надыбаў недзе Аляксей. Іх цэлая брыгада — пяць чалавек. Аляксей быў у іх нібыта за прараба і тлумачыў, дзе ўкопваць штандары, дапамагаў класці легары... Шабашнікі, вядома, і самі добра зналі, з чаго і як пачынаць новабудоўлю, але з Аляксеем надта не спрачаліся: што ён гаварыў — тое і рабілі. Бо не хто іншы, а менавіта ён, Аляксей, запрасіў іх у Востраў, каб яны не мардаваліся ад гультайства, маглі добра зарабіць. Цяпер Аляксей — іх камандзір і да любога яго слова трэба прыслухоўвацца. Работа закіпела, і Надзя кожнага дня прыходзіла на месца будоўлі, дзівілася, што шабашнікі ўвіхаюцца ад рання і да змяркання — упынку на іх няма. Быццам двухжыльныя.

— Ты, Надзея Нічыпараўна, не хвалюйся, — звярнуўся да яе адзін з шабашнікаў — мужчына гадоў сарака, коратка пастрыжаны, з чорнымі, пышнымі, як у Будзённага, вусамі. Ён, здагадалася Надзя, за галоўнага ў гэтай саматужнай будаўнічай кампаніі. — Не паспееш агледзецца — і будзеш працаваць у новай школе. Толькі харчуй нас добра і аплатай не пакрыўдзі, а за нашу работу не перажывай, мы хоць і шабашы, але сваё дзела туга знаем, халтуры не гонім, калі за што бяромся, то робім ад душы, камар носа не падточыць.

На могілках было людна. Дарма, што сёння не Дзяды і не Дзмітраўская субота, але ж выхадны, пагодлівы, сонечны дзянёк, родзічы ідуць да сваіх блізкіх, хто адышоў у іншы свет нядаўна ці колькі гадоў таму. Балазе, што ад цэнтра горада да могілак праз пэўны прамежак часу выпраўляецца маршрутны аўтобус. Амаль каля кожнай магілы лавачкі, столікі. Людзі, прыбраўшы магільны курганок ад шышак, што падаюць з хвояў, елак (могілкі ў сасновым, ельнікавым, бярозавым, даволі немаладым ляску), садзяцца на лавачкі. Яны выкладваюць прынесеную закусь, гарэлку, памінаюць тых, з кім жылі ўпобачкі, ладзілі-сварыліся, вялі размовы аб тым, што непакоіла, турбавала, не цярпела адкладу.

Каля Святланінай магілы таксама ёсць і лавачка, і столік і невысокая агароджа з жалезных, пафарбаваных у блакітны колер, прантоў. Надзя сама аб усім паклапацілася. Заплаціла ў рытуальныя паслугі і цяпер ёй ёсць дзе прысесці, паплакаць, пагаварыць з дачкой і з сабой пра тое, чаму ў яе, Надзі, гэтакая незайздросная доля.

Яна прывыкла ўжо, што з помніка дачка глядзіць на яе сумнымі, журботнымі вачыма. Надзі здаецца, што дачка гаворыць ёй, каб перастала ліць слёзы, перастала думаць пра тое, чаго ўжо не вярнуць, берагла сябе, сваё здароўе, бо ёй трэба яшчэ нямала зрабіць на гэтым свеце — падняць на ногі малодшага сына, паклапаціцца пра ўнукаў. А як жа — хто, калі не яна, дапаможа Жэню выгадаваць хлопчыкаў. Жэня, канечне, не прапашчы чалавек, ён любіць сваіх сыноў, робіць усё, каб яны менш думалі пра тое, што сіроты, растуць, не знаючы ласкі роднай маці. Яе, бабуліна, любоў ды ласка хіба ім не патрэбна?

Згадаўшы пра сваіх самых меншых унукаў, Надзя ўспамінае і старэйшага Святланінага сына, якому дачка, паміраючы, адпісала кватэру, залатыя рэчы, амаль усё нажытае дабро, што мела які-ніякі кошт і думае, што несправядліва зрабіла дачка. Канечне, Надзя магла тады запярэчыць ёй, але не асмелілася: дачка была ў такім стане, што трывожыць яе не хацелася.

Жэня, зяць, вельмі быў пакрыўджаны і абураны, што цешча адразу ж пасля Святланінай смерці забрала да сябе і дываны, Святланіны завушніцы-пярсцёнкі, залаты ланцужок з крыжыкам. А, галоўнае, ледзь не загадала яму высяляцца з дзецьмі з кватэры. І што з гэтага ўсяго ў рэшце рэшт атрымалася? Святланін старэйшы сын, перад тым як выпраўляцца на службу ў войска, зблытаўся з нейкай хамхадэрай-п’яніцай, пусціў усё ў распыл, прапіў-прагуляў нажытае маці дабро ў адначассе. І кватэру страціў: памяняў з даплатай на інтэрнацкі пакой. Яно й так: усё, што не нажыта сваім мазалём, не цэніцца. Знаў бы Віталь, як нялёгка далася Святлане двухпакаёўка, з якім скандалам ды гвалтам маці выпісвала свайго першага мужа, Віталевага бацьку, то хіба мяняў бы быка на індыка? Цяпер ён у войску, адслужыць, дэмабілізуецца, то мо больш стане розуму ў яго дурной галаве. Але матчыну кватэру ўжо не вярнуць.

Думкі-трывогі нагортваліся адна на адну; была ўжо недзе сярэдзіна дня і Надзя паднялася, паглядзела напаследак на Святланін партрэт на помніку, бы развіталася з дачкой да наступнага спаткання, сабралася ісці на прыпынак.

Яна згледзела, што па могілкавай дарозе крочыць яе сусед Міша. Ён, пэўна, наведваў жончыну магілу і таксама вяртаўся дадому.

Міша ў шэрым наросхрыст пінжаку, светла-карычневай кашулі, шэрых, як і пінжак, штанах, чорных туфлях.

Выгляд у Мішы пануры. Ён паглыбіўся ў сябе, нічога і нікога не заўважаў, думаў, мабыць, пра тое, што жонка памерла ў такія гады, калі б яшчэ жыць ды жыць, але яна ўвесь час кволілася на сэрца, сэрца і звяло яе дачасна ў магілу.

На аўтобусны прыпынак пайшлі разам. Нейкі час ішлі моўчкі. Кожны думаў пра сваё, але, мабыць, і ён, і яна думалі аб адным і тым жа. Што рана аўдавелі, не ўсе дзеці яшчэ выраслі, іх яшчэ трэба гадаваць, клапаціцца, каб раслі людзьмі, каб не зналі нястачы, холаду, крыўды.

— Дзе твой старэйшы ўнук служыць? — чамусьці спытаў Міша.

— У Германіі, на шафёра ў арміі вывучыўся. Піша, што служба ў яго лёгкая, але сумуе па дамоўцы.

— А што матчыну кватэру збаёдаваў, не раскайваецца? — незадаволена прамовіў Міша. — Гэта ж трэба даўмецца — двухпакаёўку памяняць на інтэрнацкі пакой. Біць яго няма каму. Мала гора ён зазнаў, каб зазнаў...

— Пра што ты, Міша, кажаш? Мала гора Віталь паспытаў? Застаўся без маці, не знае, не ведае, дзе яго родны бацька... З хамхадэрай вулічнай ён збыўся — ось што. Тая збіла яго з толку. Каб не яна...

Надзя гаварыла адно, а думала зусім іншае. Хіба Міша кажа няпраўду? Праўду ён кажа, крыўдную і горкую, ад якой баліць душа і сэрца, але ж не хочацца верыць, што яе Святлана нарадзіла гэтакае во дзіцятка, ад якога нямала наплакалася б ды нагаравалася б.

Сышоўшы з аўтобуса, яны падняліся на горку, пайшлі той вуліцай, у самым канцы якой іхнія селішчы. Гэтая вуліца амаль нічым не адрозніваецца ад вясковай. На ёй тыя самыя драўляныя дамы, дашчаныя платы-штыкетнікі, сады, а ў глыбіні двароў — хлявы, хлеўчукі, у якіх трымаюць курэй, гусей, авечак, парасят... А хто-ніхто трымае і карову. Выпасаў у ваколіцах хапае, і сена ёсць дзе ўрабіць: райцэнтр акружаюць лугі, забалочаныя мясціны, палі, лясы, дзе травы растуць-калышуцца ад ранняй вясны і да позняй восені — касі, грабі, стагуй сена колькі заўгодна.

У Надзіным двары таксама ёсць хлявок, дзе раней стаяла карова, рохкала свінчо. Ад Чорнай, якая захварэла і якую давялося прырэзаць на мяса, вырасла цялушка, яе і забралі сюды, у горад. Надта ж цяжка было адвыкнуць ад таго, каб не мець сваёй кароўкі. Цялушка ад Чорнай, бы і яе маці, была добрага заваду: рахманая, паслухмяная, давала смачнае малако. І ўтрыманне яе тым часам, калі жыў Аляксей, не было ў цянжар. Але калі не стала Аляксея, Надзя прадала Лыску. Расставалася з ёй са слязьмі на вачах: Лыска была той апошняй нітачкай, што звязвала яе з вёскай, з мінулым, якое сніцца, стаіць уваччу, не забываецца і наўрад ці калі-небудзь забудзецца.

А кабанчыка Надзя трымае і цяпер, ён ужо ладны, недзе на пачатку зімы можна будзе калоць. Раней гэтую работу рабіў Аляксей з Дзімам, а цяпер Надзя просіць Мішу. Калі жылі ў вёсцы, то смалілі кабана кулём, а ў горадзе Аляксей злаўчыўся смаліць паяльнай лямпай, якую запраўлялі бензінам. Паяльнай лямпай смаліць і Міша, толькі запраўляе ён яе газам.

Смаленне кабанчыка — гэта сямейнае свята, якога чакаюць як неўгадно што. Усім хочацца свежыны, дамашняй, піханай пальцам, каўбаскі, крывянак, кумпячка... І Дзіма вырвецца са сталіцы на дзянёк-другі, каб пабыць разам з усімі, пабачыць маці, пахадзіць па двары, па садзе, скокнуць у Востраў і паблукаць па мясцінах, дзе прайшло яго маленства, дзе кожная паляна ў лесе, балацявіна і купіна на ёй ахінаюць душу цяплом і абуджаюць рой харошых, узнёслых думак...

Вуліца доўгая — больш за кіламетр і пакуль дабрылі да сваіх селішчаў, то Надзя паспела згадаць пра шмат што. Міша не перашкаджаў ёй думаць. Пасля наведвання могілак ён быў задумлівы, маўклівы, засяроджаны ў сваіх клопатах. Хіба іх у яго мала? Сын-падлетак, дзве дзяўчыны-нявесты, гаспадарка... Пасля таго, як памерла жонка, ён дужа перажываў, ад перажыванняў стаў замкнуты, мала калі паяўляўся на людзях. Але не-не, ды і загляне часам да Надзі. Сядзе каля хлеўчука на дубовы акораны пянёк, на якім Аляксей калоў дровы, курыць, раз-пораз цяжка ўздыхае, пытае пра тое ды гэтае, скардзіцца, што яго дочкі-нявесты адбіваюцца ад рук, пачалі курыць, а вечарам сыдуць з дамоўкі і да глыбокай начы не паказваюцца. «Баюся я, — кажа Міша. — Баюся, каб у прыполе не прынеслі... Чаго добрага, а такога дачакацца можна... Я тады не перажыву гэткага сораму... Не могуць яны без дыскатэк дый годзе. Хіба на тых дыскатэках чаму добраму навучацца? Там жа ніякай строгасці, п’янкі, цыгарэты... Адна бязбожная распуста. Як адвучыць іх ад гэтай заразы»?

Надзя падтрымлівае размову.

— Гора не знаюць цяперашнія дзеці. То вунь мы... Як перажылі, як ацалелі ў вайну — аднаму Богу вядома. А пасля вайны? Не да гуляў нам было. Не было дзе жыць, неставала ніякай ладнай адзежыны. Холад ды голад.

— Выходзіць, — міжволі працягвае яе думку Міша, — чалавек тады становіцца чалавекам, калі неба з аўчынку, так?

— Хто яго ведае, але ж сам знаеш — наша пакаленне расло ў строгасці, — у нечым Надзя пагаджаецца з Мішам, а ў нечым і не пагаджаецца.

А яшчэ Міша бы зусім выпадкова, бы зусім незнарок гаворыць, што яна, Надзя, яшчэ маладая жанчына і магла б знайсці сабе якога вартага ўдаўца.

— Хіба гэта дзела, што ты адзінокая? Каля тваёй хаты процьма мужчынскай работы і хто яе паробіць?

Надзя разумее, да чаго хіліць Міша — каб яны сыходзіліся і жылі адной сям'ёй. А чаму б і праўда ім не сысціся? Дзеці ў іх дарослыя, а меншых сыноў хіба не лацвей было б падымаць- ставіць на ногі разам?

Яно мо і трэба было б зрабіць так, як хоча Міша. Апошнім часам яго хоць да раны прыкладвай: стаў добрым, сардэчным ды спагадлівым. Не тое, якім быў тады, калі Аляксей будаваўся тут на сваім гарадскім пляцы і калі Міша паставіў на завулку гараж...

Неўзабаве яны разышліся. Надзя падалася на свой падворак, а Міша на свой.

Сын, не дачакаўшыся яе, разагрэў на газавай пліце боршч, які зварыла Надзя зранку, наліў у талерку і з апетытам еў. Расце Лёшык, рослы ён хлапчук, знешне ўвесь у бацьку: белабрысы, невялікі прамы нос, круглатвары. І натурай увесь у бацьку, з характарам, рабацяшчы. Вернецца, бывала, са школы, паробіць урокі і шукае сабе якую-небудзь работу. То дровы сячэ-складвае, то плот падрамантуе, то яблыкі-паданкі пазбірае, то падсцёлу ўкіне ў хляўчук кабану...

— Мой ты сынок! — кажа Надзя. — Ты толькі от цяпер абедаеш? А я на могілках была, у Святланы.

Надзя садзіцца на стульчак каля стала, за якім абедае Лёшык, пазірае ў акно веранды і бачыць вёску, новую школу, якая расла пакрысе на ўскраі сяла, каля лесу, дзе зелянелі клёны, ясакары, бярозы, сосны ды дубы.

Месца для новай школы выбраў Аляксей. Старшыня калгаса, яшчэ нейкая Надзіна радня, Сіла Пятровіч, які ніколі не выпускаў з рота зубленку-самакрутку з самасаду, чамусьці не вельмі хацеў, каб школу будавалі менавіта ў гэтым месцы. Ён бы пакрыўдзіўся, што, не параіўшыся з ім, нагледзелі-выбралі ладную мясціну і цяпер от нібы нават патрабуюць, каб старшыня, не раздумваючы, пагаджаўся з гэтымі самавольнымі забудоўшчыкамі.

— Побач сад, ад дзяцей адбою не будзе, калі паспеюць яблыкі, — хутчэй каб паказаць, хто ў Востраве галоўнакамандуючы, казаў ён, — будуць лезці на дрэвы, ламаць галлё, ды што галлё — вязы хто-небудзь скруціць сабе.

— Мы агародзім школу, — стаяў на сваім Аляксей, — не бойся, Сіла Пятровіч, нічога не здарыцца. А вось што лес і поле ўпобачкі са школай, то хіба гэта дрэнна? Некаторыя ўрокі можна будзе праводзіць на прыродзе, і поля трохі адрэж, каб хапіла зямлі для стадыёна, каб можна было пасадзіць дрэўцы...

Куды было падзецца старшыні калгаса — хіба ў школе вучацца чужыя, не ягоных калгасаўцаў, дзеці? Школу, даводзілі старшыні і Аляксей, і Надзя, узвядуць двухпавярховую, не пачатковую, а васьмігодку. Бо дзяцей у кожнай сям'і, у кожным двары па трое, чацвёра, а ёсць і па пяць, па шэсць. Палешукі і паляшучкі і ў дэмаграфічным пытанні не на апошнім месцы, бо жэняцца-

выходзяць замуж па каханні, ад моцнага кахання, мабыць, на Палессі гэтакія трывалыя ды шматдзетныя сем'і.

Вядома, можна было б і дзесяцігодку ўзвесці, але на гэта не даў згоды Касьян, сказаў, што на сённяшні дзень у раёне дэфіцыт выкладчыкаў і ў тых школах, якія ўжо адчыніліся. У перспектыве мо гэта і ажыццявіцца, але да таго дажыць трэба.

— Калі адчынім васьмігодку ў нашым Востраве, то хіба гэта дрэнна? — нібы пыталася Надзя ў старшыні калгаса. — Будзем дапамагаць калгасу церабіць лён, капаць бульбу, а то ў цябе, Сіла Пятровіч, часам нявыкапаная бульба застаецца пад снегам, гіне, прападае. Пасля зімы, вясною, людзі перакопваюць тое поле, дзе зазімавала бульбачка, выкопваюць перамерзлыя клубні, дзяруць іх на тарцы ды пякуць шайморы. Ці я кажу няпраўду?

Надзіны ды Аляксеевы довады былі пераканаўчыя, і Сіла Пятровіч надта ўжо не супраціўляўся, адводзячы пад будаўніцтва школы зямельны ўчастак каля саду, блізка ад поля і лесу: хоць гэтыя забудоўшчыкі самавольна выбралі пляц для будучай школы, але ж калі ён не прыме іх прапанову, то што пра яго падумаюць? Што ён — рэтраград, чалавек учарашняга дня, не разумее, аб чым ідзе размова. Школа — гэта ж будучыня дзяцей, вёскі, краіны.

— Што ад мяне патрабуецца, чым я магу дапамагчы, каб школа ўзводзілася без затрымак з-за будматэрыялаў ці яшчэ чаго? — прымірэнчым тонам гаварыў Сіла Пятровіч.

— Будаўнікі чарталомяць ад ранку і да вечара, то ім трэба добрыя харчы. На тыдзень ім трэба рэзаць хоць бы аднаго барана, гэтых бараноў у калгаснай атары мо болей за сотню, а загадчык фермы выпісаў аднойчы і кажа, што досыць, — паскардзіўся Аляксей. — Мне па мяса будаўнікам гайсаць у райцэнтр? Дык і там не заўсёды яно бывае.

— Загадчык фермы знае, што кажа, — патлумачыў Сіла Пятровіч. — У нас план па воўне, па мясе, паспрабуй яго не выканаць... За невыкананне дзяржапаставак і пасадзіць могуць, а што ж вы думалі: калгас — не мая асабістая лавачка... Але і будаўнікоў школы трэба карміць не сіненькім супам.

Сказаўшы гэта, Сіла Пятровіч звярнуўся да Надзі:

— Твой Дзіма колькі класаў скончыў? У адзінаццаты перайшоў, так? Ён ужо дарослы мужчына, я часцяком бачу, як ён з касой на плячы шыбуе то ў Залоззе, то ў Каляду, выкошвае лясныя ўтравелыя дзялянкі, узболаткі. Гэта добра, памочнік у сям'і вырасварты. Але няхай ён і калгасу пасобіць. Хіба ён не здольны абганяць бульбу? На Пад'ёме бульба перарастае, усе мужыкі на пакосе, час такі — калі не пакладзём траву ў рады, то зімой чым карміць скаціну будзем? Так што няхай Дзіма запрагае коней, бярэ акучнік — і на Пад'ём.

Не змагла Надзя адбіцца ад гэтай старшынёвай прапановы. Мусіла яна пагадзіцца з Сілам Пятровічам, хоць і не надта хацелася ёй запрагаць Дзіму ў гэтую работу. Пахадзі за акучнікам дзень у дзень — ні рук ні ног не пачуеш. Гэта амаль тое самае, што і араць, тут патрэбна мужчынская сіла ў руках, у нагах, у плячах. А Дзіму толькі сямнаццаць гадоў, хіба ён набраўся тае моцы, якая патрэбна аратаму?

Надзя ўвесь час, пазіраючы на сына, адкрывае ў ім новыя рысы знешнасці, характару. Расце ён, сталее, непрыкметна мяняецца. Дзіма невысокі, бы маці, каржакаваты, як Цімафей, — натурысты. Да навукі ў яго гэткая незвычайная цяга, што Надзя дзіву даецца: адкуль у яго гэтая рыса? У іх радні вучоных быццам ніколі не было. Яна вось скончыла толькі педвучылішча, а Цімафей увогуле да вайны паспеў вытрымаць іспыты за сем класаў. У Востраве пакуль пачатковая школа, а Дзіма адолеў ужо дзясяты клас, наперадзе ў яго адзінац-

цаты, выпускны. Сярэдняя школа ад Вострава за восем кіламетраў, Дзіма дабіраецца на заняткі на веласіпедзе. Але і пехам даводзіцца адольваць вёрсты да школы, калі непагадзь, калі сцюжа перамяце дарогу і на кожным кроку гэткія сумёты, што ў іх патануць можна.

Вернецца Дзіма са школы, паабедае і барзджэй садзіцца за стол рабіць урокі. Яго роўня тым часам свішча пад вокнамі, кліча Дзіму на вуліцу гуляць у лапту ці пекура або ісці ў Астроўкі лазіць па дрэвах, спорваць птушыныя гнёзды... Там, у Астроўках, воля вольная, там дзікія козы, кабаны, рыкаюць ласі... Там нязведаныя сцежкі-дарожкі, па якіх хочацца бегаць да поначы, да ўтомы... Там усё такое таямнічае ды прывабнае... Дзіму, вядома, хочацца далучыцца да сяброў, але ён прымушае сябе заставацца за пісьмовым сталом, бо ведае, што ўрокі за яго ніхто не паробіць, а ўрокі для яго — святое дзела. Усе настаўнікі, пабачыўшы Надзю, нахваліцца не маглі яе сынам. І гэта цешыла яе, неймаверна радавала, але адначасна і абуджала тугу, якую яна насіла і хавала глыбока ў душы — тугу па сваім першым мужы, які загінуў зусім маладым...

Тое, што Сіла Пятровіч просіць, каб Дзіма ўзяўся акучваць бульбу на Пад'ёме, Надзя растлумачыла сыну па-свойму:

— Трэба ісці, сынок, на гэтую работу, бо калі не пойдзеш... Сам разумееш — старшыня не дасць падводы дроў з лесу прывезці, не дасць каня пасадзіць бульбу на агародзе... У Востраве ён і цар, і воінскі начальнік — няўжо ты, сынок, гэтага не разумееш?

Канечне, Дзіма і без гэтых яе тлумачэнняў усё вельмі добра бачыў і сказаў, што ўжо заўтра запражэ коней і выправіцца на Пад'ём. Яшчэ ўчора і заўчора ён пасвіў статак кароў, у якім ні многа ні мала — трыццаць галоў. Выпасы ад вёскі вярсты за тры-чатыры, пільнаваць статак трэба, не адыходзячы ад яго ні на крок, бо кругом калгасныя палі, сенакосныя лугі і не дай божа, калі якая шкадлівая Лысая ці Падласая ўнадзіцца ў шкоду. Тады палявы вартаўнік, які шастае верхам на кані ад золку і да змяркання, тут як тут, складзе пратакол і давядзецца плаціць штраф. Не паспеў, канечне, Дзіма як след адпачыць пасля чаргі, ды што зробіш: калгасная бульба перарастае, мужыкі ўсе на сенакосе і цяпер адна надзея на гэтакіх во старшакласнікаў, як Надзін Дзіма.

Вясковыя дзеці — не беларучкі. Яны змалку прывыкаюць да любой пасільнай работы. Палоць гарод ад пустазелля, збіраць грыбы, чарніцы, драць лазу... Чарніцы, грыбы сушаныя і сырыя, кару лазы, крушыны здавалі ў сельпоўскую лаўку, яўрэям-балаголам, якія калесавалі з вёскі ў вёску і збіралі анучкі, косткі, жалезны лом. За гэта дзеці-падлеткі, дый дарослыя, выручалі капейку, за якую набывалі адзенне, вобутак, сшыткі, падручнікі. Тым і жылі-выжывалі. Бо ў калгасе хоць і рачкавалі з дня на дзень, але што з таго мелі? Пустыя працадні...

Надзін Дзіма і вырас за гэтай вясковай работай. І цяпер во ўжо абганяе акучнікам калгасныя загоны.

— Мой ты сынок! — цяжка ўздыхала Надзя, калі прыносіла сыну абед на Пад'ём. — Угасіўся ўжо? Хіба ж не відно — угасіўся. Адпачні трохі, надта не рвіся, цяпер дзень доўгі, да вечара далёка. Бач, за колькі дзён амаль палову Пад'ёма акучыў.

Дзіма выпрагаў каня з акучніка, здымаў хамут, пастронкі, путаў каня і пускаў на пашу, на маладую траву, якой каля загонаў, на ўзмежках удосталь — хай Буланы адпачне, ад работы ён увесь узмок, у мыле.

Надзя развязвала хустку-вузялок, у якой у гліняным гаршчэчку боршч з маладога бацвіннейка з мясам засечанага пеўня, тушаная бульба з морквай, сушанымі грыбамі, бутэлька малака. Дзіма ўплятае ўсё за абедзве шчакі з

такім апетытам, што, здаецца, аж за вушамі трашчыць. А што ж ты хочаш — малады ён, расце яшчэ, дый вунь якую работу варочае, за колькі дзён палову Пад'ёма акучыў.

Пакуль Дзіма есць, Надзя пазірае на поле, за якім з аднаго боку лес, а з другога — луг, балацявіна. Па лузе ходзіць-пасвіцца бацян, бо на лузе і ў балацявіне жабы, гадзюкі, вужы — спрадвечная бусловая спажыва. Балацявіна, што каля лесу і поля — куп'істая, парослая трыснягом, хвашчом, асакой, а па берагах яе зелянее густы, высакаваты вербалоз. Улетку балацявіна перасыхае, але там-сям, дзе ніжэй і цень ад вербалозу, вада ўсё ж застаецца. Яна рыжая, з глеем. У ёй водзяцца шчупакі, карасі, і Аляксей той парой, калі клаў на лузе траву ў рады, здзярэ з бярозы добры кавалак берасціны, зробіць глыбокую, бы невялікі кашэлік, кузеньку, наловіць рукамі слізкіх шчупакоў з карасямі, якія пахнуць балотам, багнай, прынясе ўлоў дадому, то Надзя насмажыць рыбы поўную бляху і дзеці ядуць яе і дзень, і два. З'ядуць і просяць бацьку, каб ён зноў выпраўляўся на балацявіну на рыбалку — надта ж смачны наедак гэтыя засмажаныя шчупакі ды карасі. Нават, здаецца, смачнейшы за цукеркі. Дык цукерак у сельпоўскай лаўцы бяры колькі хочаш, а свежая рыбка на стале — самае што ні на ёсць дзіва.

Ад лесу і балацявіны Надзя пераводзіць позірк на поле. Яно вялізнае-вялізнае, як сягнуць вокам. Адна палова яго засаджана бульбай, а другая засеяна жытам. Жыта ўжо добра паднялося, пусціла колас. Колас яшчэ кволы, тонкі, толькі-толькі пачынае наліваццa. Над жытам у вышыні кружыць коршак і адтуль, з вышыні, раз-пораз даносіцца яго настойлівае «клі-клі-клі». Лета ўвабралася ў сілу, спякота і коршаку хочацца піць, але на небе ні хмурынкі — каторы дзень стаіць пагода.

Надзя думае пра тое, што некалі вясною перад вайной гэтае ж самае поле араў Цімафей, і ў баразну жанкі кідалі насенную бульбу. Надзя тады па нейкай пільнай патрэбе на колькі дзён вырвалася з педвучылішча дадому і разам з сястрой Хрысцінай на Пад'ёме саджала бульбу. Аб тым яе папрасіў Сіла Пятровіч — тагачасны брыгадзір паляводчай брыгады. На плячы ў Надзі кашэль з насеннымі клубнямі, яна ідзе паўз баразну, якая пахне вясной, жыватворнай вільгаццю і кідае ў тую баразну адзін клубень, другі... Следам за ёю ідзе конь, яна чуе, як конь часта дыхае, Цімафей на хвіліну спыняе каня, бо Надзя ледзь управляецца са сваёй работай.

— Варушыся, студэнтка, гэта табе не на вучобе, — голас у Цімафея жартаўлівы, ён, канечне, рады пагаманіць з ёю, тым больш, што ёсць зачэпка.

Яму хочацца з ёю гаварыць і гаварыць, і Надзя зразумела, што яна Цімафею падабаецца. Яна таксама не супраць сказаць яму слова-другое, але ж няма калі. Работа такая, што ні хвіліны не пастаіш, не прыпынішся, каб вольна ўздыхнуць, даць адпачыць рукам, шыі, у якую ўелася вочапка кашаля, ад цяжкага кашаля Надзя трохі прытамілася, але не падавала выгляду, не хацела, каб падумалі, што яна гультайка, так і цікуе, каб сачкануць.

Праз дзень-другі яна спяшалася на шлях, каб дачакацца якой папуткі ці падводы ды выправіцца ў горад на вучобу. Надзя і не заўважыла, калі яе дагнаў Цімафей, узяў з яе рукі студэнцкі чамадан, у які маці паклала дамашнія гасцінцы, бо на студэнцкую стыпендыю надта не параскашуеш і вясковыя прысмакі ніколькі не лішнія.

— Рабіць табе, Цімафей, няма чаго, — лёгка папікнула Надзя свайго ўхаджора, але ёй прыемна, што Цімафей ставіцца да яе вельмі сур'ёзна. Ён, мабыць, гатовы пасватацца да яе хоць сёння, але Надзя пра замужжа пакуль не думае, бо наперадзе яшчэ гады вучобы...

Паабедаўшы і трохі адпачыўшы, Дзіма запрагае ўжо не Буланчыка, а другога каня, які да абеду напасвіўся, адпачыў і можа цягаць акучнік хоць да позняга вечара.

Надзя глядзіць услед Дзіму, радуецца ціхай радасцю маці, што яе старэйшы сын вунь ужо які вымахаў — спраўляецца і з акучваннем, і з любой іншай мужчынскай работай. Яна думае і пра Дзіму, і пра Цімафея, пра Аляксея і сябе. Думае пра тое, што яе лёсу не пазайздросціў бы, мабыць, ніхто. Перажыла вайну, якая забрала маці, забрала блізкіх, дарагіх людзей, не дачакалася з фронту мужа, і ўжо ад другога мужа ў яе дачка, і Надзя загрубела зноў. Яна ўжо і не хоча больш дзяцей, дай Бог выгадаваць-паставіць на ногі тых, што ўжо ёсць. Але ж Аляксей, даведаўшыся, што яна зацяжарыла, просіць, каб і не думала пазбаўляцца дзіцяці. «Хіба мы з табою перастаркі? — казаў ён. — Ты — настаўніца, я не сяджу без дзела, на хлеб у нас ёсць, выгадуем і яшчэ адно дзіця. Ранейшыя дзеці ўжо амаль дарослыя, а меншанькае будзе нашай уцехай».

Яна нічога не адказала Аляксею, але ў душы з ім не пагадзілася, бо знала, што ўсе клопаты з дзіцём дастануцца ёй. А хіба іх, клопатаў, і без таго ў яе мала?

Нечакана ды неспадзявана вярнулася з Поўначы старэйшая дачка. Некалі яна, скончыўшы сярэднюю школу, завербавалася і па вярбоўцы выправілася на край свету, спадзеючыся, што там добрыя заробкі, якіх тут, дома і каля дома, не бывае. Не адны заробкі былі прычынай таго, што дачка моўзнула далей ад родных мясцін, ад свайго селішча, ад маці... З таго дня, калі Ірына пакінула дамоўку, Надзя страціла апошні сон і спакой, бо ў тым, што дачка цяпер невядома дзе, бачыла і сваю віну...

Вярнулася Ірына не адна — з мужам і дачкой-школьніцай. Муж яе надта ж нагадваў цыгана — чарнавалосы, з невялікай чорнай бародкай, вузкімі, бы ў азіята, вачыма. І дачка, і яе муж апранутыя ва ўсё моднае, не заношанае. На дачцэ кароткая, на «маланках», з пушыстым сабаліным каўняром куртка, на нагах бліскучыя, на абцасе, боты. А на мужы скураная, з накладнымі кішэнямі, куртка, скураная, з кароткім брылём, кепка, цёмна-зялёная кашуля, кароткі, у касыя светлыя паласы, гальштук, на нагах — карычневыя, з доўгімі вузкімі насамі туфлі. Калі зяць гаварыў, то відаць былі яго бліскучыя залатыя зубы. Мабыць, пераапрануліся і дачка і зяць гэтак фарсіста перад тым, як сысці з цягніка і сесці на станцыі ў аўтобус, што кіраваўся ў горад. Не дабіраліся ж яны з Поўначы ў гэтым адзенні, што цяпер на іх.

«Знацца, і праўда на Поўначы добрыя заробкі, — прамільгнула ў галаве ў Надзі. — Гэтак прыбарахліцца, як яны, ды паставіць залатыя зубы... Але чаму ты, мая донька, не напісала, не папярэдзіла, што прыедзеш? Я б падрыхтавалася, згатавала б святочны абед.

Ох, мая ты донька! Што ж цябе прымусіла гэтак спешна вяртацца дадому? Калі там былі і заробкі, і нейкі інтэрнацкі куток, то жыла б памалечку, збірала б грошы на кватэру, на будучыя гады. З добрымі грашыма не загінула б ні там, ні тут», — думкі ў Надзінай галаве мяняюць адна адну, бо Ірынін прыезд як снег на галаву.

Ірына не выглядала беднай ды няшчаснай, затурканай жыццём, але тое, што яна вярнулася дадому нечакана, сведчыла: не ўтрымалі дачку ні добрыя заробкі, ні рамантыка, шукаць якую Ірына выправілася за трыдзевяць зямель. Там, адкуль яна вярнулася, усё чужое, і ад таго на сэрцы і ў душы, мабыць, не было ні сапраўдных святаў, ні радасці.

— У вас тут аніколечкі не цесна — не горш, як і там у нас у Востраве, — Ірына хадзіла з пакоя ў пакой, ёй падабалася, што айчым Аляксей паспеў за той час, што жыў з Надзяй, паставіць дом і ў вёсцы, і тут, у райцэнтры. — Свабодна, раскошна ў вас тут — жыві не памірай, — шчабятала ластаўкай Ірына, робячы намёк, што маці, канечне ж, адвядзе ёй утульны куточак. Адвядзе, а як жа іначай — хіба Ірына не яе родная дачка?

Надзя слухала Ірыну і чамусьці згадала вайну, тое, як яна з Ірынай-немаўлём хавалася-гібела ў лесе. Немцы забралі ў гестапа Надзіну маці, сястру Хрысціну з маленькімі дзецьмі за тое, што іхнія мужы ды сыны падаліся ў партызаны, робяць засады на дарогах, забіваюць акупантаў, паліцэйскіх. Былі арыштавалі і Надзю, у гестапа яна прасядзела два дні. А на трэці яе выклікалі на допыт да следчага. Ёй пашэнціла, бо следчым аказаўся славак — сярэдніх гадоў мужчына са стомленымі вачыма, ветлівы. Ён быў з тых славакаў, якія спачувалі славянам і ўсім, хто мусіў цярпець нямецкую акупацыю.

Следчы размаўляў па-руску, ён сказаў, што адпускае яе, каб яна вярнулася разам з мужам і родзічамі-партызанамі, і тады адпусцяць на свабоду усіх арыштаваных Надзіных сваякоў.

Той жа дзень яна сустрэлася з Цімафеем, які нават не мог паверыць, што яна вырвалася з гестапа на волю гэтакім неверагодным чынам.

— Скажы, Надзя, дзякуй богу, што ты трапіла да следчага-славака, інакш... Я нават баюся ўявіць, што магло быць з табой і нашым дзіцяткам... Славакі дапамагаюць нам, партызанам, чым толькі могуць — зброяй, разведданымі... І гэты следчы-славак хутчэй за ўсё таксама наш саюзнік.

Гэтая размова адбылася ў лесе, дзе партызаны спыніліся на часовую стаянку перад тым, як выправіцца ў недаступныя для карнікаў глухія мясціны, дарогі да якіх няма — скрозь дрыгвяністыя, непраходныя балоты.

— Пойдзеш разам з намі, — дадаў яшчэ Цімафей, — у вёску нам дарогі няма — кругом лютуюць карнікі: спальваюць вёскі разам з жыхарамі, калі ёсць хоць мізэрнае падазрэнне, што гэтая вёска партызанская...

Спалілі датла і Востраў. Ацалела толькі дзве хаты: паліцая Аўдзея ды тая, што на самым ускраі, бліжэй да лесу, Раманава селішча агонь не зачапіў. Мо таму і не зачапіў, што на водшыбе.

Людзі хаваліся ў лесе не адну зіму і не адно лета. Добра, што Востраў акружалі бары і пушчы, непраходныя багністыя балоты, у якія акупанты баяліся лезці, бо там і партызаны, і багна як на пагібель. І ўсё ж акупанты лезлі і ў лес, і ў балоты, бо партызаны не давалі ім спакою нават у тыя, блакадныя часы. Партызаны выбіраліся са сваіх лясных схованак на чыгункі, на шашэйныя дарогі, прабіраліся да варожых гарнізонаў... Тым часам, калі Цімафей выпраўляўся на баявое заданне, Надзя пакідала партызанскі лагер, каб назбіраць ягад, грыбоў, бо хацелася есці, а запасаў ежы амаль не было... Яна трапляла на ягадную валоку і баялася нават кашлянуць — а што калі недзе побач прытаіўся фрыц? Яны палявалі на людзей як на зайцоў паўсюль, і ўратавацца было вельмі цяжка. А ў Надзі на руках маленькая дзяўчынка. Калі яна пачынала плакаць, то Надзя затыкала ёй рот мохам. Бо не дай бог, калі пачуюць немцы. Хто-ніхто пакідаў немаўлят пад дрэвамі, на купінах, тыя плакалі некалькі дзён, пакуль не аслабелі, не адышлі. Надзя слухала той плач і па скуры мароз прабягаў — было страшна і жудасна...

Бог мілаваў і Надзю, і яе маленькую дачку. У партызанскім атрадзе разам з Цімафеем яна пražыла не адну ваенную зіму. А перад самым вызваленнем Палесся ад акупантаў у яе з Цімафеем нарадзіўся сын, якога назвалі Дзімам...

«Колькі выпала на маю долю — не прыгадаць», — Надзя слухае, што кажа Ірына, а думкі вяртаюць яе ў мінулае, вярэдзяць душу тым, што жыццё кожны раз ставіць яе перад выпрабаваннямі, адолець якія неўгадно як.

Вось і зараз... Ірына вярнулася з Поўначы і спадзяецца, што маці дасць ёй прытулак, дасць магчымасць жыць з мужам і дачкой у гэтым вось пrасторным доме, які зладзіў Аляксей, напружваючы свае апошнія сілы.

— Добра, донька мая, зрабіла, што вярнулася, — задумліва кажа Надзя. — У нас тут, канечне, тых заробкаў, якія былі ў цябе там, на Поўначы, няма, але без работы ніхто не сядзіць, на хлеб усім хапае.

Яна замоўкла, бо тое, што хоча сказаць далей, вымавіць не так проста і лёгка. Але сказаць трэба, яна мусіць тое сказаць, бо дачка з зяцем яе маўчанне могуць зразумець па-свойму: маўляў, яна згодна без усялякіх агаворак, каб Ірына з мужам заставаліся ў гэтым доме і векавалі тут.

— Канечне, донька мая, нейкі час вы можаце жыць у мяне, а як жа, куды ж вам падзецца яшчэ? Месца тут і вам, і мне з Лёшыкам хопіць, — яна так і не можа пакуль адважыцца сказаць словы, якія самі просяцца на язык, круцяцца ў галаве, пазбаўляюць спакою.

«Знала б ты, Ірына, як будаваўся гэты дом, ага... Ты моўзнула на Поўнач і табе не ў галаве, як мы існавалі ў Востраве да пары да часу. Быццам і нядрэнна жылі. І хлеб у нас заўсягды на стале быў, і да хлеба. Але ж як збудавалі школу, Аляксей падаўся ў горад...»

— Дарога ўхайдохала дачку, — раптам перапыніла Надзіны згадкі Ірына. — Дзе яе, маці, пакласці, хай дзіця прыляжа, бачыш — яна прымасцілася на канапе і дрэмле.

— Адпачніце і вы, дзеці мае, а то во загаманіліся, а пра дзіця забылі, — спахапілася Надзя. — Толькі перш сядзьце за стол, я хуценька што-небудзь збяру.

Неўзабаве Ірына з мужам, трохі перакусіўшы таго-сяго, што выставіла Надзя на стол, падаліся ў залу. І ім хапіла месца на канапе, якую расклалі і атрымаўся даволі шырокі ложак, і яны, лёгшы, супакоіліся, заснулі.

У доме панавала цішыня, толькі чутно, як у сваім пакоі-баковачцы варушыцца за пісьмовым сталом Лёшык. Ён на колькі хвілін паказаўся было ў залу, сарамліва памаўчаў, слухаючы, аб чым размаўляла Ірына з маці, сказаў адно-два словы пра сябе, пра сваю вучобу, пра тое, што яму цяжка даецца матэматыка, а замежная, французская, мова яго любімы прадмет, вярнуўся ў пакой-баковачку і працягваў сляпіцца над кніжкамі ды сшыткамі. Некалі Надзя не хацела мець больш дзяцей і не надта радавалася, што загрубела Лёшыкам, бо Дзіма ўжо заканчваў сярэднюю школу, Ірына недзе майнула на край свету, Святлана вучаніца-падлетак, а яна зноў чакала дзіця. Але ж Аляксей гэтакі няўрымста, ён дык і вельмі хацеў, каб Надзя нарадзіла яшчэ. А калі нарадзіўся хлопчык, то Аляксей быў сам не свой і гатовы быў несці Надзю з раддома на руках. А цяпер во Лёшык — і яе ўцеха. Яна прывыкла да яго, радавалася, што ён не расце распустам, паслухмяны, вучыцца добра. Матэматыка, праўда, даецца яму цяжка, але Лёшык да таго ўжо ўпарты ды натурысты, уседлівы, працалюбівы і пакуль не парашае задачкі, не вылезе з-за стала.

«Можа, і добра, што я не стала гаварыць Ірыне ўсяго, што ёй трэба сказаць... Паспею яшчэ, нідзе ад гэтага не дзецца. Хай дачка пакуль пажыве ў мяне, а што далей будзе — час пакажа».

Яна села на стульчак на верандзе, пазірала ў акно і бачыла Востраў, школу, Аляксея.

Надзя не магла надзівіцца: гэтыя шабашы, што будавалі школу, малапісьменныя людзі. Яны ўсе палешукі, тутэйшыя, з дальніх і бліжніх ад Вострава вёсак. У кожнага адукацыі — чатыры класы пачатковай школы і не болей. Але глядзі ты які майстравы народ! Узводзяць школу пад чысты вугал, франтоны, аканіцы з мудрагелістай разьбой, аконныя пераплёты таксама не цяп-ляп, а робяцца так, што вачэй не адвесці. Падлога паслана без аніводнай шчыліны.

Амаль два гады яны ўвіхаюцца, даводзячы будынак да ладу. Расла школа непрыкметна, па адным вяночку, па паўвяночка за дзень і не болей, па адным аконным праёме... Ужо накрыты чырвонай чарапіцай дах, устаўлены дзверы, зроблена лесвіца на другі паверх...

Скончыўшы заняткі, Надзя спяшала на падворак новай школы. Ён ужо агароджаны плотам-штыкетнікам са струганых, адна ў адну, вузкіх дошак, завостраных зверху, каб не гнілі. Агароджа — гэта ўжо Аляксеева работа. На калгаснай пілараме ён нарэзаў гэтых дошак столькі, што хапіла і на франтоны, на столь, падлогу, на сцёбачку, якую Аляксей памалу падымаў на гародзе, выбраўшы свабодную хвіліну ад клопатаў ля школы... Стругаў дошкі Аляксей уручную. Гэблікаў ды фуганкаў-рубанкаў з цацаўнікамі ў яго поўны набор. Гэтакі ж самы як і ў шабашоў. Абмазалелі, не перастаюць у Аляксея балець рукі ад гэтай сталярнай работы.

Прыйдзе Надзя на падворак новай школы, глядзіць-любуецца тым, што за апошнія два гады шабашы пастараліся дык пастараліся — вынікі іхняга старанння вось яны, перад ёю. Школа двухпавярховая, з прасторнымі калідорамі, светлымі класамі, з настаўніцкай, з лесвіцай з поручнямі на другі паверх. Бёрны знадворку, як і дошкі столі, падлога ва ўсіх класах, у настаўніцкай абструганыя і свецяцца на сонейку бы яечны жаўток. Гэта ж сасна, яе абчашы ды не лянуйся выстругай, то яна і засвеціцца, зазіхціць усёй сваёй прыроднай красой. Але знадворку школу давядзецца ўсё ж пафарбаваць, бо ад часу ды дажджоў дрэва пачарнее, страціць сваё першароднае харацтва.

З аконнага праёму бачны калгасны сад. На дварэ май, сад зацвіў, на дол асыпаюцца белыя пялёсткі, і зямля ў садзе нібыта ўсцелена белым полагам. Хораша і прыгожа гэтай парой і ў садзе і каля саду. На душы светла і радасна і хочацца жыць доўга, каб уволю нацешыцца гэтай непадробнай зямною красой.

— Недзе летам мы скончым усе работы — і перабірайцеся сюды, — чуе Надзя голас за спінай і паварочваецца.

Гэта малады шабашнік. На ім матроская навыпуск цяльняшка, зялёнае спартыўнае трыко, кірзавыя боты. У руках у яго малаток, плінтусы. Мабыць, ён падняўся на другі паверх плінтусаваць падлогу, згледзеў Надзю і загаварыў.

Малады шабашнік, як і яго сябры-калегі, недзе з бліжняга ад Вострава сяла, ці не з Беражніцы. Ён, ведае Надзя, яшчэ не жанаты, яго ўзяла на кватэру Домна, тая самая, у якой на сотках стары, у некалькі абхватаў, дуб. На гэтым дубе нехта з мужыкоў зрэзаў верхавіну і ўсцягнуў-прыстроіў на яе кола ад воза. А буслам тое і трэба: неўзабаве яны на коле ладзілі гняздо і кожную вясну, вярнуўшыся з поўдня, абуджаюць наваколле ўзбуджаным клёкатам, рамантуюць сваё жытло, адкладваюць-наседжваюць яйкі, выводзяць птушанят, працягваюць свой бусліны род.

Хата ў Домны крытая сасновай дранкай, там-сям страха прадзіравілася, і Надзя бачыла, як малады шабашнік яе рамантуе, лапіць дах, каб у дождж вада не зацякала на столь, на сцены.

У Домны адзіная дачка Таня працуе ў калгасе звеннявой па вырошчванні льну. Таня някідкая з твару, худая і высокая і мо таму заседзелася ў дзеўках.

Малады шабашнік і дах Домне адрамантаваў, і дачку не абышоў сваёй мужчынскай увагай. Усім добра відно, што Таня пакруглела, не сёння-заўтра павінна нарадзіць хлопчыка ці дзяўчынку. Праўда, адно неўгадно — ажэніцца на Тані малады шабашнік ці не? Будаўніцтва школы заканчваецца і куды потым накіруюцца будаўнікі — аднаму Богу вядома.

Надзя пазірае на маладога шабашніка, думае пра Домну, пра яе дачку Таню, якая можа застацца маці-адзіночкай і хоча спытаць маладога шабашніка... Няўжо яму ўсё адно, што яго дзіцятка, яго родная крывінка будзе расцігадавацца, не знаючы бацькавай ласкі?

Але аб тым, аб чым падумалася, Надзя не гаворыць, бо гэтую думку перабіла іншая, якая растрывожыла, пазбавіла спакою. Не першы раз гэтая думка непакоіць, даймае. Вось скончаць будаўнікі сваю работу, трэба перавозіць са старой школы парты, сталы, дошкі, на якіх вучні рашаюць задачкі, выводзяць крэйдай першыя ў сваім жыцці словы і сказы... У новую школу спатрэбіцца шмат партаў, нямала наглядных дапаможнікаў... Усё тое абавязкова будзе. Але яна, Надзя, дырэктарам новай школы не будзе. Аб тым ёй сказаў загадчык райана. Ён падзякаваў ёй, што не без яе непасрэднага ўдзелу ў Востраве вырасла школа-васьмігодка. У яе, у Надзі, адукацыя сярэдняя педагагічная. А ў васьмігодцы дырэктарам будзе чалавек з вышэйшай адукацыяй. Інакш нельга. Яна шкадуе ўжо, што не стала вучыцца завочна ў педінстытуце. А як было вучыцца, калі гадавала трое дзяцей, а потым нарадзіла і чацвёртага?

Тым, што яна загрубела і чакала дзіця, быў незадаволены Дзіма — старэйшы сын. Ён ужо ў выпускным класе, рыхтуецца пасутпаць у політэхнічны інстытут, яго вабіць прафесія інжынера.

Дзіма ў вочы маці нічога не казаў, але хіба не відно, што ён стаў стрыманы ў размове з Надзяй, і калі яна яго пытала аб нечым, то ён вымавіць адно-два словы і маўчыць, унурыцца ў свае сачыненні-задачкі і нічога больш знаць не хоча. І што тут скажаш — ён сам ужо жаніх, зазіраецца на дзяўчат, а тут маці ўсё яшчэ парадзіха...

Радзільны дом адзін на ўвесь раён у райцэнтры, і Аляксей адвёз яе туды на падводзе, у якую запрог маладога шустрага коніка. Падводу і коніка даў Сіла Пятровіч. Даючы дазвол на тарантас, старшыня калгаса жартам заўважыў:

— У цябе, Аляксей, развязаўся мех не на смех... Калі ты спынішся дзяцей стругаць? Сам не маладзён і жонка таксама — упынку на вас няма. У Надзі старэйшы сын жаніхайла жаніхайлам. Дый Ірына таксама... Я чуў, што Ірына нарадзіла там на Поўначы. Каго яна нарадзіла — хлапца, дзяўчынку?

Хіба Аляксею прыемна было выслухоўваць такое? Але ён усё адно жартаваў:

— Я й сам не знаю, як гэта ў нас з Надзяй атрымалася... Любім мы адно аднаго. Ад любові ў нас гэта. Старэйшыя дзеці растуць, вылятаюць з роднага гнязда, а самы меншы будзе нашай уцехай.

Дарога ў райцэнтр каляіністая, разбітая, раз’езджаная калёсамі, трактарамі, грузавікамі, падводу трэсла і Надзя прасіла, каб Аляксей не падганяў каня:

— Куды ты спяшаеш? — не то сур’ёзна, не то жартуючы стрымлівала яна Аляксея. — Чаго добрага пачнуцца дачасныя роды.

Ён пазірае на яе спалоханым позіркам: не дай бог, калі гэта здарыцца ў дарозе.

— Пацярпі, мая галубка, яшчэ трохі, я цябе вельмі прашу, не палохай мяне, — супакойвае Аляксей і сябе, і яе. — Вось праскочым гэты лясок, там поле, а за ім і райцэнтр, бальніца...

Хлапца яна нарадзіла, і Аляксей ад радасці гатовы быў у скокі пусціцца. У першай ягонай сям'і таксама быў сын. Калі б не вайна, то ён цяпер быў бы дарослым мужчынам... Усё пераблытала вайна ў Аляксеевым і ў Надзіным жыцці. Але яна і звяла іх. Надзя нарадзіла ад Аляксея, як і ад Цімы, двое дзяцей. Цімафеевы дзеці ўжо дарослыя. Ірына ўжо сама стала маці, а Дзіма — студэнт першага курса політэхнічнага інстытута...

Яна пахадзіла па класах, пастаяла ля аднаго акна, ля другога, паглядзела на тое, як малады шабашнік спрытна і акуратна прыбіваў плінтусы, апусцілася па лесвіцы з другога паверха на першы, на нейкую хвіліну прысела на лавачку, што на ганку, паўслухоўвалася ў птушыныя галасы ў блізкім лесе, і заспяшалася дадому. Добра, што Парасчына Вольга і Лёшыка ўзялася даглядаць тым часам, калі Надзя праводзіць заняткі. Не за дзякуй, канечне, даглядае, плаціць даводзіцца са сваёй настаўніцкай зарплаты столькі, колькі Параска папрасіла, бо тут такое, што таргі не да месца. Да таго ж штомесяц даводзіцца пасылаць поштаю Дзіму: на студэнцкую стыпендыю хіба ён пражыве?

Ледзь яна толькі на парог, то Вольга нібы і чакала таго. Барзджэй засабіраецца — і вось яна ўжо расчыняе ўваходныя дзверы. Надзя просіць яе затрымацца, але Вольга не чуе яе — яна ўжо за дзвярыма, пратупацела пад вокнамі, ляснулі клямкаю весніцы і Вольгі як і не было. Лёшык быццам спакойнае дзіця, але то замяні яму лаёнкі, то закіпяці малака і пакармі, то пакладзі ў калыску і закалышы...

Надзя бярэ з калыскі Лёшыка, кладзе на ложак — хай дзіця вольна ўздыхне ад гэтых спавівачаў, ад лаёнак, ад калыскі. Лёшык добра выспаўся, у яго падняўся настрой, ён угакае, як аўдод, смяецца сваім бяззубым ротам і ад гэтай яго ўсмешкі на душы ў Надзі хораша, лагодна, у думках яна папракае сама сябе за тое, што не хацела нараджаць Лёшыка, баялася лішняга клопату. А яно вось як выходзіць: цяпер Лёшык тая самая ўцеха, без якой Надзя не ўяўляе свайго існавання.

Потым Лёшык засынае, Надзя зноў спавівае яго і кладзе ў калыску. Зрабіўшы тое-сёе па гаспадарцы, яна хуценька кіруецца за соткі на прасёлкавую дарогу, што вядзе ў суседняе сяло. Паштовага адзялення ў Востраве няма, яно ў суседняй вёсцы. Суседняя вёска вялікая, не тое, што Востраў. Там і сельсавет, і школа-дзесяцігодка, і пошта. Сёння Надзя атрымала зарплату, то трэба паслаць якую дваццатку Дзіму. Гэтак яна робіць кожны месяц. Да суседняга сяла не надта далёка, але і не так блізка. Калі суха, няма дажджоў, то напрамкі праз балота кіламетры тры, а калі балота раскісне, то ўкругаля будзе ўдвая больш.

Надзя ідзе подбегам. Ідзе і сэрца разрываецца, бо калі Лёшык прачнецца, наплачацца. А дома ж ні душы — яна вось у дарозе, Аляксей жа ўвесь дзень ля школы, а Святлана ў шостым класе вучыцца. Раніцай яна ідзе ў гэтае самае сяло, куды зараз спяшаецца Надзя, у школу і вяртаецца дадому недзе ў другой палове дня. Можна было б дачакацца дачку, каб яна дагледзела Лёшыка, але тады наўрад ці паспееш на пошту, бо вясковая паштарка распарадку дня надта не прытрымліваецца, калі захоча адчыняе пошту, калі захоча зачыняе. Тлумачыць гэты тым, што ёй трэба ў раён са справаздачай, трэба разнесці нездаляшчым пенсіянерам пенсію, аформіць падпіску на чарговы квартал... У першай палове дня яе яшчэ можна заспець на рабоце, а ў другой...

Увесь час, пакуль Надзя ў дарозе, трывожныя думкі вярэдзяць яе, не пакідаюць ні на хвіліну.

Вось ужо і балота, адразу за якім Вялікае Сяло. Сярэдзіна мая, трава на балоце паднялася, пакалыхваецца ад лёгкіх павеваў ветру. Балота заглушылі

лазовыя кусты, яны паўсюль, куды ні глянь, яны засцяць свет, наступаюць на травастой і сенакосу з кожным годам становіцца ўсё менш ды менш. Пара, даўно пара ўзяцца за лазовае кустоўе, расцерабіць, вызваліць сенакос з гэтага лазовага палону, але хіба калгасу да таго? У калгасе заўсёды недахоп рабочых рук, а работы прорва.

Сёлета зіма была маласнежная, і балота амаль сухое, праз яго можна свабодна ісці пешшу, можна ехаць падводаю, калёсным трактарам ці аўтамабілем.

Надзя пазірае ў той бок, дзе мінулым летам Сіла Пятровіч адвёў ёй участак сенакосу. Аляксей разам з Дзімам дзён за колькі скасілі траву, а калі рады падсохлі, то грэблі і складвалі ў копы ўсёй сям'ёй. Спяшаліся, бо не дай бог зацяжны дождж, тады варочай граблямі мокрыя сырыя рады, сушы іх на ветры ды на сонейку... Але яны справіліся з сенам у добрае надвор'е...

Летась травастой быў густы. Копаў наскладвалі столькі, што неўгадно было, як перанасіць іх насілкамі да адзёнка, на які Аляксей кідаў віламі сена, а Дзіма ўтоптваў яго ды раўняў граблямі сярэдзіну, берагі, каб сена не стаўбунілася, каб яго не забіваў дождж. Стог атрымаўся ладны, хапіла сена іхняй кароўцы на ўсю зіму.

Цяперашні травастой слабейшы за леташні, і дзе Надзі сёлета выдзеліць Сіла Пятровіч сенакос, невядома. Бяда з гэтым сенам. Прыйдзе лета, то галава баліць ад думак пра тое, дзе ўкасіць травы, як не застацца на зіму з пустымі палацямі...

Яна нават сцішыла хаду, нібы забылася, куды і чаго ідзе. Ага, ведама куды і чаго — Дзіму трэба паслаць грашовы перавод. Здась Дзіма летнюю сесію і з'явіцца дадому не адпачываць, не палежваць дзе-небудзь у цяньку, а каб памагчы Аляксею, ёй упраўляцца з работаю, якой дома і каля дома ў любую пару хоць адбаўляй. Дый Сіла Пятровіч па старой звычцы не забывае занарадзіць Дзіму то на капніцель на зерняўборачны камбайн, то на зерняток, дзе сушыцца прывезенае ад камбайна жыта, пшаніца, авёс. Бульбу цяпер акучваюць трактарам, але ў калгасе парой сенакосу і ўборкі рабочых рук не хапае, то Дзіму няма калі адседжвацца ў халадку. І нічога не зробіш, ад Сілы Пятровіча так проста не адмахнуцца — хіба ён крыўдзіць Надзю? Дае каня ўзараць, пасеяць соткі, а потым і пабаранаваць іх, летась даў вунь які ладны ўчастак сенакосу... Мо і сёлета, калі прыйдзе пара дзяліць сенакосы, не забудзе яе?

Недзе ўвышыні падала голас чайка, Надзя падняла галаву, убачыла, што чайка, расправіўшы крылле, кружыць над лазовымі кустамі, над травастоем, над ёю, Надзяй. Цяпер той самы час, калі балотныя птушкі гняздзяцца, адкладваюць, наседжваюць яйкі, а гэтая вось чамусьці адзінока кружыцца ў вышыні і падае адтуль свой трывожны кліч. Можа, яе гняздо напаткала бяда, бо па балоце блукаюць галодныя лісіцы, поўзаюць гадзюкі, вужы, якія пры выпадку ласуюцца птушынымі яйкамі, птушанятамі... У птушак як і ў людзей — адны жывуць і радуюцца, а другіх не пакідае трывога і неспакой...

Вяртанне Ірыны з сям'ёй парушыла той распарадак, якім Надзя жыла апошні час. У яе было адчуванне, што ўжо не яна ўладальніца гэтага цаглянага дамка на некалькі пакояў з вокнамі на поўнач і на поўдзень, з гародам і садам каля яго, з ладнай хацінай з сасновага дзерава, што прытулілася да саду. Было адчуванне, што тут гаспадыняй яе старэйшая дачка Ірына, якая нямаведама колькі бавілася на Поўначы, выйшла замуж, нарадзіла дзіця, але ў рэшце рэшт яе пацягнула на радзіму, да маці. І вось ужо каторы месяц яна ў гэтых сценах, якія ўзвёў-збудаваў Аляксей, паклаўшы дзеля гэтага сваё апошняе здароўе.

Аляксею як маглі дапамагалі і яна сама, Надзя, Дзіма са Святланай. Але ні Дзіма, ні Святлана на гэтае жытло не прэтэндавалі. У Дзімы свая дзяржаўная трохпакаёвая кватэра, і ў Святланы таксама свая, якую яна, паміраючы, адпісала старэйшаму ёлупню-сыну. Ірына хіба знала, як будаваўся гэты дом? А цяпер яна вось вярнулася, заняла залу, заняла яшчэ адзін немалы пакой, ёй тут спакойна, утульна і яна, мабыць, і думкі не дапускае, што рана ці позна ёй давядзецца некуды перасяляцца. Бо па ўсіх пісаных і няпісаных законах гэты дом належыць Лёшыку — самаму малодшаму з дзяцей.

Ірына сваім вяртаннем дадала Надзі лішняга клопату, пазбавіла спакою, які пакрысе вяртаўся да яе пасля таго, як яна пахавала перш Аляксея, а затым і Святлану. Каб неяк дагадзіць маці, Ірына прапанавала пераклеіць у доме старыя шпалеры на больш новыя, сучасныя, бо ранейшыя там-сям паадклейваліся, абвісалі і што самае непрыемнае — за шпалерамі завяліся мышы. Ноччу яны вылазілі са сваіх схованак, скрэбліся і ад гэтага ў Надзі прападаў сон, яна прачыналася, у галаву лезлі розныя нядобрыя думкі, ад бяссонніцы яна пакутавала, не магла дачакацца, калі пачне развідняць.

Супраць таго, каб памяняць шпалеры, Надзя нічога не мела, наадварот, яна нават хацела даць дачцэ грошы, каб яна не траціла свае зберажэнні на рамонт дома, але Ірына яе грошы не ўзяла, сказала, што яны з мужам не галечныя. Там, на Поўначы, у іх былі нядрэнныя заробкі, і яны патроху штомесяц адкладвалі на чорны дзень. На ашчадкніжцы, пахвалілася дачка, у яе не адна тысяча.

Тое, з якім жаданнем і ахвотай Ірына ўзялася мяняць шпалеры, сведчыла, што Надзіна старэйшая дачка, як і іншыя яе дзеці, не з пароды лайдакоў. Тлумачыла гэта Надзя проста: яе дзеці нарадзіліся і раслі ў вёсцы, а ў вёсцы заўсёды адна работа падганяе другую, той работы непачаты край, і дзеці змалку не сядзяць без дзела, дапамагаюць дарослым.

Разам з Ірынай пераклейваў шпалеры яе муж з непрывычным у тутэйшых мясцінах імем — Самсон. Прозвішча ў яго таксама непрывычнае — Тутаеў. Самсон невысокага росту, драбнатвары, з чорнымі, як абвугленая галавешка, валасамі, раскосымі азіяцкімі вачыма. Характар у Самсона мяккі, падатлівы. Што б яму Ірына ні сказала — ён слухаўся яе безагаворачна. Вось і шпалеры клеіць разам з жонкай. І гэта ў іх атрымлівалася нядрэнна: Надзя бачыла, як пасвятлела, пахарашэла перш у адным пакоі, затым у другім, трэцім... Шпалеры Ірына купіла за свае грошы, шпалеры не танныя, імпартныя, іх, аказваецца, нават можна мыць, калі ў гэтым узнікне неабходнасць.

Кватэру было не пазнаць — быццам яснае сонейка ўзышло аднойчы раніцай, заглянула ў вокны і не спяшалася сыходзіць, свяціла шчодрым, ласкавым святлом. І ад таго ў Надзі на душы было светла і хораша. Яна забылася, адышла ад таго шэрага, гняўлівага, што прыгнятала яе апошнім часам. Ах, як добранька, што Ірына вярнулася з Поўначы! З аднаго боку, лішняга клопату прыбавілася ў Надзі, а з другога...

— Хопіць, маці, нам дамаседнічаць, — той жа дзень, калі скончыла клеіць шпалеры, звярнулася да яе дачка. — Праядаем свае зберажэнні, а прыйдзе час, то яны нам ой як спатрэбяцца.

Надзя зразумела, што хоча сказаць дачка — прапіска ёй з мужам ды дачкой патрэбна. Хіба адмовіш ёй у гэтым? Жылой плошчы ў яе, у Надзі, больш чым дастаткова, на гэтай плошчы прапісаны толькі яна з Лёшыкам. Ох, і Ірына, ох, дачка ты мая дарагая! Што табе на гэта сказаць? Раз трэба... Толькі будзь ты чалавекам, не рабі так, як ты зрабіла некалі, майнуўшы на Поўнач, а я не знаходзіла сабе месца... Цяпер ты сама маці, разумееш, што такое быць

маці... Я прапішу цябе, але калі ты потым надумаеш са мною судзіцца за гэты дом... Не дай бог мне дажыць да гэтага...

— Бяры, донька, дамавую кнігу і прастуй у міліцыю, — Надзя наблізілася да кніжнай шафы, што ля глухой сцяны, узяла з палічкі дамавую кнігу, разгарнула яе, прачытала на першай старонцы імя домаўладальніка. Раней гэта быў Аляксей, а цяпер яна. Раней у гэтай самай кнізе была прапісана Святлана з мужам і сынам. Але потым Святлана перасялілася ў сваю кватэру, выпісалася. — Калі ўзнікне неабходнасць, то я і сама пайду ў міліцыю. А такая неабходнасць не выключана — у цябе, донька, цяпер не бацькава, не маё прозвішча...

Пакуль вырашалася пытанне з прапіскай, Самсон узяўся перасцілаць падлогу ў верандзе. Бо тая, якую наспех паслаў некалі Аляксей, надта ж хутка рассохлася, між дошак паявіліся шчыліны, у якія свабодна пралезе палец і з якіх цягнула холадам, сырасцю, з іх не-не ды і выскачыць мышка і за ёю тут жа ўгоніцца кот. Кот у Надзі не лянівы, мышам волі не даваў.

Надзя была дужа здзіўлена, што зяць самахоць узяўся перасцілаць падлогу і рабіў, бачыла яна, гэтую работу не без умельства.

— У арміі, маці, Самсон служыў у будаўнічым батальёне. Ён і плітачнік, і цясляр-муляр, бетоншчык, — патлумачыла Ірына. — Шафёрам ён стаў пасля службы, а да гэтага...

За вочы Надзя называла зяця чукчам. Яна міжволі параўноўвала яго з тым сяржантам, які калісь сватаўся да Ірыны. І гэтае параўнанне было не на карысць Самсона. Да пары да часу. Але паступова Надзя зразумела, што яна памылялася: Самсон знешне хоць і ні ў якае параўнанне з сяржантам, але ж рукі ў яго не з аднаго месца растуць. Вунь узяўся перасцілаць падлогу і зрабіў усё спрытна, складна-ладна, папраўляць за ім нічога не трэба. Так што знешнасць знешнасцю, але з хараства ваду не піць.

Муж Ірыны ўладкаваўся шафёрам у камбінат бытавога абслугоўвання. Яго рабочы дзень пачынаўся а восьмай гадзіне раніцы, Самсон прачынаўся чуць свет, прачыналася разам з ім і Ірына. Яна тупала з залы на веранду, дзе газавая пліта, халадзільнік з прадуктамі, абедзены стол і кран з халоднай вадой і пачынала гатаваць мужу сняданак. Ірына не звяртала ніякай увагі на тое, што і Лёшык, і маці яшчэ спяць, на ўвесь голас нешта казала Самсону, гучна смяялася, бразгала талеркамі, пускала з крана ваду. Ад гэтых стукаў-грукаў Надзя прачыналася, ішла на веранду і прасіла дачку, каб яна пацішэла, бо Лёшык да позняга рабіў урокі, лёг не рана, а ў яго заняткі, яму трэба як след выспацца, каб не задрамаць на ўроках, каб быць уважлівым, не прапусціць таго, што тлумачаць настаўнікі. Лёшык ужо ў дзясятым класе, яму, даводзіла Надзя, трэба атрымаць атэстат з добрымі адзнакамі, каб паступіць у інстытут.

— Не паступіць — не загіне, — зусім спакойна адказвала дачка. — Вось я ніякіх інстытутаў не заканчвала і не прапала.

Надзю брала крыўда. Чаму яе Ірына вырасла гэтакай эгаісткай, гэтакім неслухам? У тым, мабыць, ёсць і яе доля віны. Вучылася ў школе Ірына сяктак. У атэстаце было больш троек, праўда, пракідваліся і чацвёркі з пяцёркамі. Надзя дужа хацела, каб дачка паступіла ў педінстытут, але Ірыну педагагічная дзейнасць не вабіла. Мабыць, таму, што яна нагледзелася, як маці вярталася кожны дзень са школы знерваваная, занепакоеная тым, што сярод яе выхаванцаў хапае цвёрдалобых лайдакоў, да якіх з цяжкасцю даходзяць яе тлумачэнні, яе імкненне навучыць таму, без чаго ў жыцці ім не абысціся. А загадчык райана на кожнай нарадзе дае ў косці пад дзясятае число, бо паспяховасць нізкая, зрухаў у гэтым пытанні не бачна. Хай бы загадчык райана сам паспрабаваў з цвёрдалобага зрабіць выдатніка — наўрад ці ўдалося б яму гэта.

Ужо ў дзясятым класе нейкім чынам Ірына пазнаёмілася з сяржантам звыштэрміновай службы, які служыў у Германіі. Ледзь паспела яна атрымаць свой атэстат аб сярэдняй адукацыі, а той сяржант тут як тут. І просіць яе, Надзю, каб яна дазволіла Ірыне стаць яго жонкай.

Перад Надзяй стаяў малады, даволі сімпатычны чалавек у вайсковай форме, як і належыць салдату — падцягнуты, ладна скроены, са строгім, удумлівым позіркам.

Ён, пэўна, не сумняваўся, што вернецца ў сваю часць з Ірынай, бо яго намеры да яе шчырыя, сур'ёзныя. А Надзя чамусьці разгубілася.

— Не знаю, што вам адказаць, — Надзя не магла саўладаць з сабой, таму што гэтае сватаўство і ранняе, і зусім нечаканае. — Можна я дзень-другі падумаю? — Надзя не хацела крыўдзіць сяржанта, але і прыняць нейкае пэўнае рашэнне адразу не магла.

Хвілін праз колькі яна ўжо выгаворвала Ірыне:

— Ты, мая донька, губляеш галаву, — ніколькі не сумняваючыся, што ў гэты момант гаворыць тыя самыя словы, без якіх дачка не абразуміцца, не зразумее сваю недаравальную памылку. — Табе трэба перш скончыць інстытут, атрымаць прафесію, а тады ўжо думаць пра замужжа.

Ірына праслязілася. Яна, мабыць, не чакала, што маці будзе гэтак рашуча настроена супраць яе замужжа.

— А ты, маці, сама хіба не рана пажанілася з маім бацькам? — не сціхаючы плакаць, запярэчыла Ірына. — Хіба ты скончыла педвучылішча, калі рэгістравала шлюб?

— Была, донька, вайна, — нібы апраўдвалася Надзя. — Можа, я і паспяшалася, але была вайна... І твой бацька любіў мяне, я добра знала яго, мы аднавяскоўцы, я была ў ім упэўнена.

Ірына слухала яе, але таму, што пачула, веры быццам не давала. Гэта крыўдзіла Надзю да глыбіні душы. Крыўдзіла таму, што падняць Ірыну на ногі ёй далося так нялёгка, што й не расказаць. Хіба ж у час вайны, калі Ірыне быў гадочак з хвосцікам, не на грані жыцця і смерці знаходзілася і сама Надзя, і яе дзіцятка-першынец? Некаторыя з аднавяскоўцаў, ратуючыся ў лесе ад карнікаў, пакідалі сваіх немаўлят хто пад карчом, хто на балотнай купіне... А Надзя не кінула Ірыну, ратавалася, як магла. Хіба ж не? А дачка цяпер, калі Надзя папраўляе яе, робіць заўвагі, нервуецца, можа сапсаваць маці настрой. На першым часе пасля вяртання з Поўначы, да таго, пакуль не пераклеіла шпалеры ды Самсон не пераслаў у верандзе падлогу, яна была цішэй вады ніжэй травы. А потым, калі Надзя прапісала яе ў свой новы дом, Ірыну нібы падмянілі...

Надзя перш параілася з Аляксеем. Хоць ён і не родны бацька Ірыне, а ўсё ж яна не зусім яму чужая, бо хіба ён мала зрабіў, каб Ірына расла не ў холадзе і голадзе, і хата ў іх як не адна з лепшых у Востраве, хата прасторная, утульная, у ёй добра зімою і летам. А на стале ў іх заўсёды стаяла і хлеба, і да хлеба. Без Аляксея Надзя адна наўрад ці вывучыла б і Дзіму, і Ірыну.

— Вырашайце, жонка, самі гэтае пытанне, — адказаў Аляксей. — Бо ледзь што не так, то ўсе шышкі на маю галаву пасыплюцца.

А Дзіма стаў на яе бок, падтрымаў маці:

— Рана ёй пра замужжа думаць. Хай паступае ў інстытут. Дзеля чаго яна дзесяць класаў заканчвала?

Наіўная была Надзя. Наіўная і недальнабачная. Гэта цяпер ёй зразумела, што дарма яна адгаварыла дачку, каб яна не выйшла замуж за сяржанта. Хіба ж Самсон лепшы за яго? Канечне, Самсон не зломак, вунь як перaслаў пад-

логу ў верандзе — ні шчылінкі між дошкамі, падлога назавідкі — роўненькая, блішчыць, бо Самсон пафарбаваў яе і пакрыў лакам. Прачынаецца Самсон на золаку і ў павець. Навострыць падпілкам пілу, сякеру, скіне на козлы бярозавае палена, парэжа на целяшы, а потым тыя целяшы коле да самага сняданку. У павеці колатых дроў хопіць на ўсю доўгую зіму. І ўсё ж... Згадваючы сяржанта, Надзя шкадуе, што не дазволіла Ірыне стаць ягонай жонкай. Яна і сама не разумее, чаму гэтае шкадаванне не пакідае яе, але ёй думаецца, што Ірына, стаўшы жонкай сяржанта, была б больш шчаслівая, не вербавалася б на Поўнач, дзе яна ўвесь час была тынкоўшчыцай, маляром. Хіба гэта лёгкая работа? Пацягай з дня ў дзень важкія вёдры з растворам, з фарбай — рукі ўварваць можна. І хіба Ірына не ўварвала свае рукі? Не-не, ды прагаворыцца, што ў яе ные спіна, баляць начамі рукі... Дачка, мабыць, вельмі шкадуе, што некалі глядзела на вучобу як на нешта неабавязковае, непатрэбнае. У душы яна, пэўна, каецца, што не паслухалася маці, брата і не стала паступаць у педінстытут. Позняе раскайванне, вельмі позняе... Праз тое і горыч у яе на душы, нядобры асадак. Таму яна іншы раз і гаворыць: «Вось я невучоная, але не прапала». Такім чынам Ірына хоча пазбавіцца асадку, ад якога няма спакою, і яна прымушае сябе азірнуцца назад, на пражытыя гады, дзе памылялася, спатыкалася. Ірына цяпер тое добра бачыць і разумее, што назад нічога не вярнуць. Але дачка, гэта добра заўважае Надзя, ганарыцца сваімі братамі: і Дзімам, і Лёшыкам. Дзіма ўвесь час цягнуўся да навукі, не лайдачыў, знаючы, што ў жыцці нішто проста не даецца. Дзіма шле маці лісты, і Надзя чытае іх Ірыне. Ірына дзівіцца, што брат дзеліцца з маці думкамі, якія, часам, недасягальныя яе, Ірынінаму, розуму. І Лёшык як і Дзіма — прыйдзе са школы і нібы прыклеіцца да пісьмовага стала... Ірына па-добраму зайздросціць сваім братам, ад гэтай зайздрасці часам яна сама не свая і можа сказаць маці зусім не тое, што яна думае на самай справе.

Надзя чакала гэтага дня. Увесь час, пакуль будаўнікі ўвіхаліся, даводзячы да ладу новую школу, спартыўную пляцоўку каля яе, робячы высокі ганак з шырокімі сходцамі, яна ў думках уяўляла, як падымаецца па гэтых сходцах, уваходзіць у прасторны і светлы клас, спыняецца каля стала, вітаецца з дзецьмі простымі, што ідуць з глыбіні душы, поўнымі пяшчоты і ласкі, словамі: «Добры дзень, дзеці»! А потым зірне ў акно, за якім уладарыць верасень, убачыць калгасны сад, яблыні, галіны на якіх гнуцца ад паспелых чырванабокіх, васкова-жоўтых ранетаў, антонавак, з палёгкай уздыхне і скажа: «Вось і дачакаліся мы гэтага дня, калі адчыніліся дзверы новай школы. Вашы папярэднікі туліліся ў цеснай Аўдзеевай хаце».

Трохі падумаўшы і памаўчаўшы, яна яшчэ дадасць: «У гэтакай школе, дзеці, трэба вучыцца толькі на «добра» і «выдатна».

Потым дастане са свайго настаўніцкага партфеля звычайны вучнёўскі сшытак у касую лінейку, у якім яна напісала план урокаў, адгорне яго і скажа: «Сёння, дзеці, будзем вучыцца складваць словы...»

Паступова, пакрысе, дзень за днём, чвэрць за чвэрцю ёй удаецца навучыць сваіх выхаванцаў і пісаць, і чытаць, рашаць задачкі... Навучыць іх таму, што спатрэбіцца ім ведаць у няпростым, часам дужа заблытаным, але і цікавым, загадкавым жыцці...

Той першы вераснёўскі дзень у школе застаўся ў памяці. Вучні пастроіліся доўгай шарэнгай на спартыўнай пляцоўцы. Дзеля гэтага свята, адкрыцця ў Востраве васьмігодкі, прыехаў загадчык райана — Касьян. Дарма, што ён ужо даўно не маладзён, але ўсё адно яшчэ даволі рухавы, гаманкі, разам з Надзяй

перад святочнай лінейкай агледзеў усе класы, заглянуў у кожны кут і закутак васьмігодкі, а, затым, калі апынуўся на двары, абышоў школу вакол, застаўся ўражаны і задаволены тым, што ўбачыў, сказаў:

— Нездарма столькі грошай убухалі. Палац, а не школа, век прастаіць і не менш. А што ж — дзерава добрае, смалістае, шашаль у гэтакім дзераве не завядзецца.

Ён раптам замоўк, зірнуў на Надзю, уздыхнуў, вымавіў словы, якія ўжо аднойчы казаў ёй, а сёння вось зноў паўтарыў, мабыць, яго, загадчыка райана, гэтая думка апошнім часам турбавала і не пакідала:

— Шкада, Надзея Нічыпараўна, што не ты будзеш дырэктарам гэтай школы, але маёй віны тут няма.

І нібы спытаў яе, нібы раіўся з ёю:

— А мо ты будзеш завучам па вучэбна-выхаваўчай рабоце? Гэтая пасада, здаецца мне, табе падыходзіць. А чаму і не? Педстажу ў цябе ўга колькі. Гэтакіх настаўнікаў, як ты, у нас у раёне... Няма вышэйшай адукацыі? Але вучыцца ніколі не позна.

На нейкую хвіліну ён спыніў свае развагі, бы раздумваў над тым, што гаворыць і, быццам пераканаўшыся ў правільнасці сказаных слоў, дадаў:

— Не сёння да мяне прыйшла гэтая думка, не. Калі ты прымаеш маю прапанову, то вось што... Паступай на завочнае адзяленне педінстытута. Не сумнявайся — паступіш. З тваім педстажам цябе прымуць у завочнікі безагаворачна. А з гэтым статусам...

Касьян размаўляў з ёй лагодным, спакойным голасам, ён быў зусім не такім, якім бачылі яго там, у райана. Там ён заўсёды грозны, без меры патрабавальны, сварлівы, недаступны, а тут вось... Быццам яго падмянілі.

Прапанова, канечне, была заманлівая, бо яе, Надзін, аўтарытэт сярод калегаў, вяскоўцаў падняўся б, дый зарплата, напэўна, у завуча не тое, што ў настаўніка пачатковых класаў. Але Надзя адмовілася, спаслалася на тое, што ў яе сям’я, дзеці, дый за той час, пакуль будавалася школа, ой як дасталося клопатаў, а цяпер хочацца адысці душой, хочацца заняцца справамі, да якіх раней рукі не даходзілі.

Якія гэта справы яна тлумачыць не стала. Хіба Касьяну вельмі трэба знаць, што яе душа не на месцы, бо старэйшая дачка, не пытаючы ні ў кога дазволу, сабралася — і ў белы свет. Недзе на Поўначы яна зараз. Прыслала адтуль ліст. Піша, што займаецца ў тэхнічным вучылішчы, неўзабаве займее прафесію маляра-тынкоўшчыка, жыве, піша, у інтэрнаце. Гэтак дачка адпомсціла ёй за тое, што Надзя не дала згоды, каб яна выходзіла замуж за сяржанта. Надзя каецца, што гэтак атрымалася, напісала дачцэ ўсё, што яна пра яе думае, згадала тое, як у вайну хавалася ад карнікаў, ледзь жывою засталася, а дачка аддзячыла дык аддзячыла...

Чытаючы ліст Ірыны, Надзя не знаходзіла сабе месца: не ўсё ёй паведамляе Ірына, ох, не ўсё. Яна, мабыць, і галадае часам, і цёплага адзення ў яе няма, а гэта ж Поўнач, там вятры, сцюжы ды маразы, не тое, што на Палессі. І ў сваім зваротным лісце яна просіць-моліць Ірыну адумацца, вярнуцца дадому, дома яе чакаюць, даруюць ёй неразумныя выхадкі. І калі яна ўжо закаханая ў свайго сяржанта, то няхай сыходзіцца з ім, хіба яна, маці, супраць? Якая маці супраць таго, каб яе дзіцятка было здаровым ды шчаслівым? Адпісала Надзя Ірыне даўнавата, але адказу ад яе не атрымала. Ці ліст не дайшоў да дачкі, ці дачка зазлавала на яе надоўга — хто яго ведае.

У час летніх канікулаў Надзя нават збіралася паехаць да дачкі на Поўнач, каб пабачыць усё самой, каб паглядзець дачцэ ў вочы ды зразумець, што яе

падштурхнула на гэтакі, можна сказаць, адчайны крок. Гэта ж трэба быць неўгадно якім смелым ды рызыкоўным чалавекам, каб адважыцца на той крок, на які адважылася Ірына. Не, не ведала Надзя сваю дачку, не разумела яе. Бо каб інакш, то хіба яна не заўважыла б, што Ірына злюбілася з сяржантам да таго моцна, што гатовая была стаць яго жонкай.

Цяжка растлумачыць, зразумець, чаму Надзя не выправілася да Ірыны на Поўнач. Але не выправілася. Можа, перашкодзіла тое, што заканчвалі будаваць школу і ёй трэба было раз за разам кіравацца ў райцэнтр ці ў банк, ці да загадчыка райана, каб выпрошваць грошы на заканчэнне будаўніцтва, бо тых грошай колькі ні дай, усё мала. А можа, таму давялося Надзі распакоўваць чамадан, які ўжо сабрала ў далёкую дарогу, што раптам сярод лета захварэў Лёшык і давялося тэрмінова пакласці яго ў раённую бальніцу. Цяперашняя дарога да райцэнтра гравійная. Яна хоць і выбоістая, няроўная, але па ёй ехаць можна, гэта не тое, што колішняя прасёлкавая, якая ў вясеннюю паводку ці асеннюю слату раскісала, была ўся ў глыбокіх лужынах і па ёй ехаць ці ісці — праклінаць абставіны, якія прымусілі пакінуць цёплую, утульную дамоўку.

Амаль кожны дзень, калі Лёшык ляжаў у бальніцы, Надзя выбіралася на шлях-дарогу, чакала папуткі і трэслася на ёй да райцэнтра. Дзякуй богу, што Лёшык хварэў нядоўга, паправіўся, але паездку да дачкі на Поўнач давялося адкласці...

На ўрачыстую лінейку з нагоды адкрыцця ў Востраве васьмігодкі запрасілі Сілу Пятровіча. Хіба ж ён мала спрыяў, каб школа будавалася, каб усё, што залежала ад яго, нязменнага старшыні калгаса на працягу не аднаго дзясятка гадоў, вырашалася своечасова, без затрымак і лішняй цяганіны?

У Сілы Пятровіча пяцёра дзяцей: два сыны і тры дачкі. Сыны дарослыя, і старэйшая дачка ўжо нявеста, а меншыя дочкі яшчэ вучацца, ходзяць у школу. Так што Сіла Пятровіч знаў, для каго ўзводзілася школа. Ягоныя Ніна ды Таня — у вучнёўскай шарэнзе з букетамі кветак у руках.

Сіла Пятровіч ужо не старшыня другі год. Якая ў яго адукацыя? Шэсць класаў і сёмы калідор. Маладыя аграномы, якіх прыслалі ў калгас, і тыя мелі сярэднюю спецыяльную адукацыю, а ён... Як і да вайны — брыгадзірам паляводчай брыгады. І Надзі ўсё адно не да каго іншага, а да яго трэба звяртацца, калі надыходзіць час араць соткі, баранаваць свае загоны або браць падводу, каб прывезці з лесу якога сухастою на дровы. Без Сілы Пятровіча, выходзіць, бы і раней, ні туды і ні сюды.

Яна і не заўважыла, калі Сіла Пятровіч наблізіўся да яе, стаў упобачкі і нейкі час маўчаў.

— Што цяпер будзе рабіць твой Аляксей? — Сіла Пятровіч павярнуўся тварам да Надзі, на яго твары ўтома і неспакой: да таго, як з'явіцца на ўрачыстую школьную лінейку ён паспеў, напэўна, пабыць і ў полі, дзе падымалася зябліва і дзе пачалі ўжо капаць бульбу, быў, мабыць, і на поплаве, дзе рассцілалі льносаломку...

Урачыстая лінейка яшчэ працягвалася, выступоўцы змянялі адзін аднаго, Надзя ўважліва слухала кожнага, але тут вось Сіла Пятровіч са сваімі роспытамі, і яна паглядзела на яго і нібы толькі от зараз заўважыла, што былы старшыня калгаса прыкметна пастарэў, галава яго спераду аблыселая, голас у яго павольны, скрыпучы, а ў руках — высокі, рабы арэхавы кій. З гэтым кіем апошнім часам Сіла Пятровіч амаль не расстаецца: ці то і сапраўды старасць дае аб сабе знаць, у нагах з'явілася стома, ці гэты арэхавы кій яму падабаецца сваім хараством?

— Была б шыя, а хамут знойдзецца, — няпэўна адказала Надзя і задумалася, бо пытанне Сілы Пятровіча было нечаканым.

— Няхай ідзе да мяне ў брыгаду, — не адставаў ад яе Сіла Пятровіч. — Я дам яму лепшых коней — будзе ездавым, коні будуць у яго руках.

Ён уперыўся ў Надзю немігаючым позіркам, бы хацеў пераканацца, ці зразумела яна, аб чым ідзе гаворка. Яму, мабыць, падалося, што яна ўсё ж не ўсведамляе, што гэта такое, калі коні ў тваіх руках.

— Не трэба будзе прасіць ні мяне, ні старшыню калгаса, каб узараць соткі, прывезці з лесу дроў, з лугу сена...

— Ах, вось яно што! — выдыхнула Надзя. — Без вашага дазволу ўсё адно...

— Калі будзе ўсё па-людску, то чаму ж... Хіба я не чалавек, хіба калі я крыўдзіў цябе ці каго іншага? Галоўнае — каб усё па-людску.

Надзя не сказала Сілу Пятровічу ні «так», ні «не», бо гэтая размова без Аляксея ўсё адно марная — хіба Надзя можа загадаць мужу, куды яму цяпер ісці на работу?

Калі скончылася лінейка, да яе падышоў дырэктар школы — Віктар Андрэевіч. Надзі ўжо было знаццё, што Віктар Андрэевіч — гісторык, пасля інстытута ён быў прызваны ў армію. Служыць яму давялося ў марфлоце. У флоцкай уніформе ён от і зараз: на ім чорныя штаны-клёш, чорныя чаравікі з шырокімі тупымі насамі, матроска, з-пад якой віднееецца паласатая цяльняшка, а паўз верх матроскі кароткі, незашпілены, з металёвымі гузікамі з якарамі, бушлат. На дварэ цёплае, сухое вераснёўскае надвор'е, а Віктар Андрэевіч у сваёй матроскай форме хутчэй за ўсё па прывычцы, ён яшчэ, мабыць, сніць свой ваенны карабель, акіянскія хвалі, шум прыбою — той час, калі марыў пра дэмбель, пра тое, каб хутчэй увайсці ў клас, узяць у рукі ўказку і тлумачыць дзецям пра падзеі далёкія і блізкія, пра землі і краіны, дзе адбыліся, адбываюцца важныя гістарычныя зрухі... З карабля Віктар Андрэевіч, як кажуць, адразу трапіў на баль — на адкрыццё Востраўскай васьмігодкі, трапіў адразу на пасаду дырэктара гэтай самай школы. І паспрыяла таму, мабыць, не толькі тое, што ён меў вышэйшую адукацыю: Віктар Андрэевіч — член КПСС. Гэта надавала яму значнай вагі.

— Чаму вы, Надзея Нічыпараўна, не згаджаецеся быць завучам па выхаваўчай рабоце? — пачаў дырэктар школы размову з ёй. — Я асабіста прасіў загадчыка райана, каб вы ўзялі гэты ўчастак работы. Што прычынай вашай нязгоды? Няўжо тое, што ў вас няма вышэйшай адукацыі? Дык мы дамовіліся з загадчыкам райана...

Надзі было нават трохі дзіўна і незразумела, чаму і загадчык райана, і дырэктар бяруць гэтак блізка да сэрца яе адмову. Быццам няма больш увішных ды маладых настаўнікаў, якія за вялікі гонар прымуць прапанову заняць пасаду завуча. І дырэктар, і загадчык райана, мабыць, хацелі бачыць на гэтай пасадзе яе толькі таму, што добра ведалі, колькі яна зрабіла, колькі паклала здароўя, каб Востраўская васьмігодка адбылася, каб яна стаяла на тым месцы, адкуль добра бачны і калгасны сад, і лес, і поле, дзе жыта і аўсы, квітнеючая канюшына, дзе сінеюць, бы нябёсы ў яснае надвор'е, ільны.

Ёй не было чаго таіцца, трымаць у сабе тое, што прымусіла адмовіцца ад пасады завуча. Віктар Андрэевіч, падалося Надзі, чалавек шчыры, прамы, бясхітрасны, а таму з ім трэбы быць шчырай, як на споведзі.

Надзя прывыкла, што Самсон падымаецца завідна, і, ужо не чакаючы, як раней, пакуль устане Ірына і згатуе сняданак, сам гатаваў яго. Калі, нарэшце, да яго далучалася Ірына, на верандзе пачыналася гучная размова, чуўся нястрымны шчаслівы смех. Ірына, канечне, была задаволена, што маці дала

ёй прытулак, адвяла куток у доме, дзе ёй з дачкой і мужам спакойна, не цесна. Ірыне, вядома, бачна, што маці на яе пакрыўджана за колішні нечаканы ад’езд на Поўнач, якім яна надоўга пазбавіла яе спакою. Але і ў яе хіба не было крыўды на маці? Цяпер вось яны нібы паразумеліся, даравалі адна адной тое, што разлучыла іх на некалькі доўгіх, трывожных гадоў.

Паснедаўшы, Самсон стукаў уваходнымі дзвярыма, тупаў да весніцаў, Надзя чула, як металёва ляскала клямка весніцаў і праз якую хвіліну-другую Самсон заводзіў «Рафіка» — блакітнага колеру мікрааўтобус, з якога ён не злазіць з таго часу, калі ўладкаваўся ў райбыткамбінат. На гэтым мікрааўтобусе Самсон калясуе па ўсім раёне, а то і далей — у іншыя раёны, у вобласць, а часам нават і ў сталіцу. Філіялы камбіната па ўсім раёне і кожнаму трэба то адно, то другое, то трэцяе... Адно, другое і трэцяе — гэта запчасткі да тэлевізараў, халадзільнікаў, пральных машын... За гэтым самым дабром ён імчыць і ў вобласць, і ў сталіцу. Бо бытавая тэхніка псуецца, выходзіць са строю, толькі паспявай яе рамантаваць. І абутак таксама не вечны, майстэрні па рамонце абутку ледзь спраўляюцца аднаўляць тое, што прыносяць людзі. А яшчэ ж ёсць атэлье, дзе шыюць мужчынскае і жаночае адзенне, футра, галаўныя ўборы... Вось і круціцца Самсон з ранку да вечара на «Рафіку», здабываючы тое ўсё, без чаго райбыткамбінат задыхнецца, можа спыніцца ў адначассе. Усё, што прывозіць-адвозіць Самсон, грузіць-выгружае сам, сваімі рукамі, грузчык да яго мікрааўтобуса не прыпісаны. Што і казаць — нялёгкі хлеб у Самсона, ох, які нялёгкі. Праўда, і зарабляе ён нядрэнна. А што ж — лічы на дзвюх работах: і за шафёра, і за грузчыка.

Думаючы аб гэтым, Надзя дакарае сябе — за што, калі дачка з сям’ёй толькі вярнулася з Поўначы, яна была неўзлюбіла Самсона? Толькі за тое, што знешнасцю някідкі, што азіят? Але цяпер яна глядзіць на яго па-іншаму, зразумела — памылялася...

Вяртаецца з работы Самсон тады, калі вячэрні змрок ахутвае зямлю, калі першыя зоркі ўспыхваюць на небасхіле...

Калі «Рафік» аддаляецца ад дома, Надзя прастуе на веранду, дзе сядзіць, задумаўшыся, Ірына. Раней Надзя ўсё збіралася сказаць дачцэ, каб яна паклапацілася пра свой куток. Вядома, Ірынінай сям’і ў яе добра, утульна і чаго б жадаць яшчэ? Жыві ды працуй, гадуй дачку і не бяры ніякіх лішніх клопатаў у галаву. За шыю не капае, не холадна зімой... Крыўдна, вядома, Надзі, што ў той час, калі гэты дамок рос, калі Аляксей, яна, Надзя ды Святлана ўварвалі свае рукі, увіхаючыся каля дома, то Ірыны і блізка не было. Яна як моўзнула на Поўнач, то нібы і забылася, што ў яе ёсць маці, ёсць дамоўка, дзе яе заўсёды чакаюць, дзе заўсёды работы непачаты край...

Але хіба там, на Поўначы, Ірына забаўлялася, шалела, не знаючы куды падзецца вольным часам? Без работы, без клопату не сядзела. Цяпер вунь скардзіцца, што ноччу рукі і спіна ныюць, баляць і яна круціцца з боку на бок, не знае, як зручней легчы, куды пакласці рукі, каб не нылі, не даймалі болем.

— Ведаеш, Ірына, — Надзя пачынае падступацца да той размовы, якую ўвесь час адкладвала, стараючыся выбіраць такія словы, каб дачка зразумела яе правільна, каб не пакрыўдзілася. — Аб гэтым я не раз гаварыла з Аляксеем...

Надзя раптам замаўкае. Думкі ў яе галаве мільгаюць з хуткасцю маланкі. «Ды што ж гэта я раблю? — спахопліваецца яна. — Дачка з зяцем вунь які рамонт наладзілі ў хаце... Хіба мне з імі цесна? Хіба нам усім мала месца? Дом вялікі, прасторны... Ах, Аляксей наказваў... А калі ён памыляўся? Ён быў ужо ў гэтакім стане, ён мог памыляцца».

Апошнім часам гэтыя развагі-роздумы не пакідаюць яе. Таму што, бачыла яна, дачка і зяць іншы раз ціхенька, каб не чула яна, між сабой перамаўляюцца. Да яе ўсё адно даходзяць некаторыя словы, з якіх становіцца зразумелым: яны, як і яна, думаюць аб тым, дзе жыць далей. Ім у маці і каля маці пад яе крылом нядрэнна, але тут ім, мабыць, векаваць не выпадае. На гэты дом прэтэндэнт нумар адзін, безумоўна, не хто іншы, а Лёшык. Так вялося, вядзецца спакон веку ў кожнай сям'і: самае малодшае дзіця застаецца ў бацькоўскай хаце, а іншым трэба віць уласнае гняздо...

Пажыўшы разам з Ірынінай сям'ёй не адну зіму і не адно лета, Надзя як бы паспакайнела, адышла ад адзіноцтва і думак, што паланілі яе душу пасля смерці Аляксея, а затым і Святланы. Недзе ў глыбіні душы яна ўжо і не хацела, каб Ірына з сям'ёй пакідалі яе, думалі аб сваім селішчы. Вось Лёшык заканчвае школу і збіраецца паступаць у інстытут. Паступіць ён абавязкова, у гэтым Надзя ўпэўнена, бо ён хоць і не гэтакі башкавіты, як Дзіма, але ж які працаздольны: не вылезе з-за пісьмовага стала да глыбокай ночы, пакуль не паробіць усіх урокаў. І адзнакі вунь якія ў яго дзённіку — амаль адныя пяцёркі. Чацвёркі толькі па матэматыцы. Хіба перад ім не адчыніць дзверы любая гуманітарная ВНУ?

Калі Лёшык паступіць, то што — Надзі заставацца адной у гэтых сценах? Ад адзіноцтва тады скруціцца можна будзе, не хацела б Надзя, каб нешта падобнае адбылося з ёй. Аб тым яна і гаворыць Ірыне. Гаворыць усё адкрыта, шчыра, гаворыць аб усім, што ў яе ў думках і на сэрцы. Інакш нельга, інакш дачка яе не зразумее.

— Хіба мы не зможам сустракацца? — супакойвае яе Ірына. — Хіба мы жыцьмем не ў адным горадзе?

Сказаўшы гэта, Ірына ўтаропілася ў яе ўчэпістым позіркам, і Надзі было зразумела — яна аб нечым думае, і, думаючы, нервуецца, перажывае.

— Едучы з Поўначы да цябе, мы з Самсонам гаварылі, што рана ці позна давядзецца падбаць пра свой куток. Як ні было б нам у цябе добра, але хіба мы не твае кватаранты? Ты не-не, ды і ўшчуваеш нас, што гучна размаўляем, смяёмся, бразгаем лыжкамі, талеркамі, калі Лёшык спіць або робіць урокі... Думаеш, нам прыемна гэта слухаць?

Надзі хацелася запярэчыць: хіба яна рабіла гэта ад умыслу, помсліва? Яна клапацілася пра меншага сына — гэта ж не загана?

Але Ірына не дала ёй выказацца:

— Усё, маці, правільна — гэты дом Лёшыкаў. Калі ён вырасце, стане яго законным уладальнікам, то ён можа яго прадаць, абмяняць... А нам тады куды? На вуліцу? А ў нас расце дачка, яна таксама мае права на свой уласны куток, і я хачу, каб у яе гэты куток быў...

Дачка гаворыць спакойна і ўпэўнена, яе спакой і ўпэўненасць перадаюцца і Надзі. І яна верыць — менавіта ўсё так і будзе, як гаворыць Ірына. Заўсёды, калі ўзнікне патрэба, калі адзіноцтва будзе даймаць, яна зможа пайсці да дачкі, убачыць, што яна зусім не адзінокая, яе чакае ў любую хвіліну Ірына, яе дзіцятка, якое цудам зберагла ў час вайны, выняньчыла, паставіла на ногі.

— Значыцца, вы ўжо ўсё вырашылі? — пытаецца Надзя. — Вырашылі і мне ні слова ні паўслова?

— Ах, маці! Лёгка сказаць. А як падумаю, у які воз трэба ўпрагацца...

Ірына гаворыць, што Самсон ужо нагледзеў зямельны ўчастак, дзе яны збіраюцца будавацца. Гэта на ўскраіне райцэнтра, каля той самай магістралі, што бяжыць у бок Вострава і далей.

— Дзе толькі грошай узяць на тую будоўлю? — трывожыцца дачка. — У нас ёсць трохі ў загашніку, зберажэнні з Поўначы, але іх не хопіць.

— Вазьміце пазыку ў банку, — раіць Надзя. — Забудоўшчыкам даюць пад невялікія працэнты.

Вымавіла гэта Надзя і задумалася: колькі яна жыве, столькі і будуецца. У час вайны іхнюю вёску спалілі карнікі і давялося потым пачынаць з зямлянкі, з хацінкі-кураня з маленькімі, падслепаватымі акенцамі і глінабітнай падлогай. А потым яна сышлася з Аляксеем...

І яшчэ адно зразумела Надзя ў час гэтай гаворкі з дачкой. Нядоўга яна бавілася на пенсіі, знала адно даглядаць гарод, садок, хату ды Лёшыка. Цяпер давядзецца шукаць якую-небудзь работу. Трэба хоць неяк падтрымаць дачку. Дый Лёшык калі паступіць у інстытут, то адной пенсіі недастаткова, каб і самой жыць, і Лёшыку паслаць дзясятку-другую, як некалі пасылала Дзіму.

Ірына неўзабаве пакінула яе на верандзе адну. Пара падымаць і выпраўляць у школу дачку, Настулю. Настуля ўжо ў шостым класе — ранавата Ірына зрабіла Надзю бабуляй, але Надзя ганарыцца, што ў яе вунь якая ўнучка. Настуля — ціхае, спакойнае, паслухмянае дзіця. Знешне яна ўся ў бацьку — смуглатварая, чарнавалосая, з вузкімі, раскосымі вачыма. А вось характар у Настулі матчын. Ірына таксама расла ціхай, паслухмянай дзеўчынёхай. І нават калі Надзя не дала сваёй згоды, каб яна выходзіла замуж за сяржанта, яна не стала крыўдзіць маці, не наладзіла скандал, а зрабіла так, як хацелася Надзі. Іншая на яе месцы заўпарцілася б, зрабіла б па-свойму. Не заўсёды, мабыць, падатлівы характар на дабро.

Надзі сорамна прызнацца сабе самой, што на першым часе, калі толькі вярнулася з Поўначы Ірына са сваім сямействам, то яна, Надзя, не прымала душой ні Самсона, ні Настулю. Яны былі ёй нібыта чужыя, не родныя. Можа, таму яна і не магла адразу дараваць Ірыне таго, што тая некалі моўзнула на Поўнач паміма яе, матчынай, волі. Можа, таму Надзя і была настроена рашуча: вось няхай трохі пажывуць у яе, а там... Але паступова, дзень за днём у Настулі яна пазнавала Ірыну, а Самсон убачыўся добрым, спраўным, клапатлівым сем’янінам. І ўсё адно, калі Надзя бачыць Настулю, то міжволі згадвае сяржанта і думае, што ад яго ў Ірыны былі б іншыя дзеці...

Надзя цяжка ўздыхае, устае і кіруецца будзіць Лёшыка — яму таксама пара збірацца ў школу, а ён ніяк не ачнецца. Мабыць, зноў да позняга маракаваў над кнігамі ды сшыткамі.

Яны пакіраваліся дарогай, якая ішла міма школы, міма поля, далей, да Пад’ёму, што віднеўся з другога боку поля, якое адным берагам падступілася да школы. Дарога вяла на ўзвышак, і калі яны падняліся на яго, Надзя азірнулася. Адсюль як на далоні школа — яна свяцілася на сонейку новымі, яшчэ не пачарнелымі ад дажджу і асенніх туманаў, бёрнамі, вялікімі вокнамі, што пазіралі ў бок поля і лесу, у бок вёскі. Добра бачна адсюль і поле, Пад’ём, на якім, здаецца, не так даўно Дзіма-старшакласнік абганяў бульбу. А на полі, дзе нядаўна каласілася жыта, увіхаўся «Кіравец». Жыта зжата, салома з поля звезена, іржышча зазелянела — пачало зарастаць асеннімі палявымі кветкамі, травой-лебядой ды сурэпкай. Але разрасціся пустазеллю «Кіравец» не даў, ён тут з самага ранку, арэ без перадыху і ўжо большая палова поля чарнее свежай раллёй. Да вечара, глядзіш, трактар управіцца са сваёй работай, поле будзе гатова ці да сяўбы азіміны, ці пачакае да вясны і на ім пасадзяць бульбу або пасеюць авёс, ячмень...

Пазіраючы на трактар, Надзя падумала, што ў калгасе ўсё больш і больш тэхнікі, але і без коней пакуль не абысціся. І ім хапае работы. Сіла Пятровіч кажа, каб Аляксей ішоў у яго брыгаду падводчыкам. Мабыць, трэба яму

паслухацца брыгадзіра, бо, стаўшы ездавым, не трэба будзе нікому кланяцца, каб прывезці з лесу дроў, з лугу сена, узараць свой агарод...

Колькі хвілін яны стаяць на ўзвышку маўкліва. І Надзя, і Віктар Андрэевіч былі зачараваныя тым, што адкрылася вачам, калі яны падняліся на ўзвышак і агледзеліся.

— Не спяшайцеся адмаўляцца, Надзея Нічыпараўна, — працягвае пачатую каля школы размову Віктар Андрэевіч. — Паступайце на завочнае аддзяленне педінстытута, папрацуйце год-другі завучам, паглядзіце. Калі ўжо вам надта будзе не па душы гэтая пасада, то што ж, Бог бацька, рабіце, як захочацца.

Да Надзі, нарэшце, даходзіць, чаму гэтак упарта і настойліва дырэктар ўгаворвае яе быць яго намеснікам. Яна ў Востраве чалавек вядомы, паважаны, загадчыкам пачатковай школы стала працаваць, як толькі скончылася вайна. Востраўскія дзеці рабілі свае першыя крокі ў навуку пад яе непасрэднай апекай. Многія з іх потым скончылі сярэднюю школу, інстытуты, але сваю першую настаўніцу не забываюць. Яны пішуць і шлюць ёй лісты, віншуюць са святамі, раяцца з ёю, давяраюць ёй, яе слова для іх многа значыць, яны ведаюць, што Надзея Нічыпараўна дрэннага ім не пажадае, падкажа, як паводзіць сябе ў непрадбачанай сітуацыі.

Яе аўтарытэт у вёсцы прызнаны, і Віктару Андрэевічу вельмі хочацца, каб гэты аўтарытэт не быў згублены, каб ён заставаўся ў Востраўскай васьмігодцы, дзе яму быць дырэктарам.

— Я вас разумею, Віктар Андрэевіч, — зусім спакойна кажа яна. — Я вас вельмі добра разумею. Вам хочацца...

Яна адчувала, што гэтымі ўгаворамі і Касьян, і дырэктар школы прымусілі яе задумацца: а мо і праўда пагадзіцца з імі, паступіць на завочнае аддзяленне педінстытута, заняць пасаду завуча па вучэбна-выхаваўчай рабоце? Не прыгадаць, колькі яна ўсяго зрабіла ды перарабіла, каб у Востраве з’явілася сапраўдная сучасная школа, то хіба яна не заслугоўвае гэтай пасады? Так, яна ўжо не маладая, але няўжо яна не зможа паступіць у педінстытут на завочнае аддзяленне і скончыць яго? Два разы на год трэба будзе здаваць сесію — зімой і летам... Вядома, яе кожны дзень ад рання і да змяркання — гэта клопаты на рабоце, дома... І ўсё ж нейкі ўнутраны голас падказваў ёй, што, узваліўшы на сябе яшчэ і клопат студэнта-завочніка, завуча, яна пазбавіцца апошняга спакою, а ў яе чацвёра дзяцей, гаспадарка, Лёшык яшчэ зусім маленькі...

— Усё будзе добра, — гаворыць яна. — Галоўнае, што ў нас цяпер новая школа. А я некалі пачынала ў звычайнай вясковай хаце, мае вучні — дзеці вайны, пераросткі, ім ужо любоўныя гульні падавай, а яны — вучні пачатковай школы... Побач са школай — лес, бярэзнік, кусты... Вучні як сыдуць туды, то ім ужо ніякія ўрокі не наўме... І што вы думаеце — некаторыя дзяўчаты ў час тых прагулянак па лесе ды бярэзніку зацяжарылі, загадчык райана газіўся звольніць мяне з работы.

— Што вы кажаце?! Няўжо гэта праўда?

«Кіравец» пачаў араць блізка ад таго месца, дзе стаяць Надзя і Віктар Андрэевіч. Надзя добра бачыць, што за рулём трактара Хведар Таццяны Карчуніхі.

— Вось гэты трактарыст, — паказвае яна вачыма ў той бок, дзе трактар, у кабіне якога Хведар, — з тых самых пасляваенных вучняў. Бядовы быў хлапчук. Вучыцца не хацеў, пачаў курыць змалку, а як прыйшла пара ісці ў армію, то ён з’явіўся да мяне дадому і са слязьмі на вачах прасіў-маліў, каб я дала яму даведку, што ён скончыў чатыры класы...

Было такое, было. Нямала вады сплыло з таго часу, а Надзі здаецца, што ўсё тое здарылася ўчора. Перш чым даць Хведару даведку, яна як след яго адчытала:

— Бачыш, што выходзіць. Хіба я табе не казала, не папярэджвала? А ты, ледзь пачнецца перапынак — барзджэй у кусты, скруціш зубленку і дыміш, ад цябе тытунём за вярсту пахла. Не, Хведар, не прасі, не дам я табе даведку. Ты што — хочаш, каб мяне пасадзілі? У мяне дзеці малыя, хто іх выгадуе, калі мяне пасадзяць?

Хведар гатовы быў упасці на калені, узмаліўся:

— Надзея Нічыпараўна! Родненькая, дарагая, цяпер я знаю, што рабіў няправільна, дурная мая галава была, не разумела, нічога не разумела.

Надзі чамусьці падалося, што гэтыя яго словы ідуць не ад душы, яны наскрозь фальшывыя. Хведару вельмі хочацца пайсці ў армію, паслужыць, пабачыць свет. Бо якім жа іншым чынам ажыццявіць гэтую мару? Усе хлопцы-прызыўнікі ідуць у войска, ім ладзяць вечарыны-провады, на якія прыходзіць ледзь не ўся вёска, з усёй акругі збіраюцца хлопцы і дзяўчаты. Іграе музыка — духавая або нехта са сваіх дамарослых гарманістаў-баяністаў. Той, каго выпраўляюць у войска, трохі зажураны, але ўсё адно выглядаў гэтакім зухам, ледзь не героем. Але аднавяскоўцы добра зналі, што геройства ў яго кот наплакаў, што ён зялёны і наіўны смаркач, што на губах у яго мамчына малако, мабыць, яшчэ не абсохла. Можа, хіба калі паслужыць, то пасур'ёзнее, стане іншым чалавекам.

Яно так і было. Адслужыўшы і вярнуўшыся дадому, заўважалі ўсе, былы нягеглы прызыўнік выглядаў сапраўдным, сталым мужчынам, у яго паводзінах і знаку не засталося ад ранейшай легкадумнасці. Надзя разумела, што армейская служба — тая самая школа, якую павінен прайсці кожны хлапец, каб не разгубіцца і быць гатовым да выпрабаванняў, якія могуць здарыцца ў яго жыцці на кожным кроку.

— Не прыкідвайся, Хведар, дурнем! Я ўсё вельмі добра разумею, — строга сказала Надзя, бо хлопец усё стаяў у парозе, ён як прырос да яго, расхваляваны, з бояззю ў вачах, што яна можа не даць яму такую жаданую даведку, без якой яго не возьмуць у войска. — Не заслужыў ты, Хведар, гэтай даведкі, не, не заслужыў. Ты два месяцы павучыўся ў чацвёртым класе і ўсё. Чаму ты не стаў вучыцца далей? Лянота адалела?

— Дурны быў я, на сягонняшнюю маю галаву...

Трохі павагаўшыся, Надзя ўсё ж дала Хведару даведку. Мо, паслужыўшы, ён сапраўды стане вартым чалавекам?..

Яна не памылілася. Вярнуўся з войска Хведар хвацкім кавалерам, тыдзень-другі пакрасаваўся ў салдацкай форме і сеў на трактар. Ужо там, у войску, ён вывучыўся на трактарыста і шафёра і гэта яму ой як спатрэбілася ў жыцці.

Неўзабаве Хведар ажаніўся. Яго жонка Галя працавала ў райцэнтры на перагаворным пункце тэлефаністкай. Згледзеў яе аднойчы Хведар і зразумеў, што Галя — ягоная суджаная. Галя паглядная дзяўчына, добразычлівая, у яе з Хведарам чацвёра дзяцей, адныя ўжо вучацца ў школе, а другія пакуль ходзяць пешкі пад стол. Зараз Галя нідзе не працуе, даглядае сям'ю, гаспадарку. Таго, што зарабляе Хведар на трактары, хапае. Хведараў «Кіравец» не прастойвае ні зімой, ні летам. Зімою вывозіць на поле торф, гной, а ўлетку адвозіць ад камбайна на зерняток на аўтапрычэпе намалочанае зерне.

«Што было б з ім, каб я некалі не дала яму даведку? — з трывогай падумала Надзя. — Саграшыла я, гэта так. Але хіба грэх дзеля дабра не варты апраўдання»?

«Кіравец» робіць круг за кругам, неўзаранай пожні засталося не так і многа, гадзін за колькі Хведар узарэ і астатні кавалак. Што тут пасеюць ці пасадзяць на наступны год? Бульбу, цукровыя буракі, канюшыну? Калгаснаму аграному яно відней, у яго ёсць план севазвароту і ўсё робіцца ў строгай адпаведнасці з гэтым планам.

Надзя пазірае на трактар, на Хведара, які заўважае яе і дырэктара школы, раз-пораз паварочвае галаву ў іхні бок, але не спыняецца: работа не чакае.

— Чаму вы маўчыце, Надзея Нічыпараўна? — выводзіць яе з одуму Віктар Андрэевіч. — Я чакаю вашага адказу, трэба вырашаць, навучальны год пачаўся.

Віктар Андрэевіч, мабыць, заўважыў, што яна задумлівая, хвалюецца, перажывае і, пэўна, не разумее прычыну гэтага хвалявання і перажывання.

— Мы будзем працаваць разам, — гледзячы, як аддаляецца ад іх «Кіравец», пакідаючы за сабой свежаўзараныя, з пахамі іржышча, чорныя, што ільсняцца на яркім асеннім сонцы, барозны, кажа Надзя. — Пачатковыя класы — мая стыхія, я прывыкла да гэтай работы, не ўсё, мабыць, у ёй я спасцігла, бо мяжы дасканаласці ні ў чым няма, але...

Віктар Андрэевіч не даў ёй выказацца да канца, ён зразумеў, што яна не перадумае і гэта вывела яго з раўнавагі, закранула яго самалюбства.

— Вы, Надзея Нічыпараўна, закаранелая правінцыялка. Вы як той кулік, што звыкся са сваім балотам і якому здаецца, што тая мясціна, дзе ён вывеўся і жыве — пуп зямлі.

Яго словы прымусілі яе стрымана ўсміхнуцца. Не першы раз яна чуе, што яе называюць правінцыялкай. Першы раз яе так назваў былы камандзір партызанскага атрада, у якім Надзя разам з Цімафеем былі амаль ад пачатку вайны і да таго часу, пакуль іхнюю тэрыторыю не вызваліла ад акупантаў Чырвоная Армія. Атрад налічваў болей як тры сотні народных мсціўцаў. На першым часе, пакуль партызаны набіралі сілу, арганізоўваліся, немцы асабліва не чапалі іх. Тым часам, дый потым, Надзя не раз выконвала асабістыя даручэнні камандзіра атрада, які да вайны быў першым сакратаром райкама партыі ў іхнім раёне. Трафім Пракопавіч Кандратаў яшчэ да вайны неяк наведваўся ў Востраў у час уборкі, быў на тым самым полі, дзе яна, Надзя, тагачасная студэнтка педвучылішча, дапамагала сястры Хрысціне жаць сярпом жыта, вязаць снапы і ставіць іх у стаўкі.

— Урадзіла сёлета жыта, без хлеба не застанёмся, — казаў тады Трафім Пракопавіч.

Ён узяў у руку пару каласкоў, вылушчыў з іх зерне, колькі зярнят кінуў у рот, рассмакаваў, прамовіў:

— Спяшайцеся, жнеі, жыта спелае, перастаіць — асыплецца або вецер пакладзе на зямлю і зерне пачне прарастаць.

На сакратары шэры незашпілены пінжак, цёмна-сіняе галіфэ, на нагах хромавыя чобаты, на галаве ў яго саламяны капялюш, пад пінжаком белая сарочка з вышытай манішкай, з вышытым, як і манішка, каўняром.

— Вы калгасаўкі? — чамусьці пацікавіўся ён.

— Яна калгасаўка, — паказала Надзя вачыма на сястру Хрысціну, — а я — студэнтка педвучылішча, настаўніцай буду.

— Настаўніцай? — нібы здзівіўся першы сакратар райкама і дадаў: — Гэта добра, настаўнікаў ой як не хапае. Непісьменныя ў нас на кожным кроку. Што тут гаварыць, калі многія нават распісацца не ўмеюць...

А потым у вайну яны сустрэліся ў партызанскім атрадзе. Цімафей узначаліў групу падрыўнікоў, хадзіў на шашу, на чыгунку, а Надзя вучыла дзяцей

партызанаў грамаце. У адной з большых зямлянак паставілі такія-сякія сталы, збітыя з бярозавых ды кляновых плашак, парабілі сядзенні-лавы і чым не школа ў глыбіні бору! А ў бары летам спяваюць птушкі, вясною рыкаюць ласі, а ў Піліпаўку выюць ваўкі...

Часам Трафім Пракопавіч клікаў Надзю да сябе ў зямлянку, даваў ёй заданне — наведацца ў райцэнтр і разведаць, дзе размясціўся нямецкі гарнізон, дзе знаходзіцца камендатура, паліцэйская ўправа...

Неўзабаве, калі атрад акрэп, партызаны пачалі актыўна дзейнічаць. Савецкія войскі разбілі ворага пад Масквой, а затым пад Сталінградам, і зямля загарэлася пад нагамі акупантаў, не стала ніякага жыцця ні ў вёсках, ні ў лесе — ворагі лютавалі: палілі вёскі разам з жыхарамі, людзі хаваліся ў барах і пушчах, у балоцістых мясцінах, але і там спакою не было...

Як толькі вызвалілі Палессе, Цімафея разам з іншымі партызанамі мабілізавалі ў Чырвоную Армію. Тым самым часам Трафім Пракопавіч выдаў Надзі напісаную ім уласнаручна даведку, што яна, Надзея Нічыпараўна Кравец, у час вайны з'яўлялася байцом партызанскага атрада, вучыла дзяцей партызанаў грамаце, рызыкуючы жыццём, выконвала баявыя заданні камандавання... Даючы ёй дакумент, Кандратаў сказаў:

— Збірайся ў райцэнтр, з двума малымі дзецьмі ў вёсцы табе будзе цяжка. Калі б хоць хаціна якая была, дзе можна прытуліцца, а то ні кала ні двара. А ў райцэнтры атрымаеш жыллё, уладкуешся на работу. Будзеш працаваць настаўніцай і заканчваць педвучылішча. Заканчваць вучобу трэба абавязкова, а то якая з цябе настаўніца без дыплома.

Прапанова Трафіма Пракопавіча была зусім нечаканай, і Надзя разгубілася, не ведала, што яму адказаць. Трохі павагаўшыся, авалодаўшы сабой, яна не то раілася з Трафімам Пракопавічам, не то пыталася сама ў сябе:

— Вернецца з фронту Цімафей, то што ён мне скажа? Трэба напісаць яму, параіцца з ім.

— Напішы, а як жа, — падтрымаў яе Трафім Пракопавіч. — Але мая табе сяброўская парада — збірай латкі-манаткі і ў райцэнтр. І табе самой, і дзецям будзе ў райцэнтры лацвей, а ў вёсцы...

Але не паспела яна напісаць Цімафею на фронт і параіцца з ім, як быць: з фронту прыйшла вестка, што яе муж, «чырвонаармеец Цімафей Платонавіч Кравец, верны воінскай прысязе, у баях за сацыялістычную Радзіму праявіў мужнасць і геройства, быў цяжка паранены і памёр ад ран у медсанбаце. Пахаваны з воінскімі ўшанаваннямі ў брацкай магіле».

Якраз тымі днямі, калі атрымала гэтую чорную вестку, сустрэлася з Трафімам Пракопавічам у райцэнтры на настаўніцкай нарадзе.

Трафім Пракопавіч, ведала тое Надзя, нідзе не працаваў, узначальваў раённы савет ветэранаў, выступаў у школах перад дзецьмі, расказваў пра свае партызанскія гады.

— Шкада Цімафея, — непрытворна выказаўся ён. — Такія, як твой Цімафей, вайну выйгралі, а самі леглі ў сырую зямлю. А тыя, хто абіваў грушы ў Ташкенце, хто хаваўся пад бабскімі спадніцамі, сёння павыпаўзалі, бы тыя прусакі са сваіх шчылін, і лезуць у начальства, займаюць цёплыя месцейкі, вучаць нас праваслаўных... Чаму яны могуць нас навучыць? Гэта горкая праўда і ад яе, на жаль, нікуды не дзецца...

Выказаўшыся, выкінуўшы з душы крыўду і боль, што не давалі спакою, Трафім Пракопавіч каторы раз спытаў, ці надумала яна, нарэшце, перабірацца ў райцэнтр.

— Нікуды я з вёскі не хачу. У вёсцы мне ўсё вядомае, знаёмае, ёсць з кім пагаварыць, адвесці душу...

— Ну і дарма. Правінцыялка ты, Надзея Нічыпараўна, ох, якая зацятая правінцыялка! — сказаў Трафім Пракопавіч, зразумеўшы, што да свайго Вострава яна моцна прырасла ўсёй душою. Ён толькі спытаў:

— Даведку, якую я табе напісаў, што ты партызанка, не згубіла? Беражы яе, яна табе яшчэ вельмі спатрэбіцца...

Нямала часу прайшло пасля іхняй апошняй сустрэчы, але словы Трафіма Пракопавіча яна помніць. І от Віктар Андрэевіч таксама назваў яе правінцыялкай. І яна зусім не пакрыўдзілася, у душы яна нават ганарыцца, што правінцыялка. Так, яна вякуе ў правінцыі і вучыць дзяцей рабіць свае першыя крокі ў той загадкавы, таямнічы, чароўны і зававлівы свет, які называецца жыццём.

...Ад узвышку, дзе яна вырашала з Віктарам Андрэевічам быць ёй альбо не завучам па вучэбна-выхаваўчай рабоце, Надзя пакіравалася дадому. Аляксея заспела ў двары — ён складваў у касцёр паколатыя дровы.

— Паслухай, мужанёк, што я табе скажу... Я то ўжо ўсё як быццам вырашыла, але, мабыць, трэба, каб і ты гэта ведаў...

Яна чамусьці была ўпэўнена, што Аляксей яе падтрымае, пераканае, што ўсё правільна: якая з яе студэнтка-завочніца, калі ад настаўніцкай ды хатняй работы няма калі дыхнуць? А новая пасада ды вучоба ў інстытуце хіба вызваляць ад гэтага клопату? Але яна памылялася, Аляксей не ўхваліў яе рашэнне:

— Я б на тваім месцы, жонка, не спяшаўся б адмаўляцца, не кожнаму робяць такія прапановы. Хіба мала мы зрабілі, каб Востраўская васьмігодка поўнілася галасамі дзяцей?

Было зразумела: Аляксей хацеў, хоча бачыць яе калі ўжо не дырэктарам Востраўскай васьмігодкі, то хоць бы завучам.

— Я думала, Аляксей, што ты мяне любіш і шкадуеш, а ты...

Нечакана і для самой сябе і тым больш для Аляксея яе голас задрыжаў, у ім адчувалася крыўда:

— Вы ўсе глядзіце на мяне як на рабочага каня, а я — жанчына... Я нарадзіла чацвёра дзяцей, Лёшык яшчэ зусім маленькі...

Трохі супакоіўшыся, яна дадала:

— Калі б мне прапанавалі быць завучам трохі раней, то яшчэ можна было б падумаць, а цяпер... На маіх плячах сям'я, работа, гаспадарка — хіба гэтага мала?

Аляксей слухаў яе і не вымавіў ні слова. Ён, падалося Надзі, хацеў зразумець сэнс таго, што пачуў ад яе. І ўсё адно, адчувала, ён вельмі хацеў, каб яна была завучам: прапаноўваюць жа і загадчык райана, і дырэктар школы. І гэта крыўдзіла: Аляксей — чалавек добрай душы, спагадлівы, мала калі не разумеў яе, а вось тут яны не паразумеліся.

Божачкі! Як хутка і несупынна ляціць час! Здаецца, Ірына вярнулася з Поўначы толькі ўчора, і Надзя не хацела, каб яна, прапісаўшыся ў яе доме, не ўздумала атабарыцца тут назаўсёды.

А цяпер Надзя ў сваіх харомах адна. Цішыня ў доме. Ціха тут з таго часу, калі Ірына з Самсонам і Настуляй перабраліся на сваё селішча. Нядоўга будаваліся Ірына з Самсонам — трохі болей як год. Зямельны ўчастак для дачкі расстаралася Надзя. Нагледзеў той участак Самсон, але ён не мог атрымаць яго ў прыватнае карыстанне. Больш-менш прыдатныя мясціны адводзяць пад будоўлю людзям заслужаным — франтавікам, вэтэранам працы...

Надзя хадзіла ў райвыканкам да землеўпарадчыка, прасіла, каб адвялі зямлю пад будоўлю не ў балоцістым месцы — лепшыя ўжо занятыя, але ў яе,

прызналася, ёсць на прыкмеце свабодны куточак. Добра, што не забыла ўзяць з сабой даведку, якую некалі выдаў ёй камандзір партызанскага атрада. Землеўпарадчык, чалавек ужо немалады, прачытаў даведку, ссунуў з вачэй на лоб акуляры ў тонкай, бліскучай металёвай аправе, уважліва паглядзеў на яе, вымавіў:

— Трафіма Пракопавіча я ведаў — перад вайной мы сустракаліся ў абкаме партыі. Я знаў яго добра, ён — чалавек чэсны, калі піша, што вы выконвалі яго баявыя даручэнні...

У добрым куточку пабудавалася дачка. Паблізу сенакосны луг, наводдаль сасновы лес, у якім зранку да вечара стракочуць сарокі, сойкі, угакае аўдотка. А над лугам кружацца буслы, у выжарынах, там, дзе лазнякі і ўсё лета не высыхае вада, водзяцца кнігаўкі, кулікі ды качкі, несціхана крумкаюць жабы.

— Дзякуй, мамачко! Лепшага месцейка для свайго селішча і не прыдумаць, — абняла ды расцалавала яе Ірына, калі яны прыехалі паглядзець на пляц, неўзабаве на якім павінна пачацца будоўля. — Ты ў маёй хаце будзеш самым жаданым госцем.

— Ох, донька мая! Калі гэта здарыцца? — уздыхнула Надзя. — Колькі я жыву, столькі і будуюся. То пасля вайны з Аляксеем у вёсцы ставілі хату, потым ужо тут, у горадзе...

Ірына ўладкавалася на работу туды ж, дзе Самсон шафёрам — у быткамбінат. Яна прыёмшчыцай у хімчыстцы. Зарплата, вядома, не тое, што на будоўлі. Але ж каб працаваць на будоўлі, трэба здароўе, там жа трэба восенню стынуць на холадзе, зімою на марозе, падымаць вёдры, насілкі з растворам, з цэментам, фарбай.

Ірына толькі згадае, як гарбацілася на Поўначы, дык ад тых згадак крывіцца, моршчыцца і час ад часу скардзіцца маці, што рукі ўсё яшчэ баляць, не сціхаюць.

Самсон быццам зарабляе нядрэнна, бо што ні кажы, а ён усё-такі на дзвюх работах упраўляецца. Але ж заробку таго не хапае і на будоўлю, і на пражыццё. Настуля падрасла, яна ўжо ў старэйшых класах, ёй хочацца апранацца-абувацца ў што-небудзь моднае, сучаснае. А дзе ж на ўсё набрацца грошай? Вось і ўладкавалася Надзя ў піўбар мыць посуд, прыбіраць куфлі са сталоў. Яна саромеецца гэтай сваёй работы, баіцца, што хто-небудзь з Вострава зойдзе ў піўбар і ўбачыць, як яна прыбірае са сталоў парожнія куфлі. Тады хоць скрозь зямлю ад сораму праваліся. Але ж да яе невялікай пенсіі заробак на гэтай рабоце — важкі прыварак.

Выпівохам забараняюць прыходзіць у піўбар са сваім спіртным. Забараняць то забараняюць, але ж не выганіш таго, хто насуперак усім забаронам прыходзіць са сваёй бутэлькай гарэлкі ці віна, бо калі строга трымацца забароннага правіла, то тады піўбар хоць зачыняй — хто ў яго ходзіць, акрамя гэтых выпівох? Парожні посуд, бутэлькі, выпівохі пакідаюць у піўбары. Надзя той посуд збірае і складвае ў сваёй пасудамыйнай баковачцы, а потым пры-язджае Самсон, грузіць у РАФ і адвозіць у пункт прыёму шклотары. Надзя падлічыла — за месяц таго посуду збіраецца не на адну сотню рублёў. Гэта значна болей за яе пенсію і зарплату пасудамыйкі. Словам, выпівохі, што наведваюць піўбар — Надзіны «фундатары». Амаль усю зарплату і выручку за здадзеныя бутэлькі Надзя аддае Ірыне, але ўсё ж трохі выкройвае, каб паслаць якіх рублёў дваццаць-трыццаць Лёшыку. А як жа — ён ужо дарослы чалавек, студэнт. Яму хочацца апрануцца і абуцца калі ўжо не ў самае шыкоўнае, то і не выглядаць задрыпанцам.

Ірына з Самсонам купілі дом пад знос тут жа ў райцэнтры. Раскідалі-перавезлі яго, нанялі работнікаў скласці. Дом яшчэ не такі і стары і калі знад-

ворку абкласці яго цэглай, то хопіць таго дома і на Ірынін з Самсонам век, і на Настулін.

Мо трохі больш як год будаваўся Ірынін дом. Яго абклалі белай цэглай і выгляд у дома даволі прыстойны. Да яго прыбудавалі прасторныя сенцы-веранду, паслалі новую падлогу і столь, уставілі новыя вокны і дзверы. Другі год Ірына з Самсонам жывуць у сваім доме. Другі год Надзя зусім адзінокая, Лёшык жа вучыцца ў інстытуце замежных моў на перакладчыка.

У выхадныя, свабодныя ад работы ў піўбары дні, Надзя наведваецца да Ірыны. Балазе, да яе дома з цэнтра горада ідзе аўтобус. Ехаць хвілін пятнаццаць—дваццаць.

Ірына працуе то ў першую змену, то ў другую. Надзя наведвае дачку, калі ёй на работу ў другую змену.

— Мо, маці, пакаштуеш пірага з грыбамі? — пытаецца Ірына. — Самсон на днях скокнуў у лес,назбіраў трохі абабак, маслякоў, лісіц.

Там, дзе рос Самсон, тайга, неабсяжныя лясы і ягад, грыбоў процьма. Самсон — грыбнік з грыбнікоў, ён любіць блукаць па лесе, любіць пару, калі растуць грыбы.

Надзя не адмаўляецца ад пачастунку. Бо самой няма калі пячы пірагі. Дарма, што яна на пенсіі, але з-за работы свету белага не бачыць. То ў піўбары, то дома адно, другое, трэцяе... Восень ужо, трэба грубкі напаліць, трэба ў агародзе адно выкапаць, ссекчы да пашаткаваць капусту... Ёй адной ці многа трэба? Але яна і гуркоў з таматамі назакатвала, і капусты насаліла, і... А потым то Ірына папросіць адзін-другі трохлітровы слоік салення-варэння, то Святланін муж, Жэня, наведаецца і хіба яна выправіць яго з пустымі рукамі?

— Перабірайся, маці, да мяне, — кажа Ірына і пры гэтым не зводзіць з яе позірку. — Хіба ў мяне месца мала? Жыві сабе спакойна, а то ты адна ды адна. Замкні сваё селішча — і да мяне.

Надзі прыемна чуць гэтыя словы ад дачкі — значыць яна турбуецца, непакоіцца пра сваю маці. Вядома, у дачкі было б добра. Не трэба паліць грубкі, насіць дровы з павеці ў снегапад, у мяцеліцу...

— Скажаш ты, Ірына... Перабірайся да яе... А на каго я пакіну хату? А сад, агарод? Без догляду ўсё ў адначассе зачахне, прыйдзе ў заняпад.

— Прадай ты сваё селішча. Купцы знойдуцца. Ці ў твае гады даглядаць гэтакі дом з садам ды агародам? Прадай і купі двухпакаёвую кватэру з выгодамі. Захочаш — жыві ці ў мяне, ці ў кватэры з выгодамі.

Надзя глыбока задумваецца. Мо і праўда трэба зрабіць так, як раіць дачка? Бо здароўя ўсё менш ды менш, ёй ужо і цяпер зімою цяжка ўпраўляцца адной у доме і каля дома. Хіба гады не бяруць сваё?

— Ведаеш, Ірына, я хацела, збіралася табе сказаць...

Ёй хацелася даўно падзяліцца з дачкой гэтымі сваімі думкамі. Але ўсё адкладвала, усё неяк не выпадала. Ды і сорамна трохі, бо тут такое... А раптам дачка не зразумее яе: як гэта так? Яна хоча трэці раз выйсці замуж?

— Міша, сусед, добрай душы чалавек, — пачала яна гэтую дужа далікатную размову. — Ён заўсёды пацікавіцца, як я сябе пачуваю, як мае дзеці... Калі мне нездаровіцца, то ён і грубкі прапаліць, у магазін сходзіць купіць хлеба, таго-сяго... Пагаманю я з ім іншы раз — і адхлыне з душы ўсё змрочнае ды неспакойнае.

Пакуль яна гаварыла, Ірына маўчала. Яна пазірала некуды ўбок, стала задумнай і Надзя не магла зразумець, як дачка ўспрыняла яе словы, што яна ўрэшце параіць маці?

Не кажучы ні слова, Ірына раптам устала, пакінула яе адну. Было ясна: дачцэ не па душы гэтая размова. Яна і ў думках не дапускае, што маці можа сысціся з Мішам. Надзі стала балюча і крыўдна. Чаго каштавала ёй, каб падняць Ірыну на ногі, каб выратаваць яе ў час вайны, толькі ведае адна яна, Надзя, а дачка, аказваецца, эгаістка, не разумее сваю родную маці, не, не разумее.

З невясёлым роздумам яна выпраўляецца ад Ірыны дадому...

Калі ў вокнах пачынае шарэць, Надзя ўстае, апранаецца, ідзе ў залу, уключае святло і першае, што кідаецца ёй у вочы — партрэт Святланы за шклом кніжнай шафы. Дачка пазірае на яе сумна-журботнымі вачыма, бы хоча сказаць, што яна спачувае ёй, сваёй маці, бо хіба гэтакай яна, маці, уяўляла сваю старасць?

Надзя плача. Плача, не стрымліваючы слёз. І толькі калі чуе, што ў дзверы нехта стукаецца, спахопліваецца, выцірае даланёй слёзы і кіруецца да ўваходу.

Адчыніўшы дзверы, бачыць суседа Мішу. Ён стаіць, сутуліўшыся, пацепвае ад холаду плячыма, перамінаецца з нагі на нагу. Восень, ночы халодныя, а Міша лёгка апрануты. На ім пінжак, спартыўнае чорнае трыко, на галаве мяты, заношаны капялюш, на нагах растаптаныя карычневыя туфлі.

— Чаго табе не спіцца? — пытае Надзя і запрашае Мішу праходзіць, бо і яна лёгка апранутая, восеньскі холад даймае і яе.

— Не кажы, суседка, не спіцца дый годзе, — Міша праходзіць да стала, што на верандзе, садзіцца на стульчак.

— Я зараз, — Надзя запальвае газ, ставіць на пліту чайнік, разагравае ў патэльні, што на пліце, мяса і бульбу, рэжа хлеб. — Давай разам паснедаем, — кажа яна. — Мне трэба спяшацца ў піўбар, сёння ў мяне першая змена.

Паснедаўшы, яны паспяваюць яшчэ аб тым-сім пагаварыць. Надзя згадвае, што дачка раіць ёй прадаваць селішча і купляць кватэру з выгодамі, каб не дбаць пра дровы, пра тое, каб выпаліць грубкі... Міша, пачуўшы гэта, робіцца невясёлы. Надзі яго настрой зразумелы. Ён, мабыць, усё яшчэ спадзяецца, што яны, нарэшце, сыдуцца. Мішыны дзеўкі павыходзілі замуж, сын яго ўжо дарослы, апошнім часам недзе ў Расіі на заробках. Да бацькі наведваецца за год раз ці два. Мішы ў яго хаце ўжо трохі і цеснавата. Пайшлі ўнукі, у кожнай дачкі свая сям’я, свае клопаты, ім ужо быццам і не да бацькі.

— І што ты вырашыла? — пытаецца Міша і сам адказвае на сваё пытанне. — Я б на тваім месцы не спяшаўся пазбаўляцца селішча. Тут ты сама па сабе, а ў шматпавярховым доме як у вуллі з пчоламі — ад шуму-тлуму галава забаліць.

Надзя слухае Мішу, разумее, чаму ён не раіць ёй пазбаўляцца селішча, цяжка ўздыхае і спахопліваецца — пара бегчы ў піўбар, півахлёбы, мабыць, ужо стаяць пад дзвярыма, чакаюць, калі адчыніцца іхняя забягалаўка...

Аляксей канчаткова не вырашыў, куды яму падацца — ці ў школу намеснікам дырэктара па гаспадарчай частцы, ці ў калгас падводчыкам. Пасля таго, як школу скончылі і ў ёй пачаліся заняткі, ён быццам узяў сабе водпуск для роздуму і тым часам заняўся лазняй. Захацелася яму, каб у іх была свая лазня з парыльняй, полкамі, венікамі і розным іншым неабходным начыннем. Ён і лесу паспеў выпісаць, выразаць яго, акарыць ды ачасаць і прывезці на тое самае месца, дзе, намеціў, лазні і стаяць.

— Адпачнуў бы хоць які год, — паўшчувала Надзя мужа. — Не паспеў выпрагчыся з адной работы, а ўжо хочаш брацца за другую.

На гэта Аляксей адказаў коратка:

— Пакуль здароўе пры мне, то трэба лазеньку зладзіць. Як без яе? Мыцца ўвесь час у балеі ды ў сажалцы?

Шабашнікі, тыя самыя, што ўзводзілі школу, узяліся за калгасны клуб. Новы старшыня калгаса, які змяніў Сілу Пятровіча, занарадзіў іх на гэтую работу тым, што абяцаў добрыя заробкі, нядрэннае харчаванне, асабістага повара-кашавара. Новы старшыня калгаса сватаў і Аляксея ў прарабы да шабашнікаў.

— На будаўніцтве школы, — знарок падхвальваў ён Аляксея, каб той не ўздумаў адмовіцца ад яго, старшынёвай, прапановы, — ты зарэкамендаваў сябе, то табе і карты ў рукі. Раённыя архітэктары праект клуба склалі, твая задача, каб усё, што ў праекце, было даведзена да ладу без адступленняў і лішніх выдумак.

Старшыня калгаса — былы ваенны, яго воінскае званне — маёр. Маёр-старшыня з густым басам, даволі строгі і патрабавальны, зваць яго Паўлам Каленікавічам. Аляксей разумеў, што Павел Каленікавіч не даруе яму, калі клуб пад яго, Аляксея, кіраўніцтвам будзе ўзводзіцца абы-як, таму і не спяшаўся даваць сваёй згоды. Выбар занятку ў яго быў як ніколі — і ў школу клічуць, і ў падводчыкі, і ў прарабы. Але ўсё памянялася нечакана. Раптам захварэла карова — не магла стаць на ногі. Паклікалі ветэрынара і той, як след агледзеўшы яе, сказаў, бы агрэў абухам па галаве:

— Наўрад ці паправіцца ваша Чорная — яна захварэла на пазваночнік, штосьці ў яе са спінным мозгам, можа, застудзілася зімой, вось тая прастуда вылазіць ёй бокам.

Надзя ледзь не загаласіла ад роспачы:

— Як жа нам без кароўкі? Наша Чорная такая ласкавая, а што ўжо малочніца... Дзе такую другую ўзяць?

— Я вас вельмі добра разумею, — казаў ветэрынар, чалавек гадоў пяцідзесяці, у накінутым паўз верх пінжака белым незашпіленым халаце, з ёмістай карычневай сумкай у руках, у якой яго ветэрынарскі інструмент, самыя неабходныя лекі для жывёлы. — Але мая вам парада — пакуль не позна, то прырэжце на мяса. Мяса сёння ў цане, у горадзе на рынку прадасце — выручыце капейку і купіце сабе кароўку. Толькі не марудзьце, бо схуднее Чорная ўвачавідкі. А што ж вы хочаце — гэткая хвароба зваліла яе з ног...

Старшыня калгаса даў грузавіка, каб Аляксей адвёз у горад мяса. На гарадскім рынку ён з дня ў дзень прадаваў па кіло, па два — хто колькі прасіў ці выразку з шыі, са сцегнякоў, косткі-рэбры... Гандаль ішоў не надта каб, бо побач з Аляксеем стаялі іншыя вясковыя гандляры. Хто прадаваў бараніну, хто свініну або цяляціну. Канкурэнцыя запавольвала продаж, але куды было падзецца, трэба прадаваць...

Тым часам, калі гандляваў на рынку, Аляксей жыў у гарадской гасцініцы. У вольны ад гандлю час ён блукаў па гарадскіх вуліцах, кварталах, ускраінах, чамусьці заглянуў у «Зелянгас» і сустрэўся, пагаварыў з яго кіраўніком, чалавекам яшчэ даволі маладым, з густам апранутым, гаманкім і, як паказалася Аляксею, дапытлівым і дружалюбным.

Кіраўнік «Зелянгаса» распытваў Аляксея пра яго вясковае жыццё, пра сям'ю, пра тое, чым ён займаўся апошні час і да чаго больш за ўсё ляжыць яго душа. Аляксею ён дужа спадабаўся сваёй шчырасцю, далікатнасцю, тым, што яму цікава было ведаць, чым жыве і дыхае вось гэты незнаёмы чалавек, якога прывялі ў горад нечаканыя абставіны. Аляксей не таіўся, казаў, што вось цяпер ён нібы беспрацоўны, яго клічуць на работу і туды і сюды, але ён канчаткова пакуль не вырашыў. Дый адпачыць трохі трэба, бо ўвесь час, пакуль будавалася школа, не знаў ні выхадных ні праходных.

— Лазеньку сваю хачу збудаваць, — раптам згадаў Аляксей, што сцёбачку ён то зладзіў, а на лазню толькі выразаў і падрыхтаваў лесаматэрыял.

— Ідзіце да нас у «Зелянгас», — раптам прапанаваў яму кіраўнік «Зелянгаса». — Дадзім вам участак зямлі, будуйцеся, — і дадаў: — Як я зразумеў, будоўля — ваша стыхія.

Ён нібы зачараваў Аляксея. Вярнуўшыся ў Востраў, Аляксей дастаў з кішэні выручаныя за прададзенае мяса грошы, Надзя тут жа пералічыла іх і ледзь не расплакалася:

— Чаму так мала? Хіба за гэтую суму мы зможам купіць карову?

Але Аляксеевы думкі былі заняты зусім іншым і ён гэтага не ўтойваў:

— Перавязу дзерава, з якога збіраўся ладзіць лазню — складу хаціну, буду ў ёй жыць, тым жа часам залью падмурак. Пастаўлю дом з цэглы, ага, цаглягны дом, канечне, не такі цёплы, як з дзерава, але атынкую яго знутры, знадворку, уцяплю столь, падлогу...

Адразу Надзя не паверыла, што Аляксей усё вельмі добра абдумаў і не на жарт сабраўся мяняць вёску на горад. Хіба мала паклаў ён здароўя, каб давесці да ладу вясковы дом, каб пасадзіць і выгадаваць сад каля дома, агарадзіць яго, каб зладзіць сцёбачку для захоўвання гародніны, выкапаць у двары калодзеж... І што? Кінуць-рынуць тое, на што патрачаны гады і ў белы свет? Дый хіба маладзён Аляксей? Трохі за пяцьдзясят яму, у такім узросце пачынаць усё з нуля — трэба страціць розум.

Пра тое яна і сказала Аляксею словамі, ад якіх, спадзявалася, ён мо працверазее, адумаецца, зразумее, што яна не згодная з ім і не пагодзіцца нізавошта і ніколі.

— Што я рабіцьму ў тым тваім горадзе? Я звекавала вясковай настаўніцай, звыклася з гэтай работай і нічога іншага не жадаю і не хачу. Дрэва, якое прынялося, пусціла глыбока карані, ніхто не перасаджвае.

— Я тут рачкую, рачкую, а што маю? — стаяў на сваім Аляксей. — А дзеці? Якая тут у іх перспектыва? А ў горадзе, маючы ўласны дом...

— Глядзі, каб потым не пашкадаваў, — дадала яшчэ Надзя і падумала, што апошнім часам Аляксей пачаў мяняцца, стаў нейкім маўклівым, замкнутым, загадкавым і гэтая яго замкнутасць не падабалася Надзі.

— Горш, чым тут, не будзе, — заспакойваў яе Аляксей.

Не пераканала Надзя Аляксея і пашкадавала, што некалі сышлася з ім, нарадзіла ад яго двое дзяцей... Неўгамонны чалавек Аляксей, з характарам. Гэта ж трэба, каб у яго гады зрывацца з абжытага селішча і перціся невядома куды і невядома дзеля чаго. Так думала яна. Але Аляксей думаў зусім інакш. Вясковае жыццё далося яму ў знакі, ён усе свае жылы парваў, трымаючы гаспадарку, жывёлу, даглядаючы агарод, бо без яго, без сваёй гаспадаркі ў сяле ніякага жыцця.

Аляксей дагаварыўся з Хведарам Таццяны Карчуніхі, каб той перавёз сваім «Кіраўцам» дзерава, падрыхтаванае для лазні: з таго дзерава ён збіраўся зладзіць у горадзе часовае жыллё. Хведар ахвотна згадзіўся, сказаў, што абавязкова перавязе, прычэпіць да трактара аўтапрычэп і справіцца з гэтай работай за адзін рэйс. Толькі, сказаў, трэба папрасіць старшыню калгаса, каб ён даў дазвол і даў каманду бухгалтэрыі выпісаць пуцявы ліст, бо без старшынёвага дазволу і без пуцявога ліста ён не мае права выпраўляцца ў далёкую дарогу. Надзя хадзіла ў калгасную кантору, прасіла старшыню і не сказаць, што ён дужа ахвотна дазволіў Хведару Таццяны Карчуніхі, каб той збіраўся ў далёкі рэйс...

За адно лета скідаў Аляксей на сваім гарадскім пляцы часовую хаціну і пачаў залiваць падмурак будучага дома. І калі ён толькі пасправаў рабіць усё

гэта? Трэба ж было кожны дзень хадзіць на работу ў «Зелянгас»: на падводзе-аднаконцы ён вазіў мяхі з зямлёй, арганікай, з кветкамі-расадай ды дрэўцамі-саджанцамі. Жанкі ды мужчыны-зелянгасаўцы высаджвалі кветкі з дрэўцамі на гарадскіх клумбах, на кветніках, у парку... Пасля працы Аляксей спяшаўся на пляц, каб працягваць заліўку падмурка, каб пасkладваць цэглу, якую прывезлі з цагельні і скідалі ў кучу на двары. Падмурак яшчэ не гатовы, а ён ужо тым часам і пра цэглу паклапаціўся.

А на выхадныя вяртаўся ў вёску, дзе яго чакала Надзя, дзеці, чакала шмат работы, якую акрамя яго ніхто не мог зрабіць.

Святлана ўжо скончыла дзевяць класаў, дзеўчынёха хоць куды і Аляксей забраў яе з сабою ў горад. Жыць цяпер у горадзе ёсць дзе, школа пад бокам, а яму памачнікі трэба на кожным кроку. Аляксей усё больш настойліва зваў у горад і яе, Надзю, але яна пакуль на пераезд не сабралася ні з духам, ні з думкамі.

Магчыма, яна так і не пагадзілася б з Аляксеем, засталася б у вёсцы да канца сваіх дзён. Але, ідучы на заняткі ў школу, дзе яна па-ранейшаму настаўніцай пачатковых класаў, міжволі пачала заўважаць хаты, двары, дзе не чутна людскіх галасоў, дзе гароды заглушыла пустазелле, стаўбуром, быльнягом. Насельнікі гэтых двароў і хатаў паз’язджалі хто куды. Адны падаліся да дзяцей, што атабарыліся ці ў горадзе, ці яшчэ дзе. А іншыя сарваліся з наседжанага гнязда на нафтавыя радовішчы, што недзе не надта далёка, але і няблізка. Асталяваліся там навечна, бо нафтаносныя пласты, здавалася, невычэрпныя. Вось і Аляксею раптам захацелася паспытаць іншага, не вясковага, хлеба. І гэтае яго жаданне было моцнае, неадольнае. Надзя не змагла мужа пераканаць, каб ён не дурэў, заставаўся ў Востраве, бо што выйдзе з гэтых пераездаў-пера募бораў — невядома.

Ад гэтых думак рабілася нядобра. Што ж будзе з Востраўскай школай? Калі будзе ўсё больш і больш апусцелых двароў і хатаў, то хто пойдзе ў школу? Выходзіць, яе, Надзін, клопат аб будоўлі ў Востраве васьмігадовай школы памылка? Але ж хіба адна яна хацела гэтага? Усе радаваліся, святкавалі, калі, нарэшце, пры ўваходзе ў Востраўскую васьмігодку можна было прачытаць добразычлівыя, мілагучныя словы «Сардэчна запрашаем»!

А, можа, усё яшчэ пераменіцца? Можа, дарма яна азмрочвае сябе нядобрымі думкамі? Мо гэта ад таго, што цяпер яна адна з Лёшыкам, а Аляксей са Святланай наведваюцца дадому ў вёску бы ў госці?

Дайшоўшы да таго месца, дзе ўзводзіцца калгасны клуб, яна спынялася, бы толькі от зараз, у гэтую хвіліну, заўважала, што клуб падведзены пад страху, будаўнікі ладзяць кроквы, падшываюць франтоны, устаўляюць вокны, дзверы. Глядзіш, міне зусім нямнога часу і клуб напоўніцца людскімі галасамі. Тут жа, у гэтым новым памяшканні, размесцяцца пошта, фельчарска-акушэрскі пункт, калгасная бухгалтэрыя, праўленне калгаса, бібліятэка.

Яна згледзела маладога шабашніка, таго самага, які кватаруе ў Домны і ад якога Домніна Таццяна ўжо нарадзіла хлопчыка. Надзя не раз бачыла, як малады шабашнік разам з Таццянай прагульваліся з каламажкай, у якой пасопвала немаўля. Яна ўзіралася ў Таццяну, бачыла яе задуменнасць. Тое, што ў яе нарадзілася дзіця, канечне, Таццяне ў радасць. Але ж малады шабашнік не запісаны з ёю, не рэгіструе дзіця на сябе — хіба ад гэтага парадуешся? Ён і затрымаўся, мабыць, таму, што іншага выйсця не было, бо клуб яшчэ не скончаны, а вось калі скончаць, то ён хутчэй за ўсё ногі ў рукі і Таццяна толькі яго і бачыла. Жыве чалавек адным днём, а пра тое не думае, што маладыя гады не вечныя, сплывуць, бы вясенняя паводка, а што потым?

Так думае-разважае Надзя, гледзячы на новы калгасны клуб. І ўсё ж настрой у яе мяняецца. Раз будуюць клуб, разважае яна, значыць клапоцяцца пра заўтрашні дзень. З'язджаюць вяскоўцы ў свет? Адны з'язджаюць, другія прыязджаюць. Аграномы, настаўнікі, механізатары ў Востраве ёсць са сваіх, востраўскіх, але не ўсе — шмат хто прыехаў, пасяліўся тут навечна, назаўсёды. Адныя занялі тыя сялібы, што пуставалі, а іншым калгас пачаў узводзіць белакаменныя катэджы. Ля таго поля, дзе школа, з'явілася новая вуліца з гэтых катэджаў...

Яна паварочвае галаву ў бок Домнінай хаты, бачыць дуб з ссечанымі галінамі-сукамі, на самым версе якога буслінае гняздо. Сёлета бусляняты вывеліся ў сваю пару, падраслі, падужэлі за лета, вунь кружацца над вёскай, над поплавам, над лесам — рыхтуюцца да адлёту на поўдзень. А вясною зноў вернуцца сюды, абудзяць Востраў радасна-ўзбуджаным клёкатам. Без гэтага дуба, на якім яны звілі гняздо, без палёў і балот, дзе яны пасвяцца ад вясны да восені, ім не жыць. Там, на далёкай чужыне, ім сняцца прасторы, дзе ўсё роднае, звыклае. Ці ўбачыць іх яшчэ калі-небудзь Надзя? Аляксей атабарыўся ў горадзе і ўсё кліча ды кліча яе да сябе, і яна сэрцам адчувае, што ёй неўзабаве давядзецца расставацца з Вostравам, са школай, з людзьмі, да якіх яна прыкіпела душой і без якіх не ўяўляе свайго існавання.

Хаціна, якую наспех скідаў-сабраў Аляксей, каб было дзе жыць, пакуль ён не паставіць тут, на гарадскім пляцы, цагляны дом, падалася Надзі ўтульнай, абжытай. Дарма, што Аляксей мужчына, а ў хаціне і чыста, і прыбрана, ложкі засланыя, ад печы, што пры самым уваходзе, ідзе на хату цяпло. Трымаць парадак, канечне, дапамагала бацьку Святлана.

Убачыўшы Святлану, Надзя схапілася за галаву: дачка была цяжарная. І калі гэта і ад каго яна паспела зацяжарыць?

— Я днямі то на рабоце, то вярнуся з работы і хапаюся за адно, за другое, — бы апраўдваўся Аляксей.

— Чула мая душа — не на дабро пакідаем Востраў, не, не на дабро, — не ўтойвала Надзя таго, што яна сама не свая, бо дачка не паспела скончыць дзясяты клас, а вунь ужо з якім чэравам. — Будзеш, мужанёк, гадаваць байстручаня, будзеш, а дзе ж ты падзенешся, дачка зрабіла дык зрабіла бацькам падарунак.

— Не рві дарма на сабе валасы, — заспакоіў яе Аляксей. — Не байстручаня народзіць Святлана, яе кавалер ні на крок ад яе. Ён так і лашчыцца да мяне, словы харошыя ўсё гаворыць, усё набіваецца ў зяці. А куды цяпер дзявацца, калі наша донька гэтакая ранняя? Трэба даваць згоду — хай ідуць у ЗАГС і рэгіструюць шлюб.

Аляксеевы словы трохі заспакоілі, але не зусім. Хіба гэтакай долі хацела Надзя Святлане? Спадзявалася, што вось скончыць яна школу, паступіць у інстытут, атрымае дыплом, будзе вартым спецыялістам, Надзя будзе ганарыцца ёю. Няхай, думала, у Ірыны склалася не так, як хацелася маці, то хоць ужо ў Святланы няхай будзе ўсё па-людску. Але хіба ў жыцці бывае так, як хочацца?

Неўзабаве яна пазнаёмілася і з зяцем. Ён з тутэйшых, жыве з маці ў прыгарадзе, працуе электрыкам-высотнікам, ладзіць высакавольтныя лініі электраперадачы. Даволі рухавы, непаседлівы, гаваркі ды цікаўны да ўсяго на свеце. Зваць яго Валодзем. Дзе толькі падчапіла яго Святлана? Але ж падчапіла, ды так, што ходу назад няма. Аляксей ім задаволены, бо Валодзь, вярнуўшыся з работы, увесь час круціцца каля Аляксея, робіць усё, што яму Аляксей ні зага-

дае. А работы той непачаты край, бо хоць ужо і выведзены сцены, устаўлены вокны, паслана падлога, столь, трэба брацца за веранду... Усё трэба, трэба, трэба. І на ўсё трэба грошы, многа грошай. Усё, што Надзя зберагла са сваёй настаўніцкай зарплаты, ішло на будоўлю.

Вясковы дом яшчэ стаяў на месцы замкнёны і ацішэлы. Часам Надзя разам з Аляксеем ды Валодзем збяруцца — і на аўтавакзал, адкуль у Востраў ідзе рэйсавы аўтобус. Там, ля вясковага дома, на агародзе нявыкапаная бульба, капуста, буракі, а ў садзе паспелі антоны, штрыфелі, грушы. Аляксей кажа, што трэба прадаць вясковы дом за любыя грошы, бо ў яго не стае здароўя ўпраўляцца з агародам у вёсцы, у горадзе. Аляксей скардзіўся, што ад работы ён знясілеў. Надзя яму на гэтыя яго скаргі нічога не казала, бо добра бачыла, што апошнім часам Аляксей стаў непадобны сам на сябе — схуднеў, змізарнеў, на ім адна скура ды косці. І яна баялася, вельмі баялася, каб ён не занядужаў, не захварэў, бо як жа, калі не дай бог зляжа, заканчваць дом? Яна толькі згадвала, што прасіла-маліла Аляксея не зрывацца з вясковага селішча. Але надта ён паслухаў яе.

Тым часам, калі яны наведваюць вясковае селішча, Надзя ўвойдзе ў дом, яе палоніць ціша і сум, якія пасяліліся тут. Яна ўслухоўваецца ў гэтую ціш і чуе галасы Аляксея, Святланы, Ірыны, чуе свой уласны голас. Ёй здаецца, што з ёй, бы жывыя істоты, размаўляюць сцены, вокны, дзверы і просяць, каб яна не пакідала іх, заставалася тут даўжэй, бо гэтыя ціш, сум ды адзінота невыносныя. Надзі балюча слухаць тое, што ёй гавораць сцены, вокны ды дзверы і яна барзджэй кіруецца на двор, прастуе на агарод: трэба выкапаць бульбу, ссекчы капусту...

Святлана нарадзіла хлопчыка, і Аляксей быў неймаверна рады свайму першаму ўнуку. Валодзь да таго часу паспеў ужо зарэгістраваць шлюб са Святланай, і гэта трохі суцішыла тую сумятню, што была пасялілася ў Надзінай душы, калі яна ўпершыню ўбачыла дачку цяжарнай.

— Займай, дачка, любы пакой у новым доме, ты гэтага заслужыла, — калі Святлану прывезлі з раддома, сказаў Аляксей. — Каму, каму, а табе і мне самому будоўля дома далася ў знакі.

Дом усё яшчэ даводзіўся да ладу, а ў часовай хаціне ўсім раптам стала цесна. Яно і вядома — сям'я ж павялічылася.

— Дзякуй, бацька, на добрым слове, — Валодзь пачаў называць Аляксея бацькам, а Надзю маці, і Надзя з Аляксеем хутка прывыклі да гэтага, прывыклі да размоў з Валодзем, бачылі ў ім чалавека сур'ёзнага, строгага і, думалася, што Святлане пашэнціла — за Валодзем яна бы за каменнай сцяной — не загіне. — Але...

Валодзь, мабыць, не чакаў, што Аляксей скажа, каб Святлана з ім ды сынам займалі ў новым доме любы пакой, і таму быў вельмі ўзрушаны. Бо і Надзя і Аляксей не хавалі сваёй незадаволенасці тым, што дачка, не скончыўшы школу, зацяжарыла і вось калі ласка — яна ўжо маці, яна ўжо з немаўлём на руках.

Паўза зацягнулася, бо, вымавіўшы «але», Валодзь якую хвіліну маўчаў, бы раздумваў — гаварыць ці не гаварыць тое, што круцілася ў яго на языку.

— Што ты, Валодзь, хацеў сказаць, — бы падштурхнуў яго Аляксей — Хіба я раблю што-небудзь не тое і не так? Ці мо я пакрыўдзіў цябе нечым? Дык ты кажы, не саромся, цяпер мы адна сям'я.

— Калі на маёй рабоце даведаліся, што ў мяне нарадзіўся сын, то адну з кватэр, якія выдзяляюць нашаму энергатрэсту, вырашылі пакінуць за мной. Усё-такі я не самы апошні работнік у сваім калектыве. У мароз, у завіруху,

калі абрываюцца правады, то каго перш за ўсё выпраўляюць ліквідаваць абрыў? Нас, маладых. А раз так...

Надзя слухала зяця, не верыла, што Валодзь сказаў пра кватэру не дзеля жарту. Бо ён з Аляксеем адзначылі нараджэнне сына і ўнука, былі на падпіцці, вось Валодзь і не маўчыць пра тое, што яго непакоіць, не выходзіць з галавы.

Але яна памылялася — праз нейкі час Валодзь з'явіўся дадому з ордэрам на кватэру. Ён быў дужа асалавелы, ледзьве варочаў языком: паспеў ужо адзначыць атрыманне ордэра. Надзя толькі і сказала Святлане: ордэр — гэта добра, але хіба добра тое, што Валодзь без меры прыкладваецца да чаркі? Раней за ім гэтага не заўважалася: жывучы разам з імі, Валодзь трымаў сябе ў рамках, Надзя ні разу не бачыла, каб ён напіўся да блёкату, а тут... Стаў самастойны, незалежны ад іх, вось і сарваўся, не вытрымаў. Надзя толькі цяжка паўздыхала — чым гэта скончыцца?

Неўзабаве адзначылі наваселле. Святланіна з Валодзем двухпакаёўка на трэцім паверсе, у новым мікрараёне, але дрэнна, што вокнамі выходзіць на ажыўленую вуліцу.

— Прывыкнем да шуму, — супакоіў сябе і Святлану Валодзь. — Галоўнае, што ў нас свой куток, і мы нікому нічым на абавязаныя.

Надзя бачыла, што і дачка, і Валодзь сапраўды шчаслівыя — у іхнія гады мець свой асобны куток хіба не радасць, не шчасце?

У душы Надзя таксама святкавала, бо хоць Святлана і не захацела вучыцца, але хіба жаночае шчасце не ў сям'і, не ў дзецях?

Надзіна свята, на жаль, працягвалася нядоўга: раптам захварэў Аляксей. Давялося выклікаць «хуткую», якая адвезла яго ў бальніцу. Дактары не ўтойвалі, што ў Аляксея вельмі цяжкая хвароба, якая амаль не паддаецца лячэнню.

З часовай хаціны яна перабралася ў цагляны дом: пакуль Аляксей качаўся ў бальніцы, людзі, якіх даводзілася наймаць увесь час, калі дом пакрысе рос, набываў абрысы будучага ўтульнага жылля, скончылі яго, атрымалі разлік і Надзя з Валодзем ды Святланай перанеслі, перацягнулі дамашні скарб з хаціны ў дом. Надзя прыкупіла яшчэ тое-сёе з мэблі, усё расставілі, развесілі па сваіх месцах і дом выглядаў і знутры, і звонку хоць куды, жыві ды радуйся.

Аднак асаблівай радасці не было. Аляксея выпісалі з бальніцы, але ён згасаў на вачах і ўсім было знаццё: яго дні на гэтым свеце палічаны. Што Надзя прадчувала яшчэ там, у вёсцы, тое і збывалася. І цяпер гадаваць, падымаць на ногі меншага сына ёй адной. А таму трэба паклапаціцца пра тое, на якія сродкі існаваць. Перабраўшыся з вёскі ў горад, яна так нідзе і не ўладкавалася. Жыла тым, што зберагла з настаўніцкай зарплаты дый Аляксей кожнага месяца атрымліваў зарплату, гэтага хапала на самае неабходнае. І ў рэшце рэшт прадалі вясковы дом. Доўга не рашаліся прадаваць селішча ў Востраве, але трэба было заканчваць гарадскі дом, а грошай на ўсё неставала...

Бесперапыннага стажу ў яе было дастаткова, каб афарміцца на пенсію трохі раней пенсійнага ўзросту. Да таго ж і партызанскія гады таксама залічаны ў яе працоўны стаж. Тым, хто ваяваў на фронце, знаходзіўся ў шэрагу народных мсціўцаў, год залічваецца як два.

Яна звярнулася па сваім пенсійным пытанні ў аддзел сацыяльнага забеспячэння з даведкаю, якую выдаў ёй некалі Трафім Пракопавіч Кандратаў, з лістом з ваенкамата, у якім паведамлялася, што яе муж Цімафей Платонавіч Кравец, верны воінскай прысязе, загінуў як герой і пахаваны ў брацкай магіле... Толькі от цяпер Надзя згадала, што з Аляксеем пражыла дваццаць гадоў,

нарадзіла ад яго двое дзяцей, але шлюб з ім не рэгістравала, заставалася на прозвішчы Цімафея...

Ёй афармілі пенсію як удаве загінуўшага воіна.

Кожны раз, калі Ірына наведвала маці і бачыла, што яна ці шчыруе на агародзе, ці выпальвае грубкі, пыталася:

— Шукаць купцоў на хату?

Надзя не спяшалася з адказам і год, і два, і тры... А дачцэ, калі тая паўтарала адно і тое ж пытанне, казала:

— Для чаго Аляксей збудаваў гэты дом? Для каго збудаваў ён яго? Тут мне ўтульна, адзінока праўда, але я выйду з дома, сяду на ўслончык і дыхаю, дыхаю... Тут я не хварэю, яблычак ці грушу сарву і з’ем, цыбуля, кроп, бурачок, гурок ды капуста са свайго агарода... Не, пакуль у мяне ёсць трохі здароўя...

— Глядзі, маці, бо калі станеш нездаляшчай... Я ўжо знайшла купцоў, яны хочуць купіць твой дом сабе пад дачу.

— Канечне, на гэтакую хароміну ахвотнікі знойдуцца, а што ж: дом на ўскраіне горада, побач лясок, дзе спяваюць птушкі, дзе вясной можна пускаць бярозавік...

Але паступова, пакрысе да Надзі даходзіла, што Ірына клапоціцца аб ёй, бо старасць ужо на парозе, і каб жыць у старасці ў сваім доме, трэба здароўе, а яно не прыбаўляецца — гады бяруць сваё.

Са сваімі сумненнямі яна кіравалася да Святланы, бо малодшая дачка ў яе разважлівая, спакойная, абы чаго не скажа і не параіць. З замужжам, праўда, не пашанцавала Святлане — Валодзь да таго распіўся, што ніякіх тармазоў у ім не стала. Іншы раз нап’ецца, а назаўтра ўвесь дзень пахмяляецца. Ніякая работа яму не наўме, а за якую трасцу жыць? Сын расце, яго трэба карміць, абуваць, апранаць.

— Разыдуся я з ім, — як аб вырашаным, рашуча сказала аднойчы Святлана маці.

— Аб чым ты, донька, гаворыш? — Надзя не на жарт перапалохалася, пачуўшы ад дачкі гэтыя словы. — У вас расце сын, як яму без бацькі? Цяпер свет гэтакі бядовы — без бацькі ён адаб’ецца ад рук.

Святлана з характарам. Сказала — і зрабіла, і калі аднойчы Надзя з’явілася да дачкі, Святлана спакойна, вельмі нават спакойна паведаміла:

— Я праперла яго. Падаю ў суд на развод і на падзел кватэры.

Надзя зразумела — спрачацца з дачкой бескарысна. Яна калі ўжо надумала што, то хоць кол на галаве чашы — не пераставіць. Вунь як з тым жа замужжам. Яна ж была яшчэ зялёная смаркачка, дзесяцікласніца, але як закахалася ў Валодзю, то з-за таго кахання і школу кінула.

— Ох, донька ты мая горкая! — заўздыхала, нібы прадчуваючы нешта нядобрае, Надзя. — Рабі, як хочаш, але я на тваім месцы...

Трохі супакоіўшыся, Надзя пачала гаварыць, што Ірына кажа, каб яна прадавала селішча і купіла сабе кватэру з выгодамі.

— Паслухайся Ірыну, яна раіць варты варыянт, — Святлана, мабыць, душой адчула, што сястра непакоіцца пра маці, пра яе заўтрашні дзень. — Свой дом, вядома, добра, але ж за ім патрэбен мужчынскі догляд.

Надзя хацела сказаць, што Міша, сусед, усё набіваецца ёй у сябры, і от ён якраз і не раіць мяняць дом на кватэру, няхай сабе і з выгодамі. Але яна чамусьці не стала гаварыць Святлане аб гэтым, падумала, што дачка можа зразумець яе няправільна. Болей да гэтай размовы яна не вярталася. Надзя з Лёшыкам

часцяком наведваліся да Святланы, каб памыцца ў ваннай, каб пабыць у дачкі, пагаварыць з ёй аб тым, як яна збіраецца жыць далей, бо Святлана як прагнала Валодзю, то так і не пусціла яго назад. У яе ўжо завёўся новы кавалер, ён усё часцей і часцей стаў пападацца Надзі на вочы, калі Надзя з Лёшыкам або адна з'яўлялася да дачкі. Ён быў даўгалыгі і тонкі, як дубец, увесь час чамусьці вінавата ўсміхаўся, пазбягаў уступаць у размову з Надзяй і было незразумела, ці ён такі сарамяжлівы, ці яго гняло тое, што Святлана яшчэ не разведзеная, а ён ужо нібы прыняўся да яе ў прымы.

Аднойчы Надзя спытала ў дачкі:

— Ці не надумала ты, Святлана, другі раз выйсці замуж?

Адказам Святлана ашаламіла:

— Надумала, я чакаю ад Жэні дзіця.

— Ты ж яшчэ не развялася з Валодзем, як ты так магла?

— Развядуся. Я падала заяву ў суд на тым тыдні. Суддзя, прымаючы заяву, спытала аб прычыне разводу. Я ёй усё начыстату...

Надзя ніколі не разумела Святлану, не пагаджалася ў душы з тым, што яна іншы раз рабіла што-небудзь, асабліва не задумваючыся. Вось і цяпер. Не паспела развесціся з Валодзем, а ўжо сустракаецца з Жэнем. І справы з ім вунь як далёка зайшлі... Цяпер ад дачкі яна толькі і чуе: «Мой Яўген сказаў... Мой Яўген не Валодзь — у той бок, дзе збіраюцца выпівохі, нават не гляне». Надзі хацелася верыць, што дачка на гэты раз не памыляецца, выбіраючы сабе мужа. Але ж на першым часе яна была і Валодзем задаволена. А яно вунь як усё павярнулася...

Святлану суд развёў і кватэру пакінуў за ёй, бо Валодзь, тое пацвердзілі ў судзе і сведкі-суседзі, паўгода не жыве па адрасе, дзе прапісаны...

Аднаго за другім Святлана нарадзіла ад Жэні двух хлопчыкаў, але нечакана захварэла тою самай хваробай, ад якой памёр яе бацька...

Каторы час пасля пахвання Святланы Надзя ўсё яшчэ жыла ў сваім цагляным доме, але паступова зразумела, што трэба гаварыць Ірыне, каб яна цяпер дапамагла ёй памяняць дом на кватэру з выгодамі. Шкада, вядома, расставацца з домам, з садам, з агародам — прывыкла яна да ўсяго гэтага, усёй душой прыкіпела, а як яно будзе на кватэры — хто яго ведае. Тут да яе і Міша заўсёды загляне, пагамоніць з ёй, скажа добрыя, ласкавыя словы, і адыдзе, прападзе гняўлівы неспакой...

Ірына не марудзіла. Знайшла купцоў на гарадскі дом вельмі хутка. Адначасова сачыла за аб'явамі ў мясцовай газеце, дзе амаль у кожным нумары можна было прачытаць аб'явы, што на той ці іншай вуліцы прадаюцца кватэры — двух ці адна, ці трохпакаёвыя.

Атрымаўшы грошы за прададзены дом, Ірына тут жа тыя грошы ўручыла ўладальнікам двухпакаёўкі. Дачка знарок выбрала кватэру і вуліцу, што ў якіх сотні метраў ад яе селішча.

— Калі захочаш, маці, тады і прыйдзеш да мяне, гэта зусім блізенька, на аўтобусе дабірацца не трэба, — Ірына, канечне, стамілася, намарылася, пакуль вырашала матчына кватэрнае пытанне, і цяпер з палёгкай уздыхнула, бо не давядзецца больш непакоіцца, што маці гаруе адна, што канчаюцца ў яе дровы, не выпалены грубкі і ў хаце холадна, а зіма ўся яшчэ наперадзе.

Пакоі асобныя, светлыя, вокны вялікія, адчыняюцца-зачыняюцца лёгка, з форткамі, калі душна, то можна адчыніць фортку, каб праветрыць пакой. Але, галоўнае тое, што ёсць цэнтральнае ацяпленне. Хоць на старасці яна параскашуе ў кватэры, дзе халодная і гарачая вада, ванная, туалет, газ.

Устаўшы завідна, яна ўмыецца, прычэшацца перад доўгім авальным люстрам, што ў пярэдняй. Яна ўзіраецца ў сябе і не пазнае сама сябе: няўжо гэтая немаладая, з блакітна-шэрымі вачыма, з ілбом, пасечаным доўгімі папярэчнымі складкамі, і ёсць яна, Надзея Нічыпараўна Кравец, да нядаўняга часу настаўніца пачатковых класаў Востраўскай школы?

Чамусьці згадваецца Цімафей, той час, калі ён праводзіў яе за сяло, на шлях пасля летніх студэнцкіх канікулаў. Якая гэта была шчаслівая пара ў яе жыцці, і, здавалася, той пары не будзе канца...

Яна робіць колькі крокаў да кніжнай шафы, бярэ ў рукі фотаальбом з цвёрдай шэрай вокладкай, садзіцца на канапу і пачынае гартаць.

Вось яна з Цімафеем у садзе каля квітнеючай яблыні. Абое шчаслівыя, усмешлівыя, па-святочнаму апранутыя. Калі гэты здымак быў зроблены? Напярэдадні вайны. Як даўно тое было, але яна добра помніць вясновы дзень, калі заезджы фатограф завітаў да іх у вёску, і яна разам з Цімфеем апрануліся ў свае лепшыя строі і барзджэй у квітнеючы, бела-пенны сад, дзе іх чакаў фатограф...

А вось яна ўжо з Аляксеем. Аляксей сядзіць на стульчаку каля акна хаты, дзе цвітуць вяргіні. Ён трымае на руках маленькую Святлану. Побач з ім стаяць Надзя, Дзіма, Ірына...

А на гэтым здымку яна на другім паверсе Востраўскай васьмігодкі каля расчыненага акна. Глядзіць у бок поля, дзе тонка вызвоньваюць даспелыя аўсы...

Як хутка, як непрыкметна адшугалі яе маладыя гады. Розныя былі тыя гады, але яна ацалела ў вайну, нарадзіла і выгадавала чацвярых дзяцей, выправіла іх у дарогу, на якой і надзеі, і расчараванні, змрок і святло.

Звоніць тэлефон. Ён у пярэдняй на тумбе. Добра, што ў яе цяпер ёсць тэлефон. Яна пагаворыць і з Дзімам, і з Лёшыкам.

За Дзіму яна спакойная. У яго ўсё ладзіцца на рабоце, у сям’і. У яго ўжо амаль дарослыя дзеці — дачка і сын. Нявестка, яго жонка, настаўніца. Выкладае ў школе хімію.

Дзіма звоніць і пытае, ці прывыкла яна да сваёй новай кватэры, ці не хварэе, запрашае да сябе, кажа, што яе заўсёды чакае ён, яго дзеці, яе ўнукі, чакае Валянціна, яго жонка.

Надзя расчульваецца, дзякуе за запрашэнне, думае, што нядрэнна было б адведаць старэйшага сына, але гады ўжо такія, што далёкая дарога палохае яе.

Іншы раз звоніць і Лёшык. Ён недзе ў Алжыры, у нейкім горадзе Анаба. У гэтым горадзе ёсць прафесійна-тэхнічнае вучылішча, у якім працуюць выкладчыкі-беларусы. То Лёшык, Аляксей Аляксеевіч, перакладчыкам, перакладае з рускай на французскую тое, што гавораць выкладчыкі.

Лёшык пакуль халасцякуе, але ў сваіх кароткіх лістах, якія шле ёй з Анабы, робіць намёк, што хутка яго халасцяцкае жыццё скончыцца. Надзя не можа даўмецца — хто ж яго нявеста? Мо якая маладая выкладчыца з тых, што працуюць у прафесійна-тэхнічным вучылішчы, дзе Лёшык перакладчыкам?

Пагаварыўшы па тэлефоне ці з Дзімам, ці з Лёшыкам, Надзя вяртаецца ў залу, дзе канапа, кніжная шафа, тэлевізар, садзіцца на канапу і адчувае, што на душы ў яе лёгка і хораша. Яна ганарыцца сваімі сынамі. Цяжка было падымаць іх на ногі, але ж падняла, вывела ў людзі.

## Васіль МАКАРЭВІЧ



### АНЁЛ

Заслаў ён пер'ем,
Быццам снегам, дол
І ганак з рэўматычнымі прыступкамі.
Жыве ў мяне дзесь пад акном анёл, —
Заступнік лепшы ад усіх
Заступнікаў.

Жарствы чуцён
Скрыпучы зычны хруст
У ранння пад калянаю падэшваю,
Калі ядлоўцу, ў шэрых патлах, куст
Вятрыска гайдане, як прывід
Дэрвіша.

Ядловец-чмут,
Ён грэшнік-ерэтык.
Таму і нараканне тое ж, даўняе, —
Чаму ён днямі ледзьве не ўпрытык
Сядзіць з яго, анёльскімі,
Ўладаннямі?

Здружыўшыся
З гаркотным палыном,

---

***Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч*** *нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Квадратура круга» (2000), «Неба ў руках» (2012) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2013).*

Дзе носіць галаву змяя з каронаю,
Ён вяглядае беды з насланнём
І да мае гасподы іх
Скіроўвае.

Хоць воз маны
Ў мой бок ідзе, паўзе
І тоне ад цяжару аж па ступіцы,
Ды ў цемрадзі вячэрняй ці смузе
Ён да мяне і блізка
Не падступіцца.

Дзе дождж ідзе
Ў святлістым каптуры
І коламі трамвай па стыках клацае, —
Ах, колькі мой заступнік пратурыў
Сурокаў д’ябла з рознымі
Пракляццямі!

Сам паспрабуй
Хоць плётку скалупні,
Што ліпне ды трымаецца сляпіцаю.
А ён махне крылом — і, як сляпні,
Інтрыгі, зайздрасць навакол
Асыплюцца.

Як ля мяне
Ні лютаваў дракон,
Ні насылаў са снегам вецер з сіверам, —
Святло заззяла, хлынула з ікон,
І здырдзіўся ён пад калом
Асінавым.

Магчыма,
Затужыў, як ветрагон,
Занадта я па кіпарысах з пальмамі.
Ў кусце не гасне, а гарыць агонь
Біблейскай купіною
Неапаленай.

## РАЗВІТАЛЬНАЕ

Вясна спяшае з чатырох бакоў,
Між дрэў мільгае шэраю спадніцай.
Капеж сячэ лядок, што капаніцай,
І чуцен стук лядовых ступакоў.
Не дачакаўшы з выраю шпакоў,
Па голлі скача шустрая сініца, —
Куды з сямейнай ціхае святліцы
Сышоў ці з’ехаў Янка Сіпакоў?

Сярод альховых вострых спічакоў
Зімы ледзь бачна белая званіца.
Яшчэ імгненне — можа ціш заліцца
Трывожным брэхам лютых ганчакоў.
Лясун, сяброў і родных супакой,
Што удваіх з вясною-маладзіцай
Пад Оршаю у лесе заблудзіцца
Мог, ля Зубрэвіч, Янка Сіпакоў.

А хто не знае, што спакон вякоў
Снягі карболкай пахнуць і бальніцай.
Ціш узнялася сярод хвой капліцай,
Не баючыся снежных скразнякоў.
Маўчыць паднебны ток з усіх такоў.
Няўжо мне прычаўплося, а ці сніцца, —
Блінамі ў свет праводзячы грамніцы,
Услед ідзе і Янка Сіпакоў.

Лампадак, можа, сорак саракоў
Палае у снягах ды сыра мгліцца.
Чамусьці пахне ладанам і гліцай
Вось гэты сакавік з сакавікоў!
Прыйшлі паданні, казкі з саснякоў.
І хочацца ім шчыра памаліцца
За грэшную душу, што часам сніцца
Ды патанае ў глыбіні вякоў.

* * *

*Соф'і Марозавай*

Сустрэнецца
Шчырунчя і разумніца,
Што, як унучка, возьме за руку
І боцікаў не скіне, не разуецца, —
Цябе перавядзе
Цераз раку.

Жарства на дне
І круціцца, і мелецца,
Нібыта ў жорнах, у крутых вірах.
Ну а ў каго адолець хопіць смеласці
Той шлях, што вёў у грэкі
Аж з вараг?!

Хаця, бывае,
Часам і няможацца,
Вісіць перад вачамі смог-туман, —
А з ёю, прыгажуняй-спадарожніцай,
Гатоў пусціцца ты
І ў акіян!

Там, дзе атолы
Збіліся падводамі,
Куды дапяць спрабуюць халады,
Натурыцца цеплацэнтраль падводная, —
З Гальфстрымам недзе, пэўна,
Нелады.

Мільёны тон
З падзем'я нафты выцекла.
Ды мне сказаць пра іншае карціць, —
Што можна нават і шрубкі, і вінцікі
Ў цеплацэнтралі ўмела
Падкруціць.

Запэўніць шчыра
Пасейдона хочацца,
І ён са мной пагодзіцца, відаць, —
Вось з гэткаю красуняй і памочніцай
Гальфстрыму можна смела
Рады даць!

Падвоны бог
Раздзенецца, разуецца.
Дасць храпака. А што яшчэ рабіць?!
Як хараша, што гэткая разумніца
На белым свеце можа
Сёння быць!

## БАЛАДА

Гэта вам не казка, не пагудка,
І няма чаго маўчаць, таіць, —
Воблачка стаіць над вёскай суткі,
Не плыве нікуды, а стаіць.

Выбегу на ганак з роднай хаты
У гудзенне пчол і злосных вос, —
Зноў яно з паставай зухаватай
Над сялом стаіць, як сена воз.

Да яе не йдуць з-за лесу хмары.
Не махне крылом стары вятрак.
Хоць бы для прыліку гром ударыў,
Ці пракапаў дождждык проста так.

Ноч праходзіць, ранак выплывае.
Луг шуміць, ды моўкне вадаём.
І пыліць дарога палявая, —
Нізка хмарка вісне па-над ёй.

Можа, гэта нейкае пракляцце
Ці нядобры і таемны знак?
Вецер у варотцах клямкай клацне,
Ад ракі пацягне зух-скразняк.

Можа, пасланец Дняпра ці Віслы?
Можа, валакуша з валакуш?
Хмарка па-над вёскай скрушна вісне.
А вакол стаіць сухмень ды суш!

Дзесьці ходзяць ветры ў Антарктыдзе.
І зямля даўно ўжо просіць «піць».
А над вёскай хмара больш, як тыдзень,
Бы цяля на прывязі, стаіць.

Свецяцца скрыжалямі Стажары.
Прытаіўся ветрык і не дзьме.

...Да вайны Айчыннае пажару
Дзве гадзіны і хвіліны дзве!

* * *

Кроплі смольныя
Ўзбліснуць цырконіем,
Што шчарбіны ствалоў залілі.
У сасонніку заціш царкоўная,
Свежым ладанам пахнуць
Камлі.

Дні за днямі
Прайшліся тут коламі
Дый вятрыскамі ўсцяж адгулі.
А падсочка на соснах — іконамі,
І вякоў дым віецца
Ў галлі.

* * *

Прыхіну да падушкі шчаку.
Вокны бліскаюць шклом, нібы совы.
Толькі каліўца сну адшчыкну,
Як ізноў на нагах і — з касою!

Травы сцелюцца. Ранне імжыць.
У туманах палошчуцца вербы.
Ну а пожня ў пракосах ляжыць,
Як з субтропікаў збеглая зебра.

* * *

Бабахаў бубен. Чуўся рэзкі свіст,
І ён ляцеў уверх, да Арыёна.
Іграў на лаўцы хлопец-гарманіст,
Мяхі расцягваў аж на тры раёны.

І пад усплёскі зуха-шчупака
На бераг — з чарацінамі-баграмі —
Увечар лезла ў духаце рака,
Каб краем вока глянуць — хто іграе?

* * *

Сланечына ў Прыдзвінні
Заснула на градзе.
А вокал перадзім’е
Ад халадоў гудзе.

І вецер памятае
Пра часу крутабег,
Зямлю там падмятае,
Дзе ляжа першы снег.

* * *

Перапалох і гул на ўсю акругу.
Ну што ж, ізноў запоем запіла
Ды ў сасняку раве, нібы звяруга,
На сотню галасоў бензапіла.

Зіма са снежнем пушчу паланілі —
Смаловы пах над снежнаю градой.
Нібы праз марлю цэдзіць пілавінне —
З сасновым пахам свежы сырадой.

* * *

Снягі вакол гарнуў я і араў
Шырокай самаробнаю лапатай,
Калі ён, ранак, аб’яўляў аўрал
І наступаў мяцеліцы на пяты.

А за шырокай дзверыной шкляной
Свяціліся — я чуў! — чыесьці вочы.
Не знаў, што не зіма, а ты за мной
Сачыла з сарамяжнасцю дзявочай.

* * *

Як шчаслівы дружны смех,
З-пад аблок сплывае снег.

Ну а потым, як смяшок,
Дробны сыплецца сняжок.

Следам лёгка, як усмешка,
Ў шыбу звонка дзынкне снежка.

І над тынам, як смяшынка,
Плаўна кружыцца сняжынка.

* * *

Палонка, што вока,
Якому відно, —
Наколькі далёка
Пясчанае дно.

Рака не пялёхне.
Знямела. Маўчок!..
Нырае ў палонку
Драпежны кручок.

* * *

А світаннем за дымнымі лозамі
Чуцен голас гучней і званчэй —
Ці то енчаць снягі пад палоззямі,
Ці то жаліцца віяланчэль?

## СЛОВА

Каб слова не знала абраз,
Сынам дасталося у спадчыну,
Яго пакладу за абраз
У хаце пакінутай матчынай.

Зацяты маўчун, то крыкун —
Навошта таіцца і скрытнічаць? —
Іграць яму будзе цвыркун
Уночы на лютні ці скрыпачцы.



Лідзія АДАМОВІЧ

# ЗАЛАТАЯ СЦЯЖЫНКА ПОЎНІ

*Аповесць*

Хто б мог падумаць, што звычайнае купанне ў рэчцы абернецца такой непрыемнай гісторыяй? Пятнаццацігадовая дачка Тэклі Стоцкай, мясцовай даяркі і механізатара Адася Стоцкага з Вішнёўкі, ішла вечарам, пад поўню, з фермы, дзе дапамагала маці, ды паваліласа ці то ў гразь, ці то ў гной. Яна так выпацкала сукенку, што прыйшлося да рэчкі ісці, каб памыцца. Але ж ці ведала гэта дзіця, Настачка, прыгажуня ды разумніца, ціхмяніца ды выдатніца ў школе, ува што выльецца тое яе вечаровае купанне ў першы дзень поўні?

А выйшла вось якая гісторыя. З таго часу, на каго з мужчын Настачка ні гляне, няхай ён ці жанаты, ці халасцяк, разумны, або не — пачынае сохнуць па ёй. Не ведала бедная дзяўчына, куды сябе дзець, пакуль не з’ехала з вёскі ў Мінск, вучыцца. Вывучылася на настаўніцу, ды ў іншую вёску паехала працаваць. І вось, як прыехала яна туды, тое ж самае і пачалося: і стары, і малы, і малады — усе ў Настачку ўлюбляліся. А яе сэрцайка было закрыта. Нікога не кахала яна. Не атрымлівалася. Так яна некалькі месц працы змяніла, пакуль ёй старая Марфа-варажбітка не сказала: «Поўня цябе пашкодзіла! Адно выйсце цяпер у цябе, дзяўчына: тры месяцы купайся ў вадзе маладзіковай, затым — тры месяцы — у вадзе на збыта!» Зрабіла гэтак Наста — і ўсё, як рукою зняло. Перасталі да яе мужчыны заляцацца, пакінулі ў спакоі. Нядаўна Настачка вярнулася ў родную вёсачку. Пад трыццаць ёй ужо цяпер. Настаўніцай працуе ў мясцовай школе...

Гельтруда Корчыч, падганяючы гусей да рэчкі, казала: «Гыля-гыля, гускі шэрыя!» — і радавалася: добры на гэты год прыплод: і мяса будзе, і пер’е на падушкі. Пяцёра дзяцей у яе з Нічыпарам, чатыры дачкі: Гэлька, Маня, Вера і Зоська, і сын, Веньямін. Бацька так назваў яго, у гонар нейкага святога, а ў школе хлопца — Венікам клікалі. Але ён і розумам, і абліччам невядома ў каго ўдаўся: усе дзеці бялявыя, а Веньямін, чарнявы, бы цыганятка. Да навукі хлопец дужа здольны. Матэматык, універсітэт скончыў, праграмістам працуе, нядаўна кватэру сабе прыдбаў. Кажуць, у Мінску кватэры дарагія, а вось

---

*__Адамовіч (Казлоўская) Лідзія Канстанцінаўна__ нарадзілася 24 жніўня 1960 года ў вёсцы Клівы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага.*

*Працуе дырэктарам Мікалаеўшчынскага Дома фальклору на Стаўбцоўшчыне.*

*Аўтар кніг «Першая запаведзь» (1995), «Кветкі самотнай князёўны» (1999).*

Венька купіў, зарабляе шмат. Гельтруда з Нічыпарам мала яму дапамагаюць, толькі калі прадуктамі. Нічыпар мог таксама настаўнікам стаць, але ж пасля школы, як пабраліся шлюбам з Гельтрудаю, нікуды не пайшлі вучыцца. Нічыпар — музыкант-самавучка. Крыху ў клубе на гармоніку грае, ды ў школе. А Гельтруда, хоць і на «выдатна» дзесяцігодку скончыла, але ж, як замуж выйшла, на ферму падалася. Праўда, была ў яе і тайна свая, з-за чаго яна так хутка замуж паляцела. Грэх мела, з другім, не з Нічыпарам. Хлопца таго ўжо даўно ў гэтых мясцінах няма. Як некуды з'ехалі ягоныя бацькі з хутара, калі калгасныя палі пашыралі, так нібы ў ваду канулі. Недаспадобы прыйшлася ім хата ў вёсцы, якую сям'і калгас выдзеліў. А ў Гельтруды было каханне з іхнім сынам, ды такое каханне, што яна, на выпускным вечары, і галаву ад шчасця згубіла…

Вось іншы раз Гельтруда і думае, што Венька яе, мусіць не ад Нічыпара, але муж маўчыць, то і ёй добра. Венька рэдка бывае дома, як быццам і не іхні. Ганарысты, усё пыжыцца, вядома, у сталіцы жыве. А як-ніяк, брат дваюрадны Настачцы прыходзіцца. Нічыпар Корчыч і Тэкля Стоцкая — брат і сястра. Вось, каб Венька добры быў, ды радніўся са сваякамі, дык забраў бы Настачку з Вішнёўкі, з глухамані гэтай, дзе яна настаўніцай працуе, ды ў Мінску ўладкаваў бы. Прападае дзяўчына адна, а прыгажуня ж, а разумніца, а працавітая! «Трэба ўсё-ткі паўшчуваць Веньку! — вырашыла Гельтруда. — Хай ёй хлопца добрага ў Мінску нойдзе!»

Лета стаяла ў разгары, а пляменніца якраз была ў водпуску. Што ёй у вёсцы марнавацца!

Наста Стоцкая адамкнула ключом дзверы сталічнай кватэры Веньяміна Корчыча. Апошні раз свайго дваюраднага брата бачыла яна, як той універсітэт скончыў і ў вёску на лета прыехаў. Стаяў у клубе і хмыліўся, танцаваць нікога не запрашаў, аднак сам быў задзірысты і ледзь не адмясіў аднаго хлопца, які, на думку Веньяміна, надта ж ужо моцна чапляўся да Насты. Менавіта з таго часу і пачала дзяўчына паважаць Веньку. Аднак, каб моцнага сяброўства паміж імі, то і не было. Брат заўсёды быў вельмі заняты і нават па тэлефоне размаўляў з сястрой коратка і спехам. Вось і сёння, калі Наста прыехала да яго ў Мінск у госці, сустрэў на вакзале, пасадзіў у сваю шыкоўную машыну, завёз дахаты, аднак да кватэры не правёў, бо некуды спяшаўся, а толькі сказаў нумар, даў ключы.

Наста ўвайшла ў кватэру брата і была премна здзіўлена шыкоўнасцю еўрарамонту і дасканаласцю дызайну. Перш за ўсё прыняла ванну, смачна пад'ела, затым уселася за камп'ютар. Веньямін, па просьбе сваёй маці, паабяцаў знайсці для Насты добрага жаніха. І ўжо вечарам брат, калі з'явіўся дадому, крытычна аглядаючы яе, сказаў:

— Ведаеш, Настуля, дзяўчына ты прыгожая, аднак апранаешся дрэнна, без густу, ды і асяроддзе, у якім ты жывеш, наклала на цябе свой адбітак. Кавалеры якія ў цябе ў вёсцы былі? У асноўным, жанацікі, п'яніцы, ды дзяды старыя. Мяняць табе тусоўку трэба! У свет цябе вывесці варта, на балі!

— На якія яшчэ балі? — мовіла сястра.

— Ды на самыя звычайныя, — адказаў Веньямін. — У дзелавым свеце круціцца трэба. Вось, напрыклад, у гэтую суботу мы з бацькам на вяселле запрошаны да аднаго бізнесмена. Я пагавару з ім, можа, і цябе возьмем. Толькі прыкід табе змяніць трэба!

— З бацькам, гэта — у сэнсе: з босам? — пацікавілася Наста.

— Ну, лічы, што так, — адказаў Веньямін. — Ён, адначасова, і мой бос.

Насця нічога не зразумела, каго мае на ўвазе брат, аднак, перапытваць не стала.

— І яшчэ, — зазначыў Веньямін. — Запомні, кожны чалавек трымае ў полі зроку той узровень людзей, да якіх ён адносіць сябе. Заўважаеш толькі дрэннае, значыць, гэта ёсць у табе. Заўважаеш толькі несамавітых мужчын — значыць, сама такая: у іх характарах пазнаеш сябе! Пачнеш заўважаць прыгажосць і прыгожых людзей, значыць, ты — сярод сваіх!

Наста старалася запомніць кожнае Веньямінава слова. Брат казаў праўду, і вельмі справядлівую праўду пра сутнасць яе характару. Дзяўчына схапіла аловак і хуценька занатавала яго словы ў свой сшытак.

— Я абавязкова стану лепшай! — паабяцала яна яму.

— Ад гэтага залежыць тваё шчасце, — сказаў Веньямін.

Да суботы заставалася тры дні, таму Веньямін, каб дарэмна не губляць часу, пазнаёміў сястру са сваёй сяброўкай Ганкай, якая, у сваю чаргу, прадставіла яе некалькім хлопцам. Аднак, нічога сур’ёзнага, акрамя вясёлай гаворкі ў сяброўскім коле, з тымі хлопцамі не атрымалася. А ў чацвер да Веньяміна ў госці завітаў Руслан, прыгожы, вясёлы хлопец, праграміст з ягонай фірмы. Хлопцы ўвесь час сядзелі за камп’ютарам. Наста нават пакрыўдзілася. А калі Руслан пайшоў, папракнула брата:

— Хоць бы мяне Руслану прадставіў! Дык сядзелі, як два прышытыя, ля свайго кампа!

— Ды ён па справах фірмы прыходзіў, — адмахнуўся брат, — новую праграму асвойвалі! А, па праўдзе кажучы, Руслік табе не пара: фанат ён, лузер. На жонку часу не будзе. Табе трэба іншы хлопец!

— Які гэта іншы? — заўпарцілася Наста. — Шмат ты ведаеш, хто мне патрэбен! Руслан — прыгожы, спраўны…

Веньямін стаяў з ручніком на плячы — у ванну збіраўся. Кашуля расшпілена, накачаныя плечы, валасы чарнявыя, хвалістыя, доўгія, і вочы чорныя, гарэзлівыя, як у цёткі Гельтруды ў маладосці.

— Табе трэба такі хлопец, як я! — выдаў Веньямін і падвёў яе да люстэрка. І ў той час, як іх постаці адлюстраваліся там, а люстэрка стаяла ля акна, выплыла з-за хмаркі поўня і адбілася ў ім, якраз над іх галовамі. Наста спалохана адхілілася.

— Не бойся, не закахаюся! — засмяяўся Веньямін. — Я — твой брат, што б там на вёсцы пра мяне ні казалі.

— А што пра цябе кажуць? — пацікавілася дзяўчына.

— Ды рознае, — адмахнуўся ён і скіраваў у ванну.

— Я поўні спужалася, — сказала ўслед яму Наста. — Ты ж ведаеш, усё, што са мной было. На тваіх вачах расла. Шмат што табе, як брату, расказвала.

— Дык прайшло ж ужо ўсё, — адказаў брат. — Цяпер, наадварот, жаніхоў прывабліваць трэба, а не ўцякаць ад іх. Ты тады ў залатую сцяжынку поўні трапіла, як у вадзе купалася. А ў тым, што поўня ў люстэрку адлюстравалася, няма нічога страшнага!

— Праўда? — спытала Наста.

— Праўда-праўда! Я ў інтэрнэце ўсё пра поўню вычытаў,— падбадзёрыў яе Веньямін. — Ідзі адпачывай і нічога не бойся!

У пятніцу раніцай, калі брат пайшоў на працу, пазваніла Ганка і прапанавала прайсціся па крамах.

— Венька даручыў мне іміджам тваім заняцца, — паведаміла яна, калі дзяўчаты ўжо крочылі па вуліцы. — Сказаў, што сёння вечарам вы на вяселле запрошаны.

— Ён яшчэ казаў, што з намі нейкі бос пойдзе, — дадала Наста.

— А, ну гэта — Аляксей Расінскі, дырэктар іх фірмы.

— А што, Веньямін з ім у добрых адносінах?

— Ну вядома! Ён жа ж Веньку і кватэру гэтую купіў!

— А за што? — здзівілася Наста. — За добрую працу, ці як?

— Ну чаму толькі за працу? — адказала Ганка. — Венька — хлопец харошы, паслухмяны, далікатны. Яны з ім, як дзве кроплі вады. Нават і характары падобныя. Ой, ну што я табе расказваю! Ты ж сама ўсё ведаеш, сястра, нябось.

Пра што яна павінна была ведаць, Наста так і не зразумела.

— Глянь! — усклікнула Ганка. — Дыск пра месяцавыя фазы. Венька сказаў, што ты цікавішся гэтым. Давай што-небудзь купім!

І пабегла да касы. Дзяўчаты зрабілі некалькі пакупак, і Наста вярнулася дахаты. Як жа ж яна абрадавалася, калі аказалася, што брат дома. Ён якраз мыўся ў ваннай. Яна чула шум вады і яго напевы: Веньямін любіў спяваць, стоячы пад душам.

— Венька! — радасна аклікнула яго Наста. — А я дыск пра поўню купіла! Вылазь з ванны, я камп уключаю! Зараз паглядзім, што азначае, калі поўня адлюстроўваецца ў люстэрку…

Наста мармытала сама сабе пад нос, устаўляючы дыск і наладжваючы праграму. Запішчала ад захаплення, калі ў яе атрымалася. Яна сядзела на канапе, спінаю да ўваходных дзвярэй і не магла адарвацца ад манітора, калі пачула ў сябе за спінаю братавы крокі.

— Праўда крута! — каментавала яна, адчуваючы прысутнасць Венькі ў сябе за спінаю. — Сядай! — махнула яму рукою. — Я з Ганкай тваёй сёння па крамах лазіла. Нічога, праўда, не купілі. Добра, што ты прыйшоў! Ты лепш разбіраешся ў іміджы, — кінула позірк у ягоны бок, калі брат сеў побач.

А потым засяродзілася, бо адчула: нешта з братам не тое. Зірнула яшчэ на Веньку і не магла ўцяміць, што ў ім перамянілася. Ён быў у той жа кашулі, што і ўчора, ці ў падобнай, але таксама ў цёмнай, расшпіленай. Накачаныя біцэпсы, доўгія, хвалістыя валасы. Не, крыху падрэзаныя, да каўняра, але такія ж хвалістыя і чорныя, як і ўчора. А вось вочы ў Венькі сёння былі іншыя. Шэрыя з зелянінай, як разводы вады ў штармавым моры, і позірк іншы, больш спакойны і ўдумлівы. І гэта быў зусім не Венька. Ці гэта быў Венька, але старэйшы за сябе год на дзесяць, ці дваццаць.

— Прашу прабачэння, — сказаў ён. — Я не прадставіўся. Аляксей Расінскі!

— Вельмі прыемна, — прагаварыла Наста.

І ў гэты час у кватэру ўвайшоў Венька.

— Прывітанне, баця! — сказаў ён Расінскаму. — Вы пазнаёміліся ўжо? То давайце тады — па салонах. Насці трэба чароўны прыкід купіць, сёння — яе першы выхад у свет. Можа, у «Мальвіну» заедзем?

— Думаю, што «Мальвіна» — гэта не сур'ёзна, — падняўся яму насустрач Расінскі. — У «Афрадыту» трэба ехаць.

Мужчыны былі падобны, як дзве кроплі вады! Як гаворыцца, «да папа не хадзі», і так зразумела: перад Настай стаялі бацька і сын. І тады яна ўспомніла, што Веньку ў вёсцы «цыганчуком» называлі. «Яму цяпер — 30, — прыкінула Наста. — Няхай у 18 год Расінскі яго «змайстраваў» цётцы Гельтрудзе, то самому Расінскаму цяпер будзе… Васямнаццаць дадаць трыццаць… Сорак восем год Расінскаму. А выглядае маладзей. Вядома, не дзядзька Нічыпар, што ад ранку да змяркання па гаспадарцы ўвіхаецца, ды чарку за каўнер закладвае.

Дагледжаны Расінскі, халёны, бы пан хвалёны! Вядома — гарадскі. Цікава, якія ў яго палюбоўніцы? Вядома, адна маладзейшая за другую!

— Наста, што ты зацыклілася? — падаў голас Венька. — Давай, збірайся. Уборы табе едзем выбіраць.

У салоне Расінскі ацэньваў Насту такім крытычным поглядам, што ёй хацелася сказаць яму нешта грубае і крыўднае, аднак яна не рашылася. Веньямін сказаў, што бацька, па-сваяцку, заплаціць за ўсе яе пакупкі, так бы мовіць, падорыць ёй, таму трэба ветліва ўсміхацца і маўчаць. Аднак Насту нервавала становішча, у якім яна апынулася, і дзяўчына цыкнула праз зубы брату:

— Я не збіраюся перад тваім бацькам скакаць на задніх лапках!

— Ды што ты нервуешся? — супакоіў яе Веньямін. — Баця хоча, каб на вяселлі ты эфектна выглядала, каб у цябе з'явіліся вартыя кавалеры, а не п'янь вясковая. Ведаеш, колькі там будзе паважаных людзей! І ты будзеш самай прыгожай, прынцэсай.

— У мяне такое ўражанне, што ён купляе мяне, — агрызнулася Наста.

— Трэба ты яму, як зайцу стоп-сігнал! У яго, ведаеш, колькі красунь! А ты — не ў яго гусце. Ён да цябе ставіцца, як родзіч. Ты ж мне — сястра, як ні як. Вось ён і стараецца...

— Гэту бяром! — сказаў Расінскі. — Я купляю гэту сукенку. Калі ласка, падбярыце дзяўчыне ўпрыгожванні і туфлі, — даваў ён распараджэнні прадаўцам.

А Наста ўздыхала і злавалася. І з такім настроем сустрэлася паглядам з шэра-зялёнымі вачыма Расінскага. Ён усё зразумеў. Падышоў да яе.

— Я зрабіў нешта не так, Наста? — ветліва пацікавіўся ён. — Ты пакрыўдзілася?

— Не! Усё — нармал, — адказала яна яму ў стылі маладзёжнага слэнгу.

Расінскі стрымана прамаўчаў. Калі прадаўшчыца падбірала для Насты ўпрыгожванні і туфлі, выйшаў з салона і накіраваўся да машыны.

— Баця твой характар паказвае, — сказала сястра Веньяміну. — Ганарысты! Мусіць, чакаў, што я ад радасці кінуся яму на шыю.

— Ты не любіш багатых?

— Я не люблю нахабных. Ён раздзяваў мяне вачыма. І перадай яму, калі ён пасмее дакрануцца да мяне на балі…

— Хопіць істэрыкі! — абарваў яе Веньямін. — Сама ў яго закахалася.

Яны выйшлі з салона.

— Я закахалася? Ды ведаеш што, паеду я назад…

— У сваю вёску, да сваіх п'яніц?

— Хопіць сварыцца! Сядайце ў машыну! — загадаў Расінскі, выходзячы з машыны і трымаючы ў руцэ партманет. — Пайду разлічуся.

Вярнуўшыся, папярэдзіў:

— Яшчэ адна міжусобіца — і ніхто з вас на баль не паедзе!

Выехалі за горад і доўга ехалі па трасе, пакуль не спыніліся ля прыгожага загараднага катэджа ў два ўзроўні.

— Ты — на першым, Наста — на другім, — коратка мовіў Расінскі, адкрываючы дзверы катэджа.

— Што гэта азначае? — шапнула дзяўчына брату.

— Мой пакой — на першым паверсе, твой — на другім. Мы прыедзем сюды нанач, пасля вяселля. Гуляем тры дні.

— А не зашмат?

— Такі рэгламент, — зазначыў Веньямін.

Яны прайшлі ў хол. Расінскі правёў Насту на другі паверх, паказаў ёй яе пакой, ванну.

— Можаш тут пераапрануцца, — сказаў ён. — Потым спусціся да каміна, пап'ём чаю і паедзем.

— Я адчуваю сябе, як у арміі, — шапнула Наста брату, калі яны аказаліся побач за столікам ля каміна. — Не хацела б я быць яго жонкай ці палюбоўніцай.

— Хто так гаворыць — сам нарываецца, — адказаў Веньямін.

— Ты лічыш, што ён не строгі? — не магла супакоіцца Наста.

— Мой бацька — паўнавартасны мужчына. Нават каралева палічыла б за гонар стаць яго жонкай.

— Куды я трапіла! — насмешліва кінула яму Наста. — Ты — такі ж самы, як ён.

— Наста, — цярпліва і стрымана сціснуў яе руку Веньямін. — Табе многае можа паказацца тут нязвыклым. Набярыся цярпення, калі ласка. Забудзь пра тых працякоў, з якімі ты сустракалася. Так, з імі было лёгка, сярод іх ты ўзвышалася, як ружа сярод пустазелля, а цяпер навучыся быць роўнай сярод роўных табе. Ты — на сваім месцы. Ты — каралева! І табе трэба быць побач з каралём. На сённяшнім балі ты выбераш свайго караля.

Расінскі падсеў да століка, кінуў погляд на руку Веньяміна, якая сціскала Насціну далонь, і брат аслабіў поціск, прыняў руку. Пачалі піць чай.

— Прычоска! — усклікнула Наста. — Мы зусім забыліся пра прычоску!

— Заедзем па дарозе ў цырульню, — сказаў Расінскі.

— Баця, на трасе цырульняў няма! — успомніў Веньямін. — А ў нас зусім мала часу, каб вярнуцца ў горад.

— Значыць, зробім прычоску самі, — адказаў той.

Ён падняўся з-за стала і пачаў корпацца ў шкатулцы. Дастаў адтуль нітку жэмчугу і падышоў да Насты.

— Я не буду надзяваць чужых упрыгожванняў! — запратэставала дзяўчына.

— Гэта не ўпрыгожванні, — сказаў Расінскі. — Я прапаноўваю табе падняць валасы і перавязаць іх ніткай жэмчугу. У цябе сукенка ў стылі «ампір», як у багіні Афрадыты, і твае валасы, пераплеценыя ніткай жэмчугу, будуць завяршаць чароўнасць твайго вобразу.

— Я вельмі ўдзячна вам за такія прыгожыя кампліменты, — адказала Наста, стараючыся трымацца ўпэўнена і незалежна, — і за ўсе вашы падарункі па падборы майго іміджу, таксама вялікі дзякуй, але…

Расінскі раззлавана адкінуў у бок нітку жэмчугу. Яму ўсё стала зразумела — упартая дзяўчына ні за што не саступіць і не возьме ўпрыгожванняў, якія належаць невядома каму.

— Наста, — сказаў ён крыху памаўчаўшы. — У цябе ёсць пятнаццаць хвілін для таго, каб падняцца ў свой пакой і самой зрабіць сабе прычоску, калі ты лічыш, што рэчы, якія я табе прапаноўваю, належаць іншым жанчынам.

З выглядам пераможцы яна паднялася з-за стала і пайшла на другі паверх. Калі вярнулася, Расінскі нават не глянуў на яе, пайшоў заводзіць машыну.

— Навошта ты яго злуеш? — мякка пачаў ушчуваць яе Веньямін. — Ты паводзіш сябе так, як маленькая закаханая дзяўчынка.

— А як паводзяць сябе маленькія закаханыя дзяўчынкі?

— Капрызнічаюць і прыцягваюць да сябе ўвагу.

— Добра, я буду сур'ёзнай, — паабяцала Наста.

Яны ўвайшлі ў банкетную залу: Наста — пад руку з Веньямінам, Расінскі — воддаль ад іх. Спачатку Наста, глянуўшы ў люстэрка, не пазнала сябе —

яна і сапраўды выглядала міла і чароўна. Значыць, Расінскі не ліслiў, а гаварыў праўду. Нават тое, што ў яе не было ніякай прычоскі, а толькі распушчаныя па плячах валасы, прываблівала мужчын. (Гэта яна таксама заўважыла).

— Я — сапраўдная каралева, — усміхнулася свайму адлюстраванню Наста.

— Ты — маленькая, капрызная прынцэса, — мовіў Расінскі, падышоўшы, і ацэньваючы яе ў люстэрку. — Каралевы носяць прычоскі!

— Каралевы — для старых каралёў, — адзначыла Наста. — А прынцэсы — для маладых прынцаў!

— Удачы табе, — сказаў Расінскі і некуды адышоў.

— Ты будзеш суправаджаць мяне? — пацікавілася Наста ў Веньяміна.

— А ты думала, што ён? — адказаў той. — Ён сам будзе лавіць сабе дам.

— Але ж многія могуць падумаць, што ты — мой кавалер, і не запросяць мяне, — занепакоілася Наста.

— А з бацям падумаюць, што дачка? — засмяяўся Веньямін. — Не, бацьку майго тут усе ведаюць, вырашаць, што ты — ягоная каханка. Тады ўжо дакладна — не запросяць. Так што лепшы варыянт — быць са мною.

Яны накіраваліся да стала. Пасля пачастункаў былі танцы. Насту пастаянна запрашалі нейкія мужчыны, гаварылі ёй кампліменты, і яна так развесялілася, так асвоілася, што ёй ужо і непатрэбен быў памочнік.

Веньямін тым часам недзе тусаваўся з дзяўчатамі, Наста ж пазнаёмілася з некалькімі дамамі, а Расінскі гаварыў з мужчынамі. Яна заўважыла, што ён толькі на пару танцаў запрасіў розных жанчын. Стрымана размаўляў з імі, відаць, гаварыў кампліменты. Нарэшце, Наста стамілася, і Расінскі, быццам адчуўшы гэта, падышоў да яе і запрасіў выйсці на балкон — там былі лавачкі.

— Ты сёння зачаравала ўсіх мужчын, — сказаў ён. — Да мяне падыходзілі двое, жадаюць з табой пазнаёміцца. Адзін — банкір, другі — утрымлівае некалькі аграсядзіб. Якім будзе твой адказ?

— Адкуль яны ведаюць, што я прыйшла з вамі?

— Цікавіліся, з кім прыйшла чароўная незнаёмка. Я сказаў, што са мною, і што ты — наша родзічка.

— Дзякую за клопат, — адказала Наста. — Аднак сёння я проста адпачываю і не маю намеру да знаёмстваў. Мяркую, што ў маім жыцці будуць і іншыя балі!

— Тады табе трэба застацца тут, а не вяртацца ў вёску, — параіў Расінскі. — Калі ты не супраць, я знайду табе працу і дапамагу наняць кватэру. У мяне добрыя сувязі.

— А чым я аддзячу вам за гэта? Малітвамі?

— Мне не патрэбна падзяка, Наста, — адказаў ён. — Ты, можна сказаць, мая зямлячка. Некалі я жыў у той вёсцы, з якой ты родам.

— Вы жылі ў Вішнёўцы? Нешта там прозвішча Расінскіх няма.

— Мае бацькі жылі на хутары. Яны з'ехалі адтуль у Мінск шмат гадоў назад. Ты не можаш іх ведаць.

— Але ж я ведаю месца вашага былога хутара, — зазначыла Наста. — Мы туды яшчэ школьнікамі ў турпаход хадзілі. Цяпер там ужо каласіцца ніва. А вы даўно былі ў Вішнёўцы?

— Я там не быў столькі гадоў, колькі гадоў Веньяміну, — адказаў Расінскі. — Нават і не ведаў, што ў мяне ёсць сын. І не здагадваўся. З Веньямінам мы сустрэліся выпадкова: ён шукаў працу праграміста і яму параілі звярнуцца ў маю фірму. Я быў у шоку. У мяне, акрамя Веньяміна, дзяцей няма. Не было часу стварыць сям'ю. Заканчваў універсітэт, потым займаўся бізнесам. Напэў-

на, гэта вельмі цудоўна чакаць дзіця, ведаць, што ў цябе хутка народзіцца сын ці дачушка. Я не перажыў гэта.

— У вас яшчэ ўсё наперадзе, — сказала Наста. — Мужчыну ніколі не позна жаніцца. Ці вы чакаеце незямную прынцэсу?

— Незямная прынцэса — гэта ты, — усміхнуўся ёй Расінскі і прапанаваў: — Пойдзем, я пазнаёмлю цябе з маладымі. Дарэчы, Маргарыта, нявеста, мае свой салон прыгажосці. Так што, пры выпадку, можна пагаварыць наконт твайго працаўладкавання. Скончыш курсы касметолага, або іміджмейкера. Гэта лепш, чым жыць на вёсцы!

— Мне падабаецца мая праца ў школе, — адказала Наста. — Аднак, я не супраць знаёмства.

Расінскі кіўнуў у знак згоды і павёў яе знаёміць з жаніхом і нявестай.

Веньямін размаўляў з дзяўчатамі, з якімі толькі што пазнаёміўся, і кінуў кароткі погляд на бацьку. Расінскі стаяў ля жаніха і нявесты, адной рукой абдымаючы Насту за талію, а другой — кранаючы яе локаць, і было ў гэтым абдымку столькі пяшчоты і блізкасці, як быццам ён абдымаў сваю нявесту. Гэта раззлавала Веньяміна. А яшчэ больш тое, што Насце, здаецца, было вельмі ўтульна ў яго абдымках. «Наіўная, вясковая прасцячка, — уздыхнуў брат, — цяпер яна закахаецца ў яго і будзе жыць марамі і ўспамінамі пра гэты казачны баль!»

Веньямін рашуча падышоў да бацькі і, моцна сціснуўшы яго руку, скінуў яе з Наставай таліі. Яны, бацька і сын, сышліся: вочы ў вочы, і ў абодвух былі непаразуменне і злосць.

— Не смей дакранацца да Насты! — прашыпеў Веньямін на вуха бацьку. — Яна — мая сястра!

Затым бацька і сын адышлі ад Насты і скіравалі па лесвіцы ў хол. Расінскі раззлавана кінуў сыну:

— Ты што сабе дазваляеш на людзях? Ты хочаш сапсаваць ім свята?

Веньямін злосна паглядзеў на бацьку.

— Не смей дакранацца да Насты! — паўтарыў ён. — Мая маці даручыла мне клапаціцца пра сястру, і яна не дастанецца такому спакусніку, як ты!

— Ты хочаш сказаць, што і маці тваю я спакусіў? — раззлаваўся Расінскі.

— Я ўсё разумею, — стрымана мовіў Веньямін. — Але цяпер я гавару пра Насту. Яна чыстая і нявінная. І я сам знайду ёй добрага мужа!

— Давай! — пасміхнуўся той. — Ідзі! Рыцар! Абаронца нявінніц!

У хол спускалася Наста. Падышла да іх.

— Што-небудзь здарылася? — усхвалявана спытала яна.

— Не, усё ў парадку, — Веньямін далікатна ўзяў яе за локаць. — Пайшлі ў залу.

Расінскі застаўся адзін.

— Наста, паслухай мяне, — пачаў брат, калі яны выйшлі на балкон. — Ты была маленькая і верыла ў казкі. Сёння — таксама казачны баль. Але заўтра наступяць будні, і ўсё можа паказацца іншым. І чалавек, які сёння выглядае казачным прынцам, або каралём, ці рыцарам, заўтра можа аказацца спакуснікам і мярзотнікам. Я разумею, табе спадабаўся мой бацька. І сёння ён для цябе — галоўны герой на гэтым балі. Аднак, ён зусім не такі, якім ты яго ўяўляеш. Ён менавіта той мужчына, які разбівае жаночыя сэрцы. Таму ён дагэтуль і не жанаты. І на табе ён не жэніцца, нават і тады, калі дасі згоду на каханне. Адзінае, што ён можа табе даць — гэта прыемныя спатканні і падарункі. А табе трэба муж, надзейны і дамавіты.

— Веньямін! — усклікнула Наста. — Я не думала ўлюбляцца ў твайго бацьку! Ты проста нафантазіраваў! Ты раўнуеш мяне да сваёй мамы і ненавідзіш яго за тое, што ён не жаніўся з ёй!

— Гэта не так! Я хвалююся толькі за цябе, — адказаў брат.

— Тады давай пойдзем адсюль, і я вярнуся ў сваю вёску, — уздыхнула яна і заплакала.

Веньямін прытуліў сястру да сябе. У гэты момант на балкон зайшоў Расінскі.

— Не смей распараджацца чужым жыццём, — сказаў ён сыну.

— Я вяртаюся ў вёску, у сваё жыццё, — сказала Наста і пайшла ад іх.

З той пары, як Наста паехала з Мінска, Расінскі ўвесь час думаў пра яе. Ён ніколі раней не быў так асеплены жанчынай, як цяпер, калі пазнаёміўся з Настай. Ягоны настрой і задумлівасць пачаў заўважаць і Веньямін. У канцы працоўнага дня ён зайшоў да бацькі ў кабінет. Прысеў у крэсла. Сказаў:

— Магчыма я вінаваты перад табою за Насту. І перад ёю вінаваты, што не засталася яна ў Мінску. Але я гатовы выправіць памылку.

— Як? — голас у Расінскага быў адчужаны і строгі.

— Я паеду па яе і прывязу сюды.

— Навошта?

— Я не меў права ўмешвацца ў вашы адносіны.

— Ідзі лепш дадому! — мовіў бацька. — Я сам разбяруся.

Летні дзень быў сонечны і ласкавы. Наста выйшла з будынка школы і пайшла па полі, каб назбіраць у жыце валошак. Чамусьці ёй захацелася пайсці туды, дзе раней быў хутар. Яна ішла, любавалася хараством поля, налітымі збажынай каласкамі, валошкамі ў жыце. І не рвала іх — яны і так належалі ёй, жывыя, прыгожыя, радавалі сэрца.

Нечакана Насту, абдаўшы пылам, абагнала цёмна-сіняя іншамарка. Крыху праехаўшы, машына затармазіла, спынілася. З яе выйшаў… Яна не паверыла сваім вачам: Расінскі. Ён накіроўваўся да яе. Падышоў. Такія чароўныя, лагодныя вочы! Вось ён той незабыўны момант, калі мужчына глядзіць на цябе з любоўю!..

— Прывітанне! — сказаў Расінскі.

— Прывітанне! — адказала яна. — Прыехалі пабачыць мясціны дзяцінства?

— Прыехаў пабачыць цябе.

Ён пазіраў на яе з пяшчотай, і яна адчувала, што яму хацелася абняць, прыгарнуць яе да сябе. Аднак Расінскі не рашаўся гэта зрабіць.

— А я дадому іду! — паведаміла Наста. — Водпуск мой скончыўся, цяпер рыхтуемся ў школе да новага навучальнага года. Можа, завітаеце да мяне ў госці? — прапанавала яна. — У мяне для вас ёсць сюрпрыз!

— Буду вельмі рады, — з удзячнасцю мовіў ён.

Тэкля Стоцкая прыйшла з паўдзённай дойкі, калі да іх хаты пад’ехала прыгожая іншамарка. Адтуль выйшла яе дачка ў суправаджэнні чарнявага мужчыны, на выгляд год на дзесяць ці больш старэйшага за Насту. Нешта знаёмае падалося ў ім Тэклі, і ў знешнасці, і ва ўпэўненай паходцы, і ва ўменні трымацца… Яна напружыла памяць: дык гэта ж так трымаліся Расінскія, хутарскія багацеі, як іх тады называлі!

Расінскія заўсёды былі ссыльнымі: пры цары, бо прымалі ўдзел у нейкім паўстанні, пры бальшавіках, бо мелі млын і шмат зямлі. Вярнуліся з Сібіры, назад у Вішнёўку, ужо пры Брэжневе. Тады людзі думалі, што Расінскія нарэшце супакояцца. Але ж не — тыя ўсё багацелі, кветкі вырошчвалі ды ў райцэнтры прадавалі, «шпікулянтамі» іх называлі. Праўленне калгаса прапанавала Расінскім пераехаць з хутара ў вёску, але яны адмовіліся, уцяклі ў горад. Вядома, у калгасе, на грамадства, рабіць не хацелі. Аляксей жа, сын апошніх гаспадароў хутара, задзірысты быў, фанабэрысты. З Гельтрудай, што за Тэклінага брата пайшла, у школе сябраваў. Мусіць, Гэлька ад яго і зацяжарыла — Венька такі ж задзірысты і фанабэрысты, як і Аляксей. Ды і чарнявы, не ў светлага Нічыпара пайшоў. Гэлька, калі гэтым жанчыны калолі ёй вочы, апраўдвалася, казала, што хлопец удаўся ў яе дзеда, дзед, кажа, на цыгана быў падобны. Мусіць, толькі адзін Нічыпар ёй і паверыў…

— Мама, пазнаёмся — гэта нашага Венькі начальнік! — жвава сказала Наста. — Я яму сюрпрыз хачу паказаць. Памятаеш, ты на хутары ружу выкапала, якраз перад тым, як хутар хацелі зносіць?

— Вялікі дзякуй вам, — мовіў Расінскі. — Будзем знаёмы: Аляксей.

Тэкля выпрамілася, кіўнула, але і выгляду не падала, што ведае яго, ведае і Аляксееў з Гэлькай раман у іхнія маладыя гады.

— Прыемна бачыць, — мовіла Тэкля і запрасіла яго ў хату.

Малаком частавала, пернікамі, у агарод вадзіла, ружу паказвала, і ўсё прыкідвала: чаму ён прыехаў, няўжо хоча з Гэлькай пабачыцца?

І іншае пытанне хвалявала яе: як жа ён Веньку да сябе ў фірму ўзяў, як знайшоў яго? Няўжо Гэлька і дагэтуль знаецца з Расінскім, здраджвае, зараза, Нічыпару?

— А фірма якая ў вас? — пацікавілася Тэкля.

— Камп'ютарны сэрвіс, — адказаў Расінскі.

— Даходная, — зазначыла Тэкля і дадала нязлосна: — Ваша радня заўсёды нос па ветры трымала. Памятаю, маці ваша ружы ўсё вырошчвала. Смяяліся з яе, не разумелі вясковыя. А яна сваю справу разумела. Вось і грошы сабралі, і з'ехалі адсюль у лепшае месца. Як, дарэчы, маці ваша, бацька?

— Дзякую, але яны ўжо ў іншым свеце, — адказаў Расінскі.

Тэкля войкнула, прыкрыўшы рот рукою і перахрысцілася.

— Мне прыемна, што вы памятаеце маіх бацькоў, — сказаў госць.

— Ды памятаю, — сказала Тэкля. — І вас памятаю, яшчэ школьнікам, — і не ўтрымалася, аглянулася, ці чуе, шапнула: — З Гэлькай вы тады сябравалі. Яна за майго брата пайшла, за Нічыпара. Можа, і правільна зрабіла, хто ведае, ці ўзялі б вы тады яе. Вясковая Гельтруда, не пара вашаму роду.

— Я нічога не ведаў пра далейшы лёс Гельтруды, — адказаў Расінскі. — Пасля школы паступіў ва ўніверсітэт, а бацькі на той час ужо выехалі з вашай вёскі. Мімалётным было маё каханне з Гэляй. Можа, так і лепш. Бог сам нас з Веньямінам звёў. Добры хлопец, добры памочнік. Адно, каб ніхто нам душы не вярэдзіў.

— Ды Нічыпар не ведае нічога, і я не скажу, — запэўніла яго Тэкля. — Спаць спакайней будзе, — і пацікавілася: — А вы жанаты?

— Не, — адказаў ён.

Паразважаўшы, Тэкля мовіла:

— Наста казала, што вы прапаноўвалі ёй у Мінску застацца. Чаму ж не засталася?

— Вёску яна любіць.

— Ды гары яна гарам тая вёска! Замуж ёй трэба, — усхвалявалася маці. — За каго яна тут выйдзе? Мы з Гэлькай думалі, што ў Мінску кавалер ёй знойдзецца, ажно — не!

— А можа, ён якраз і знайшоўся? — загадкава сказаў Расінскі.

Тэкля ўважліва глянула на яго і замахала рукамі:

— Ой, крый вас божа! Куды вам мая Наста? Вясковая яна, а вы — чалавек дасціплы. Адно, пабалуецеся ды кінеце! Хутка надакучыла б вам Наста, калі б раптам ажаніліся з ёй!

— Вы ўпэўнены, што надакучыла б? — узняў бровы Расінскі.

— Аб чым спрачаецеся, мама? — падышла да іх Наста.

— Ды вось, чалавек да цябе хоча сватацца, — сказала маці.

— Жартуеце, ці што? — Наста дапытліва зазірнула ў вочы Расінскаму.

А ён нечакана сказаў:

— Не жартую.

— Да вы што, Аляксей? — прамовіла яна. — Як жа я ў вочы Венькавай маме пагляджу, калі раптам згаджуся? Вы хочаце, каб цётка Гэля мяне праклінала, а з маёй маці і бацькам на ўсё жыццё сталі ворагамі? Не трэба вам вяртацца сюды, і нічога браць з гэтых краёў не трэба, адно што ружу з вашай сядзібы!

Расінскі ўздыхнуў:

— Дык вось ты якая, Наста! Мудра кажаш.

— Забудзьце мяне, калі ласка, — папрасіла яна. — Сюды вам зваротнай дарогі няма. Нават, калі б я кахала вас, усёроўна адмовіла б.

— Вялікая ахвярніца ты, — сказаў Расінскі. — Але ці ацэніць хто тваю ахвяру?

Ён паехаў. А маці яшчэ доўга сварылася на Насту.

— Дурніца ты! — казала. — Я па вачах ягоных бачыла: кахае ён цябе! І сэрца маё адчувае: сыдзецеся — шчаслівымі будзеце! Я ж проста так яго паўшчувала, каб даведацца, ці сапраўды ён кахае цябе. А ты яго так рэзка, так адразу і прагнала! Не пра сябе, пра людзей думала. Няўжо людзі больш для цябе значаць, чым ён? Хіба ж абавязкова трэба ўсім расказваць, хто твой муж і адкуль? Людзям чужое шчасце вочы коле. Хітрэйшай быць трэба. Едзь услед за ім, перапрасі!

— Мама! Ды што вы такое кажаце? — усклікнула Наста. — Дзе гэта бачна, каб дзяўчына сама за мужчынам бегала?

— А ты й не бегай! — павучала маці. — Ты ружу яму, з бацькоўскай сядзібы, адвязі! Не ўсю, вядома, карэньчык пакінь, каб сувязь паміж нашымі родамі не перарвалася. Не дарэмна я тады ружачку гэтую выратавала, дачушка, недарэмна! Вось ружа і аддзячыла нам. Тронак з ружы адрэж акуратненька ды ў вадзічку пастаў, няхай карэньчыкі пусціць. А з'явяцца карэньчыкі, то загортвай іх у паперынку ды, пакуль яшчэ цёпла, пакуль халады не хлынулі, вязі да Аляксея. Не страць сваё каханне! Бачу, і тваё сэрца да яго прыкіпела. Кахаеце вы адно аднаго.

Пакуль ружа пусціла карэньчыкі, Наста ўліпла адразу ў дзве гісторыі: першая — з Адасём, вясковым няўдалікам. Другая — з дзедам, год за шэсцьдзясят. На гэты раз не поўня пашкодзіла дзяўчыне, бо яна больш на поўню ў рацэ не купалася, а яе наіўнасць і занадта добрае сэрца. Адасік, няўдалец, якому было за сорак, баяўся дзяўчат, усё свайго носу саромеўся, здавалася недарэку, што ён непрыгожы. То ж Настачка, як тая дурніца, занялася выхаваннем Адасіка, у райцэнтр яго звазіла ды падабрала ва ўнівермагу адзенне, дык хлопец

у прыгажуна ператварыўся. І, замест таго, каб сабе дзяўчат шукаць, падаўся да Настачкі пад вокны.

Тое ж самае — і дзед стары. Настачка неяк пашкадавала таго дзеда, вельмі ж скардзіўся стары: сумна, маўляў, аднаму ў хаце, няма з кім пагаварыць, ніхто яму ні ў чым не дапамагае. Вось і пашкадавала яго, пачала наведвацца. Зойдзе пагаварыць, у хаце прыбярэ, што з бялізны памые. А стары ў адказ Настачцы шакаладку дасць, а то і вышытых ручнікоў для школьнага музея не пашкадуе.

Такое сяброўства дзяўчыне падабалася і яна радавалася, што музей папаўняецца экспанатамі, што дапамагае чалавеку. Але неяк стары прыйшоў да бацькоў Настачкі і прасіў каб аддалі яе яму ў жонкі. «Ніхто, — сказаў, — са мною ніколі так ласкава не размаўляў, як ваша Настачка! Жонка-нябожчыца ўсё бурчала… Вось бы мне такую жонку, як ваша Настачка. Я на яе і хату апішу, і грошай дам, каб толькі пайшла за мяне!»

Калі Насціны бацькі пасарамацілі старога, ён запатрабаваў, каб вярнула назад музейныя экспанаты. Так што плётак у вёсцы пра дзяўчыну хапіла. Тэкля аднойчы не вытрымала, ухапіла дачку за валасы і добра аддубасіла.

— Трыццаць год ужо маеш, — крычала маці, — а галава пустая!

На наступны дзень, паклаўшы ў цэлафанавы мяшэчак ружу, падалася Наста ў Мінск, шукаць Расінскага.

— Ну ты даеш, Настуля! — уздыхаў Веньямін, слухаючы расповеды сястры пра ўсё, што з ёй здарылася ў вёсцы, і пра прыезд яго бацькі. — Спачатку ўцякаеш, а потым — шукаеш. Адумалася!

Яны сядзелі ў гарадскім кафэ, недалёка ад фірмы, дзе Веньямін працаваў.

— Можа, мне тэлефон яго дасі? — папрасіла Наста.

— Ён сказаў мне, што больш нічога не хоча слухаць пра цябе, і наогул пра ваш край.

— А я ж яму парастачак вырасціла ад ружачкі з яго бацькоўскай сядзібы, — амаль плакала Наста.

— Быў час. Ты магла, як кажуць, злавіць сваю ўдачу, — жорстка сказаў брат, — а цяпер, што…

— Дык ты ж сам тады адгаворваў мяне ад Аляксея!

— Тады я не ведаў, што ён сур’ёзна да цябе ставіўся.

— Для мяне тады яго адносіны былі нечаканасцю, — прызналася дзяўчына. — У мяне ж комплекс, наконт беднасці… ды і розніца ва ўзросце. А тут яшчэ нешта не зусім зразумелае, хто каму якая радня, ці не радня…

— Пры чым тут беднасць? — абурыўся Веньямін. — А радня, дык я сам тут заблытаўся. Ведаю, што ты мне стрыечная сястра. Дык жа не па бацькавай лініі. Тут такое, што галаву зламаць можна… Чужы ён табе!.. Званю!

Веньямін дастаў мабільнік і набраў бацькаў нумар. Наста, з заміраннем сэрца, слухала, як брат хваліць яе і дамаўляецца аб «аўдыенцыі» для яе.

— Усё гатова! — весела кіўнуў Веньямін Насце, кладучы мабільны ў кішэню. — Зараз я адвяду цябе ў ягоны кабінет, і ты скажаш, што прыйшла па справе. Гавары, што маеш бізнес-план па праекце адраджэння рамёстваў яго продкаў…

— Венька! Я ўсяго не запомню! — войкнула Наста. — Задужа ж разумныя словы! Можна, я запішу на руцэ? «Бізнес-план па праекце…»

— … адраджэння рамёстваў ягоных продкаў! Запамінай!

— Ага! Запомніла! А рамёствы якія?

— Маці займалася кветкаводствам, ружы вырошчвала! А бацька быў кавалём.

— А я ж каваць не ўмею.

— Гавары! Чым больш будзеш хвалебнага гаварыць пра яго бацькоў, тым хутчэй ён памякчэе. Ён жа з гонарам! Таму хвалі яго і ягоных продкаў, хаця яны і мае таксама.

— А бабуля яго чым займалася?

— Здаецца, вышываннем! — няўпэўнена сказаў і махнуў рукою: — Не, лепш пра бабулю не кажы, проста пацікаўся, чым яна займалася.

На хвіліну яны змоўклі, потым Наста цяжка ўздыхнула.

— Бачу, ты — сапраўды кахаеш Аляксея, — сказаў Веньямін, — бачу, хочаш, каб ён вярнуўся да цябе.

Наста кіўнула галавою.

— Тады думай пра каханне, а гавары пра бізнес. Ён па вачах зразумее, што да чаго!

— Ой, які ты разумны, Венька! Ну, пайшлі! — выдыхнула Наста.

— Аляксей Міхалыч, — сакратарка заглянула ў кабінет Расінскага. — Да вас просіцца на прыём наведвальнік па бізнес-плане адраджэння народных рамёстваў.

Расінскі няўцямна ўзняў бровы, нічога не разумеючы, перапытаў:

— Па адраджэнні чаго?

— Народных рамёстваў!

— Дык яму трэба ў аддзел культуры або адукацыі! У нас жа прыватная фірма па пастаўцы і абслугоўванні камп’ютараў! Што там за артыст? Ладна, няхай заходзіць, паглядзім, што там за дзівак, — Расінскі адкінуўся ў крэсле, і раптам выпраміўся, убачыўшы, як у кабінет нясмела ступае Наста. Акуратны палітончык, боцікі, капялюшык — восеньская дама «настальжы».

— Добры дзень! — прысела яна, ні то жартаўліва, ні то іранічна.

І было гэта так нечакана, што вусны ў Аляксея расплыліся ва ўсмешцы.

— Добры дзень, мілая! Якім ветрам? І што за цікавыя ідэі напела вам восень?

Ад гэтага тону яго Настачка перастала хваляваць, супакоілася. Яна выняла з цэлафанавага пакеціка загорнуты ў паперынку парастак ружы. Разгарнула яго.

— Восень шле прывітанне вам ад вашых продкаў з вашай сядзібы! — лагодна мовіла яна, кладучы на стол парастак. — Асноўная ружа засталася ў мяне, ля дома. А гэтую я вырасціла. Бачыце, ужо карэньчыкі парастачак пусціцў, — пявуча гаварыла дзяўчына, — глядзіш, і ад гэтага парастачка пойдуць іншыя кветкі. А захочаце, то можна адрадзіць кветкаводства, якім ваша маці некалі займалася. Ружы — выдатны бізнес. Асабліва добра раскупляюцца яны на святы, і яшчэ на вяселлі, — гаманіла Наста. — Мне Веньямін сказаў па сакрэце, што ў яго хутка вяселле. Праўда, гэтая ружачка яшчэ не дасць кветак, але на будучыню: кветкаводства— выдатная ідэя!

Аляксей уважліва слухаў яе і раптам сказаў:

— Знаеш, Наста, ў мяне ля дома ёсць цяпліца. І я падумаў, што сапраўды там можна вырошчваць ружы, а потым адкрыць невялічкую краму і прадаваць іх. З цябе б магла атрымацца выдатная прадаўшчыца! Ты — такая...

Наста захвалявалася, пачырванела і, нібы ні з таго ні з сяго сказала:

— Мы з мамай хочам папрасіць прабачэння за тое, што так няветліва вас сустрэлі. Мы тады няправільна зразумелі ваш жарт. Мы — людзі вясковыя, усё прымаем усур’ёз…

— Я вельмі рады, Наста, што вы з мамай правільна мяне зразумелі, — адказаў Расінскі. — Гэта сапраўды быў жарт. А за сённяшні візіт — вялікі дзякуй, Наста! І — за падарунак! Гэта — самы лепшы падарунак у маім жыцці!

На нейкі момант ён захваляваўся, падняўся з-за стала, падышоў да Насты, і яна таксама захвалявалася — чакала, што ён абдыме яе, аднак Расінскі, па-сяброўску, працягнуў ёй руку. Яна падала яму сваю. І ён мякка паціснуў яе далонь.

— Вялікі дзякуй, Наста, — паўтарыў ён. — Я заўсёды буду рады дапамагчы табе. Звяртайся, калі ласка, — і пацікавіўся: — Ты сёння прыехала? І дзе ты спынілася?

— Яшчэ пакуль нідзе! — адказала Наста. — Я толькі што з аўтобуса. Магчыма, паеду вечарам дадому. Пабачылася з Веньямінам, з вамі, вось і цудоўна! Я вельмі рада, што ў вас усё добра!

— Адкуль ты ведаеш? — усміхнуўся Аляксей. — Я ж яшчэ нічога пра сябе не расказваў.

— Ды і так, па вас бачна, што ўсё добра, — спяшалася развітацца Наста, але ён утрымаў яе. Утрымаў тым, што прытуліў да сябе.

— Усе нашы продкі спраўлялі вяселлі з дваццатага студзеня па Масленіцу,— разважала Тэкля, выслухаўшы аповед дачкі пра яе паездку ў Мінск. — І вяселлі гэтыя называліся Мясаедаўскімі. Так што, дачушка, чакай сватоў у Мясаед. Калі Аляксей кахае цябе — пасватаецца. Бо і ў родзе Расінскіх таксама спраўлялі вяселлі ў Мясаед.

І пачала ўспаміны, пявуча, з замілаваннем:

— Ой, бывала, як дзеўкай была, сяджу ў нацепленай хаце, на печы, ды слухаю, як мяцеліца ў комін завывае. Мару, як па заснежаным полі ляціць конь вараны, а ў санях — маладзец, прыгожы ўдалец, да мяне ў сваты імчыць. Вось так і адбылося: па завеі да нас у сенцы пагрукалі. Маці выглянула ў акно і бачыць: конь вараны, у сані запрэжаны, а ля яго — стаіць хлопец у расшпіленым кажусе. Я ў акно глядзь — ажно сэрца ад радасці замлела. Адчуваю: шчасцейка маё прыехала!.. Так і жывём з бацькам тваім з таго часу: у міры ды ў згодзе, у каханні ды мілосці. І табе, Настачка, шчасце будзе. Чакай сваё шчасце ў Мясаед, — сказала маці.

— Усё думаеце, што Аляксей пасватаецца? — асцярожна пачала дачка.

— А хто ж яшчэ?

— Ён учора нічога пра каханне і не казаў, адно, што сам мяне ў вёску прывёз. Дык гэта ні аб чым не гаворыць.

— Гаворыць, яшчэ як гаворыць! — сказала маці.

— Ой, мама, мама, не ведаю, — уздыхнула Наста. — Ці будзе з мяне добрая гаспадыня? Нешта ў мяне ежу гатаваць не атрымліваецца. Ці рэцэпты з часопісаў няправільныя, ці я такая няўмеліца-беларучка? Вось, напрыклад, прачытала, як трэба ячную кашу варыць. Сказана было: на суткі замачыць, потым — варыць дзве гадзіны, а пасля — на пары — ажно восем гадзін. І памятаеце, мама, кашу тую не ўкусіць было, здубянела яна, нават і сабачка наш не еў. Дык што ж гэта за рэцэпт такі?

— Гэта не рэцэпт, а здзек над Божым зернем, — абурылася Тэкля. — Той, хто пісаў гэты рэцэпт, і ведаць не ведае, з чаго тая каша. Бывала, замочыш звечара ячную крупу, панцачок па-нашаму, а ранічкай паспрабуеш зярнятка, дык яно, бадай, як толькі што вылушчанае з коласа: мякенькае, водарнае. Пав振рыш гэтыя зярняткі хвілін пятнаццаць — і ўсё! Каша стаіць у цяпле, пад

накрыўкай, і сама даходзіць да гатоўнасці. Лепш матку з бацькам слухай, чым дурныя чужыя парады!

— А памятаеш, мамачка, як я па рэцэпце велікодны куліч рабіла? — нагадала дачка. — Там на кілаграм мукі раілі пятнаццаць яек разбіць. Яечня атрымалася, а не куліч.

— Цьфу ты! — плюнула Тэкля. — Не чытай ты, доню, тых рэцэптаў, а рабі тое, што спрадвеку рабілі нашы продкі. Я неяк чытала, як цукеркі варыць. Раілі на слоік вінаграднага соку дабавіць адзін кілаграм цукру — і варыць, пакуль не атрымаецца рахат-лукум, цукеркі Шахеразады.

— Дык гэта ж кампот будзе, а не цукеркі, — сказала Наста і засмяялася: — А можа, гэта рэцэпт самагонкі-барматухі?

— Я табе вось што скажу, дачушка, — мовіла Тэкля. — Лепш у краму схадзіць і гатовага купіць. Хто на што вучыўся, той хай тою справай і займаецца: шавец няхай боты шые, а пекар — хлеб пячэ. Увесь свет не ахопіш і ўсіх не пераплюнеш, — яна абняла дачушку і ласкава дадала: — А мужу вары тое, што спрадвеку варылі нашы продкі. І здаровыя былі, і дурнотай галаву сабе не забівалі. Лепш болей часу выкрай, ды ля мужа паляжы!

— Ой, мамка! — усміхнулася ёй Настачка. — Ну і хітрая вы! А я-то думаю, чаму гэта вы з таткам так мілуецеся. І без рахат-лукуму, і без велікодных кулічоў. Аказваецца, уся тут справа ў шчабятанні.

— Вясёлая птушачка заўсёды настрой падымае, — з хітрынкай у вачах зазначыла Тэкля.

Студзеньскія маразы даймалі. Холадна было жывёле ў хлеве. Наста залезла на печ пагрэцца. Слухала, як у коміне завывае мяцеліца. У сенцах нешта загрукатала, і ў хату ўвайшла цётка Гельтруда. Павіталася і пачала з парога:

— А ці ведаеце вы, сваячачкі, што наш Венька хутка жаніцца будзе? — яна плюхнулася на лаву ля печы, убачыўшы, як з-за коміна выглянула Насціна галава, звярнулася да яе: — Вось ты, сэрцайка, ехала б адсюль, а то на цябе плётак, як і на майго Веньку. А Венька разумны: не стаў на вёсцы вяселле рабіць, каб зайздроснікі здзек не чынілі, а распісаўся ціха, ды на тыдні прыедзе з жонкай да нас.

— А жонка ці з добрага роду? — пацікавілася Тэкля.

— З добрага, — адказала Гельтруда. — Добры род сама прырода доўжыць, а дрэнны — выбракоўвае. Таму няма чаго тваёй Настачцы ўсялякіх няўклюдкаў падбіраць ды перавыхоўваць. Адпусці ты яе лепш да Венькі ў Мінск.

— Яна ўжо была там, — адказала маці. — Не дастане носам да багатых.

— Няхай лепш з багатымі ды ганарыстымі, чым з няўклюдкамі, — адрэзала Гельтруда. — Ёй трэба быў гэты дурнаваты Адасік, якога яна ў райцэнтр, ва ўнівермаг, вазіла, імідж яму мяняць? Ды ў яго ж на твары напісана, што ён вырадак! А вырадка ў што ні апрані — нічога не зменіцца. Вочы дурноту выдадуць. Па вачах трэба выбіраць чалавека, вочы — душа і характар.

— Адасік у школе добра вучыўся, — пачала заступацца за яго Наста. — Проста ён сарамлівы, і я хацела, каб ён з кім-небудзь ажаніўся.

— Ад таго і сарамлівы, што прыродай пастаўлена на іх род «праграма вынішчэння». Не трэба Адасіку жаніцца! Што ты супраць прыроды прэш?

— Ой, цётачка, — засмяялася Наста. — Гэта вы ад Венькі набраліся камп’ютарных тэрмінаў? «Праграма вынішчэння!»

— Чаго б я ні набралася, а праўду кажу! — адказала Гельтруда. — Я і без Венькі шмат што петру. Так па тэлевізары кажуць. Ты толькі яго паслухай, на

ўсё там адказы ёсць. Але, вось паразважала і думаю, што не трэба вам, дзяўчатам, ніякіх хлопцаў перавыхоўваць: ні п’яніц, ні сарамлівых, ні гультаёў. Ім на раду напісана такімі быць, каб не жаніцца і прыплоду не мець. Гэта — закон прыроды, той жа телевізар кажа, а калі жанчына парушае той закон і звязваецца з такім вось нягеглікам, то і атрымлівае дрэнную долю. Вазьмі, напрыклад, Матруніных хлопцаў. Высокія, прыгожыя абодва. А ў галавы ўцямілі нешта і дзевак баяцца. Адна, смелая такая дзяўчына, неяк пачала да меншага прыставаць. Дык чым скончылася? Сораму набралася, а хлопец у манахі ад яе ўцёк. А большы — зусім дзяўчат баіцца, таксама ў рэлігію схаваўся. Значыць, на іх род пастаўлена праграма вынішчэння, па-народнаму — пракляцце. І не дарэмна кажуць, што Матруніны продкі зло людзям чынілі. І такіх хлопцаў, як Матруніны, шмат знойдзеш. Не жэняцца, значыць, і не трэба ім. І не бегай за імі, і не перавыхоўвай.

Цётка Гельтруда шматзначна зірнула на Насту.

— Я і не бегаю за Адасікам, — адказала дзяўчына.

— Не бегаеш, а плёткамі абрасла! — раззлавалася цётка. — Так і загінеш у брудзе, калі не ўцячэш адсюль.

— Ой, Гельтрудачка, — уздыхнула Тэкля. — Свіння бруду знойдзе. Паедзе ў горад — і там такіх адшукае.

— Сённяшні свет папалам дзеліцца, — адказала Гельтруда. — Моцныя — з аднаго боку, слабыя воляй — з другога. Іх у народзе морлакамі называюць, і яны загінуць, бо гэта — нашчадкі тых, хто забіваў, вынішчаў нявінных людзей. Таму не трэба шкадаваць ні п’яніц, ні бязвольных, і дапамагаць ім не трэба. Хто захоча, сам выжыве. А ўмешвацца ў Божы Суд нельга! Грэх твая дачка чыніць! Непаслухмяная яна Богу. І Бог, праз плёткі і непрыемнасці, падказвае ёй, што не на тым яна шляху.

— Праўду ты кажаш, брацiха! — адказала Тэкля.

— А ты што думаеш? — пачала настрашваць Гельтруда. — Вось твая дачка і хоча зачапіць семя ад праклятага роду і дзіця пусціць у свет, каб яно мучылася.

— Твая праўда, Гэлечка! — сказала Тэкля. — Была б ганарыстай, як Венька, то ніякая б дрэнь да яе не чаплялася! А ці не пускала я яе да Венькі ў горад? Дык сама ж назад вярнулася. Ёй, бачыш, з вясковымі спакайней. Сама сябе не паважае, не цэніць.

— Правільна! — падтаквала ёй Гельтруда. — Яна ж з брыдам сябе каралевай адчувае. А паспрабуй адчуць сябе каралевай з роўнымі! Гэта ж старацца трэба, працаваць над сабою, як кажа мой Венька!

— Дык гэта Венька вас настрапаліў? — спытала Наста. — Мне што цяпер — у ножкі багатым кланяцца? Бачыла я тое асяроддзе, у якім ваш Венька жыве!

— Лепш быць служанкай сярод багатых, чым начальніцай сярод бедных, сказала цётка Гельтруда.— Нездарма людзі кажуць: чым шырэй раскрываеш абдымкі, тым лягчэй цябе распяць.

— І за што ж гэта вы, цётачка, бедных так неўзлюбілі?

— Бо ўсе бедныя — няўдачнікі, а няўдачнікі ўсе — зайздроснікі. А ад зайздрасці — усё гора на зямлі.

— Ой, якая вы разумная сталі, цётачка!

— Разумная, а што, не ў беднасці ж жыву, бо не гультаі мы з маім Нічыпарам. А п’яніцы ды гультаі заўсёды будуць беднымі. А ты сваёй долі не прамаргай! — параіла пляменніцы. — Мне Венька казаў, што ягоны начальнік у цябе закахаўся. То, як прыедзе, будзь хітрэйшай, бяры лахі пад

пахі і едзь з ім у Мінск. Можа, там доля цябе шчаслівая напаткае? Што лёс дае — адкідваць нельга!

— Ці прыедзе ён, па вадзе віламі пісана! — уздыхнула Тэкля.

— Па вадзе, не па вадзе, а Наста твая порчаная, — заключыла Гельтруда. — Сурокі на ёй: добрых мужчын баіцца, а да няўклюдкаў цягнецца. А ўсё таму, што кніжкі дрэнныя чытае. Я ў сваіх дачок знайшла такую адну. Там адна дзяўчына скардзіцца псіхолагу, маўляў, да мяне адны альфонсы ды мамчыны сынкі ліпнуць, а я хачу сустрэць сапраўднага мужчыну. Як гэта зрабіць? І псіхолаг ёй адказвае: у вас, маўляў, мацярынскі комплекс, але не хвалюйцеся: можна з альфонса і з мамчынага сынка зрабіць добрага чалавека, перавыхаваць.

Тэкля плюнула сабе пад ногі, а Гельтруда працягвала:

— Вось дзяўчаты і слухаюцца такіх парад, а потым пакутуюць! Таму і пладзяцца, як пустазелле, слабавольныя мужчыны, бо жанчыны самі вінаватыя — апякуюць іх.

— А каб дала катораму пад зад каленам, то надоўга б запомніў, якім павінен быць мужчына! — раззлавалася Тэкля.

— Трэба, Настачка, такога мужыка шукаць, каб не ты яму дапамагала, а ён табе, — ласкава мовіла цётка Гельтруда. — Я табе, пляменнічка, дрэннага не параю.

— Чуеш, дурніца? — крыкнула на дачку маці.

— Няма чаго багатых ды харошых мужчын баяцца, — лагодзіла Гельтруда. — Трэба зразумець, што ў іх на душы, знайсці тое, што збліжае вас. Знайшла ж ты з маім Венькам паразуменне, хоць ён напышлівы і ганарысты. Вось і з яго начальнікам знайдзі. Дрэнны чалавек у начальнікі не выб'ецца!

— Цётка Гэля! Вы што, свахай у Венькі працуеце? — абурылася Наста.

— А няўклюдкі цябе шукаюць, — працягвала тая, не звяртаючы ўвагі на тое, што Наста абураецца, — каб за спіну тваю схавацца, каб на сабе ты іх, маё дзіцятка, валакла! Уцякай ад такіх як мага хутчэй!

— Добра! Пайду за начальніка, пайду! — смяялася пляменніца. — Калі возьме. Дык жа не бярэ.

— Ат, што з табою гаварыць? — крыху паёрзаўшы на лаве, цётка Гельтруда задаволена крэкнула, падхапілася і, пажадаўшы дабранач, падалася да сваёй хаты.

Цётка пайшла, а маці выправіла Настачку падаіць карову. Вечар быў халодны, і дзяўчына, ускінуўшы кажушок на плечы, нехаця падалася ў хлеў. Толькі села на ўслончык, як дзверы хлява рыпнулі і ў праёме паказалася кудлатая галава суседскага хлопца Аліка.

— Слухай, Наста, — прахрыпеў ён. — Ліні чаго, калі маеш.

— Ды адкуль у мяне, у хляве? — адказала Наста.

— А памятаеш, неяк ты кажана ў спірце замарынавала? — нагадаў Алік. — Хацела ў школу аднесці, у кабінет заалогіі.

— Дык ты што, з кажаном вып'еш? — скрывілася Наста.

— А што там такога? Пячэ ж! — адказаў Алік і пачаў шастаць па хляве.

Знайшоўшы ў кутку паўлітровы слоік, у якім быў заспіртаваны кажан, Алік падзякаваў дзяўчыне і, радасны, пабег. Наста падхапіла поўную даёнку і выйшла ў двор. Зірнула за плот. Там, воддаль, сярод хмызняку, стаяла хата братоў Матрунчыных. Маці іх памерла, а хлопцаў гадаваў бацька. Ды, мусіць, няправільна неяк выгадаваў. Жанчын яны баяліся — жах! Меншы брат у манахі падаўся. А старэйшы, калі неяк Наста надвячоркам ( не помніць з якой

прычыны), па-суседску ў акно пастукала, адхінуў фіранку, выглядваючы, ды ў тую фіранку і захутаўся, бы сарамлівая дзяўчына, грудзі хаваючы, і адказаў Насце: «Я апоцемках жанчын у хату не пускаю!»

А праз вуліцу ад Стоцкіх таксама суседаваў нейкі Муня. Быў ён жанаты недзе ў горадзе, а потым жонка выгнала, бо піў. Дык Муня год дваццаць нідзе не працаваў, жыў у бацькоўскай хаце, дзе каму дапаможа, той і паесці дасць. Вось і Наста яго шкадавала, часта прыносіла ежу з дому Муню.

«Чаму ж я такая дурніца?» — пачала разважаць дзяўчына, і на ўспамін прыйшлі іншыя яе кавалеры, як казалі жанчыны. Вунь у канцы сяла Сяржук жыве. Прыгожы быў хлопец, армію адслужыў, усе дзяўчаты за ім бегалі. Ажаніўся. А маці яго вельмі раўнавала. Жонка людзям расказвала, як падасць яна ежу Сержуку, то маці яму ў талерку свае катлеты клала, прыгаворваючы: «Мае — смачнейшыя!» Так, ад рэўнасці, і развяла Сержука з жонкай. У Антолі, ягонай маці, была даўняя крыўда на мужчын: некалі ў юнацтве яна закахалася ў хлопца, а той яе пакінуў. Магчыма падсвядома, праз Сержука, Антоля і помсціла таму хлопцу, не даўшы сыну займець сваё дзіця.

Сяржук не доўга пражыў з маці. Заўсёды незадаволеная і злая Антоля, быццам мыш, цягала ў хату дабро для сына. Хата нагадвала склад: паўсюль ляжалі мяшкі круп ды мукі, макароны, і там заводзіліся чарвячкі. Шафы былі забіты адзеннем, якое Сяржук не змог бы панасіць, каб жыў і трыста год.

Антоля свята верыла ў тое, што ніхто так, як яна, сына не дагледзіць, не апране, не накорміць. Ні адной з жанчын яна не хацела аддаваць свайго сына. Аддала ва ўладу гарэлцы. Сяржук спіўся яшчэ пры Антолі, а як тая памерла, топератварыў хату ў прытон. Антоліна дабро Сяржук па ветры пусціў: п'янкі ды гулянкі не спыняліся ў хаце гады са тры, пакуль дах не абваліўся ды печ не рассыпалася. Зімаваў Сяржук у холадзе, пакуль яго не пашкадавала Настачка. Яна і печніка знайшла, і іншых людзей упрасіла дапамагчы Сержуку дах падняць. Людзі дапамаглі. Але потым Настачка адмыцца не магла ад плётак. Пачалі і на яе казаць, што дзяўчына да чаркі прыкладваецца — нездарма ж, казалі, дапамагала! За гэта бацька Насце забараніў з хаты выходзіць і да хлопцаў набліжацца. А тое, што некалі Настачка ў залатой сцяжынцы поўні выкупалася, гэта не пры чым. Не самі ж мужыкі да яе ліплі — яна іх знаходзіла, каб дапамагчы. Не тых знаходзіла.

Настачка ўздыхнула, успамінаючы свае прыгоды, і падзівілася сама сабе, як быццам збоку паглядзела на сябе: «Няўжо гэта я: дзяўчына, якая сама сябе ганьбуе праз непамерную міласэрнасць? Ці, можа, гэта не я, а жыве ўва мне зладзейка, чорная постаць, чорная жаба, якая мяне няславіць?» Трэба ад гэтай жабы пазбаўляцца. Бываюць заганы ў чалавека, а бывае і дабро шкодзіць, калі яно праз меру: наіўнасць, давер і міласэрнасць.

Вось зусім нядаўна дапамагла Настачка Адасіку, апранула яго стыльна, каб у хлопца з'явілася павага да самога сябе, каб дзяўчыну сабе знайшоў, сям'ю стварыў. А ён назаўтра прысунуўся да Настачкі і ныць пачаў, маўляў, полы ў новым піджаку не аднолькавыя, баяўся, што людзі будуць з яго смяяцца. Настачка супакоіла яго — ды аднолькавыя тыя полы! Але хлопец зноў пачаў ныць: маўляў, не буду жаніцца: жонка прымусіць па гаспадарцы працаваць, а ў яго, сказаў, здароўе няважнае, ён і сваёй гаспадаркі не трымае. Плакаўся, што яму не жонка, а матулька патрэбна. Небарака без маці застаўся яшчэ ў школьныя гады. Бацька Адасікаў спіўся і памёр. Хлопец пакрысе, працаваў у калгасе. А потым на яго нешта находзіла: днямі ляжаў у ложку і не хацелася яму нічога рабіць. Казалі, што ў яго дэпрэсія. Лячыўся Адасік у бальніцы. Людзі думалі: вылечыўся. Вось і Наста думала так, таму і дапамагчы хацела

хлопцу. Дзяўчына разумела, што трэба ёй мяняць свой характар і прыпыняць сваё «місіянерства». Не манашка яна, і не Бог, каб умешвацца ў справы людзей і вырашаць, як каму жыць. У кожнага з іх ёсць свая галава і свая воля. «Ведай сябе і хопіць з цябе», — кажуць у народзе. Час ужо ёй набірацца жыццёвай мудрасці.

Наста вярнулася ў хату, паставіла на лаву вядро з малаком, працадзіла.

— Разумнічка! — пахваліла яе маці. — А я вось падумала, а ці не прывабіць табе сватоў з дапамогай адзення?

— Як гэта? — пацікавілася Наста.

— У даўніну дзяўчына, якая жадала сватоў дачакацца, шыла сабе ўбор: сукенку ці спадніцу прыгожую. Сама шыла, рукамі, і ўяўляла свайго суджанага. Пра каго думала, той і прыязджаў! Кажуць, думкамі шчасце прыцягваеш: якія думкі, такі і лёс!

— Я паспрабую! — абрадавалася дачка і пабегла да шафы, выняла адтуль яркую, прыгожую матэрыю і прыкінула: — На цыганскую спадніцу хопіць! Аляксею абавязкова спадабаецца, як я летам перад ім танец станцую!

І пачала шчыраваць над матэрыяй.

За акном гула завіруха. Час Мясаеду сыходзіў, а сваты да Настачкі так і не ехалі. Зайшоў у хату бацька, кінуў на прымурак кажух, сказаў:

— Зімна ў хлеве, ажно конь дрыжыць. Карове я саломы болей кінуў. А на вуліцы нейкая іншамарка буксуе. Што тыя іншамаркі па сённяшняй зіме? Вось сані — гэта справа!

Бацька прысеў на прымурку, пачаў чыніць аброць.

— Наш Сіўка за зіму патлусцеў, — задаволена крэкнуў ён, — вясной будзем зямлю араць, збажыну сеяць, бульбу садзіць. А ты, Настачка, што там чытаеш? — звярнуўся ён да дачкі, якая прымасцілася на печы.

— Пра сцерваў, — адказала тая.

— Сцерва — гэта ж дрэннае слова, — заўважыў бацька. — Навошта табе чытаць пра іх? У нас на канюшні мужыкі на кабыл так мацюкаюцца!

— А тут пішацца інакш, — пачала чытаць Наста. — *«Сцерва — гэта жанчына, якая з'яўляецца там, дзе валадараць сапраўдныя мужчыны, бо яе ідэал — моцны духам мужчына, мудры і пяшчотны. Тыя, хто атрымліваў ад яе пстрычкі, былі слабымі і нявартымі, менавіта яны і казалі пра яе: «Сцерва!» Таму што яна сыходзіла ад слабавольных мужчын, не згаджалася быць для іх «мамачкай», а была жанчынай і патрабавала ад іх быць мужчынамі. Але тыя — не змаглі. Сцерва — свабодалюбівая і ненавязлівая жанчына. Яна давярае свайму сябру і не баіцца быць слабай, бо заўсёды ідзе па жыцці аптымісткай. Для яе няма безвыходных сітуацый. Сцерва ведае, што яна прыгожая, стыльная і разумная. Яна не супакоіцца, пакуль не знойдзе сапраўднага мужчыну, з якім можна будзе гутарыць як з роўняй, з якім яна, нарэшце, можа быць слабай, не баючыся таго, што ён пакіне яе, бо пакінуць такую жанчыну — немагчыма. Яна — багіня целам і розумам!»*

— Пры маёй маладосці такіх жанчын называлі мудрымі, — сказаў бацька. — А хто ж ты тады ў нас, дачушка? — ён зірнуў на Насту, падымаючы галаву ў бок печы. — На сцерву ты не падобна, бо дурніца. Ці, можа, ты малавумная? Бывае такое, быццам чалавек і разумны, і дыплом мае, а да жыцця непрыстасаваны— не хітры, прасцякаваты. Вось ты, пэўна, і ёсць — прасцячка. Шкадуеш усіх, падбіраеш розную дрэнь пры дарозе: тых, хто ў каляіне жыцця валяецца.

— Пры маёй маладосці хлопцаў, якія жыццё баяцца, дзяўчурамі называлі, — падала голас маці. — Вось ты, дачушка, з дзяўчурамі і валэндаешся.

— Сябе не паважае. Цьфу ты! — плюнуў бацька.

Нечакана ў сенцах пачуўся грукат. Ляпнула клямка ўваходных дзвярэй і на парозе з'явіўся Аляксей Расінскі.

— Машына мая забуксавала, — сказаў госць, павітаўшыся з гаспадарамі.

— Дык, значыць, гэта ваша машына буксавала. Бачыў я, бачыў, — падняўся насустрач госцю Адась.

Радасная Тэкля ўбегла на кухню і пачала выстаўляць на стол прысмакі, спадзеючыся, што Аляксей прыехаў у сваты. Злезла з печы і Наста. Нерашуча, ціхмяна, прысела на край лавы, за стол.

— А я — па справе, — сказаў Расінскі, частуючыся аладкамі з салам. — Як кажуць у народзе: чалавек — гаспадар свайго лёсу. Таму я хачу прапанаваць Насце змяніць свой лёс.

— Як гэта? — з надзеяй паглядзела на яго Тэкля.

— Заняцца бізнесам, — адказаў Расінскі. — Я даўно марыў адрадзіць справу сваёй маці, кветкаводства, і адкрыць краму кветак. Аднак, я ўжо маю ўласную фірму, таму не магу ўтрымліваць адразу дзве справы. Вось і прапаноўваю Насце заняцца кветкаводствам.

Наста збянтэжана глянула на маці.

Расінскі шчыра ўсміхнуўся і дадаў:

— Я вельмі ўдзячны вам за выратаваную кветку з бацькоўскай сядзібы. Няхай гэта паслужыць пачаткам нашага супрацоўніцтва і агульнага бізнесу.

«А я думала: вы — у сваты!» — ледзь не сарвалася з вуснаў у Тэклі.

— Буду рада супрацоўнічаць з вамі, — усклікнула Наста. — Але ці ёсць у вас цяпліца, і як хутка можна заняцца бізнесам? Ці дасць гэта добры даход, каб я змагла наняць кватэру і аплачваць яе? І які працэнт вы хочаце мець ад нашай агульнай справы? — засыпала яго пытаннямі дзяўчына, стараючыся паказаць сваю дзелавітасць.

— Колькі пытанняў адразу! — усклікнуў Расінскі, а Тэкля пачала заспакойваць яго, лагодзіць:

— Вы лепш частуйцеся. Мясаед прайшоў, вось цяпер сырны тыдзень, то я блінкоў з тварагом зрабіла, ды сыру крышку. Кароўка наша хутка запусціцца, то малачка ўжо меней. Ешце, калі ласка, госцік даражэнькі, ды не спяшайцеся — заначуйце ў нас.

— А наконт бізнесу для Насты, то тут трэба падумаць, — сказаў Адась. — Дачка ў нас несамавітая, у розныя гісторыі ўлазіць з-за сваёй наіўнасці, шкадуе ўсіх нешчаслівцаў. Такой даручыш кветкі прадаваць — бясплатна раздасць.

— Няўдальцаў шкадуе — значыць, сябе да гэтай катэгорыі адносіць, — рэзка сказаў Расінскі. — Падобнае цягнецца да падобнага.

Наста цяжка ўздыхнула: думала — ён у сваты, а ён — павучаць прыехаў. Бізнесам заняцца прапаноўвае, дзялок тут знайшоўся. Але нічога не зробіш, з вёскі ёй уцякаць трэба, маці з бацькам і так талмуцяць ды ганяюць, а ўсё — праз яе дурную галаву. Трэба, трэба перастаць быць дурніцай і перастаць шкадаваць усіх на свеце. Трэба ўва ўсім меру ведаць, і ў шкадобе — таксама.

— Заставайцеся нанач, — завіхалася ля Расінскага Тэкля. — Якраз завіруха на вуліцы! Даўней у такія часы ля цёплай печы сядзелі, пралі, ткалі ды вышывалі і баілі розныя сказы.

— І я раскажу вам адну быль, — пачаў Адась. — У нашай вёсцы было. Некалі выдавалі замуж не па каханні, а як выпадала. Вось адну такую і выдалі замуж за багатага. А яна не кахала яго і ніколі па імені не называла. Усё:

«вы» ды «вы». Хаця, некалі жонка мужа так і называла — на «вы». Але ж, калі кахала, то па імені звала. І вось аднойчы пайшла маладзіца жаць жыта, — працягваў Адась, — ды заснула, а муж прыйшоў і вымазаў ёй твар сажаю. Прачнулася маладзіца і пайшла да хаты, а хата зачынена. Стукаецца яна ў акно і гукае: «Ці чуеце вы, адчыніце хату!» Муж зірнуў у акно і пытае:

— Каму ты кажаш «адчыніце», калі я толькі адзін дома?

— Вам і кажу, — адказвае жонка.

— А я ж адзін дома!

— Ну дык пусціце мяне ў хату!

— Як я пушчу цябе, калі ты не мая жонка?

— Як гэта я не ваша жонка? Хіба вы мяне не пазналі?

— Якая ты мне жонка, калі імя майго не ведаеш? — адказаў той. — Дый не падобная ты на маю жонку. Ідзі да рэчкі ды паглядзі на сябе: твар мурзаты, валасы — кудлатыя.

Пайшла тая да рэчкі, умылася і назад прыбягае.

— Вось, паглядзі цяпер, — кажа. — Я і ёсць твая жонка! І ведаю, што цябе Іванкам завуць!

Пусціў муж жонку ў хату. З таго часу яна яго пачала па імені зваць. І дзеткі ў іх нарадзіліся.

Адась закончыў аповед і прапанаваў госцю:

— Садзіцеся, даражэнькі, бліжэй да печы. Павячэралі, а цяпер вось наце вам лускавак, пакаштуйце, — падаў Расінскаму прыгаршчы белых гарбузных семак ды чорных сланечнікавых. — У гэтым годзе я і грыбоў сабраў шмат, насушыў, — хваліўся гаспадар, — і арэхаў назапасіў. Можна арэхі пабіць, зараз малаточак прынясу. Вы іх у насовачку ці ручнічок схавайце і біце зверху малаточкам. Слаўненька так атрымліваецца. А чаму гэта Настачка наша прыціхла? — звярнуўся ён да дачкі.

— Спаць пайду, — адказала яна. — А вы тут паабгаворвайце мяне. Несамавітай жа назвалі!

— А то не? — сказаў бацька.

— Настачка ў нас працавітая, — заступілася за дачку Тэкля. — Ідзі, дачушка, кладзіся спаць, калі хочаш, — лагодзіла маці. — І госць наш, можа, з дарогі стаміўся? — звярнулася яна да Расінскага.

— Ды крыху яшчэ пасяджу з вамі, — адказаў той. — Пагамонім. Некалі з бацькамі любіў вечарамі гаманіць. Аднак усё больш прыслухоўваўся да іх аповедаў, запамінаў. І вам адну быль раскажу, як дурня ажаніць хацелі. Бабуля мая баіла. У сваім сяле ніхто не хацеў ісці за дурня, то бацька павёз яго ў іншую вёску. Купіў доўгую світу, паліто такое, і паехалі. Па дарозе дурань захацеў да ветру. Зняў штаны, каб не запэцкаць, павесіў на куст і забыўся. А даўней світы доўгія насілі. Заходзяць у хату да нявесты, селі на лаву, ён полы паліто расшпыліў, а сам — без штаноў! Паехалі другі раз. Да іншай дзяўчыны. Загадалі яму ў дарогу не есці, каб зноў у кусты не пабег. Сядзяць, ядзяць у сватах. А жаніх галодны, есць і маўчыць. Бацька нявесты і пытае:

— А чаму ж ваш жаніх такі маўклівы?

А той — да бацькі:

— А што сказаць?

Бацька яму:

— Жары моўчыкі.

У той момант варэнікі падалі, а жаніх як гаркне:

— Ой, жарымоўчыкі! Я б гэтых жарымоўчыкаў штук дваццаць з’еў!

Паехалі ў трэці раз, да трэцяй дзяўчыны. Бацька загадаў яму не есці ў сва-

тах і маўчаць. То ён так і зрабіў. Дамовіліся пра вяселле. Паклалі гасцей спаць на печы. А жаніх галодны! Мацае рукамі па печы, каб злезці ды паесці чаго, і тут дзяжу на печы намацаў. Запусціў руку ў цеста і пачаў есці. Абляпаўся ўвесь. А раніцай бацька спужаўся, падумаў, што жаніх у штаны наклаў — і ходу з той хаты! Так дурня і не ажанілі. Прырода сама не дапускае нягодных да шлюбу, — заключыў Расінскі.

— А я вам раскажу, як мудрая маці дачку замуж аддавала! — мовіла Тэкля. — У адной маці была дачка слепаватая. А прыехалі да іх з другога сяла сваты. То маці, па дамове з дачкою, паклала іголку ў парозе. І як зайшлі сваты, то дачка з печы і кажа, як яе маці навучыла: «Ой, матачка! Хто ж гэта іголку ў парозе кінуў?» А маці адказвае: «Ой, донечка! Я ж не бачу, дзе яна? Дзе тая іголачка?» А донька: «А вунь, мамка, а вунь!» І сама падняла. То сваты і не зразумелі, што дзяўчына слепаватая, і выйшла яна замуж.

Скончыўшы аповед, Тэкля пайшла рассцілаць госцю ложак. Узбіла пярыну. Заглянула ў спальню да Насты. Зашаптала ёй пад вуха:

— Адна дзеўка ўсё жаніхоў перабірала: той такі, гэты гэткі. Ніхто не ўнаравіў ёй. Тады Бог ёй скулу паслаў на язык. Як прыйшлі адны сваты, то яна сядзела ціха, толькі галавою ківала. І выйшла замуж. А потым не магла нахваліцца на мужа і ўсё дзякавала Богу, што ёй Бог скулу на язык паслаў.

— Мама! Што вы хочаце? — адмахнулася ад яе дачка.

— Каб разумнаю ты была, хачу, ды каб хітраю, — адказала маці. — І языком каб меней мянташыла. Чалавек дапамагае табе, то слухайся яго.

— Я думала — ён у сваты, а ён — пра бізнес, — пакрыўджана мовіла Наста.

— Не дарасла ты яшчэ розумам да яго. Вось як дарасцеш — тады. Лісічкай будзь, як у той казцы: спачатку хвосцік на вазочак, потым лапку, а потым — і сама ўся!

— Добра, буду, — усхліпнула Наста і зашылася тварам у падушку.

З маленства дзяўчына любіла перад сном марыць і прыдумваць цікавыя аповеды пра шчаслівае каханне, якое абавязкова павінна здзейсніцца ў яе жыцці. У марах сваіх Наста чакала магутнага і мужнага рыцара, які прыедзе па яе і абароніць, і яны паедуць з ім у ягоны каралеўскі замак, і будуць жыць там доўга і шчасліва, весці прыемныя размовы за чаем ля каміна, падарожнічаць. А ля сцен іхняга замка будуць расці чароўныя ружы.

«А можа, Расінскі і ёсць той самы мужны і высакародны рыцар, — падумала Наста, — які прыехаў па яе ў зімовую сцюжу, каб завезці, — дзяўчына крышку задумалася і закончыла сваю думку рэчаіснасцю сённяшняга дня: — на працу ў цяплічны камбінат па вырошчванні ружаў!»

Ну, нічога. Магчыма, у сваіх марах яна нешта не ўдакладніла ці няправільна пабудавала, аднак жа ж рыцар з’явіўся. Праўда, не на кані, а на іншамарцы. «Усё будзе добра», — вырашыла дзяўчына.

Расінскі прывёз Насту да сябе дадому.

— Твой пакой, як і ў той раз, на другім паверсе, — сказаў ён. — Так што асвойвайся. Пасля абеду я пакажу табе цяпліцу.

На наступны дзень Веньямін разам з будучай жонкай пераехаў у прасторны загарадны дом Расінскага. Сваю ж кватэру Веньямін выставіў на продаж.

Ганка была ў захапленні ад цяперашняга блізкага суседства з Настай. Іх пакойчыкі знаходзіліся на другім паверсе, а мужчыны жылі на першым. Адразу з хола, налева ад уваходных дзвярэй, быў выхад у зімовую цяпліцу гаспадара. Там дзяўчаты ладзілі грунт і высаджвалі ружы. Так прайшоў месяц

з таго часу, як Наста звольнілася з працы ў школе і аформіла на сябе дакументы індывідуальнага прадпрымальніка. Цяпер яна мела сваю краму па продажы кветак, аднак саміх кветак пакуль не было, і дзяўчаты ладзілі ў куточку цяпліцы месца пад вырошчванне цыбулі. Вясною на зялёныя парасткі быў вялікі попыт. Кветкавая крама Насты, на пачатковым этапе, гандлявала выключна вазонамі і гаршкамі для кветак, а таксама — насеннем. Расінскі з сынам займаліся іншай справай. Прадаўшы кватэру Веньяміна, яны ўклалі грошы ў будаўнічыя матэрыялы для адбудовы старой хаты на хутары Стольніца, у ваколіцах паміж Нясвіжам і Мірам. Месца было выгаднае для наладжвання бізнесу ў сферы вясковага турызму. За гэты час Расінскі пабываў за мяжой і аб’ехаў беларускія аграэкатурыстычныя сядзібы, у надзеі знайсці лепшы варыянт для сябе. Вечарамі, ля каміна, дзяліўся ўражаннямі, расказваў пра інтэр’еры сядзіб, аздобленыя арыгінальнымі этнакампазіцыямі.

— У бізнесе галоўнае — трымаць нос па ветры, — казаў ён. — Вось у нас пакуль хапае сядзіб для нашых і замежных турыстаў. Вось, дзе можна разгарнуцца. Нядаўна на Гродзеншчыне бачыў сядзібу «Над Нёманам». Побач з рэчкай — прыгожы белы дом, сцяжынкі азначаны каменнем буйных памераў, маляўнічае аздабленне межаў сядзібы, выкананае ў этнастылі.

У нумарах — драўляныя ложкі, па-мастацку, у народных традыцыях, выробленыя рукамі гаспадара. Сам жа гаспадар — добры музыка, прафесійна грае на гуслях. Склеп спадабаўся ў гасцявым доме і, што самае цікавае, там можна браць усё, чаго душа пажадае: кумпяк вісіць, наліўкі ў бутэльках, саленні розныя, квашэнні, усё экалагічна чыстае, няма закатак у банках, а ўсё, як некалі ў даўніну, у традыцыях нашых продкаў: капуста квашаная ў бочках, саланіна — у кубельцах, гуркі квашаныя, памідоры, яблыкі — таксама ў драўляных бочках. Гаспадар казаў, што бочкі выраблены з асіны, гэта самая спрыяльная драўніна для нарыхтовак.

— Я ведаю некаторых энтузіястаў, якія змагаюцца за экалогію планеты і ствараюць экалагічныя вёскі, — паведаміла Наста. — Яны адраджаюць народныя рамёствы і таксама прытрымліваюцца тэхналогій экалагічнага харчавання: самі пякуць хлеб, як некалі нашы продкі, сеюць пшаніцу, квасяць гуркі ды капусту. Вось такое згуртаванне аднадумцаў.

— Я не люблю статкавага жыцця, — як адрэзаў Расінскі. — Я — аднаасобнік.

— Давайце пагаворым пра вяселле, — прапанаваў Веньямін.

— А што гаварыць, калі ўсё даўно азначана, — адказаў бацька. — Вяселле ў чэрвені, рэстаран ужо заказаны. Наста — першая дружка ў Ганны. Я выклікаў да яе іміджмейкера, і заўтра ён прыбудзе. Ганцы іміджмейкер не патрэбен, у яе ўжо ўсё гатова.

— Няўжо вы лічыце мяне такой нязграбнай, што я не ведаю, як апрануцца на вяселле? — абурылася Наста.

Расінскі ўважліва паглядзеў на яе і прамаўчаў.

— На вяселлі абавязкова будуць прысутнічаць Веньямінавы бацькі: Гельтруда і Нічыпар, — прадоўжыў далей Расінскі. — Так што папрашу цябе, Наста, зрабіць выгляд, што я да іх сям’і — ні пры чым. Мяне на вяселлі не будзе, і нават, як начальніка Веньяміна. Я не хачу сваёй прысутнасцю азмрочваць цішыню і лад у сям’і Гельтруды і Нічыпара. Ты, Наста, будзеш на вяселлі трымацца першага дружка Веньяміна. Гэта будзе Руслан. Я ведаю, што ён табе падабаецца, таму раю звярнуць на яго ўвагу.

— Веніямін раней казаў, што Руслан мне не пара, — заўважыла Наста. — І што хлопца цікавяць толькі камп’ютары.

— Таму я і выклікаў для цябе іміджмейкера, каб ты стала сапраўднай каралевай і спадабалася Руслану, — сказаў Расінскі.

Насце нічога не заставалася, як сказаць яму: «Дзякуй!» Аднак у душы ў дзяўчыны ўсё бунтавала: Аляксей падабаўся ёй. Няўжо ў яго не засталося ні якіх пачуццяў да яе пасля таго няўдалага сватаўства? Няўжо ён дагэтуль трымае крыўду?

На вяселлі Наста выглядала шыкоўна: цёмна-сіняя сукенка з акруглым выразам спераду і трохвугольным са спіны, абцягвала яе прыгожую, вытанчаную постаць. На шыі і запясцях Насты — каралі. А побач з дзяўчынай неадлучна знаходзіўся Руслан у стыльным чорным касцюме, сур'ёзны і строгі. Быццам мужны рыцар, ён ахоўваў яе ўвесь святочны вечар. Чароўнай прыгажосцю свяцілася нявеста, з вартасцю і дасканаласцю моцнага мужчыны трымаўся жаніх. Яго маці, Гельтруда, чарнавокая, з тоўстай касою, абвітай вакол галавы, нагадвала князёўну. Годна трымаўся яе муж, Нічыпар, у строгім касцюме, пры гальштуку. З імі былі і малодшыя сёстры Веньяміна, школьніцы-пагодкі, яны выглядвалі сабе кавалераў на сваім першым балі, аднак усе кавалеры былі нашмат старэйшымі за іх. Нягледзячы на гэта, дзяўчаты былі ў захапленні ад свята. Бацькі нявесты, Ганкі, далікатная гараджанка Марыля, яна была швачкай і да сённяшняй урачыстасці сама пашыла сабе аксамітна-пурпурную сукенку, і яе муж, сталяр Антось, індывідуальны прадпрымальнік, майстар па дрэве, быў апрануты ў касцюм навейшай плыні моды ў гэтым сезоне: пінжак з каўняром-стойкай і прыгожа акрэсленымі бартамі. Астатнімі гасцямі былі сябры і калегі па працы з боку нявесты і жаніха. Запрошаныя на вяселле тамада і музыкі спраўна выконвалі сваю справу, весялілі людзей. Не было толькі аднаго Расінскага, і Наста сумавала па ім. Дзяўчыне так хацелася, каб ён убачыў яе і сказаў ёй, якая яна сёння прыгажуня.

Напрыканцы вечара ў залу рэстарана зайшоў чалавек у зацемненых акулярах, магчыма, з аховы. Падышоў да Веньяміна, нешта сказаў, а затым скіраваў да барнай стойкі. Узяў сок, піў павольна, павярнуўшыся да гасцей, разглядваючы іх. Ён быў коратка пастрыжаны, але твар тыдні два няголены. Гэта надавала яму суровы выгляд і адначасова прываблівала: які ён на самай справе?

— Куды вы паедзеце пасля вяселля? — пацікавілася Наста ў нявесты, ведаючы, што шлюбная ноч, па традыцыях продкаў, павінна быць не ў бацькоўскім доме. Да ўсяго, маладыя не маглі заставацца ў доме Расінскага: тут мелася начаваць уся радня жаніха і нявесты, ды і дом гэты прадстаўлены для іх не як дом Расінскага, а як дом Веньяміна, у якім кватаруе Наста.

— Нас адвязуць на сядзібу, — адказала Ганка.

— Аж пад Нясвіж? — здзівілася першая дружка. — А хто павязе?

— Вось той мужлан, што ля барнай стойкі.

Наста ўважліва агледзела мужчыну. Нешта знаёмае ў ягонай постаці і рухах падалося дзяўчыне.

— А хто гэта? — прашаптала яна на вуха нявесце.

— Не ведаю, — паціснула тая плячыма. — Нашых бацькоў да дому Расінскага павязе вадзіцель фірмы на «Газэлі». Калі вы з Русланам хочаце паехаць з намі да Нясвіжа, то папрасіся ў гэтага мужчыны, можа ў яго ёсць месца, бо я толкам не ведаю, што ў яго за машына. Гэта Веньямін заказваў. Магчыма, ён з аховы іхняй фірмы.

— Ён мне Аляксея нагадвае, — мовіла Наста.

— У Аляксея ж валасы доўгія і кучаравыя, — заўважыла Ганка. — Хаця, хто яго ведае? Расінкі ж цэлы тыдзень дома не быў, ён нам на сядзібе пакоі рыхтаваў.

— А, можа, там лішніх пакояў няма — для мяне і Руслана?

— Не ведаю. Я ж не была на сядзібе.

Да гаворкі дзяўчат падключыўся Веньямін, які ўвесь час трымаў нявесту за руку і, відаць, яму надакучылі перашэпты сяброўак.

— Пра што спрачаецеся? — пацікавіўся ён, а калі дзяўчаты сказалі яму пра што, адказаў: — Ды ёсць там лішнія пакоі, аднак не ведаю, ці згодзіцца вадзіцель. Яму загадана прывезці толькі нас.

— А бацька там? — шапнула на вуха Веньяміну Наста.

Той усміхнуўся і адказаў:

— Калі засумавала, падыдзі да вадзіцеля і напрасіся ў госці.

— Я з Русланам хацела. Твой жа бацька сам мне яго сватаў. Вось хачу паказаць, што выканала загад.

— Ідзі да вадзіцеля, — падштурхнуў яе брат.

І Наста паслухалася, усміхнуўшыся Руслану: «Я — на хвілінку!», скіравала да барнай стойкі. Чым бліжэй падыходзіла, тым мацней трапятала яе сэрца ад хвалявання.

— Добры вечар! — мяккім голасам сказала Наста, падышоўшы да мужчыны. — Я — першая дружка нявесты. Жаніх і нявеста запрашаюць мяне разам з першым дружкам жаніха Русланам на сядзібу ў Нясвіж. Дык ці будзе ў вас месца ў машыне для нас?

— Адно, — суха вымавіў вадзіцель.

А Наста ўзіралася ў яго прыгожа акрэсленныя вусны, і сама прысутнасць гэтага мужчыны заспакойвала і надавала ўпэўненасці: ад яго сыходзіла такая моцная энергія, што Наста гатова была ехаць з ім куды заўгодна. «Можа, я выпіла лішняга?» — падумала яна.

— Што яшчэ? — пацікавіўся незнаёмец.

І Насце падалося, што ягоны голас абвівае яе постаць, як цёплы павеў летняга ветру.

— Прабачце, — прашаптала яна і заспяшалася ад яго.

Вярнулася да Руслана. Хлопец моцна сціснуў яе далонь, затым прытуліў да сябе.

— Хацела ўцячы ад мяне да таго бандыта? — пажартаваў ён.

— Я думала, мы паедзем у Нясвіж з жаніхом і нявестай, — маркотна прагаварыла Наста, — але ў машыне толькі адно месца. Гэта — вадзіцель.

— Я так і зразумеў, — адказаў Руслан. — Па ім бачна, што не госць: трымаецца адасоблена і без спадарожніцы.

«Адасоблена?» — засяродзілася на гэтым слове Наста і ўспомніла: Расінскі гаварыў, што любіць быць аднаасобнікам, не любіць калектываў… А яшчэ ён гаварыў, што яго на вяселлі не будзе. А што, калі гэта зусім не вадзіцель, а сам Расінскі? У машыне, звычайна, чатыры месцы. На заднім сядзенні сядуць жаніх з нявестай, а ля вадзіцеля, і сапраўды, застаецца толькі адно месца. Значыць, не схлусіў. Калі гэта Расінскі, і ён, сапраўды, не раўнуе яе да Руслана, то мог сказаць, што возьме на задняе сядзенне і чацвёртага пасажыра. Значыць, гэта не Расінскі, а звычайны вадзіцель, і ён страхуе сябе і не хоча браць чацвёртага пасажыра. Але, адкуль тады «звычайны вадзіцель» ведае дарогу да сядзібы? Магчыма, ён бываў там. А, магчыма, ён прыехаў разам з Расінскім. Тады ў машыне няма свабодных месцаў, і Насту, чацвёртым пасажырам, вадзіцель не возьме. Але ж дзе тады сам Расінскі?

Наста стамілася ад сваіх разважванняў і здагадак, а госці пачалі ўжо выходзіць з-за стала. Маладыя пакінулі залу. Пачалі выходзіць і размяшчацца ў машынах і іншыя госці.

— Наста! Ты з намі? — паклікала яе з «Газэлі» цётка Гельтруда.

Дзяўчына разгублена зірнула на абдымаўшага яе Руслана.

— Ты паедзеш? — пацікавілася ў яго.

— З такім гуртам родзічаў? — засумняваўся ён. — Ды не. Дзе я там буду начаваць? Едзь адна. Я лепш на таксі, дадому, — чмокнуў ён яе ў шчаку на развітанне.

Наста, расчаравана ўздыхнуўшы, села ў машыну. У доме Расінскага цэлую гадзіну размяшчала родзічаў жаніха і нявесты, злуючы на Расінскага: «Пакінуў мяне тут за гаспадыню. А сам на сядзібе адпачывае, як пан, у цішыні і спакоі».

Наста размясціла цётку Гельтруду з дзядзькам Нічыпарам у сваёй спальні, а бацькоў Ганкі — у спальні іх дачкі. Траім сёстрам Веньяміна вызначыла начлег на першым паверсе, у пакоі брата, а сама размясцілася ў суседнім пакоі, побач з камінам. Гэта была спальня Аляксея. Па праўдзе кажучы, Наста тут была ўпершыню. Ложак Расінскага быў нешырокі, накрыты саматканай посцілкай, відаць, сямейная рэліквія, бо маці і бабка Аляксея, як ён расказваў, выдатна ткалі. Ложак у спальні размяшчаўся справа. Над ім, на сцяне, самаробная кніжная палічка, інкрустацыя па дрэве, на ёй — некалькі кніг і пару вырабаў з дрэва ў стылі этнаграфіі. Па левы бок спальні размяшчаўся камп'ютарны стол і шафа-купэ, уманціраваная ў сцяну. Больш ніякага ўбранства, усё сціпла і строга, у адпаведнасці з характарам гаспадара.

Наста разаслала ложак і толькі тады ўспомніла, што не ўзяла са сваёй спальні начную кашулю. Аднак не захацела турбаваць сваякоў і адчыніла шафу Расінскага, дастала адтуль першую, якая трапілася пад руку, кашулю і апранула на сон.

Прачнулася Наста ад святла фар машыны, якую нехта прыпаркоўваў якраз пад акном спальні. Здзівілася і адхінула шторы. У водсвеце месяца заўважыла постаць мужчыны, які выйшаў з машыны і скіраваў да ўваходных дзвярэй. Затым пачула бразгат ключоў і крокі ў холе. Выйшла са спальні. Пры святле начнога бра пазнала вадзіцеля, з якім размаўляла ля барнай стойкі ў рэстаране.

— Ты хацела ў Нясвіж, але затым села ў «Газель», — нагадаў ён.

— Я не хацела ехаць без старэйшага дружка маладога, бо я сама — старэйшая дружка маладой, — упэўнена мовіла Наста, — а дружкі павінны быць неразлучны.

— І ён з табою? — прагучаў гнеўны голас незнаёмца. — У маёй спальні? — і скіраваў да Насты, спрабуючы зайсці ў пакой.

— Гэта не ваша спальня! — смела загарадзіла яму шлях Наста. — Гэта спальня гаспадара, Аляксея Расінскага.

— А я, па-твойму, хто? — узяў яе за плечы мужчына і адхінуў з праёму дзвярэй, увайшоў у спальню.

Пачуўся шчаўчок выключальніка, і пакой азарыўся святлом. Цяпер Наста магла выразна разгледзяць твар незнаёмца. Ён быў без акуляраў. Аксамітна-шэрыя вочы з цяплінкамі карых зорачак, як быццам у лесе, сярод дрэваў мільгаюць іскрынкі гарачага полымя. Такія прыгожыя вочы ў… Расінскага! І ён сам такі незвычайны з гэтай непрывычнай кароткай стрыжкай, і такое цяпло і заспакаенне сыходзіць ад яго, магутнай хваляй ахінае Насту, здаецца, захутаецца яна зараз, як у аблокі, у гэту яго цеплыню і спакой. І гэта ўжо адбываецца на яве!

Аляксей абняў яе і мякка прашаптаў: «Ты такая прывабная ў маёй кашулі». Ягоныя цёплыя вусны зусім побач з яе вухам, ён шэпча ёй іншыя ласкавыя словы і рука яго патанае ў яе валасах. «Мне не было чаго апрануць, — кажа яму Наста. — У маёй спальні госці, і я апранула вашу кашулю». — «Чаму «вашу»? — адказвае ёй Аляксей. — Тут усё наша! Наша з табою!»

Ён падхоплівае яе на рукі і кладзе на ложак. «Не! — пратэстуе Наста, вызваляючыся ад яго. — Тут госці! Тут ваша Гельтруда!» І словамі сваімі парывае чароўнае імгненне, абоіх вяртаючы ў рэальнасць. Яна яшчэ не ведае, ці правільна зрабіла, адно яна ведае дакладна: Аляксей першы зрабіў крок ёй насустрач. Але ці азначае гэта, што ён кахае яе?

— Вы адвезлі маладых у Нясвіж? — спытала ў Расінскага Наста, накрываючыся коўдрай.

Ён у гэты час моўчкі і незадаволена ўзвышаўся над ёю, стоячы ля ложка. Маўчаў. Пазіраў на яе.

— Вы вярнуліся па мяне, ці проста нанач, дадому? — дапытвалася Наста. — Можа, мне пайсці ў другі пакой? — пытала яна, расказваючы, дзе і каго размясціла, а сама прыкідвала, куды ж ёй пайсці спаць.

Расінскі прысеў да яе на ложак:

— Я так разумею, камусьці з нас не хапае месца. А ўдваіх мы не можам спаць на адным ложку, так?

— Я магу пайсці да сясцёр Веньяміна, — памкнулася Наста, але Расінскі сказаў:

— Лепш за ўсё нам пайсці адсюль удваіх. Паедзем у Нясвіж.

— Але ж вы не выспіцеся, — занепакоілася Наста. — Ды і як я пакіну гасцей? Што яны будуць адны рабіць раніцай? І што скажуць пра мяне сваякі: дзе я дзелася?

— Яны скажуць, што ты паехала з кавалерам, — адказаў Расінскі. — Збірайся! Паедзем!

Наста не рашалася.

— Думаеш пра Руслана? — згадаў Аляксей. — Ну што ж…

Ён падаўся са спальні. Наста чула, як аддаляюцца яго крокі. Затрымцела, сарвалася з месца, выбегла са спальні.

— Аляксей! — паклікала яго.

Ён толькі што дакрануўся да дзвярной ручкі, але дзвярэй не адчыніў, павярнуўся да дзяўчыны.

— Чакаю цябе ў машыне, — сказаў ёй.

Наста вярнулася ў спальню і пачала апранацца.

Ехалі ў кірунку Нясвіжа па цёмнай трасе, у акружэнні прыцішанага лесу.

— Я згадала адзін выпадак, — гаварыла Наста таемна-пявучым голасам. — Аднойчы, калі я вучылася ў дзявятым класе, пайшла ў лес у ягады і заблудзілася. І нечакана перад сабою ўбачыла вялікага сабаку. Я тады і не падумала, што гэта быў воўк. Ён азірнуўся, паглядзеў на мяне і пайшоў далей. І я пайшла за ім, мяркуючы, што сабака выведзе мяне да вёскі. І ён вывеў мяне да закінутага хутара. Дом быў зусім развалены, а пад акном квітнела ружа. Яна мне здалася такой адзінокай, што я вырашыла забраць яе да сябе, але было лета, а кветкі перасаджваюць толькі восенню. І я часта прыходзіла наведваць ружу, баялася, каб ніхто яе не зламаў, і заўсёды там бачыла таго сабаку. Я нават, пачала прыносіць яму ежу. Потым бацька мне сказаў, што гэта ваш хутар, а на сядзібу прыходзіць не сабака, а воўк. Вы ведалі гэтага ваўка? — звярнулася яна да Расінскага.

— Не, — адказаў ён. — Гэта пакінуты хутар. Некалі ўсе хутары сцягвалі ў вёскі, фарміравалі калгасы. Наш хутар не сцягнулі. Ён застаўся ў занядбанні. Маім родзічам далі калгасны дом, у якім жылі яшчэ тры сям'і. Таму мая бабуля, а потым і маці, гадавалі ружы на хутары, баяліся, што ля калгаснага дома ружы зламаюць дзеці. А на хутары яныраслі.

— Значыць, на хутар ніхто староннi не хадзіў, бо воўк ахоўваў яго, — здагадалася Наста.

— Не ведаю гэтай гісторыі, — маркотна мовіў Аляксей. — Мае бацькі потым купілі старэнькую хатку ў ваколіцы Мінска, затым я перабудаваў яе ў гэты катэдж, у якім мы жывём. Дарэчы, катэдж і сваю фірму я падарыў на вяселле сыну, — паведаміў ён. — Сам жа хачу заняцца вясковым турызмам. Зараз мы едзем на сядзібу, ты ўсё пабачыш на месцы.

— Значыць, вы пасля вяселля пераязджаеце сюды? — засмуцілася Наста. — А як жа я? Як мой кветкавы бізнес? Ці дазволяць мне маладыя жыць з імі, дый ці сама я захочу? Калі найму кватэру ў Мінску, побач з маёй крамай, мне будзе нязручна ў такую далячынь ездзіць у цяпліцу.

— Вы ж з Ганкай высадзілі ружы ў адкрыты грунт, — нагадаў Расінскі.

— Гэта нічога не мяняе, — сказала Наста. — Вы пакідаеце мяне, без вашай дапамогі я не змагу. Веньямін цяпер будзе заняты сям'ёй і справай фірмы, а Ганцы ці патрэбна зараз цяпліца, яна будзе дбаць пра сям'ю, мужа, пра нараджэнне дзіцяці. Я застаюся сам-насам са сваім бізнесам, я нават не паднялася ні на грам. Як жа ж я змагу аплачваць кватэру і плаціць падаткі? Вы выпрабоўваеце мяне на трываласць духу?

— Не, — уздыхнуў ён. — Гэта — мой пракол у прапанованым табе бізнесе. І я гэта зразумеў, таму і пачаў будаваць сядзібу для вясковага турызму. Некалі мая маці казала: «Захапленне не павінна быць працай. Гэта — дар Божы, твая аддушына. І калі пачынаеш дар Божы прадаваць за грошы, чакай няўдачы». Сёння ў цябе ёсць выбар: калі давяраеш мне, прымі ад мяне яшчэ раз дапамогу. Я прапаноўваю табе разам са мной заняцца вясковым турызмам. Кветкі мы будзем гадаваць толькі для прыгажосці. Ад таго парастка бацькоўскай ружы возьмем яшчэ адзін і пасадзім на хутары Стольніца. Будзе памяць пра маіх продкаў і для нас, і для Веньяміна.

— Вы хочаце мне прапанаваць сумесны бізнес, альбо бярэце мяне на працу?

— Я прапаноўваю табе сямейны бізнес.

— Пэўна, знайшлі ў лясных глухаманях заклятыя валхвамі скарбы?

— Кажуць, старажытнай рэлігіяй нашых продкаў быў ведызм, — сказаў Расінскі. — Таму дагэтуль сучасны земляробчы каляндар беларусаў утрымлівае назвы багоў і святаў, якія адносяцца да старажытнай ведыйскай культуры. Валхвы-вешчуны ўмелі разумець мову звяроў.

— А пра вашага прадзеда на вёсцы кажуць, што ён быў чараўнікам і мог ператварацца ў воўка, — сказала Наста. — Я так мяркую, што ягоны дух і ахоўваў сядзібу, маскіруючыся пад старога воўка. Дарэчы, ён быў такі спакойны і не нападаў на мяне. Мы нават пасябравалі з ім. Цяпер я разумею, адкуль у вас такая цяга да адасаблення, такая любоў да хутароў. Значыць, татэмнай жывёлай вашага роду быў воўк.

— Ты кажаш праўду, — усміхнуўся Расінскі. — Мы ўжо прыехалі!

Вачам Насты адкрыліся прыгожыя, акрэсленыя святлом ранішняга неба, краявіды хутара ў абрамленні каменнай агароджы.

— Спачатку я хацеў зрабіць плецены плот, аднак, тут бегаюць дзікі — сказаў Расінскі, падаючы руку Насце, калі яна выходзіла з машыны.

Дзяўчына ступіла на мяккі дыванок пакрытай расою травы. Сцепанулася ад холаду: яна па-ранейшаму была ў той самай вячэрняй сукенцы з аголенымі плячыма. Расінскі зняў з сябе пінжак і затуліў у яго дзяўчыну. І яна адчула водар яго цела і адразу пашкадавала аб тым, што злавала яго па дарозе сваімі сярдзітымі папрокамі.

— Маладыя зараз адпачываюць у гасцявым доме, — паказаў Расінскі рукою на прыгожую хатку, што была справа. — Там ёсць банкетная зала на пяцьдзясят чалавек, камін, чатыры спальні, два санвузлы і кухня, — расказваў ён. — Далей, ля самай агароджы, размешчана лазня на дзесяць чалавек, з залай адпачынку, камінам, парыльняй, невялічкім басейнам і душам. З правага боку знаходзіцца дом гаспадара, мы якраз туды і накіроўваемся. Ля дома я абсталяваў месца для мангала. Там можна нават павэндзіць рыбу. Ты любіш вэнджаную рыбу?

— Люблю, — адказала яна і ступіла на парог дома.

Наста не ведала, што яе чакае тут, аднак яна ўжо забылася на ўсе свае крыўды і рэўнасць да Аляксея. Ён правёў яе ў гасцёўню, заспрасіў за стол.

— Я хачу прапаноўваць людзям адпачынак у любы сезон, — дзяліўся сваімі планамі Расінскі, гатуючы Насце гарачы чай, каб яна сагрэлася. — У асноўным, гэта будуць карпаратыўныя вечарынкі, сямейныя святы і вяселлі. Гасцявы дом планую здаваць. Думаю, сядзіба будзе даваць добры прыбытак, і людзі таксама будуць задаволены. Сядзібу я ствараў з любоўю і густам. Цяпер планую пабудаваць яшчэ адну, на іншым участку.

Ён падаў Насце кубак чаю з прыемным водарам мяты. Яна крышку адпіла, але адчувала, што зараз засне. І Расінскі заўважыў гэта. Зняў з яе пінжак, дапамог вызваліцца з сукенкі, загарнуў яе, як маленькае дзіцятка ў мяккі халат і аднёс у спальню. Яна спала побач з ім, абняўшы яго рукамі за шыю, прытуліўшыся да яго так, як быццам баялася, што нешта можа разлучыць іх. Ён таксама моцна заснуў, змучаны за дзень.

Наста прачнулася ад яркага сонечнага святла, якое лілося з вокнаў. Паднялася з ложка. Заўважыла побач мяккі мужчынскі халат і накінула яго на сябе. Яна не памятала, дзе пакінула сваю сукенку. Выйшла ў гасцёўню. Расінскі, апрануты ў брыджы і майку, сядзеў за накрытым сталом, на якім стаялі розныя вясковыя прысмакі ад малака да вэнджанай рыбы.

— Абедаць будзеш? — пацікавіўся ён у Насты.

— Мне макіяж зняць трэба.

Наста зняла макіяж ягоным крэмам для галення. Задаволеная сабой, выйшла з ваннага пакойчыка. Села за стол.

— Мы спалі разам, ці мне прыснілася? — спытала яна.

— Прыснілася, — адказаў ён.

Наста ўсміхнулася:

— А я вам падарунак хачу зрабіць, як гаспадару дома, у традыцыях нашых продкаў, — і выбегла ў двор.

— Паела б што-небудзь спачатку! — крыкнуў ёй услед Расінскі.

Стаяў сонечны, ласкавы поўдзень. На верандзе гасцявой хаты сядзелі Веньямін з Ганкай, яны, вітаючыся, памахалі Насце рукамі. Дзяўчына адказала ім і падалася за агароджу сядзібы.

Увайшла ў лес і пачала збіраць кветкі, сплятаючы іх у вянок. Нечакана заўважыла, як між кустоў хітнулася і застыла шэра-рудая постаць воўка. Гаспадар лесу, схаваўшыся сярод лістоты, пільна сачыў за нечаканай госцяй. Наста не адказала на яго погляд і не павярнулася да яго спіной. Яна, у думках

сваіх, паклікала таго, хто мог абараніць яе: «Аляксей!» І адчула яго прысутнасць. Менавіта ў гэты момант воўк выслізнуў з-за кустоў і кінуўся ў гушчыню лесу.

— Чаму ты не паклікала мяне на дапамогу? — ціха прамовіў Аляксей, параўняўшыся з ёю і абхапіўшы дзяўчыну за плечы.

— Я клікала, у думках, — прашаптала яна, павярнуўшыся да яго і прынікшы тварам да ягоных грудзей.

— Ты спалохалася?

— Не, — адказала Наста. — Я чытала, што воўк успрымае чалавека, як воўка і ацэньвае яго. На моцнага ён не нападае. Воўк нападае на слабага. Ты — моцны! — з пяшчотай гледзячы на яго, сказала Наста. — Воўк угледзеў цябе і адчуў, што ты варты сапернік.

— Пайшлі дадому, — прашаптаў Расінскі, пяшчотна абдымаючы яе.

— Я пляла гэты вянок для цябе, — сказала Наста, — для гаспадара сядзібы «Стольніца». Вянок — сімвал бясконцасці сямейнага роду. Выраблены з кветак, у перамежку са стужкамі, з'яўляецца абярэгам ад злых духаў. Такія вянкі пакідалі на дрэвах і гарышчах — ад маланкі, клалі пад першы сноп, каб быў добры ўраджай на наступны год, падкладвалі пад курыцу-наседку, у калыску немаўляткі, хавалі пад вопратку ад вядзьмарак, змяшчалі на палях і агародах. А дзяўчаты мыліся вадою з мокрага вянка для прыгажосці і здароўя. Для вырабу абярэга на каханне, нараджэнне дзяцей, багацце і шчасце ў вянок уплятали часнок, цыбулю, стужкі, каласкі, цукеркі, пярсцёнкі і магічныя травы, — казала яна.

А Расінскі слухаў яе і ўсміхаўся. Яго погляд цяплеў, а вусны дакрануліся да яе твару. Наста адчула, што ён хоча пацалаваць яе, захвалявалася і працягвала гаварыць далей:

— А яшчэ я ведаю пра ручнікі! Жанчыны іх ткалі доўгімі зімовымі вечарамі, укладваючы ў іх таямніцу сваёй душы, свае жаданні, упрыгожваючы іх чароўнымі пісьмёнамі-арнаментам. І іх жаданні збываліся.

— Наста! — пяшчотна паклікаў яе Расінскі.

— Дзяўчына магла трапіць у грамаду жанчын толькі праз абрады вянчання і вяселля, папярэдне выткаўшы сорак ручнікоў.

Расінскі, усміхаючыся, дакрануўся сваімі вуснамі да яе трапяткіх вуснаў.

— Наста, досыць пра ручнікі, — прашаптаў ён і пачаў цалаваць яе.

Пасля абеду Веніямін з Ганкай вярнуліся ў Мінск, да гасцей. А Наста з Аляксеем з таго дня пачалі жыць у Стольніцы.

Вы бачылі сярод квецені і прыгажосці гэтага хутара маленькую дзяўчынку з хвалістымі, цёмнымі, як у цыганкі, валасамі? Гэта іх дачушка. Жывуць Аляксей і Наста ў наваколлі дзікай прыроды. Яны кахаюць адно аднаго, і вельмі шчаслівыя.

А зімовымі вечарамі, калі яны ўтраіх грэюцца, у абдымку, ля каміна, ласкавая поўня заглядвае ў іх акно і дарыць ім сваё бласлаўленне. Дзікія жывёлы падыходзяць да агароджы сядзібы, не баючыся гаспадароў і не шкодзячы ім. Чалавек жыве ў згодзе і адзінстве з прыродай. І прырода дарыць яму сваю шчодрасць.



## Валеры МАКСІМОВІЧ

### МОЙ СВЕТ

**1**

З нязбытных і неапалімых дзён
У сэрцы чуйным светлы боль пануе, —
Мяне краса дзівосная чаруе,
Бярэ ў святы і грэшны свой палон.

Яна — паўсюль, яна — натхнёны Бог,
Магутнае і велічнае штосьці...
Яе заўжды, як дарагую госцю,
Пускаю ветла я на свой парог.

Прыход яе няўмольны, як прысуд,
Як сэрца трапяткога наталенне...
Заўсёдна мяне ставіць на калені
Спакуснай прыгажосці вечны цуд.

І зноў я, незаменны паняты
Зямнога непаўторнага прыгоства,
Нястрымна рвуся на дзівосны востраў —
Ў палон жадана-мройнай пекнаты.

---

*__Максімовіч Валерый Аляксандравіч__ нарадзіўся 21 сакавіка 1962 года ў вёсцы Траянец Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1989). Доктар філалагічных навук. Быў дацэнтам кафедры беларускай літаратуры БДУ, першым прарэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, выконваў абавязкі дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Працуе ў Інстытуце філасофіі НАН Беларусі.*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Мяцежнай споведзі скрыжалі» (2012).*

**2**

Паднебнай высі купал-палатно
І сонца прамяністае ў зеніце,
Вы нада мной святло сваё разліце,
Мяне тым блаславіўшы заадно.

Ніяк не размінуцца ў небе нам:
Зраднёны мы адзінаю любоўю.
Я вам не здраджу, вам я не адмоўлю —
Бо нас вянчае прыгажосці храм, —

Той храм, што ззяе вечна нада мной,
І храм, пакутна выяснены ў сэрцы...
І вабіць зноў блакітнае азерца
Сваёю недасяжнай глыбінёй.

**3**

Вачэй з’яснёных вабіць глыбіня —
Чароўная, таемна-зіхаткая,
Што сэрца мне дарэшты спапяляе,
Пачуццяў шквал наверх выносіць з дна.

І млее ўся істота неўпрыкмет —
І радасць, і пакута знекуль хлыне, —
То заіскрыцца, то няўзнак застыне
У прадчуванні цуду цэлы свет.

Душа святкуе свята міг адзін:
Знадзееная, крылы развінае —
Насустрач свайму шчасцю вылятае,
Каб дасягнуць ёй зваблівых вышынь,

Каб вылецець, нарэшце, на святло,
На момант хоць, на міг адзін забыцца
І поглядам мілосным наталіцца —
Міжволі трапіць у яго палон.

**4**

Змянлівы свет загадкавых вачэй —
Ліловых, аксамітных, васільковых,
Бяздонных, зіхатлівых, крамянёвых —
Усіх пякнот на свеце мне мілей.

Бо ён — заўжды пульсуючы, жывы,
Пранізлівы, кранальны, прамяністы,
Незамутнёны, дабрадушны, чысты,
А часам спапляляльна-агнявы.

У ім адным — суквецце ўсіх жарсцей,
Усіх і фарбаў дзіўных, і калёраў.
У ім — свой шарм адметны і свой нораў,
Бо гэты свет — спакуснік-чарадзей,

Што незаўважна, як бы незнарок,
Падступна вабіць у сваё прадонне —
Гулліва-віратлівае улонне,
Прыкмеціўшы цябе яшчэ здалёк.

Ах, мне знаёмы добра гэты вір,
Што, як магніт, прыцягвае заложна:
Сябе згубіць тут ненаўмысна можна,
Бо ён — як заварожаны пацір —

Гарэзліва-юрлівісты наскрозь,
Іскрысты, мігатлівы, прыцягальны.
Для ўсіх вандроўцаў, спешна закаханых,
Паслужлівы і інтрыгоўны госць.

**5**

У свеце робат-кібаргаў, машын,
У свеце спрэс фальшывым і падманным
Так крыўдна мала светлых тонаў, гамаў
Сярод зліняла-выцвілых карцін.

Сярод аглухлай і нямой цішы
Ці хмельнага, праз меру, пацяшання —
Нікчэмнага, пустога балявання —
Пагляд вачэй жывых мне да душы.

Прыветлівы пагляд, што мімаходзь
Я на сабе лаўлю, няўзнак страчаю
І тут жа сарамліва адпускаю
У нікуды, у незваротнасць. Хоць

Мне рупіць неадольна затрымаць
Яго даўжэй — як льга — ў сваёй уяве
І час астатні з ім яшчэ пабавіць,
І — пра сябе — таемна пакахаць.

**6**

Блукаючыя позіркі лаўлю
І сам я, грэшны, паміж іх блукаю,
Сябе падманна ў думках пацяшаю,
Што іх усіх — дарэшты ўсіх — люблю:

Гарэзлівых, смяшлівых, цікаўны́х,
Разгубленых, расчуленых, раўнівых,
Падатлівых, пахмурных, сарамлівых
І нават насцярожаных і злых.

Усе яны мне — як адна сям’я,
І я, прызнацца, ім не чужаніца:
Мая часцінка ў іх вачах іскрыцца,
Мая надзея і любоў мая.

І цепліцца ў грудзях адзін спадзеў:
Каб хоць на выпадак які, хоць зрэдку
Мне той, каго сустрэну, неўзаметку
Сваю душу раскрыць бы захацеў

І выказаць усё, што прыбярог:
Свой боль, трывогу, радасць, нецярпенне,
Сваё, няйнакш, сакральнае імкненне, —
І я ахвотна паспрыяць бы змог.

Я б змог, паверце, зразумець таго
І, як сваёй, душы паслухаць споведзь,
Знайсці ў адказ патрэбныя так словы
З падобнага ва ўсім жыцця свайго.

**7**

З падобнага жыцця… Ды ўсё ж, ды ўсё ж
У ім нямала ад мяне самога,
Падобнага, канешне, ды другога,
Набліжанага да сябе найбольш.

Ёсць шмат таго, што лучыць нас, але ж
Ёсць тое, што выгодна вылучае,
Быць іншым, непадобным прымушае, —
Каб розніца — няма ніякіх меж.

У самавітай рознасці сваёй
Я цэльнасці, я самасці шукаю

І свет свой апрычоны спасцігаю,
Бо ён — адзіны, непаўторны, мой.

Ён толькі мой — і я яго люблю
І пешчу пачуццёва, і люляю,
І з ім на адзіноце размаўляю,
З яго сябе самога я ляплю.

Яго ніяк мне нельга не любіць:
Як не любіць — яго я тут жа страчу
І не сустрэну больш, і не пабачу,
А горш — папросту перастану быць.

**8**

Ах, свеце мой, скажы мне, з даўніх дзён
Куды вядуць усе твае дарогі,
Што вечнаю надзеяй і трывогай
Бяруць у непазбыўны свой палон?

Яшчэ, прашу, мне адкажы, уваж —
Куды мая сцяжынка шпарка ўецца,
Чаму на сэрцы тое адаб’ецца,
Што толькі прывід мройлівы, міраж?

Бяжыць сцяга жыцця майго, бяжыць,
А я няўхільна ў сэрцы сваім грэю,
Па ўсім відаць, дарэмную надзею —
Сам-насам, свет, з табой пагаварыць.

І ўслед крычу: «Спыніся, пачакай,
Дазволь жа перавесці ледзьве дух мне.
Нічога ад таго, дальбог, не рухне...
Ну дай жа адпачыць хоць крышку, дай!..»

Але маўчыш ты, свеце ясны мой,
Нібыта слоў маіх зусім не чуеш,
А я з табой і днюю, і начую,
І вечарую акурат з табой.

**9**

На бітых і нязведаных шляхах, —
Твой пілігрым, — удзячны я бясконца
За тое, што жыву, што свеціць сонца,
І за слязу скупую на вачах...

Не ведаю, чаму з нядаўніх дзён
Хвалюе моцна дзень твой, свеце, кожны...
І хоць на сэрцы часам і трывожна —
За ўсё табе я нізкі шлю паклон.

Вітаю сэрцам шчасную пару —
Час пасяўны і жніўны, умалотны.
І на зямлі таму я не самотны,
Мой свеце, што з табою гавару.

Калі ж зноў заклікальна пазаве
Туды, за небакрай, мяне дарога, —
Па ёй я крочыць буду да знямогі...
Пакуль жыву — датуль мой свет жыве.

**10**

Ёсць я — ёсць свет мой. І таму магу
Глядзець адкрыта на людскія твары,
Магу свае снаваць бясконца мары,
Сказаць сабе, нарэшце, што магу

Любіць па-свойму, як ніхто й нідзе,
Пакутаваць — таксама адмыслова,
Не вымавіўшы слова ці паўслова
І зблытаўшы наўмысна ноч і дзень,

Прасцяг і вышу, воблакі і снег,
Адбітак зор у лужыне і ў небе.
Я іншы свет вачмі сваімі згледзеў, —
За ўсе выгоды даражэй ён мне.

Ён — казачны, ён дзіўны насамрэч,
Даверлівы, а больш сентыментальны,
Прыгожы, гарманічны, ідэальны.
І ўжо адняць і выгнаць яго прэч

Не ўдасца хцівым гіцлям век з мяне.
Не мець ніколі перамогі-свята
Ні ворагам заклятым і ні катам,
Таму што Бог заўжды спрыяе мне.

**11**

Святляны, незабыўны, дарагі,
З давён-даўна нічым не замутнёны,
Мой свет, ты там, дзе раскашуюць клёны
І дзе стаяць мурожныя стагі.

Ты там, дзе каляінаў след застыў
На звілістай дарозе цераз поле,
Дзе неслася на грывах конскіх воля —
На сотнях конскіх серабрыстых грыў.

Мой незабыўны, дарагі ўспамін!
Ты, нібы тое возера надзеі,
Што блаславёнай кропляй кожнай грэе
Ад тых далёкіх і святых часін.

Люстэркам дзіўным возера блішчыць,
І сонца промні ў глыбіню сягаюць
І там, на дне яго, няўзнак знікаюць,
Каб зноў святое дзейства паўтарыць.

І я ля гэтай боскай пекнаты,
Вадой і сонцам зыркім прасвятлёны,
Гляджу вакол пяшчотна і ўлюбёна,
Мае сястрыцы і мае браты.

**12**

Жывая і святая прыгажосць —
І найчысцейшай, і найкрасшай пробы —
Мне да душы і сэрцу даспадобы
Таму, што яна ў свеце *гэтым* ёсць.

А *там* — не будзе, колькі ні заві,
Такой красы чаруючай... Мой Божа,
Ды хто, скажы, пражыць на свеце зможа
Без хараства, пакутаў і любві?!

Такі ж і мой прысудны кон і лёс —
Слугой красы і панятым быць разам
І за жыцця святочную акрасу
Праліць нямала светла-сумных слёз.

Мне б удыхаць і піць нагбом красу
Удзень, увечар, уначы і ўранку.
Зачараваны ёй, бесперастанку
Любоў у сэрцы праз гады нясу.

Мне шчасце — жыць і піць жыцця напой,
Настоены на шчырасці сардэчнай.
І на зямлі — квітнеючай і вечнай —
Пакуль жыву — датуль любоў са мной.



Іван КАНАНОВІЧ

# АПАВЯДАННІ

## КУРОРТНАЯ ІДЫЛІЯ

Настрой у Лідзіных сябровак, як і ў яе самой, быў па-святочнаму радасна-прыўзняты — яны заўзята абмяркоўвалі нечаканую пуцёўку ў ялцінскі санаторый. Падфарціла брыгадзірцы. І адпачынак выпаў улетку, і «гарашчая» пуцёўка як з неба звалілася — дыхай марскім паветрам, плёхайся ў салёнай вадзіцы, загарай, прымай працэдуры, дый на загарэлых, прывабных мужчын паглядвай.

Старшыня прафкама Пятро Грыневіч — статны маладжавы мужчына з пышнай пшанічнай шавялюрай прынёс пуцёўку ў альтанку, дзе шпеняўшчыцы, расклаўшы хатнія прысмакі на белую кужэльную сурвэтку, гуртам палуднавалі і наперабой расхвальвалі адна адну за кулінарныя здольнасці.

Цэхавы актывіст, асцярожна вымаючы з абшарпанай за многія гады папкі адпачывальнае накіраванне, з задаволенай усмешкай на хударлявым твары, прыязна натхняў:

— Адпачывай, ударніца, набірайся моцы, бо наперадзе ў нас вялікія клопаты — атрымалі заказ на адліўкі для новых машын. Работы — непачаты край.— Прафкамавец на хвіліну прыціх і паправіў сам сябе: — Ды што я ўсё пра работу — галоўнае, каб пуцёўка не згарэла.

— Даю слова, таварыш Грыневіч, выкарыстаць на сто дваццаць працэнтаў, — не хаваючы радасці на прывабным твары, усміхнулася нябесным блакітам вачэй шчаслівіца і шчыра запрасіла: — Мы з дзяўчатамі рашылі абмыць пуцёўку — заходзь, адрас ведаеш, чакаем.

— Забег бы з радасцю, Ліда, ды малога з садка забіраю — жонка ў другой змене. Не выпадае — вінаватым голасам апраўдваўся той і запэўніў: — Як адпачнеш, тады і сустрэнемся, падзелішся ўражаннямі.

— Дзякуй табе, Васіль, што пастараўся з пуцёўкай.

---

***Кананові́ч Іван Іванавіч*** *нарадзіўся 10 мая 1938 года ў вёсцы Кукавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці.*

*Скончыў Баранавіцкае вучылішча сельскай гаспадаркі (1956), факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1968).*

*Працаваў трактарыстам на асваенні цалінных зямель, слесарам на Мінскім аўтазаводзе, рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Выдаў кнігі прозы «Заводскія світанні» (1978), «Белы чыгун» (1981), «Цёплы камень» (1985), «Асобая зона» (1991), «Старыя званы» (2008).*

Прафсаюзны важак было крануўся ісці сваёй дарогай ды нечакана звярнуўся да адпускніцы:

— Твой санаторый мяжуецца з санаторыем вайскоўцаў, мужчын там на любы густ: ад прапаршчыка да генерала — выбірай любога, хапае і адзінокіх. Табе, маладой і статнай, як гаворыцца, і карты ў рукі.

— Вой — патрэбныя яны мне. Мае тры ўнукі неўзабаве павырастуць, пэўна, вайскоўцамі будуць — толькі з пісталетамі ды аўтаматамі і гуляюць, — шчыра ўсміхнулася падфарбаванымі вуснамі жанчына, сарамліва хаваючы каштанавы локан пад квяцістую васільковую касынку.

Пасля змены, як і дамовіліся, Ліда з сяброўкамі забралі двух старэйшых унукаў, трэцяга самага меншага Піліпку, даглядала дачка — і накіраваліся ў прыватны сектар. Дом і садок у свой час прыйшлося гаспадарчым спосабам будаваць нябожчыку Івану, якому не давялося пацешыцца ўнукамі — свечкаю згарэў у расплаўленым метале пры аварыйнай вагранцы.

Узрадаваныя і шчаслівыя гурту знаёмых жанчын, хлопчыкі ўсю дарогу весела шчабяталі: дзяліліся дзіцячымі навінамі, чыталі вершы, спрабавалі спяваць.

Ліда з дачкой Светай хуценька накрылі стол. Расчуленая гаспадыня запрасіла сябровак:

— То давайце, даражэнькія, за мой адпачынак.— І дадала са шчырай усмешкай: — Вы цяпер і за мяне старайцеся.

— Ты, мама, адпачывай, набірайся моцы і пра работу не думай — дзяўчаты і без цябе ўправяцца, — натхняла на бясклапотны адпачынак дачка і ўсур’ёз зазначыла: — Не лянуйся лісты слаць, часцей звані, каб унукі па табе не сумавалі.

У застоллі ліцейшчыцы разгаманіліся, весела шчабяталі пра свае прыгоды ў час адпачынку з навязлівымі кавалерамі і дружна рагаталі. А непаседлівыя ўнукі залазілі да знаёмых госцей на калені, кранаді за пярсцёнкі, пацеркі, завушніцы, радасна ўсміхаліся.

Хваткая, спрытная Света з прыязнай усмешкай на лагодным, як у Ліды, твары рупілася каля гасцей: то падавала прысмакі, якія сама прыгатавала, то налівала пітво і няспынна запрашала паспытаць кожную страву. Яна сярод ліцейшчыц — даўняя і шчырая сяброўка. Маці ўладкавала дачку ў сваю брыгаду, як толькі тая скончыла школу. Івана к таму часу не стала. І даччын заробак у сям’і быў не лішні. У ліцейным Света сустрэла сваё каханне — статнага блакітнавокага, усмешлівага плавільшчыка Антося, якога навучыў ліцейнаму майстэрству нябожчык Іван.

Ліда шчыра радавалася сямейнаму шчасцю маладых, у якіх адзін за адным на свет Божы з’явіліся жвавыя хлопчыкі — яе гонар і радасць.

Ліцейшчыцы з апетытам ласаваліся нарэзанымі спрытнымі, увішнымі Свецінымі рукамі тонкімі скрылямі вэнджанай паляндвіцы, хатняй, падсохлай на сонцы, кілбасой і тоўстым, у пядзю, са свежай ружовінкай, салам і наперабой расхвальвалі смакату і яе здабытчыцу. А таксама — Лідзіну маці, якой ужо было за семдзясят. Заўзятая гаспадарніца, пра якую сяброўкам часцяком распавядала Ліда, трымала карову з цялушкай, пяцёра падсвінакаў, чараду коз і авечак, незлічоныя выводкі курэй, гусей, качак, індыкоў. Вясковае птаства, у засмажаным выглядзе, упрыгожвала святочны стол адпускніцы. Мелася яшчэ арандаваць у састарэлага суседа-пчаляра пасеку. Ліда з дачкой і зяцем ледзь адгаварылі вясковую фантазёрку ад задуманага. Старая начыталася папулярнай літаратуры пра доўгажыхароў і тупка крочыла іх дарогай.

Здаволіўшыся мяснымі прысмакамі і Лідзінымі хатнімі далікатэсамі, госці перавялі позіркі на незвычайных памераў клінковы сыр і талерку з круг-

лай, як футбольны мяч, галоўкай масла, нібы знарок падрыхтаваных для такой нагоды. Несціхана гамонячы, узяліся паспытаць і малочнае. Адна з сябровак па-добраму пазайздросціла:

— От, Лідок, шчодрая ў цябе матуля — нічога табе не шкадуе. А ў маіх бацькоў нас сямёра — пяць братоў і дзве сястры. Як з'едземся разам, дык і даваць нам няма чаго — хіба толькі па кавалачку сала ці па дзясятку яек.

Ад Нюрчынага прызнання па Лідзіным твары прабегла ледзь прыкметная, дакорлівая ўсмешка:

— Ты, пэўна, бачыла, як ішлі, суседак. Яны ж кожнага абгавораць, глядзяць: хто што нясе ці вязе. Асабліва, калі Антон са Светай вяртаюцца з вёскі ды багаж разгружаюць. Ад зайздрасці млеюць. А таго не ведаюць, што ў вёсцы нічога з неба не валіцца, усё патрабуе догляду і шчырай працы. Кожны выхадны і адпачынак — мы там увіхаемся, нават унукі навучыліся грады палоць.

— Такой увішнай старанніцы, Ліда, як твая матуля, памагайце, дбайце пра яе, клапаціцеся, бо адной жанчыне ў гадах такую гаспадарку не пацягнуць, — сказала Нюрка.

Нагасцяваліся ўдосталь: пачалі вылазіць з-за стала. Ухапіўшыся ручкамі за сукенкі жанчын, абчэпленыя зброяй, быццам канваіры, праводзілі гасцей унукі — радаснымі, танклявымі галаскамі між сабой перамаўляліся, запрашалі ў госці. У парозе сяброўкі падзякавалі гаспадарам за царскую пачостку, а яе закадычная сяброўка на адыход падзялілася сваёй тайнай.

— Я пазалетась у тым санаторыі выдыхвала з сябе ліцейную сажу: сустрэла там генерала і закахалася па вушы, і ён да мяне прыліп магнітам. Збіраліся пажаніцца. Ды заўчасна паклікаў майго каханага да сябе Гасподзь. Прабач, Ліда, што ніколі табе не расказвала — грэх было хваліцца.

Ліда правяла сяброўак, вярнулася ў пакой, прыгадала свайго Івана, ад успаміну балюча зашчымела сэрца — дала волю слязам. Выплакалася — аблегчыла перад дарогай душу…

У аэрапорт Ліду праводзілі ўсім сямействам. Хацела праводзіць яе і Нюрка, ды ў зяцевай «Капліцы» неставала месца — самі шчыльна сядзелі: Света з Антосем — спераду, бабуля з унукамі ўтульна ўпакаваліся на заднім сядзенні.

Пакуль рэгістравалі білет, хлопчыкі з цікавасцю і захапленнем разглядалі, як вырульваюць, узлятаюць і прызямляюцца самалёты — такое дзіва бачылі ўпершыню. Правялі бабулю на пасадку і зблізку ўважліва разглядалі лайнер і дружна махалі ручкамі на развітанне, а самы меншы Піліпка ад немінучай разлукі горка заплакаў.

...Курорт сустрэў Ліду бязвоблачным небам, лагодным пошумам марскіх хваль і п'янлівым подыхам ласкавага паветра ад квітнеючых руж і магнолій.

У гасцінічным закутку, памерам на два ложкі з тумбачкамі і парэпанай фанернай шафай, гаспадарыла незнаёмка — раскладвала на ложку курортныя ўборы: сукенкі, сарафаны, купальнікі і абутак. Лідзе падумалася, што напарніца прыехала сюды назаўсёды. Занятая гэткай справай, тая нават не звярнула ўвагі на яе прыход, моўчкі працягвала калупацца ў вялікай валізцы на калёсіках.

— Давайце знаёміцца, таварыш курортніца — прапанавала Ліда і назвала сваё імя, — працую на заводзе ў ліцейцы шпеняўшчыцай.

Незнаёмка ад нечаканасці імгненна выструнілася ва ўсёй сваёй красе. Твар, бровы, павекі і вусны размаляваны, як у артысткі цырка на манежы. Знешнасць яе дапаўнялі выбеленая кароткая стрыжка і шчыльна прыталеная

светла-карычневая сукенка з вядомага толькі адной гаспадыні моднага салона. Яе ўбранню пасавала загарэлае, не змардаванае фізічнай працай, пухленькае цела. У вугальна-чорных вачах паблісквалі іскрынкі неспатоленай жаночай прагі. Пісаная прыгажуня з несхаванай пагардай акінула Ліду пранізлівым позіркам і камандзірскім голасам пратрамболіла:

— Рада пазнаёміцца, калега. Завуць мяне Інэса, працую, як і ты, у ліцейцы на трактарным табельшчыцай.

Прафесію знаёмка вымавіла з падкрэсленай важнасцю і гонарам сваёй асобы. Афіцыйная ўсмешка на дагледжаным твары агаліла шарэнгу дробных перламутравых зубоў.

Лідзе падалося, што яе суседка па санаторным прытулку незвычайна падобная на іх цэхавую падначальніцу, як і на іншых прафесіяналак з суседніх ліцеек. Ад кароткага знаёмства з артыстычна расфрончанай суседкай па жытлу ў шпеняўшчыцы склалася ўражанне, што табельшчыцы выводзяцца ў нейкім спецыяльным інкубатары, бо як дзве кроплі вады і знешнасцю, і манерай паводзін, і строямі, нібыта блізняты, падобны адна на адну. «Пашэнціла», — усміхнулася непрыкметна прэтэндэнтка на салодкі адпачынак. А які ён удасца — невядома.

Распісная прыгажуня артыстычным узмахам эластычных рук кранула беласнежную кароткую стрыжку, акінула суседку паспешлівым позіркам:

— Ты, міленькая, маеш гаспадара? — Не стала чакаць адказу, ганарыста пахвалілася: — Я сюды на адпачынак з кавалерам прыджгала — пазнаёмлю. Ён на нашым заводзе ў званні маёра, абяцаюць падпалкоўніка.

Суседка сваім пытаннем як на сухі мазоль наступіла Лідзе — трэба варушыць мінулае:

— Я даўно аўдавела. У мяне дачка, зяць і трое ўнукаў, — нехаця адкрыла сямейную тайну жанчына.

— Не сумуй, сяброўка, трымай хвост пісталетам — пры тваёй знешнасці знойдзем табе палкоўніка ці генерала — іх тут, як рыбы ў моры, у суседнім санаторыі. — І сцішана, быццам некага баялася, растлумачыла: — І мне напачатку не шэнціла на мужчын: першага зваліў інфаркт, другі, як і твой благаверны, згарэў у чарнобыльскім пекле, ратуючы Божы свет ад радыяцыі. Знайшла нарэшце маёра. Ён у суседняй адпачывальні набіраецца моцы — пазнаёмлю.

Парады аптымістычна-ўзнёслай напарніцы пачалі надакучаць Лідзе, і яна злавіла сябе на думцы: «Адпачынак толькі пачаўся, а што будзе далей — хоць дамоў вяртайся».

Яе напарніца артыстычна акрэсліла гнуткімі рукамі ў паветры марскую хвалю, зіркнула на гадзіннік і, на правах начальніцы, распарадзілася:

— Нам, міленькая, абедаць пара — тут строгі распарадак, на працэдуры сходзім заўтра, сёння — адпачываем.

У сталоўку, следам за імі, гуртам і паасобку няспешна сцякаліся санаторнікі. Афіцыянтка паказала стол і хутка прынесла падмацунак — невядома з чаго зробленую салату, рыбныя тэфтэлі з сіняватым адценнем і рысавай кашай, на запіўку — ружовенькі кампот, пэўна, з вішань. Ліда глянула на казённыя стравы і на яе павеяла знаёмай заводскай кухняй, быццам адтуль тэрмінова даслалі шаблоннае меню, якое яна пасля закрыцця на рамонт цэхавай сталоўкі пачала забываць. І на табе — дапамаглі прыгадаць. Працяглы час, да прыезду сюды, яна сталавалася дома.

Для прыліку прыгубілася да салаты, тэфтэляў не кранула — выпіла паўшклянкі кампоту, ад якога патыхала цвіллю — паабедала. Нічога не кранула і напарніца, ганебна закапыліла сімпатычны носік і загадала:

— Уцякайма, Ліда, адсюль, пакуль жывыя.

Пасля абеду рушылі на пляж, да стомы купаліся, нядоўгі час загаралі пад пякельным, як паветра ў ліцейцы, сонцам, пакуль лагодную цішыню не парушыў гартанны мужчынскі голас:

— Пад'ём, прыгажуні, хадзем у Чорнае мора.

— Ліда, мой маёр завітаў, — ціхім галаском азвалася Інэса, убачыўшы непадалёк мужчын у пляжнай амуніцыі.

Той, што падаў голас першы, зразумела Ліда, быў Інэсін маёр, бо выглядаў стрáйнейшым за свайго мажнага, з густой сівізной, напарніка.

— Я, Грыбоўскі Захар Іванавіч, даслужыўся да маёра — вайсковая кар'ера ў мяне наперадзе: дрэнны той салдат, які не марыць стаць генералам. — Маёр кіўком галавы паказаў на свайго напарніка: — Гэта палкоўнік Міхаленя Пётр Ігнатавіч — мой баявы сябар, разам у Афгане прывучалі да хуткаспелай дэмакратыі феадальных талібаў.

Палкоўнік ледзь прыкметна кіўнуў і запыніў уважлівы позірк на Лідзе.

Інэса з сур'ёзным выразам твару прадставіла сваю напарніцу:

— Гэта Ліда, мая сяброўка, перадавік вытворчасці, узнагароджана пуцёўкай у тутэйшы рай для лячэння і адпачынку.

Ліда пільна агледзела вайскоўцаў і заўважыла на іх целах рубцы ад раненняў.

Інэса рыбай слізганула з санцапёку пад паркалёвы грыбок, які амаль не даваў ценю, роблена закапрызіла:

— Нас, маёр, так слаўна накармілі абедам, што сухавей па вантробах гуляе — будзь ласкавы, прынясі марожанага і мінералкі.

— Мне, слаўныя мадонны, вялікі гонар выканаць вашу просьбу, — прамовіў маёр і няспешна пагробся па гарачым пяску ў кірунку, абпаленай сонцам, пульхнай гандляркі. За ім следам падаўся і палкоўнік.

— Не паспелі перамовіцца, а ты, Інэса, афіцэраў у работу зацугляла,— з дакорам вымавіла сяброўка.

— Нічога — гонар з іх не спадзе, — зазначыла начальніцкім тонам Інэса.

Пасыльныя прынеслі марожанае ў «стаканчыках», маёр, ідучы, каб дарэшты не растала, далізваў сваю порцыю, палкоўнік заставаўся без пачастунку, што здзівіла жанчын. Маёр на тварах жанчын заўважыў заклапочанасць, растлумачыў:

— У палкоўніка алергія на малако, з дзяцінства не ўжывае.

Астатак дня да вячэры курортнікі бавілі час на пляжы, плёхаліся ў моры, гулялі ў валейбол, папарна загаралі — маёр з Інэсай, палкоўнік з Лідай, утульна размясціўшыся на прывезенай з дому льняной посцілцы з яркімі ўзорамі. Палкоўнік колькі хвілін з цікавасцю разглядаў вясковы выраб, спытаў у Ліды:

— Дзе можна купіць такую прыгажосць?

— Такое не прадаецца — іх цяпер не вырабляюць, — з несхаваным гонарам растлумачыла гаспадыня саматканкі, — мама мая, як была маладая, і не такое ткала. Яна знакамітая майстрыха на ўсё наваколле.

Ліда згадала тую пару. Ранняй вясной, як добра прыгрэе сонца і светла робіцца ў хаце — ставілі свае ўзоры разам з матуляй, з рання да вечара карпелі над задумамі…

Чарада чаек прасвістала крыламі над пляжам, выветрыла з яе галавы салодкія ўспаміны. Ліда крадма зірнула на прывабны твар палкоўніка — ёй падабаліся рысы яго сухарлявага, гладка паголенага твару: невялікі нос з гарбінкай, прыпухлыя вусны і блакітныя, як неба, задумлівыя вочы. Было

адчуванне, што яна закахалася — захацелася прагна ўпіцца ў яго прыпухлыя вусны, наталіць душу мужчынскай ласкай, якую некалі зведала з Іванам.

Палкоўнік усё роўна як прачытаў думкі жанчыны — дакрануўся да яе распаленага на сонцы цела і нясмела пацалаваў у шчаку. І рука, і вусны ў кавалера былі халодныя. Ад нечаканай ласкі Ліду скаланула дрыготка. Жанчына адсунулася ад вайскоўца і выкацілася з посцілкі на гарачы пясок.

Ад ласкі палкоўніка калючай стрэмкай засеў у душы нядобры асадак, злосна папракнула сябе ў думках: «Збыліся прароцтвы цэхавага актывіста Грыневіча».

Каб пазбавіцца ад нядобрых думак, зірнула на гадзіннік, нясцерпна чакаючы санаторнай вячэры. Акурат у гэты момант прагучаў Інэсін камандзірскі голас:

— Лідуся — вячэраць пара, а мы і на падвячорак не хадзілі.

Палкоўнік нехаця ўстаў з посцілкі, як уджаленая, ад нядаўняй ласкі падхапілася Ліда, накідваючы на хаду пляжны халацік.

— Хадзем, я гатова, — адказала Ліда, маючы важкую прычыну пазбавіцца ад свайго закаханага.

Маёр з Інэсай, якія яшчэ хвіліну таму рэзаліся ў карты, хуценька сабраліся і рушылі. Дарогай Інэсін ухаджор прапанаваў:

— Давайце, харошыя мае, у рэстаране павячэраем.

Маёра дружна падтрымалі Інэса і палкоўнік. Згадзілася са спакуслівай прапановай і Ліда. Дамовіліся наведацца туды вечарам, па халадку.

Рушылі ў санаторый — жанчыны мелі намер прымадніцца.

У сталоўцы іх сустрэла смуглявая афіцыянтачка ў кароценькім белым халаціку, занепакоена бліснула вугельчыкамі вачэй, маланкава выхапіла з фартушка паперчыну:

— Хто з вас Ліда Пятроўская? — Аддала тэлеграму.

Ліда ўслых прачытала: — «Тэрмінова прыязджай — цяжка захварэў Піліпка». І зяцеў подпіс: «Антон». У яе ад нечаканасці па целе прабеглі халодныя мурашы і гарачыня шыбанула ў скроні.

— Т-э-к, — працяжна-спачувальным тонам прастагнаў палкоўнік, не зводзячы позірку з узрушанай жанчыны: — Вам, мадонна, варта паспяшацца на самалёт. У аэрапорт закіну на лімузіне — вунь ён на беразе, чакае пасажыркі.

У аэрапорце курортнікі на развітанне доўга махалі няўдачнай адпачывальніцы, аж пакуль самалёт не знік за небасхілам. А Інэса похапкам выцірала хусцінкай слёзы.

Прыехаўшы з аднадзённага санаторыя, Ліда займалася хатнімі клопатамі — вадзіла і забірала з садзіка старэйшых унукаў, гатавала розныя прысмакі, штодзень хадзіла са Светай у бальніцу да Піліпкі. Не магла нацешыцца, што ўнук неўпрыкмет адольвае хваробу, радуецца яе кожнаму прыходу, пяшчотна асвятляе яе душу сінявой вочак. Дні праляцелі так хутка і незаўважна, што не прыкмеціла, як скончыўся яе адпачынак, прымеркаваны да «гарашчай», але нешчаслівай пуцёўкі. Засумавала без звыклага занятку ў гурце вясёлых сяброўак. Душу грэла суседка Нюрка, яе намесніца ў брыгадзе — кожнага дня наведвалася — дзялілася заводскімі навінамі і вельмі перажывала за Ліду, за тое, што яе санаторная пуцёўка сапраўды згарэла.

Напрыканцы няўдалага адпачынку ёй нечакана пазваніў палкоўнік, пра якога яна некалькі разоў успамінала, мыючы каляровую посцілку-перабіранку, на якой яны нядоўга бесклапотна загаралі і дыхалі марскім паветрам. Вай-

сковец нясмела напрасіўся ў госці. З падобнай просьбай сустрэцца пазваніла Інэса, пасля перадала трубку маёру. Той без усякіх прадмоў па-вайсковаму адрапартаваў:

— Прывяду ў сваты палкоўніка — хопіць яму бабылём пакутаваць.

Ліда прызначыла сустрэчу на выхадны дзень. Перад гэтым з'ездзіла да матулі: памагла высушыць сена, выпалаць грады. Пашчыравала ў гаспадарцы і знанага пчаляра дзеда Яфрэма: дабрачага, шчырага суседа. Смак мёду з яго пасекі Ліда памятае з дзяцінства. Той аддзячыў яе трохлітровікам мёду.

У выхадны, як і было дамоўлена, у прызначаны час у доме працяжна і залівіста заспяваў салаўём званок. Ліда адчыніла дзверы, і сэрца радасна затрапятала — на парозе стаялі яе санаторныя сябры: наперадзе ўсмешлівая, радасная Інэса з букетам малінавых руж, яе далікатна трымаў пад ручку маёр з адценнем сарамлівасці на загарэлым твары. Гасцявое звяно замыкаў сур'ёзны і заклапочаны палкоўнік, як студэнт перад нялёгкім экзаменам. Вайскоўцы ў параднай форме, з аксельбантамі, ордэнамі і медалямі. Убачыўшы Ліду, імгненна выструніліся смірна і прыгожа казырнулі. Інэса, на правах даўняй сяброўкі, ашчаперыла гнуткімі прыгожымі рукамі гаспадыню і стала шчыра цалаваць, быццам яны не бачыліся цэлую вечнасць.

У вітальні гасцей сустрэў ганаровы каравул — шарэнга ўнукаў, абмундзіраваных прадбачлівай дачкой у навюткія касцюмчыкі і ўзброеных цацачнымі аўтаматамі. Маленькія «вайскоўцы» прынялі стойку «смірна» і, як вышкаленыя кадзеты, зладжана казырнулі.

Дачка скамандавала:

— Запявай!

Хлопчыкі дружна запелі песню пра лётчыкаў: «Однажды вечером, вечером, вечером…»

Песню падхапіла Света з Антонам, уключылася ў спевы і Ліда.

Праз хвіліну дачка спыніла спевы і запрасіла гасцей за святочны стол. Ён аж прагінаўся ад далікатэсаў, прывезеных Лідай ад маці, церпка пахла пірагамі і свежым дзедавым мёдам.

На правах свата маёр запрасіў напоўніць кілішкі і распачаў тост:

— Мы завіталі да вас з баявым таварышам палкоўнікам Міхаленем Пятром Ігнатавічам прасіць рукі ў непаўторна-прыгожай, стараннай жанчыны Лідзіі Ягораўны…

— Брава, маёр, брава, — запляскаў у ладкі яшчэ хвіліну таму насуплены і раптоўна павесялелы палкоўнік. А нядаўна хмуры твар асвяціўся ўсмешкай.

Падтрымаць баявога таварыша апладысментамі маёр не мог — на каленях у яго сядзелі хлопчыкі.

— Любыя мае непаседы, — узмалілася Света — дайце госцю паабедаць!

Па яе камандзе няўрымслівыя блазнюкі саслізнулі з каленяў маёра і вераб'ямі пераляцелі на калені палкоўніка — пачалі кранаць і гладзіць узнагароды, мундзір, лампасы.

Незадаволены, надзьмуты, як індык, палкоўнік стаў агідна, як саранчу, аграбаць з сябе дзіцячыя ручкі. Грэблівае стаўленне палкоўніка да ўнукаў, як і той першы ягоны дотык халодных слізкіх рук там, на марскім узбярэжжы, балюча кальнулі Лідзіну душу. І яе ранейшыя раздвоеныя пачуцці да ганарыстага жаніха канчаткова схіліліся да думкі: не быць ім ніколі разам.

## ВАСЬКАВА ПІСЬМО

Раптоўна і непрыкметна для Валі Змітровіч адквітнелі малінавыя цюльпаны на пузатых сопках. Змоўклі паразвоны каласоў на стэпавых палетках, пасля таго, як з іх сышлі камбайны. Стэп спавіла туманамі і няспыннымі, надакучлівымі дажджамі нечаканая восень. Казачна-прыгожае наваколле, яшчэ зусім нядаўна пад бяздонным блакітам і зыркім сонцам, стала сумным і непрыглядным, як заплаканае дзіця.

Валя, шчупленькае нізкарослае дзяўчо з анёльскім тварыкам і кірпатапрыўзнятым носікам, упрыгожанымі залацінкамі дробнага рабаціння, кожнага дня руліцца на кухні — яна нязменная кухарка ў брыгадзе. Стане і любуецца, як хлопцы дружна ўплятаюць яе прысмакі — прыгатаваную ёю грэцкую кашу з тушонкай і хрумсткімі салёнымі гуркамі. Пасля яны няспешна п'юць моцны чай з алюмініевых конавак. Затым пацяшаюцца адзін з аднаго, жартам заказваюць ёй розныя заморскія далікатэсы — крыветкі, вустрыцы, анчоўсы і безліч чаго іншага. На што яна адказвае прыязнай усмешкай. Усё будзе зроблена так, як яна хоча і па сціплых стэпавых магчымасцях — боршч ці капуста з конскай тушонкай — на першае, макароны ці бульба — на другое, а запіць — традыцыйны ягадны кісель ці чай. Прыкінула, якія ёсць прыпасы — і жахнулася: ці хопіць да канца тыдня. Перадала праз брыгаднага вартаўніка Курэева заяўку на прадукты, ды нешта машына не прыходзіла — можа, шафёр пабаяўся ехаць па такой непагадзі. Таму спытала ў вартаўніка, свайго памочніка, які месціўся ля крайка стала і маленькімі глыткамі сёрбаў чай з алюмініевай конаўкі, трымаючы яе аберуч:

— Ты, міл чалавек, перадаў у кантору нашу заяўку на харчы?

— Абязацельна перадаль, Колку, шафёра, відаль, абешчаль прівесць, — паслужліва адрапартаваў памочнік, не выпускаючы з абдымкаў пасудзіну — грэў азяблыя, загарэлыя да чарнаты пальцы.

Брыгадны камандзір Міхась Ігнатавіч спружыніста ўстаў, фарсіста прыгладзіў порсткія вусы з прыкметнай расадай сівізны, упіўся строгім позіркам у Курэева:

— Тое, што заказаў харчы, добра, малайчына. Мы — на ворыва, а ты, браток, пшаніцу прыхавай ад дажджу — брызент ведаеш дзе.

— Адзін не справіцца, заступіўся за вартаўніка Венька Ярчук, даўні сябра Валінага любімага Ваські, які ўлетку з'ехаў паступаць у ваенна-марское вучылішча, і быццам вада праглынула — ніякай ад яго весткі.

Весяльчак-музыка Венька, які ўлетку па выхадных рэзаў на баяне, а цаліннікі танцавалі, хацеў застацца на стане і пабыць з Валяй. Пра яго заляцанні ўся брыгада ведала. Ігнатовіч строгім голасам перапыніў задуму:

— Шагам марш у загонку, план па ворыве выконваць. Браў на сябе абавязак да маразоў узараць пожню — старайся. А Курэеву і Валя падможа.

Венька паслухмяна патэпаў да трактара. Ігнатовіч з юначай прыткасцю ўскочыў у кабіну, трактар рвануўся ў захутаны туманам стэп. За ім следам весела затарахцелі трактары падначаленых. Як заўсёды, цішком устаў і падаўся на зерняток маўклівы Курэеў.

Валя чула кароткую размову брыгадзіра з Ярчуком. Падумала пра любага Ваську, ад якога за некалькі месяцаў няма ніякіх вестак апроч адной тэлеграмы, у якой паведамляў, што здаў уступныя экзамены і стаў курсантам ваеннамарскога вучылішча. З тае пары і чакае лістоў…

Управілася на кухні, накарміла Курэевага ваўкадава і пачала збірацца на зерняток, як і было загадана брыгадзірам. Шэры ўдзячна зірнуў ёй у вочы, вільнуў хвастом і няспешна падаўся да гаспадара.

Валя рушыла да сіратлівых, парослых шчыльнай зялёнай шчоткай буртоў пшаніцы. Яе цалінnікі намалацілі летам, ім не хапіла часу вывезці яе на элеватар, да ўсяго неспадзявана нахлынула дажджлівая восень.

Непадалёк, сагнуўшыся ў тры пагібелі, пад невялічкім навесам, зробленым з кавалка паржавелай бляхі, сядзеў на кукішках захутаны ў брызентавы дажджавік яе незаменны памагаты і куродыміў самасадам з піпкі. Піпку з аблічам Мефістофеля падаравала яму Валя, як ездзілі ўлетку ў горад на кірмаш. Падарунак ён дужа ўпадабаў і радаваўся яму, як дзіця. З тае пары і не выпускае піпку з рота.

Валі падалося, што ў сваім намоклым убранні яе памагаты быў падобны на бурага мядзведзя, якога ўлетку бачыла ў вандроўным цырку. Поруч з ім, паклаўшы галаву на лапы, бесклапотна вартаваў бязлюднае наваколле спакойна-рахманы ваўкадаў па мянушцы Шэры. Дасціпны яго гаспадар Курэеў і імя ваўкадаву даў па колеры восеньскага стэпу. Удзячны карміліцы за сыты сняданак, ваўкадаў, ростам з гадавалае цяля, крыху прыўзняўся, абвёў яе прыязным позіркам, задаволена пазяхнуў і зноў прытуліў галаву на выцягнутыя лапы.

Валя зірнула на заспакоенага Шэрага і згадала Ваську. Ні з кім, акрамя гаспадара і яе каханага, сабака ў брыгадзе так шчыра не сябраваў. Бывала вечарам, як хлопцы паснуць, зойдзе непрыкметна ў вагончык, ляжа каля яго — ахоўвае сон. Нават на Ішым улетку разам з імі бегаў купацца і адважна плёхаўся ў халоднай плыні…

— Стань на оба старана, — на правах галоўнага распарадзіўся Курэеў і прыгнуўся з процілеглага боку.

Пакуль разгортвалі задубянелы ад дажджу брызент і накрывалі бурты, у Валі зайшліся ад холаду і пачалі балюча паколваць пальцы. Стылае паветра прабрала да касцей і загартаванага лютымі зімовымі маразамі яе памагатага. Ён схаваў рукі ў кішэні і мыльнуў азяблымі вуснамі:

— Пабежаль палчатка браць, — і пабег да вагончыкаў.

Праз хвіліну з’явіўся, як на парад, у новых белых спяцоўках, другую пару стaранна адзеў на азябла-пасінелыя Валіны рукі, прыгаворваючы:

— Пратайсь у палчатка. Бальной будэш — ніхто вкусні бішбармак не сварыт.

Валя нечакана прыгадала, як вадавоз аднойчы заказаў сваё нацыянальнае блюда. Акурат бараніну ў сталоўку прывезлі. Яна пра такое блюда і не ведала. Давялося кансультавацца з Міхасём Ігнатавічам, жанатым на казашцы. Той і падзяліўся кулінарным сакрэтам. Бішбармак удаўся на славу — хлопцы дружна ўпляталі і наперабой расхвальвалі яе кулінарныя вартасці, а Курэеў двойчы папрасіў дабаўкі і ўдзячна бліскаў вугельчыкамі вачэй.

З той хвалёнай стравы ў іх сяброўства — ні разлі вада. Прывязе на паракoнцы бочку вады, напоўніць кухонныя бачкі, выпусціць у стэп кабыл і рупіцца на кухні: абірае бульбу, падкладае ў пліту дровы, расстаўляе посуд. А ў вольную хвіліну сцішыцца пры цяпельцы, моўчкі дыміць піпкай і думае сваю адвечную думу. Не раз прывозіў з аула, дзе жыла яго сям’я, пачастункі, асабліва падчас Уразы — вяленае мяса, ляпёшкі, хмельна-церпкі кумыс. Напаўняў піялы і лагодна запрашаў:

— Кушай, Валюшка, куміс ошень палезні, балной не будэш…

Пакуль накрывалі бурты, ціха і непрыкметна падкраліся з пашы мокрыя ад дажджу жарэбныя кабылы, патрабавальна фыркнулі — падавай, гаспадар, харч. З пасохлага кавылю ў стэпе не вялікі наедак.

Курэеў хуценька нагроб з бурта і насыпаў у карыта пшаніцы, вярнуўся пад навес, пахваліўся:

— Мой кабыл к весне жарабёнак прыведёт, куміс будем делать, тебя угошчаць буду.

Накрылі брызентам бурты і вярнуліся на кухню. Валя ўзялася гатаваць вячэру, Курэеў раскачагарыў буржуйку — у бляшаным коміне весела загуло полымя, дыхнула цяплом.

Валя сагрэлася і згадала казачныя вясновыя і летнія дні. У нядзелю, узяўшыся за рукі, радасныя і шчаслівыя, бягуць яны з Васькам па бясконцай цюльпанавай прасторы. Твары пяшчотна лашчаць пералівістыя хвалі паветра: то лагодна-цёплага, то асвяжальна-бадзёрага, слухаюць залівістае шчабятанне птушак. З разбегу кідаліся ў бадзёрую плынь Ішыма. Адважваўся паплёхацца ў халаднаватай вадзе і іх заўзяты сябрук Шэры. Але нядоўга. Паплавае хвіліну і спешна плыве на сушу ды кладзецца на посцілцы побач з імі — ахоўвае.

Пакуль яна лагодзілася пад шчодрым стэпавым сонцам, Васька ўвішна рваў у ахапак цюльпаны, якія хвалямі калыхаліся ад подыху ветру, шчодра абсыпаў яе з галавы да ног і радасна ўсміхаўся:

— Ты мая цюльпанавая каралева!

Загаралі ў абдымках бяздоннага стэпавага блакіту і любаваліся краявідамі. У далечыні блакіт неба цалаваўся з расквечаным стэпам. Часам перад Валяй, у міражах, паўставалі выразныя абрысы крыштальна-празрыстых замкаў, дзіўных гарадоў з незвычайнымі палацамі. Яны то павялічваліся, разлягаючыся ўшыркі і порстка ўзлятаючы ўвысь, то раптоўна знікалі і ў адначассе з'яўляліся зноў з непаўторнымі малюнкамі.

Як дзівосы на небасхіле на нейкі момант знікалі, пра іх яна гаварыла Ваську.

— Можа, Валюша,  нам з табой пашчасціць пажыць у казачных замках, намаляваных тваімі шчодрымі міражамі, — адказваў ён.

Нешта падобнае ў думках пра будучыню ўяўлялася ім, едучы сюды, на цаліну. На гэта спадзяюцца і бацькі, пытаючыся ў пісьмах пра іх дабрабыт. Для Ваські, разумела яна, мары здзейсніліся — стаў курсантам марскога вучылішча, і каторы месяц — ніякай весткі, быццам яны ніколі не зналіся. А яе ўся раскоша тут — панылы, сумны восеньскі стэп з дажджом і туманамі. Згадала каханага і душа нядобра зашчымела, ад крыўды і бездапаможнасці выкаціліся слёзы. Захацелася ўдосталь выплакацца. Яе намер стрымліваў маўклівы Курэеў — што чалавек падумае.

Ухадзілася на кухні і заспяшалася прыбіраць вагончык — хлапцоўскае жытло: пасцелі не засцелены, на падлозе, каля буржуйкі — недакуркі, фанцікі, кавалкі пячэння. Позірк запыніўся на дэрманцінавым футаралы брыгаднага веселуна і музыкі Ярчука, Васькавага сябрука яшчэ па вучылішчы механізацыі. Яны ж і былі завадатарамі ўсёй групай ехаць сюды, на цаліну. А пачалося ўсё з тае знакамітай песні, якая грымела на ўсю краіну:

Едут новосёлы по земле целинной,
Песня молодая далеко летит…

Часцяком Ярчук іграў вечарамі ўлетку на дворыку, а хлопцы з дзяўчатамі танцавалі і падпявалі. Валі здавалася, што ўсё гэта было ў дзіўным сне.

Баяна музыка не браў з тае пары, як скончылася лета і зачасцілі дажджы: то праліўныя, то імжыстыя з беспрасветнымі туманамі. Танцавальны пятачок на дворыку, аслоненым вагончыкамі, ператварыўся ў цягучае месіва. Дый сезонных танцорак не стала — пасля жніва раз'ехаліся. Засталася яна, Валя, адна ў чаканні ад Ваські вестак…

На століку музыкі — хлапцоўскі беспарадак — газеты ўперамешку з кашулямі, майкамі і парудзелымі ручнікамі. Узялася парадкаваць: на падлогу зваліўся канверт з да болю знаёмым Васькавым почыркам. Яе раптоўна апалі-

ла гарачыня, кроў кіпнем запульсавала ў скронях, быццам каханага ўбачыла. Дрыготкімі пальцамі разгарнула ліст і пачала прагна чытаць: «Вучоба і служба ідуць сваім парадкам: на караблях і парусніках асвойваем марскую прафесію, у выхадныя даюць увальніцельную, ходзім на танцы. Ад дзяўчат няма адбою, і яны не роўня нашым цалінніцам…»

Ад прачытанага нечаканая крыўда ў камяк сціснула душу — слёзы засланілі радкі, сплывалі на вусны — Валя адчувала іх гаркаватую салёнасць. Слёзы яе суняў блізкі гул гусенічнікаў — хлопцы вярталіся з ворыва.

Вячэрняя шэрань згусцілася ў непраглядны гудрон стэпавай ночы. Змахваючы на хаду слёзы, выбегла на дворык. Яе, як знарок, збіўшыся ў гурт, чакалі гаманкія хлопцы. Убачыўшы паварыху такой паніклаю, заплаканаю, загаманілі наперабой. Ігнатовіч камандзірскім голасам спыніў шматгалоссе:

— Што, Валянціна, здарылася?

— Нічога. Во пачытайце, — гаротна ўсхліпнула яна і бліснула ў цемнаце пасланнем.

Ігнатовіч хмура насупіў бровы, падсвяціў ліхтарыкам і прачытаў прозвішча на канверце, незадаволена прабубнеў:

— Здаецца табе, Ярчук, адрасавана, чытай!

Той услых прачытаў даўні ліст і не ўцяміў крыўды, ад якой плакала Валя. Ігнатовіч, каб лепш было чуваць, падступіў бліжэй і прымусіў перачытаць нанава: пільна ўслухоўваўся, мыляў вуснамі, быццам паўтараючы сам сабе напісанае, пасля торкнуў у пасланне пальцам:

— Во тута, гад печаны, абразіў нашых дзяўчат, нахапаўся, зазнайка, гонару ў марскім вучылішчы, як зброддлівы сабака блох.

— Ошень плёх сказаль пра дэвушак Васка, — падтрымаў брыгадзіра маўклівы Курэеў. У знак згоды з гаспадаром, крыху прыўзняў галаву з лап і ціхенька гаўкнуў ваўкадаў.

Валя, як здань, прамільгнула на кухню, азвалася на хаду:

— Ідзіце вячэраць…

Закуродымленая ад саляркі лямпа цьмяна асвятляла сталоўку і панурыя, сумныя твары цалiннікаў. Не пазнаць было хлопцаў — уранні вясёлых, усмешлівых, жартаўлівых, а цяпер у адначассе сумных і паніклых. Вячэралі моўчкі, як на хаўтурах. Першы спружыніста ўстаў з-за стала Ігнатовіч, прыгладзіў порсткія вусы і вінавата паглядзеў на Валю:

— Мы, Валюшка, ад усёй брыгады начальніку вучылішча петыцыю саставім, ды ягоную пісаніну прыкладзём, няхай, антыхрысту, хвост накруцяць ці зусім сключаць. Мяркую, што з такімі героямі там не цацкаюцца.

Брыгадзіраў намер раптоўна насцярожыў дзяўчыну — аж слёзы імгненна высахлі. Яна адважна запярэчыла:

— Не трэба дасылаць у вучылішча скаргу — ён так марыў стаць мараком.

Першым, як заўсёды, рухава ўстаў з-за стала Курэеў і падаўся карміць ваўкадава, які ўвесь час, пакуль гаспадар вячэраў, не міргаючы, жаласна глядзеў яму ў вочы. Убачыў чарапан з ежай — удзячна вільнуў хвастом і няспешна патэпаў услед.

Праз некалькі хвілін у прыцемак сталоўкі ўварвалася зыркае святло аўтамабільных фар. Валя схамянулася ад маркотных думак і зразумела, што прыехала, як і абяцаў Курэеў, прадуктовая машына. Вартаўнік з парога ўзнёсла адрапартаваў:

— Колка Кавыльскі прадукт прывёз, давай, Валушка, людэй груз сняць!

Разняволены стэпавым жыццём заўсёды вясёлы і жартаўлівы брыгадны шафёр Мікола Кавыльскі прышвартаваў свой «ЗіС-5» упрытык да дзвярэй і

няспешна адчыніў спрэс пашчапаны ў вайну кулямі і асколкамі задні борт, усмешліва распарадзіўся:

— Бярыце, хлопцы, пакуль я добры, а то суседзям заімчу.

— Не завязеш, дарога сапсем пляхой, — бліснуў у адказ шчылінкамі вачэй Курэеў.

— Пралячу, таварыш Курэеў, як раз плюнуць, — пажартаваў шафёр. — Па такім раскіслым, як сёння, стэпе мой абстраляны ў вайну «ЗіС» бяжыць весялей, чым па сухім.

Мікола ганарыўся пашчапанай кулямі і асколкамі франтавой машынай. У крывавым сорак першым бацька з аднагодкамі паехаў на сваім «ЗіСе» адганяць ад Масквы немцаў і пёр іх аж да Берліна. Адтуль з перамогай і назад вярнуўся. Ад бацькі-шафёра Міколу засталіся ў спадчыну прафесія і вынослівы франтавы «ЗіС». Пра яго нават верш напісаў і мелодыю прыдумаў — часцяком напявае:

На параненым «ЗіСу»
Хутка грузы я вязу,
І настрою ён пасуе,
Бо па стэпе не буксуе.

Як пераканалася Валя, была ў гэтай няхітрай мелодыі жывая праўда. Аднаго разу ехала яна з Міколам па прадукты ў раён. Заспеў лівень. Выслізганая да бляску стэпавая дарога стала коўзкай, як ледзяны каток. Усе машыны пазганяла на абочыну, а Міколка на сваім франтавым «ЗіСе» імчыць наперакор дажджу і любімую мелодыю напявае…

Пачалі разгрузку. Першым рухава скокнуў у кузаў Курэеў і ўзяўся выстаўляць скрынкі, каменціруючы на свой манер прывезенае:

— Лашадкіна, говядкіна тушонка, барашкін гулаш, густой малако, хлеб, крупа, макароні, саланка — ошень карашо, свіной тушонка, калбаса… не ошень. — І задаволены сваёй работай, скокнуў, як спартсмен, долу. Памагатыя дружна ўсміхнуліся яго каментарыям і спрыту.

Мікола выняў скрутак газет з кабіны, разгарнуў іх і, на дзіва, сур'ёзна-заклапочаным голасам звярнуўся да Валі:

— Табе, наша карміліца і паіліца, тут тэлеграма і пісьмо. Танцаваць прымушаць не буду — не той выпадак.

Валя імгненна прабегла кароткі радок тэлеграмы: «Тэрмінова прыязджай, захварэла маці». Ад прачытанага нядобра заныла ў грудзях, ажно дыханне пераняло і трывожна зазвінела ў скронях. Хуценька схавала Васькава пісьмо ў фартух, а тэлеграму ўручыла Ігнатовічу:

— Вырашай, брыгадзір, як мне быць.

Той, як заўсёды, спакойна-разважліва заключыў:

— Трэба, Валянціна, ехаць, кухню пакідай на Курэева, пакуль кухарку знойдзем. — І распарадзіўся: — Ты, Мікола, на станцыю яе падкінь, а я з'езджу ў бухгалтэрыю, адпачынак аформлю.

Валя пачала паспешліва збірацца ў дарогу: пераапранулася, склала ў валізку рэчы, асцярожна схавала за пазуху Васькава пісьмо і адчула, як ад доўгачаканага паслання пабегла па целе лагоднае цяпло.

Паніклыя цаліннікі, выструніліся шарэнгай перад машынай, скрушна глядзелі на Валю. А яна, стоячы на падножцы, памахала маленькай, да болю знаёмай кожнаму, ручкай і на развітанне паслала адзіны на ўсіх пацалунак. «ЗіС-5» крануўся з месца, натужна варухнуў коламі раскіслы чарназём, бліснуў на развітанне чырвонымі агеньчыкамі і знік у ночы.

## Кім СО ВОЛЬ
## (1902—1934)

***Класік карэйскай літаратуры Кім Со Воль (1902—1934) пражыў невялікае, але яркае творчае жыццё. Ён быў вучнем школы Осан, у якой выкладалі знакамітыя пісьменнікі, сярод якіх быў Кім Ок, які стаў першым літаратурным настаўнікам Кім Со Воля, і Лі Гвансу, першы сучасны пісьменнік-раманіст Карэі. Пасля закрыцця японцамі школы Осан Со Воль прадоўжыў навучанне ў школе Пэчтэ.***

***Паэмы і вершы Со Воля неўзабаве пачалі з'яўляцца на старонках тагачаснага літаратурнага выдання «Кебёк» («Творчасць»), а ў 1925 годзе была выдадзена першая кніга паэта «Азаліі».***

***Аднак жыццё Со Воля было нялёгкім. Яго паэзія доўга не знаходзіла разумення ў значнай часткі інтэлігенцыі з-за сваёй аналітычнасці і сацыяльнай безуважлівасці. Кім Со Воль заўсёды заставаўся па-за палітыкай, ён пісаў прыгожыя вершы ў народным стылі.***

***Пасля вызвалення Карэі ў 1944 годзе і заканчэння Карэйскай вайны творчасць паэта займела шырокі розгалас у Паўднёвай Карэі, стаўшы адметнай з'явай у развіцці карэйскай паэзіі XX стагоддзя.***

### РАДЗІМА

**1**

Звер забудзе мясціны родныя,
Чалавек — не забудзе ніколі.
Не згадае пра іх наяве,
Дык у сне ён аднойчы прыйдзе.

Мо таму, што там косці продкаў,
Мо таму, што там свет маленства…
(На пытанне няма адказу.)
Ды у сне ён вярнуцца мусіць.

**2**

Там вясной грай стаіць птушыны,
Там на схілах цвіце багульнік,
Рэкі восенню ў мутных водах
Студзяць жар апалага лісця.

Там да мора імкнуцца рэкі,
І нябёсы злітыя з морам.
І бялее рыбацкі ветразь
На ускраечку далягляду.

**3**

Беспрытульны рыбак стамлёны,
Аб Айчыне самоты поўны,
Аб братах маіх, сёстрах родных, —
Як заўсёды, у снах я з імі.

Не забыць мне бацькоўскай хаты,
Бо жыве яна светла ў сэрцы.
Не забыць мне бацькоўскай хаты,
Бо душа там жыве і сёння.

**4**

Не патрапіць на бераг бросні,
Што адносіць паток бурлівы.
Ды, прайшоўшы пакутаў мора,
Чалавек да зямлі прычаліць.

Гэй, бяздомнікі, не сцвярджайце,
Што чужыя вы для Радзімы.
Калі выпала ў свеце выжыць,
Павяртайцеся ў край свой родны.

## ШЧАСЦЕ БУДУЧЫНІ

Так гавораць усе бацькі:
«Толькі б дзеці на ногі ўсталі —
Дачакаемся з імі шчасця».
Справядлівыя гэта словы,
Ды чаму,
Калі мамамі стануць дзяўчынкі,
А падлеткі — бацькамі,
І яны кажуць тое ж:
«Толькі б дзеці на ногі ўсталі —
Дачакаемся з імі шчасця».

## У ВОСЕНЬСКІХ СУЦЕМКАХ

Водная гладзь як бясконцасць нябёс.
Воблакі чырваней сонца.
Блукаю па шырокім полі,
Самочуся — і думаю пра цябе.

Ля дарогі, што знікае ўдалечы,
У возеры пад высокай вярбой
Адбіваецца рэдкае голле,
Тоне ў вадзе і ўсплывае наноў.

Я не чакаю ніколі *сягоння*.
Мне ніхто не даваў абяцанняў.
Блукаю па берагах апусцелых,
А ў возеры згасае зара.

## ЦЯПЕР УЖО ЎДВАІХ

Снег на даху нашага дома
Чыстай белай цыноўкай лёг.
Я на ранку абуў чаравікі,
Падперазаўся папругай,
На цябе паглядзеў.
І яшчэ раз паглядзеў на цябе.
І яшчэ раз,
Адыходзячы, глянуў.

## АЗАЛІЯ

Калі ты, стамлёная дужа,
Адыходзіш, —
Цябе адпускаю моўчкі.

На схіле гары Янсан, што ў павеце Ёнбён,
Нарву
Азалій ахапак —
Растрэсці на дарозе тваёй.

Суквецці,
Якія ўслалі шлях,
Злёгку, праходзячы, стопчаш.

Куды ты, стомленая ад мяне,
Сыдзеш,
Як бы ні стала балюча,
Не распла́чуся ўслед.

## НАСТРОЙ

На сугрэве паўдзённага сонца
Кроплі поту. Працай заняты.
Кроплі поту.
Я ступаю за плугам. Вяду баразну.
А недзе звініць жаваранак — у блакіце
Над полем.
Я ступаю, схілены над баразной,
Не падняць галавы,
Не глянуць у неба.

Пра каханне мне пець. Аб каханай!
Мне сказала: прыйду я, прыйду,
Як ачышчу каштаны і кіну ў саган,
Вось тады.
А вада —
Пад мастом, на якім я стаю, —
Бруістая плынь.
Сонца промень,
Адбіты ў ёй, —
Малады-малады.
Малады.

## ЧУЖЫНА

Мост жалезны мінуў.
Дыханне стаіў
І назад азірнуўся…
І цяпер я стаю
На ўзбярэжжы чужым?

## СЕУЛЬСКАЯ НОЧ

Святло ліхтароў электрычных.
Зялёныя і чырвоныя ліхтары.
Святло ліхтароў электрычных —
Зялёны з чырвоным, зялёны з чырвоным.
Святло, якое шлях адкрывае камусьці, —
Зялёнае.
Святло святлафора, што шлях забароніць, —
Чырвонае. У горадзе гэтым,
У горадзе гэтым, які мне не прыпомніць, —
Мёртвая, чорная ноч.
(Але дзесьці
Прытоена льецца святло. Сапраўднае, дзённае!)
У мораку ўспыхваюць
Чырвоныя ліхтары,
Зялёныя ліхтары.

Кожная ўспышка — уздых.
Кожная ўспышка — усхліп.
Уздыхі і ўсхліпы зялёных, чырвоных ліхтароў электрычных.
Чырвоныя ліхтары,
Зялёныя ліхтары.
Вы гарыце, а неба начное — цямрэча.
Гавораць:
Праспекты Сеула — сама прыгажосць!
Мне гавораць:
Прыгожыя ночы ў Сеуле!
Гаварылі дарэмна!
Чырвоныя ліхтары, зялёныя ліхтары
У горадзе гэтым —
Жах з жаху!
У горадзе гэтым, які мяне не прыпомніць,
Так міргаюць самотна,
То ўспыхнуць, то зноўку пагаснуць.
У цемры безуважна-пастылай
Агні — зялёны, чырвоны…

## ШОЎКАВЫ ТУМАН

Калі згусціўся шоўкавы туман
І вочы засціў,

Пры стрэчы толькі плакалі наўзрыд
І ў час расстання — розум пагублялі.

Калі згусціўся шоўкавы туман
І вочы засціў,

Пакрыўджаная дзеўчына ў пятлі
На пачарнелым дрэве памірала.

Калі згусціўся шоўкавы туман
І вочы засціў,

Хмялелі ў вышы небнай жаўрукі
Ад шчасця неспазнанага утомы.

Калі згусціўся шоўкавы туман
І вочы засціў,

Ішло каханне першае ка мне,
І першая услед ступала ростань.

***Пераклад з карэйскай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***

Алесь БАРАНОЎСКІ

# АСАЦЫЯТЫЎНАЯ КАНЦЭПТАСФЕРА СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІРЫКІ

У кожнага паэта ёсць адзін ці некалькі пастаянных вобразаў, да якіх ён нязменна вяртаецца на кожным этапе сваёй творчай дарогі. Сярод іх — вобразы Радзімы, душы, кахання, сяброўства і інш. Яны спараджаюць цэлыя гнёзды паэтычных сэнсаў і асацыяцый, вырастаюць да роздуму над жыццём і чалавечым існаваннем на зямлі. У філалагічнай навуцы такая з’ява атрымала назву «канцэптасфера».

Тэрмін «канцэптасфера» быў уведзены акадэмікам Д. Ліхачовым у рабоце «Концептосфера русского языка» (1993) і з’яўляецца, па вызначэнні вучонага, «сукупнасцю канцэптаў нацыі» [1, с. 8—9]. Апошняе паняцце, відавочна, мае некалькі (хоць і блізкіх) сэнсаў. Так, у філасофскім слоўніку адзначаецца: «Канцэпт — акт схоплівання, адлюстравання, разумення, спараджэння і інтэрпрэтацыі сэнсу ў знакавых сістэмах і сімвалічных формах, якія рэпрэзентуецца ў маўленчых выказваннях — ад міжасобаснага дыялогу да твораў культурнай творчасці асобы (аўтара)». На нашу думку, канцэптасфера — гэта свайго роду сугістыўны вобразны згустак, які адлюстроўвае філасофскі, інтэлектуальны, эмацыянальны пачаткі ў творчасці аўтараў, а таксама ўносіць пэўныя ўдакладненні ў іх ментальнасць і, як вынік, у паэзію.

Вынікае, што канцэптасфера — разумовая сфера, якая складаецца з канцэптаў, што існуюць у выглядзе разумовых малюначкаў, схем, паняццяў, абстрактных сутнасцей, абагульняючых разнастайныя прыкметы навакольнага свету, інфармацыйная база мыслення. Канцэптасферу можна разглядаць як свайго роду ментальнае люстра аўтараў, што дазваляе ў кантэксце дадзенага артыкула найбольш поўна і ўсебакова прааналізаваць сутнаснае напаўненне сучаснай беларускай філасофскай лірыкі, даць ёй узважаную ацэнку.

Распрацоўваючы псіхалінгвістычную тыпалогію тэкстаў, доктар філалагічных навук, псіхалінгвіст В. Бялянін зыходзіў з таго, што кожны моўны элемент з тых, з якіх складаецца тэкст, абумоўлены не толькі лінгвістычнымі, але і псіхалагічнымі заканамернасцямі: структуру любога мастацкага тэксту можна суаднесці з тым ці іншым тыпам акцэнтуацыі чалавечай свядомасці. У ролі арганізацыйнага цэнтра тэксту выступае эмацыйна-сэнсавая дамінанта — эталон. Трэба зазначыць, што існуюць разнастайныя групавыя канцэптасферы: прафесійная, узроставая, гендарная, індывідуальная канцэптасфера асобнага чалавека і г. д.

Так, канцэптасфера паэзіі М. Мятліцкага даволі багатая і разнастайная. Сярод агульнай колькасці канцэптаў можна вылучыць найбольш характэрныя аўтарскаму ідыястылю: ЗЯМЛЯ — НЕБА/КОСМАС/СУСВЕТ, ЖЫЦЦЁ — ДАРОГА, ДОМ — ВЯРТАННЕ. Спынімся на двух апошніх канцэптах.

Узуальныя (слоўнікавыя) значэнні лексемы ДОМ можна прадставіць наступным чынам: 1) будынак (хата-новабудоўля, *збеглася ўся хата*); 2) сваё жыллё, а таксама сям'я, людзі, якія жывуць разам, іх гаспадарка (*родная хата*); 3) месца, дзе жывуць людзі, аб'яднаныя агульнымі інтарэсамі, умовамі існавання (*Радзіма — наш агульны дом*); 4) установа, што абслугоўвае якія-небудзь грамадскія патрэбы (*Дом культуры*) [3, с. 177]. Па меркаванні лінгвіста В. Маславай, кан-

цэпт — вынік сутыкнення слоўнікавага значэння слова з асабістым і народным вопытам чалавека [4].

Так, канцэпт ДОМ для лірычнага героя М. Мятліцкага — гэта не проста будынак, месца нараджэння, яно мае сакральнае значэнне пачатку існага. І хоць паняцце дому ў паэзіі творцы нярэдка то пашыраецца да межаў краіны-Радзімы, то звужаецца да роднай вёскі Бабчын, яно застаецца нязменным эталонам грамадзянскасці і патрыятызму аўтара:

«Ад прадзедаў спакон вякоў» —
Шчэлепы замкаў, часам сцёртыя,
Посуднай гліны аскепкі мёртвыя,
Пыл кацярынінскіх бальшакоў.

Болей нічога…
Гэта не так.
Мне засталася вечна жывая
Зямля, што глухла ў гуле атак.
Як яна жытам
Салодка спявае! [5, с. 7].

Успаміны пра малую радзіму і светлыя, і пакутныя для М. Мятліцкага. Перш за ўсё яны звязаны з выбухам Чарнобыля, адсяленнем. Але фактычнае знікненне вёскі не прымусіла персанажа твораў забыцца на свае карані:

Наводдалек аседла ціхіх хат
Травяны выган гуў ад босых пят —
Той козыт цёплы не астыў з гадамі [5, с. 133].

Лінгвістычны метад кантэнт-аналізу дазволіў зрабіць выснову, што найбольш пашыраным канцэптам у творчасці М. Мятліцкага з’яўляецца канцэпт «Радзіма», а галоўнае ядро ў ім займае вёска Бабчын. Таксама мы вызначылі блізкую і далёкую перыферыю. Блізкую перыферыю ўтвараюць фрэймы Беларусь-тэрыторыя, прырода, людзі («Бабчын», «Поле», «Аксіння», «Ганна з Палесся», «Двор маленства» і інш). Далёкую перыферыю — планета Зямля:

Як гэта проста —
Планету маю зберагчы ад агню.
…Як над пагостам,
Будуць піць зоркі нямую яе цішыню.
Ядзерным дымам
Зорам насустрач планета мая адплыве,
Як Хірасіма, што памірала
Ў зыбучай жарстве [6, с. 52].

Цікава, што ў першай кнізе М. Мятліцкага «Абеліск у жыце» (1980 г.) згаданыя вобразы сустракаюцца не так часта, як у наступных. У дачарнобыльскі перыяд творчасці паэта яны хоць і звязаны з сумам развітання («Паланез развітання», «Сум», «Вёска Бабчын»), але гэты сум светлы, бо яшчэ не страчана аўтарам і яго лірычным героем надзея вярнуцца дадому:

Дзе б ні быў — вые тундры віхор,
А ці хвалі за кіпарысамі, —
Хай жа ведае родны прастор:
На Палессі я сэрцам прапісаны [7, с. 23].

Напачатку суб’ект вершаў М. Мятліцкага спасцігае розумам і душой вялікае дзіва — Радзіму. Яна цвёрда асацыіруецца ў яго з вобразамі матулі, роднай хаты, саду і інш. Потым персанаж вяртаецца да тых слядоў дзяцінства, дзе ступіў сваёй чорнай нагой Чарнобыль. Трагедыя перавярнула ў паэзіі словатворцы

ўсё і спарадзіла ў ёй новае адчуванне свету, новую вобразнасць і маштабнасць (верш «1986 год»):

Ты мне ахвяраваў
З радзімай развітанне:
Шаптанне мёртвых траў,
Крыніц атрутных ззянне.

Астылы матчын двор,
Усплёск самотнай рэчкі,
Чароды ззяблых зор,
Што ўспыхнулі, як свечкі [8, с. 124].

Чарнобыль паводле твораў М. Мятліцкага жывы, з ім можна весці дыялог. Гэта прырода адстойвае свае правы перад чалавецтвам. Яна хоча яго нечаму навучыць, але не мае мовы. Згадваюцца словы Ф. Цютчава, які напісаў: «Не то, что мните вы, природа: / Не слепок, не бездушный лик — / В ней есть душа, в ней есть свобода, / В ней есть любовь, в ней есть язык...» [9, с. 135—136.]. У прыроды свае аргументы і свае метады ўздзеяння на чалавека:

О, як вясна дажджом атрутным секла,
Узяўшы паўпланеты пад крыло.
Спазналі мы спаўна зямное пекла
І што такое ядзернае зло.
Рэактар бушаваў — раскуты кратар —
І ацякаў з вачэй накрапам слёз.
Як згубна ён сваім дыханнем кратаў
У тыя дні наш чалавечы лёс! [10, с. 3].

Бадай, толькі ў паслячарнобыльскі перыяд сваёй творчасці паэт глыбей адчуў роднасць са сваёй зямлёй — біяграфічна, прачула, шчымліва. У лірыцы М. Мятліцкага ўсё часцей пачалі ўваскрасаць вобразы Радзімы, і звязаныя з імі канцэпт ДАРОГА і матыў вяртання. У цэлым «шлях/дарога/каляіна/бальшак» — адзін з найбольш важных і шматмерных канцэптаў у творчым багажы аўтара, па маштабе набліжаецца да светапогляднага. Канцэпт ДАРОГА ў філасофскай лірыцы М. Мятліцкага роўны канцэпту ЖЫЦЦЁ, якое мае свой пачатак і канец, звязаны з нараджэннем і са смерцю, з першым крокам, з першым словам і матуляй:

— Ты мяне павяла. Помніш тое?
Сонца плыло над зямлёй залатое.
Бегла далёка ты, бегла бясконца.
Ведаў: зачэплена краем за сонца.
Крочыў штодня, не шкадуючы сілы,
Гаслі заходам зары небасхілы [6, с. 69].

Сімвалічная семантыка канцэпта і лексемы «шлях» у паэзіі М. Мятліцкага глыбінна злучана з хрысціянскай традыцыяй («Сцяжына», «Куды прастуюць лёсу каляіны?..», «Усё даўжэе памяці бальшак», «На сцежцы той, дзе босых ног сляды» і інш.). Рэлігійна-кніжная абагульненасць і сімвалічнасць слова «шлях» з пэўнымі стратамі і трансфармацыямі захавала такую агульнавядомую фразеалогію, як *нязведаныя шляхі Гасподнія, цярністы шлях, шлях на Галгофу, жыццёвы, гістарычны шлях* і г. д. У паэзіі М. Мятліцкага адбылося рэзкае канцэптуальнае і семантычнае збліжэнне лексем «шлях» і «дарога». Гэта рыса ўдала падкрэслівае канцэптуальную структуру індывідуальнага стылю аўтара — інтэлектуальна-эстэтычны змест, заснаваны на законах логікі мастацкага мыслення.

У гэтым кантэксце вельмі яскравым падаецца і творчасць В. Шніпа, у прыватнасці яго паэтычныя кнігі «На рэштках храма» і «Пошук радасці». Праца чалавека, клопаты пра мір на зямлі, вернасць сяброўству, вера, пошукі ісціны — вось

асноўная праблематыка кніг паэта. Аўтар уважлівы і да праблем урбанізацыі, спасцігае іх праз лёсы гараджан, што яшчэ не забыліся на сваё нядаўняе вясковае жыццё. Асацыятыўная канцэптасфера словатворцы, натуральна, не зводзіцца толькі да вышэй згаданых канцэптаў. Але бадай самымі характэрнымі для паэзіі аўтара сталі канцэпты ГОРАДА і ВЁСКІ, ВЕРЫ і БЯЗВЕР'Я («Да Бога мая адлятала душа», «Пакуль гарыць свечка», «Белы свет, дзе нам канаць», «Па дарозе бясконцай, як вечнасць зямная», «Жанчына прыехала з вёскі...», «Засыпалі ў вёсцы калодзеж...» і інш.).

Так, канцэпт ГОРАД, як ужо было зазначана вышэй, скразны ў творчасці В. Шніпа. У апошні час філосафы і антраполагі надаюць вялікую ўвагу пытанню спецыфікі чалавечага быцця і, у прыватнасці, прасторы існавання чалавека. Разуменне і апісанне яго месца ў свеце звязана з феноменам горада, што мае пэўныя анталагічныя структуры і каштоўнасныя сэнсы. Так, горад паступова становіцца пастаяннай велічынёй, своеасаблівай канстантай сучаснай культуры. У паэтычным зборніку «Горад Утопія» аўтар піша пра аднайменны горад. Дзе з гумарам, дзе сур'ёзна выкладвае на паперу жыццё людзей, якое ён убачыў. Але гэта не спроба ўпасці ў адчай ці нязгоду, гэта перш за ўсё выклік гораду, пазбаўленне ад дрэнных мрояў. У прадмове да кнігі напісана наступнае: «Ты ўбачыш гэты горад чорным ды шэрым. Чорным — ад пылу, дыму й каласіру, шэрым — ад твараў людзей. Не палохайся, дружа. Ты можаш пазбавіць іх жудасці, хлусні, дзікунства. Можаш зрабіць, каб на свеце не было гарадоў Утопій, каб засталіся яны толькі ў жахлівых казках. Галоўнае — узяць вялізную мяцёлку ды выграбці з усіх куткоў усё ўтапічнае смецце. Пабачыш — атрымаецца, каб я з гэтага месца не сышоў» [11, с. 5].

Горад у розных культурах успрымаецца як кропка скрыжавання дарог, гандлёвых шляхоў, як цэнтр, які аб'ядноўвае акаляючую яго прастору не толькі ў геаграфічным, але і ў метафізічным сэнсе. Этымалагічнае значэнне слова «горад», «град» — агароджа, мяжа, перашкода, абарона. Горад супрацьстаіць адкрытаму месцу, г. зн. бязмежнай і неструктураванай, нечалавечай прасторы — сімвалу хаосу і смерці:

на пляцах волі воляй і не пахне
на пляцах Утопіі помнікі ўтапістам
дамы і турмы перанаселены
і смецце і грошы д'яблавы
сцягі як анучы нямытыя
вісяць на дамах Утопіі
і зрэдку вароны галодныя
садзяцца на іх і гарланяць
гарланяць пра тое што думаюць
а людзі чытаюць газеты
дзе чорнай фарбай напісана
пра светлае заўтра Утопіі [11, с. 6].

Канцэпт ГОРАД, як і сам вобраз горада амбівалентныя. Успрыманне горада як носьбіта зла бярэ свой пачатак з эпохі рамантызму, паколькі ў гэту эпоху асноўнай каштоўнасцю абвяшчаецца індывідуальнасць, а горад адлюстроўвае сацыяльныя адносіны і з'яўляецца ўвасабленнем ідэі грамадскасці.

Што тычыцца канцэптаў ВЕРА і БЯЗВЕР'Е, то ў паэтычных тэкстах В. Шніпа яны ўспрымаюцца не як бінарна апазіцыйныя, а як семантычна злітыя, бо наяўнасць першай часта ставіцца лірычным героем пад сумніў. Адносна гэтага ў зборніку «На рэштках храма» аўтар выказваецца так:

І людзі скачуць ля агню.
Агонь галодны, як і людзі.
І смаляць іскры вышыню,
І Бога ў белай хмары будзяць.

Не чалавек — вядзьмак гарыць.
<…>
Гарыць агонь, ажно кіпіць,
Нібы вар’ят, з людзямі скача.
І Бог у белай хмары спіць,
І над людзьмі нячысцік плача [12, с. 8].

Падобнага кшталту іронія ці нават сарказм, відаць, не спроба адпрэчыць веру як такую, а жаданне паказаць заняпад нораваў і маралі чалавецтва, якое гатова бясконца прыносіць ахвяры свайму «ўтапічнаму» богу, а не шукаць прычыны няшчасцяў у сабе:

І людзі радасна крычаць,
Ажно на лоб вылазяць вочы.
А заўтра будуць зноў шукаць
Нячыстага, што Край сурочыў [12, с. 9].

У структуры лексемы ВЕРА семы «рэлігійнае», «звязанае з Бажаством», з'яўляюцца галоўнымі, ядзернымі. Носьбіт мовы XIX ст., напрыклад, успрымаў слова вера галоўным чынам як веру ў чароўнае, тагасветнае, духоўнае. Пры звароце да слоўнікаў пачатку XX ст. можна ўбачыць, што наяўнасць рэлігійнага кампанента значэння ў семантычнай структуры лексемы ВЕРА таксама не падвяргаецца сумневу і амаль усе яе значэнні звязаны з рэлігійнай сферай, упэўненасцю ў існаванні Бога. Кніга В. Шніпа «На рэштках храма» — спроба пашырыць межы рэальнага да ўяўнага, узняць на паверхню патаемныя страхі чалавека, расшыфраваць паняцці ВЕРА і БЯЗВЕР’Е.

У творчасці Р. Малахоўскага пераважае ўзроставая і індывідуальная канцэптасфера. Лірычны герой аўтара дасягнуў узросту, калі на свет і на сябе можна паглядзець крытычна, з пэўнай ацэнкай. І хоць аўтарскі аналітызм нярэдка мяжуе з песімізмам, ён не скіроўвае Р. Малахоўскага ў бок эсхаталагічных разважанняў. Хутчэй, гэта канстатацыя спрадвечнага жыццёвага руху, усведамленне законаў светаўладкавання:

Калісьці і сонца
Ў сцюдзёных нябёсах астыне...
Ды сёння жыццё
Нам умовы дыктуе свае.
І рэкі ў нямы тагасвет
Накіроўваюць плыні...
Бяссонныя рэкі...
Ім сілы даўно нестае [13].

Лірычны герой не жыве ў духу адмаўлення і нават сумнення. Персанаж выбудоўвае ўласную сістэму канцэптаў, якія становяцца сувязным ключом паміж пачуццямі і розумам. Адметная мадэль часу, створаная Р. Малахоўскім у межах мастацкай прасторы, і звязаныя з ёй канцэпты — характэрная рыса ўсёй лірыкі маладога словатворцы. Паняцце хранатопу (М. Бахцін) як заканамернай сувязі прасторава-часавых каардынат рэалізуецца аўтарам такім чынам, што кожны элемент у ім — паслядоўны і строга ўпарадкаваны: Люстэрка часу → Накрэсленае часам → Выпрабаванне часам → Прадчуванне → Шаснаццаць секунд → Не мой дзень → Апошняе імгненне → Непазбежнасць → Надзея → Свабода → З забыцця → Адраджэнне → Аднаўленне → Пачні жыццё сапраўднае спачатку → Не ўмёрлі мы.

У мастацкім тэксце словатворцы ўдала спалучаны і матэрыял (мова), і задума (ідэя), а слова як вобразная адзінка мовы станавіцца асновай мастацкага вобраза. У лірыцы Р. Малахоўскага значэнне слова фармуецца шырокім кантэкстам з мэтай выражэння скразной паэтычнай думкі ці ідэі. А эмацыйная кульмінацыя ў творах нярэдка дасягаецца дзякуючы ўзмацненню ці паслабленню семы *(ад грэч.*

*séma — знак, элемент зместу моўнага знака)* канцэптаў (змена яркасці семы ў бок яе падвышэння ці паніжэння), канцэпт ДУША — *узмацненне семы:*

Не вярнуць санцавокага лета,
Не забыць тапалёвых завеяў.
А ***душа*** маладога паэта
Зачарована спевамі феяў.
<…>
Будзяць цені забытага лета,
Вецер грыву ў чароце хавае,
А ***душа*** маладога паэта
Жаўруком аж пад сонцам спявае [14, с. 11].

Зрэшты, канцэпт «душа» — скразны ў лірыцы маладога творцы. У гэтым кантэксце варта гаварыць пра тэрмін «ключавое слова», пад якім разумеюцца словы, найболей характэрныя для словаўжывання дадзенага аўтара.

Варта падкрэсліць, што ў творчасці Р. Малахоўскага працэсы семнага вар'іравання значэння слова, якое адбываецца пры лексічнай актуалізацыі, дазваляюць прасачыць узнікненне розных тыпаў мастацкага значэння: ад мінімальных зрухаў у семантычнай структуры да ўзнікнення індывідуальнага сімвалічнага значэння, якое можа ўтварыцца нават з агульнанароднага слова ў мастацкі вобраз:

Мае ***лісты*** не вернуцца ніколі.
Сваіх ***лістоў*** мне не напішаш ты.
Стаю адзін у пасівелым полі,
Чытаючы аблокі, ***як лісты*** [14, с. 17].

Як правіла, вобразы ўзнікаюць як індывідуальна-аўтарскія і характарызуюць ідыястыль Р. Малахоўскага. Гэта падкрэслівае, што мастацкі канцэпт ёсць праявай індывідуальна-аўтарскага адлюстравання свету, які ў сваю чаргу выяўляецца ў мастацкай структуры твора і ва ўзаемадзеянні ўсіх яго элементаў. Аднак існуюць у лірыцы творцы і традыцыйныя вобразы, якія ўзыходзяць да агульналітаратурнай, фальклорнай ці міфалагічнай традыцыі: песня, шчасце, расстанне, мроя, грэх, Анёл і інш.

Таццяна Сівец у сваіх вершах, выкарыстоўваючы словы з французскай і англійскай моў, уводзіць чытача ў межы ўласнага культурнага асяродку. Хоць перш за ўсё іншамоўныя элементы ствараюць адпаведную мастацкую атмасферу ў тэксце, характарызуюць месца і час існавання персанажа («Свабода!!! / Я іду адна / На пляц **«la Liberte»** [15, с. 4]). Традыцыйна лірычныя героі і аўтар нятоесныя. Персанаж можа быць сукупнасцю і ўласна пражытага аўтарам, і вынесенага з вопыту іншых людзей, ён можа стаць вынікам назірання за навакольнай рэчаіснасцю, зрэшты, увасобіць аўтарскую прыдумку, спрычыніцца да містыфікацыі мастацкай рэальнасці ў творы:

Каралева жыве… Але мусіць памерці кароль.
На змярканні, якое сплывае крывёю вянознай.
<…>
Ды з-пад пальцаў яго — капяжы патрывожаных нот
Жураўлінае песні на бела-чырвоныя пожні.
Мой кароль, я прашу, я малю:
**You Mast Not!.. You Must Know!..**
Я кахаю Вас… Сонца схавалася… Позна [15, с. 54].

Згаданая вышэй сэнсавая дамінанта хоць і вынікае з маналогу лірычнай гераіні, характарызуе ўсё ж не яе саму, а ментальнасць аўтара вершаванага тэксту. У гэтым, на нашу думку, і заключаецца розніца паміж мастацка-вобразнай абалонкай твора і яго канцэптасферай, нягледзячы на тое, што ўсе яны палягаюць у межах моўна-семантычнай прасторы.

Такім чынам, англійская мова, якой карыстаецца лірычная гераіня верша, не ўваходзіць у сукупнасць неабходна абавязковых ведаў, а таму не можа быць скарыстана тымі, хто ўваходзіць у непрыналежны да гэтай мовы соцыум. Падобнае разбаўленне моўнай плыні адзінкамі іншамоўнага паходжання — сведчанне таго, што аўтарка не замыкаецца на ўласна беларускіх крыніцах натхнення, пашырае межы мастацкай прасторы.

Можна меркаваць, што падобнага кшталту «іншародныя» элементы, якімі з'яўляюцца запазычаныя словы, выразы, уяўляюць сабой канцэпты, коды-дэшыфроўкі. Апошнія, успрымаючыся на слых, могуць звузіць чытацкую аўдыторыю ці далучыць яе да набыткаў сусветнай культуры, калі ўспрымаюцца зрокава (у кнізе падаюцца зноскі-тлумачэнні). Зрэшты, творчасць Т. Сівец нельга далучыць і да так званага артхаўса (англ. **Art house**), «мастацтва не для ўсіх», бо тэмы, ўзнятыя паэтэсай — зразумелыя, адвечныя: каханне, расстанне, сяброўства. А філасофская лірыка творцы з'яўляецца свайго роду рэфлексіяй над вышэй адзначанымі тэмамі. Бо менавіта ў паэзіі думкі аўтаркі набліжаюцца да найбольш гарманічнага адчування свету.

Такім чынам, аналіз эмацыйных праяў, адлюстраваных і замацаваных у мове сучаснай беларускай філасофскай лірыкі, у яе мастацка-вобразным арсенале з'яўляецца важнай крыніцай культуралагічнай інфармацыі пра «штодзённую свядомасць» творцаў. Канцэптуальная сфера ў паэзіі азначаных аўтараў даволі багатая і разнастайная. Тут узроставыя і індывідуальныя канцэпты (Р. Малахоўскі, В. Шніп), моўныя эксперыменты (Т. Сівец) і даніна традыцыйнаму вершаскладанню (М. Мятліцкі), што дае глебу для вывучэння індывідуальнай манеры пісьма, ідыястылю пісьменнікаў. Ва ўсім бачыцца дынаміка фарміравання і развіцця канцэптаў, а таксама неадназначнасць успрымання іх чытачамі. З артыкула вынікае, што і самі канцэпты, падпарадкаваныя адзінай мастацкай задуме, нярэдка семантычна збліжаюцца, становяцца свайго роду кантэкстуальнымі сінонімамі (творчасць М. Мятліцкага). Яны спараджаюць цэлыя гнёзды паэтычных сэнсаў і асацыяцый, у якіх можна вылучыць ядро і перыферыю. Асацыятыўная канцэптасфера непарыўна звязана з ментальнасцю словатворцаў, а гэта дае магчымасць не толькі дакладна ацаніць іх паэзію на розных этапах яе творчага развіцця, але і сфарміраваць пэўнае ўяўленне пра асобу саміх аўтараў.

## Літаратура

1. Ліхачоў, Д. С. Концептосфера русского языка. Очерки по философии художественного творчества / Д. С. Ліхачоў. — СПб.: Питер, 1999. — С.147—165.

2. Conceptus (concept) [электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.philosophydic.ru/conceptus-concept. — Дата доступу: 30.06.2013

3. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. (У 5 тамах, Т. 1). Мн: БелСЭ, 1977—1984.

4. Маслава, В. А. Введение в когнитивную лингвистику: Учебное пособие / В. А. Маслава. — М.: Флинта: Наука, 2004. — 296 с.

5. Мятліцкі, М. Замкнёны дом: вершы, паэмы / М. Мятліцкі. — Мн.: Маст. літ., 2005 — 316 с.

6. Мятліцкі, М. Чаканне сонца: вершы / М. Мятліцкі. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 222 с.

7. Мятліцкі, М. Абеліск у жыце: вершы і паэма / М. Мятліцкі. — Мн.: Маст. літ., 1980. — 56 с.

8. Мятліцкі, М. Чалавек падымае неба / М. Мятліцкі. — Мн.: Чатыры чвэрці, 2012. — 360 с.

9. Тютчев, Ф. Не то, что мните вы, природа... / Тютчев Ф. Полное собрание стихотворений. — Л.: Сов. писатель, 1987. — С. 135—136.

10. Мятліцкі, М. О, як вясна дажджом атрутным секла [Тэкст] / М. Мятліцкі // Полымя. — 2011. — № 4. — С. 3.

11. Шніп, В. Горад Утопія / В. Шніп. — Мн.: Друкарня К. Пянткоўскага, 1990.

12. Шніп, В. На рэштках храма / В. Шніп. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 159 с.

13. Малахоўскі, Р. Рэкі [электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http: // ragned-m.livejournal.com / 25672.html. — Дата доступу: 30.06.2013.

14. Малахоўскі, Р. Беражніца: вершы / Р. Малахоўскі. — Мн.: Маст. літ., 2005. — 75 с.

15. Сівец, Т. Таму, хто знойдзе…: Вершы, проза, п’есы, пераклады / Т. Сівец. — І. П. Логвінаў, 2008. — 184 с.

16. Аскольдаў, С. А. Концепт и слово / С. А. Аскольдов // Русская словесность: антология. — М., 1997.

17. Валодзіна, Н. В. Концепты, универсалии, стереотипы в сфере литературоведения / Н. В. Валодзіна. — М., 2010.

18. Варкачоў, С. Г. Любовь как лингвокультурный концепт / С. Г. Варкачоў. — М., 2007.

19. Мітрафанава О. І. Понятие концепта и его эволюции на примере концепта вера // II Международные Бодуэновские чтения. — Казань: КГУ, 2003.— Т. 1.— С.163—165.

20. Сцяпанаў Ю. С. Константы: словарь русской культуры [электронны варыянт] / Ю. С. Сцяпанаў. — М.: Языки русской культуры, 1997.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 26 ліпеня 2013 г.

**Алесь БАРАНОЎСКІ**

**Асацыятыўная канцэптасфера сучаснай беларускай лірыкі**

**Рэзюмэ**

Аналіз эмацыйных выразаў, якія праяўляюцца і ўвасабляюцца ў мове сучаснай беларускай філасофскай лірыкі, уяўляе сабой значны інфармацыйны рэсурс для культуралагічных даследаванняў. Канцэптуальнае поле ў творах згаданых аўтараў вельмі багатае і разнастайнае. Тут можна знайсці як індывідуальныя канцэпты так і ўзроставыя, эксперыменты з мовай і даніну традыцыйнаму вершаскладанню. Усё гэта дае шырокі матэрыял для вывучэння індывідуальнага стылю пісьма і ідыястылю аўтараў. Дынаміка канцэптасферы з'яўляецца ўсёпранікальнай, а таму абумоўлівае неадназначнасць успрымання і інтэрпрэтацыі яе чытачамі.

**Alexander BARANOUSKI**

**Associative concept-sphere of modern Belarusian lyrics**

**Summary**

Analysis of the emotional expressions manifested and embodied in the language of contemporary Belarusian philosophical lyric is a significant informative resource for cultural studies. The conceptual field in the works of the examined authors is mighty rich and diverse. Here you may find concepts defined by individual and age specifics, language experiments and a tribute of conventional versification. This provides a wide field for studying the individual writing style and idiostyle of the authors. The dynamics of the concept-sphere is all-pervading thus causing the ambiguousness of readers’ perception and interpretation.

Таццяна ШАМЯКІНА

# СЮЖЭТНАЕ МАЙСТЭРСТВА ІВАНА ШАМЯКІНА Ў ФІЛАСОФСКІМ РАМАНЕ «ВАЗЬМУ ТВОЙ БОЛЬ»

Дакладнае разуменне катэгорыі «літаратурны твор», у адрозненне ад моднай катэгорыі «тэкст», мае на ўвазе тонкую дыялектыку суб'екта і аб'екта, складана дэтэрмінаваную духоўна-практычную дзейнасць, якая ні ў якім разе не зводзіцца толькі да матэрыяльнага артэфакта — тэксту, інакш кажучы, знакавай структуры, а як бы працінаецца ў часе, з'яўляецца працэсам з многімі складнікамі, што прадугледжваюць пэўную актыўнасць аўтара і ў той жа час надаюць твору пазаасабовае існаванне. Інакш кажучы, мае значэнне і выспяванне задумы твора пад уплывам пэўных фактараў, і само стварэнне яго, і далейшае існаванне ў часе, дзе крытычная ацэнка не толькі неўзабаве пасля з'яўлення твора, а аналіз яго праз пэўны час дапамагаюць лепш зразумець заключаную ў ім, максімальна сканцэнтраваную (таму што вобразную), інфармацыю. Вось чаму ёсць сэнс вяртацца да знакавых у свой час твораў беларускай літаратуры.

Раман Івана Шамякіна «Вазьму твой боль» адразу пасля яго апублікавання (1979 г.) быў прыхільна сустрэты крытыкай і чытачамі. Паводле гэтага твора знакаміты, бадай, лепшы ў другой палове ХХ ст., беларускі кінарэжысёр Міхаіл Пташук зняў мастацкі фільм (1981 г.), дзе ў галоўнай ролі Івана Батрака выдатна выявіў свой бясспрэчна вялікі талент — слынны рускі акцёр Уладзімір Гасцюхін, які неўзабаве перабраўся ў Беларусь і стаў беларускім дзеячам культуры. Іншым, чым У. Гасцюхін, уявіць сабе Івана Батрака, бадай, і немагчыма: у акцёра выключная фактура — просты, нават з грубаватымі рысамі твар тыповага працаўніка на зямлі, і пры гэтым глыбокія, праніклівыя вочы інтэлігента-мысляра.

Іван Батрак — у цэнтры аповеду вялікага рамана, вызначае яго галоўную ідэю і сюжэтныя ходы. Хоць назва твора ўказвае на іншы персанаж — на Тасю, Таісію Міхайлаўну, жонку Івана: гэта яна бярэ на сябе боль любімага мужа, вырашае, ахвяруючы сваёй свабодай, яго калізію, якая здавалася невырашальнай. Шамякін доўга, пакутліва, як і заўсёды, раздумваў над сюжэтам, белетрыстычна «закруціў» яго выдатна, але пастаянна вяртаўся да фіналу рамана, а потым і фільма (памятаю гутаркі і нават спрэчкі сцэнарыстаў — Шамякіна і Пташука). Варыянтаў фіналу было некалькі, але нязменна яны заканчваліся смерцю былога паліцая Шышковіча (Шышкі), прычым у пагібелі яго нейкім чынам аказвалася вінная Тася.

Заўсёды выступаючы ў Вярхоўным Савеце БССР як яго Старшыня (была тады такая пасада) супраць смяротнага пакарання злачынцаў, за іх памілаванне, І. Шамякін і як чалавек, і як пісьменнік у мастацкім творы дапускаў немагчымасць з боку родзічаў ахвяр мірыцца з існаваннем на зямлі здраднікаў і забойцаў. У рамане ён ставіць пытанне: ці могуць забойцы парушаць жыццё нармальных людзей, ці апраўдана іх жыхарства побач з сумленнымі працаўнікамі і валоданне аднолькавымі з імі правамі? Наяўнасць розных варыянтаў фіналу твора гаворыць пра пэўную разгубленасць аўтара перад праблемай, пра немагчымасць яго вырашыць яе самастойна. Увесь раман — пакутлівая развага над калізіяй, якая сёння яшчэ больш выглядае невырашальнай.

Іван Шамякін падчас напісання твора не ўяўляў, як кардынальна ў канцы стагоддзя будзе парушана гармонія і шчасце менавіта простых людзей-працаўнікоў, якое велізарнае — вызначальнае — месца зоймуць у новым жыцці якраз здраднікі і махляры, але няясныя яшчэ самому аўтару знакі як бы даходзілі да яго з наасферы, прымушалі сэрца біцца неспакоем. Раман — крык-папярэджанне сучаснікам, у многім голас адчаю праніклівага аналітыка, які абсалютна не быў пачуты.

Крытык Валянціна Локун у «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя» слушна адзначае адносна рамана «Вазьму твой боль»: «Твор шматаспектны, у якім закранаецца разам з праблемамі сацыяльнага развіцця вёскі, праблемы маральна-этычныя: аб адказнасці чалавека перад часам і перад людзьмі, адказнасці фармальнай і сапраўднай. Упершыню ў прозе пісьменніка вобраз памяці як адзін з распаўсюджаных структурных элементаў узнімаецца да ўзроўню філасофскага абагульнення і ўспрымаецца як катэгорыя духоўная, як сімвал памяці народнай, памяці ачышчальнай і трагічнай адначасова».

Варта дадаць яшчэ адно, чаго не ўлічылі аўтары і складальнікі згаданага вышэй акадэмічнага выдання: Шамякін зафіксаваў той момант у гісторыі краіны, калі на змену людзям, якія перажылі вайну і нават самі ваявалі, прыйшло актыўнае пакаленне, што жахаў вайны не ведала і ўвогуле нічога страшнага ў жыцці не спазнала, але пачало настойліва дыктаваць свае правілы жыццябудовы. Момант пераходнасці, змена пакаленняў перададзены аўтарам з вялікай сілай праўдзівасці, з пастаноўкай сур'ёзных філасофскіх праблем, важнасць якіх мы пасапраўднаму разумеем толькі сёння.

Твор пісаўся дзеля ўсведамлення меры любові ў асабістых стасунках людзей, а больш шырока — дзеля сцвярджэння ідэі чалавечнасці ў грамадстве. Пісьменнікам рухаў клопат пра маральнае здароўе народа.

Усё сваё жыццё, акрамя апошніх яго гадоў, І. Шамякін быў упэўнены ў магчымасці мастацкай літаратуры змяніць людзей, зрабіць іх лепшымі, прымусіць кожнага думаць пра іншага, як пра сябе самога. У імя высакароднай мэты пісьменнік, якога часам называлі ідэалістам, так шмат, апантана і натхнёна працаваў. І толькі зыходзячы з гэтай устаноўкі аўтара можна зразумець канкрэтны твор, ды і ўсю творчасць Шамякіна. Што тычыцца непасрэдна рамана «Вазьму твой боль», то менавіта філасофская яго сутнасць абумовіла структуру і такое выразнае раздзяленне персанажаў-антаганістаў: на выключна станоўчага — тыповага савецкага працаўніка Івана Батрака і рашуча адмоўнага — былога паліцая, злодзея Шышку.

Аднак раман — філасофскі па сутнасці — не мае адцягнена-дыдактычнага характару. Дыдактыка абсалютна не характэрная для творчасці Шамякіна; ён увогуле не быў прамым маралістам, заўсёды добра разумеў, якое фенаменальна складанае жыццё, які супярэчлівы, нават парадаксальны, можа быць чалавечы характар (тая ж Тася), што фарміруецца пад уплывам самых розных абставін (таму перадгісторыю персанажаў празаік прыводзіў абавязкова, практычна ў кожным творы). Адсюль, дарэчы, і выключная талерантнасць Шамякіна-грамадзяніна, якога нават нядобразычлівыя не могуць абвінаваціць у савецкай артадоксіі; адсюль жа і яго мяккасць, рахманасць у адносінах да людзей, якіх добра разумеў і ўсім усё даравáў.

Філасофская ідэя рамана «Вазьму твой боль» рэалізуецца ў канкрэтных жыццёвых абставінах і ў жывых чалавечых характарах. Акрамя таго, і сама ідэя паўстае ў пастаянным развіцці. Героі — не носьбіты ісціны ў апошняй інстанцыі, а самі займаюцца яе пазнаннем, настойліва шукаючы адказы на праблемы чалавечага існавання. Івана Батрака хвалюе, чаму людзі перастаюць памятаць, чаму яны (ды нават і ён сам) прагнуць камфорту не толькі ў матэрыяльным — у духоўным жыцці; ён пакутліва разважае, ці можна жыць з нянавісцю ў душы, калі проста немагчыма бачыць і адчуваць блізкую прысутнасць забойцы. Іван не толькі дакарае людзей, існуючае палажэнне рэчаў (нават юрыдычнае) — ён сам пастаянна незадаволены сабой.

Пасля вяртання ў Добранку Шышкі, пра якога аднавяскоўцы не ведалі галоўнай праўды — забойства ім сям'і Івана, Батрак пастаянна імкнецца публічна распавесці сваю гісторыю і не можа гэтага зрабіць так, каб сябры і калегі адчулі яго боль. «Іван дакараў сябе і шукаў выпадку ўсё ж расказаць неяк інакш шырокай грамадзе. Расказаць так, каб не было Шышку апраўдання ад людзей! Каб загарэліся яны гневам. Каб маладым не здавалася наша вайна далёкай гісторыяй, накшталт Пунічных войнаў, каб яны адчулі, як доўга ў бацькоў не гояцца раны, як яны баляць, як блізка вораг, каб трэск матацыклаў і шум джазаў не аглушыў іх, не ачарсцвіў душы да таго, што яны стануць абыякавыя да чужой смерці, бяды».

Іван усё ж расказвае праўду пра былога паліцая — спачатку жонцы, затым на партыйным сходзе ўсёй грамадзе. Гэта — кульмінацыя твора. Але галоўнае ў ім тоіцца ва ўсёй структуры, тых сюжэтных перыпетыях, якія, уласна кажучы, і дапамагаюць рухацца ідэі, робяць раман па-сапраўднаму філасофскім.

Крытыкі і літаратуразнаўцы заўсёды называлі Шамякіна майстрам сюжэта, але вельмі рэдка падрабязна паказвалі, у чым жа заключаецца фабульна-сюжэтнае майстэрства аўтара. Таму ёсць сэнс прасачыць рух сюжэта рамана «Вазьму твой боль».

У цэласнасці мастацкага твора надзвычай важнае значэнне набываюць яго прасторавыя межы, і асабліва пачатак, які адыгрывае галоўную ролю ў стратэгіі аўтара на зацікаўленасць да твора патэнцыяльнага чытача. Менавіта пачатак характарызуецца, як правіла, найвышэйшым узроўнем семіятычнасці. Часта ў пачатку твора выяўляе сябе той ці іншы яго матыў ці нават ідэя, аўтарская задума і, бясспрэчна, найбольш ярка — дамінанта стылю пісьменніка. Усе пачаткі твораў І. Шамякіна — розныя і па-рознаму суадносяцца з іх загалоўкамі, эпіграфамі, тэмамі і праблематыкай.

Раман «Вазьму твой боль» пачынаецца фразай «Канчалі жніво», няпэўна-асабовым сказам і адначасова асобным абзацам, у якім канцэпт «канец» як бы заключаны ў квадрат. У прынцыпе жніво — канец сельскагаспадарчага года — падзея радасная. Але пачатак твора неабходна суадносіць і з яго назвай. У сувязі з загалоўкам, у якім гучыць «боль», першая фраза, што заключае ў сабе «канцы», — насцярожвае. Сапраўды, раман — адзін з самых драматычных у Шамякіна не толькі па сваіх калізіях, звязаных з памяццю Вялікай Айчыннай вайны, а і з светаадчуваннем героя. Справа ж не ў тым, што Іван Батрак жадае адпомсціць паліцаю за пагібель родных, а ў нераўнадушшы чалавека-грамадзяніна і ў той жа час раўнадушшы яго акружэння. Знешняя ўладкаванасць жыцця, камфорт, дабрабыт, розныя забаўкі зрабіліся прыярытэтамі жыцця чалавека, а гэта, на думку сталага Шамякіна, і абрынула ў рэшце рэшт краіну ў катастрофу. Грамадства, лічыў ён, у перыяд позняга Л. І. Брэжнева аказалася разбэшчаным хцівасцю, прагай матэрыяльнага дастатку, прычым любой цаной. Ужо тады, калі пісаўся раман, у 1970-я гады, палажэнне са станам грамадскай маралі, культуры насельніцтва непакоіла не толькі пісьменнікаў, а і ўсіх нераўнадушных людзей, але як змяніць сітуацыю — ніхто не ведаў.

Перыяд, які пазней назавуць «застоем» і ў які актыўна працаваў І. Шамякін, можна ацэньваць па-рознаму. Можна як перадышку (асабліва ў нас, у Беларусі, пад кіраўніцтвам мудрага і гуманнага П. М. Машэрава) паміж страшэнным напружаннем народа ў мабілізацыйным праекце 30—40-х гадоў і будучым хаосам «перабудовы». Можна і як рэгрэс, дэградацыю, здраду ранейшым ідэалам, за якія столькі пралілося крыві, — менавіта так уяўлялася тады Шамякіну. Усё ж не толькі маральны заняпад, абмяшчаньванне кіраўнікоў партыі і культурнай эліты ў 80-я гады, але і зайздрасць, прагнасць, нежаданне памятаць і думаць шырокіх мас, што якраз і хвалявала пісьменніка, прывялі да «перабудовы» з яе ўжо літаральна культам нажывы, а затым і да дзікага, варварскага капіталізму. І. Шамякін як чуйны творца ўлавіў цяжкі крызіс ментальнасці савецкага грамадства, што ўрэшце абрынуў усё чалавецтва ў геапалітычную катастрофу — распад Савецка-

га Саюза, пра які прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін сказаў: «Хто жадае вярнуцца ў СССР — не мае розуму, хто ж не шкадуе пра СССР — не мае сэрца».

Першы раздзел твора — зусім не ідылічны малюнак у квітнеючым савецкім саўгасе, бо адразу акрэсліваецца некаторы невялікі канфлікт: брыгада камбайнераў, якую ўзначальвае Іван Батрак, трохі не закончыўшы ўборку, тым не менш прымае за яе прэмію — начальства ўгаварыла. Рэдкі сённяшні чытач уловіць у сітуацыі намёкі і прыхаваны сарказм да шырока разрэкламаванага ў той час фільма «Прэмія», пастаўленага па п'есе моднага маскоўскага драматурга Міхаіла Шатрова. Але ў п'есе расійскага аўтара і адпаведна ў фільме прэмія рабочаму калектыву — незаслужаная. Інакш у Шамякіна. Увогуле беларускі пісьменнік, паказваючы вытворчыя працэсы, неаднаразова звяртаў увагу на неабходнасць з боку мясцовых кіраўнікоў ісці на кампрамісы, парушаючы некаторыя фармальныя законы, але сумленна выконваючы справу па сутнасці. Так гэта разумее і Батрак, хоць сітуацыя пакуль што высвечваецца не яго вачыма, а вачыма другараднага персанажа — агранома Кузі. Раздзел дынамічны, поўны шматгалосся: тут гутаркі і жарты камбайнераў і непасрэднае знаёмства з адным з саўгасных начальнікаў — Качанком (праз адносіны да яго агранома), з дырэктарам саўгаса Астаповічам, і ўвядзенне ў дзеянне сына Батрака — Карнея, характар якога лепш раскрывае старэйшага Батрака, і сябра Івана — вясёлага, дасціпнага, не без недахопаў (любіць выпіць) Хвёдара Шчэрбы. Сам Іван Батрак яшчэ не паказаны знутры, а паўстае праз сваю працу, стаўленне да яго начальства і калег — прычым вельмі ненавязліва, тонка, з гумарыстычнымі пасажамі. Такім чынам, першы раздзел твора ўводзіць у атмасферу працы і быту паспяховага саўгаса на поўдні Гомельскай вобласці, на мяжы з Украінай. Дарэчы, высокія эканамічныя паказчыкі гаспадаркі і адпаведны ўзровень дабрабыту людзей — не прыхарошванне аўтарам савецкай рэчаіснасці, у чым яго можна было б, паводле сённяшніх стэрэатыпаў мыслення, абвінаваціць: менавіта такімі былі ў канцы 1970-х гг. шмат якія калгасы і саўгасы ў Беларусі — дастаткова пазнаёміцца са статыстыкай; нездарма менавіта да «машэраўцаў» ездзілі па танны і якасны харч жыхары суседняй Украіны. У дадзеным выпадку аўтар арыентаваўся, нават у перадачы тэрытарыяльна-прасторавых рэалій, на любімую сваю мясціну ў Беларусі, радзіму жонкі, вёску Церуху, пра якую яму давялося пісаць неаднаразова.

Сваё заўсёднае адчуванне шчасця ад жыцця ў Церусе Шамякін перадаў сваім героям. У пачатку твора Іван і яго жонка Тася — шчаслівыя людзі. Нават дробныя непрыемнасці на працы (вось чаму яны аказаліся ў пачатку твора) Іван у далейшым будзе ўспрымаць таксама як шчасце — у параўнанні з той бядой, якая навалілася на яго пасля вяртання Шышкі.

Адчуванне шчасця давалі Шамякіну і яго героям не толькі любімая праца, сябры і родная прырода, але і сям'я. У другім раздзеле аўтар знаёміць чытача з жонкай Івана — Тасяй. Тут галоўны метад пісьменніка — развіццё дзеяння ў мінулае: узнаўленне ўспамінаў Тасі пра яе з'яўленне ў вёсцы Добранцы, гісторыі іх з Іванам кахання і сямейнага жыцця. У параўнанні з папярэднім і наступнымі раздзеламі стылёвая танальнасць дадзенай структурнай часткі твора зусім своеасаблівая — пры ўсёй аб'ектывізаванасці: часам з ноткамі рамантычнай узнёсласці, згадваннем парыванняў гераіні. І гэтым празаік вырашае некалькі задач: змяшчае інфармацыю пра гісторыю галоўных герояў, хоць дастаткова лаканічную, але з «гаворачымі» дэталямі, а таксама акрэслівае характар Тасі — летуценніцы нават у сталым узросце і ў той жа час асобы з цвёрдымі перакананнямі і немалымі запатрабаваннямі. Чытач пагружаецца ў лад жыцця сям'і, якіх было сотні тысяч у той час.

У трэцім раздзеле — уласна завязка твора: ад сябра Шчэрбы Батрак даведваецца пра з'яўленне ў вёсцы Шышкі. Гарманічны і шчаслівы свет Івана рушыцца, «як бы парвалася нешта ўсярэдку, сувязь нейкая парвалася — паміж часам, падзеямі, пачуццямі сваімі, сувязь у адносінах з людзьмі. Ён чытаў у разумнай кніжцы,

што калі ёсць лад ва ўсім — гэта называецца гармоніяй. Душэўнай гармоніяй. Дык вось расстроілася яго гармонія».

Іван адчувае, што будучага няма, пакуль побач — жахлівае мінулае ў асобе забойцы Шышкі. Наступны раздзел, у якім аповед вядзецца ад першай асобы, — успамін Івана аб сваім ваенным маленстве і першых стасунках з аднавяскоўцам — паліцаем Шышкам. З вялікім майстэрствам Шамякін перадае псіхалогію дзіцяці праз успамін дарослага. Адначасова высвечваецца характар Івана, які выявіўся ўжо ў маленстве. Напрыклад: «Наконт яды быў я сарамлівы, як і многія дзеці таго часу, так наказвала маці: не лезці ў чужой хаце за стол». Або: «Мне заўсёды было лягчэй зайсці да каго-небудзь, куды-небудзь — у хату, у кантору, у кабінет дырэктара — і павітацца, чым развітацца і выйсці, здавалася, што раблю я гэта не так, не ў час, не па правілах». Між іншым, такім быў сам Шамякін. І такія ж рысы засталіся ў яго героі на ўсё жыццё. А вось яшчэ тонкае псіхалагічнае назіранне: «На сцяне вісеў партрэт Гітлера. На яго я стараўся не глядзець. Баяўся, што, калі пагляджу, паліцаі прымусяць зрабіць ці сказаць нешта такое, чаго нельга рабіць, гаварыць, чаго не даруюць дзед Качанок, сяльчане».

Успамін Івана вядзе чытача ў кашмарную атмасферу жыцця беларускай вёскі пад акупацыяй, канкрэтна — сям'і, у якой бацька быў у партызанах, пра што ворагі ведалі. Але дарослы Батрак у гэтым раздзеле яшчэ не аднаўляе ва ўспамінах сваю сямейную трагедыю ў падрабязнасцях, хоць чытач падрыхтаваны ўжо да яе, таму што Іван неаднаразова ў размовах і ў сваіх роздумах успамінае пра «тую ноч» і пра Шышку як забойцу сваёй сям'і. Аўтар інтрыгуе чытачоў, пакідае на нейкі час загадку неразгаданай.

Рознымі шляхамі і хітрасцю паліцаі імкнуцца выведаць у маленькага Іванькі звесткі пра бацьку. Ідзе своеасаблівы ментальны і маральны паядынак хітрых і жорсткіх дарослых з маленькім запалоханым хлопчыкам, які не паддаецца на іх ліслівасць і розныя псіхалагічныя захады толькі таму, што ў ім перамагае пачуццё любові да сваіх родных.

Праз успамін дасягаецца нарастанне драматызму, але ўсё ж мінулае, парушыўшы душэўную раўнавагу і ўнутраны спакой, не разбурае адчування еднасці, якое пануе ў адносінах Івана з сям'ёй, сябрамі, калегамі. Батрак яшчэ не ўвайшоў у непасрэдны кантакт з забойцам сваіх родных, Шышка пакуль — хутчэй абстракцыя. Але герой пачынае больш цаніць тое, што будзе неўзабаве страчана: Іван адчувае, «якое гэта непараўнальнае ні з чым іншым шчасце — сядзець у добрай хаце, перад такім цудам, як тэлевізар, з сынам, з дарослым ужо сынам, і вось так коратка, з узаемным разуменнем перагаворвацца з ім». Такія моманты, як напамін аб былой гармоніі, робяцца асабліва дарагімі для героя.

Наступны сюжэтны ход кнігі — якраз сустрэча персанажаў-антаганістаў у самай звычайнай абстаноўцы вясковага магазіна. Івана, па-першае, уразіў выгляд забойцы: Шышка быццам з курорта вярнуўся — «дужы, дзябёлы, на выгляд маладзейшы за свае гады»; па-другое, не менш здзівілі аднавяскоўцы: «Ніхто — ні слова. Больш таго: вось так увішна, зычліва, культурна абслугоўваюць». Справа не ў тым, каб прадаўцы грубілі каму б ні было з пакупнікоў, а ў абслугоўванні менавіта Шышкі, яўна чалавека з грашыма, у параўнанні з іншымі людзьмі: «Нінка гэтая дзеля каго іншага, дзеля таго, хто прыйшоў з поля, з фермы, лянуецца лішні раз паварушыцца». Здаецца, дробязь. На самай справе, дакладная дэталь. Разбэшчванне, маральная дэградацыя савецкага народа пачалася якраз з гандлёвай сферы, а потым, як хвалямі, захоплівала ўсё больш шырокія колы насельніцтва. Сцэна ў краме ў многім вельмі паказальная, тыповая для перадачы той сітуацыі пераходнасці пакаленняў і размывання ідэйнасці, якая ўсталявалася ў 1970-я гады (у 1950-я і 1960-я людзі яшчэ жылі інерцыяй радасці Перамогі і гонарам за дзяржаву): старэйшыя, ды і тое не ўсе (эпізод са старой Пліскай, якая прымае ад Шышкі падарунак) памятаюць вайну, яе жахі, моладзь ужо абсалютна раўнадушная да мінулага.

Пасля эпізоду ў краме — непасрэднага, праўда, без слоў, кантакту Івана з Шышкам — Батрак ва ўсіх падрабязнасцях распавядае Тасі пра свой самы вялікі боль — знішчэнне роднай сям'і, маці, бацькі, бабулі, маленькай сястрычкі і яшчэ не народжанай сястрычкі ці брацікa. Шамякін з вялікім майстэрствам перадае эмацыянальную, узрушаную мову героя, якая час ад часу перабіваецца рэплікамі Тасі. Інакш кажучы, увесь раздзел — не суцэльны маналог, які стаміў бы пры чытанні, а сцэна блізкасці, яднання герояў, неабходная і для падкрэслівання рэакцыі нераўнадушнай Тасі, і для разрадкі, каб не трымаць чытача ў пастаянным напружанні. Прычым Іван узнаўляе і дыялогі, скажам, сваёй маці з Шышкам, і апісвае падзеі, і перадае ўласнае самаадчуванне — сябе сямігадовага і сябе цяперашняга («Цяпер я знаю, што такое шчасце. Але ў шчасці таіцца небяспека. Я пачаў забываць перажытае»). Успамін Івана пра трагедыю свайго маленства, яго падрабязны аповед самаму блізкаму чалавеку — жонцы — як ачышчэнне ад граху бяспамяцтва, скідванне з душы ўсёй жыццёвай драбязы, што непазбежна нарастае за гады.

Іван гаворыць пра неабходнасць памяці і ў той жа час пра тое, што з такой памяццю цяжка жыць, што нянавісць — асляпляе, і не дай бог спазнаць яе дзецям. І ўсё ж ведаць пра перажытае бацькамі дзеці павінны. Але ведаць не адцягнена-абстрактна, ды нават з фактамі і датамі, а праз пэўную «мову», назапашаную адпаведную сістэму вобразаў, этычных штампаў і нават міфаў, якія якраз і ўтвараюць ідэйнае адзінства нацыі. Такое веданне дасягаецца толькі праз літаратуру, мастацтва, на што і спадзяваўся Шамякін і яго калегі. Але якраз літаратуры, выяўленчаму мастацтву, кіно, тэатру ў школе, у ВНУ ўжо ў 1970-я і тым больш у 1980-я гады надавалася ўсё менш увагі, каб увогуле прывесці іх да поўнага заняпаду ў наш час. Валянціна Локун у акадэмічным выданні «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя» правільна гаворыць пра памяць як філасофскую катэгорыю ў рамане І. Шамякіна, але абсалютна не раскрывае адзначаны тэзіс. Чаму памятаць пра мінулае свайго народа важна? Відаць, таму, што памяць — своеасаблівыя веды, якія надаюць носьбітам памяці пэўную сілу і магчымасць уздзеяння на рэальнасць. Ва ўсялякім разе, памяць Івана нясе бясспрэчную пагрозу для Шышкі. Акрамя таго, памяць дапамагае не засынаць сумленню, а гэтым абвастрае і розум — Іван пачынае па-іншаму, больш праніклівa, глядзець на жыццё.

Іван і Тася абмяркоўваюць рэакцыю людзей на з'яўленне ў вёсцы былога паліцая — нават не маладых і старых, а іх уласных равеснікаў, якія «жыць навучыліся ўжо — абы ціха. На сходзе ні адзін не хоча слова сказаць. Ці на таварыскім судзе. Усе знаюць, а сведак не знойдзеш». Гэта запаветныя думкі самога Шамякіна ў той час — брэжнеўскія спакойныя гады. Я памятаю, як хвалявала яго ўсё большая абыякавасць людзей да ўсяго грамадскага, калектыўнага, ідэальнага, да ўсяго, што не тычыцца іх утульнага хатняга кутка. Ні пра што Шамякін не гаварыў з такім абурэннем, як пра чалавечае раўнадушша. Напісанне ім рамана «Вазьму твой боль» — і пастаноўка праблемы, сапраўды, суперважнай, як паказалі далейшыя гістарычныя падзеі, і імкненне праз слова, праз літаратуру намацаць выхад з яе. Таму другая палова твора — пошук выхаду для героя.

Для такога пошуку аўтару спатрэбіліся пэўныя белетрыстычныя прыёмы, паказ падзей у прыгодніцка-дэтэктыўным ключы. У гэтым — адметнасць менавіта Шамякіна-празаіка.

Па распараджэнні мясцовага саўгаснага начальніка — былога сябра дзяцінства Качанка — Іван вымушаны ехаць у горад разам з Шышкам: быў жа час блату, які ўстанавіла гандлёвая мафія, і якраз Шышка мог дастаць для саўгаснай АТС нейкія дэфіцытныя рэле. Батрак абураны і звяртаннем Качанка да Шышкі, як бы прызнаннем яго роўным усім добранцам, і проста фізічна не ў стане вытрымаць прысутнасць побач забойцы. Таму весці яму машыну невыносна цяжка. У той жа час ён не можа не ўступіць у гаворку з былым паліцаем і раскрывае яму веданне таямніцы той страшнай для Івана ночы, калі ён, маленькі, сядзеў пад печчу, а

Шышка страляў у яго цяжарную маці і маленькую сястрычку. Выкрыццё злодзея — вялікая пагроза для Шышкі (ваенныя злачынствы не мелі тэрміну даўнасці), бо пакараны ён быў не за забойствы: пра іх ніхто, акрамя Іванькі, не ведаў, а той у час суда ўжо знаходзіўся ў дзіцячым доме.

Супрацьстаянне забойцы і яго ахвяры, якога хацеў, ды не здолеў — дзякуючы дасціпнаму вынаходніцтву Іванькавай маці — Шышка забіць, таксама адзін з самых драматычных эпізодаў рамана, а ў плане псіхалагічнага аналізу — проста бліскучы. «Урэшце тое, пра што ён думаў цэлы месяц, адбылося: сутыкнуўся з Шышкам тварам у твар і сказаў яму ў вочы, што ён жывы сведка яго злачынства. Ён "пракручваў" у сваім мазгу, можа, сотню самых розных варыянтаў такой сустрэчы. У большасці выпадкаў даводзіў да таго, што канчалася іх "вочная стаўка" помстай паліцаю, зноў-такі самай рознай — ад маральнага асуджэння яго перад усёй грамадой, перад усімі добрынцамі да фізічнага знішчэння гада. Калі думаў пра сустрэчу адзін на адзін, то, трацячы на нейкі момант развагу, даходзіў да самага страшнага. І сам палохаўся. Таму і баяўся такой сустрэчы, пазбягаў. Спадзяваўся на час: ён, час, — самы мудры дарадца. Сапраўды, у апошнія дні ён часцей абдумваў варыянты ўсенароднага асуджэння Шышкі, грамадскага суда над ім».

Так і актуалізуецца ўся складанасць, вастрыня праблемы чалавекалюбства, якую немагчыма вырашыць абстрактна. Іван сустрэўся са сваім ворагам, выказаў яму ўсё, а далей што? Роздумы Івана перадаюцца няўласна-простай мовай, якая лёгка і натуральна пераходзіць у аўтарскі аповед: «Ён, бадай, можа быць задаволены сабой, сваёй вытрымкай — не ўнізіў сябе ніякай угалоўшчынай. Але тут жа пачаліся новыя душэўныя пакуты — ад адчування тупіка, у які ён як бы загнаў самога сябе. З'явілася брыдкае і цяжкае адчуванне, што, пры ўсім гнеўным напале, размовай сваёй ён як бы прымірыўся з існаваннем Шышкі. Вязе яго далей. Разам пойдуць на базу. <...> Што ж, выходзіць, на гэтым усё? Канечне, можна асуджаць яго завочна, можна настроіць людзей, каб усё сяло, за выключэннем хіба сваякоў Шышкавых, байкатавала паліцая. Але гэта ўжо не тое. Што яму да сяла? Плюне і паедзе. Што яго трымае? Так, размова, якая толькі што адбылася ў цеснай кабіне, — не тая помста, пра якую ён думаў. *Усё не тое*. Незадаволены сабой, Іван зноў занерваваўся, зноў у галаву лезлі цяжкія думкі».

З-за страшнага хвалявання Іван трапляе ў аварыю — першую ў сваім жыцці. У аварыі імкнуцца разабрацца сталы і мудры начальнік ДАІ капітан Драмака і малады, нявопытны, але небезнадзейны ў плане гуманізму, раённы пракурор Міхалеўскі. Іван бярэ віну на сябе, хоць вінаваты шафёр-прыватнік, машыну якога Батрак на сваім грузавіку стукнуў у бок. Шышка збег з месца аварыі — назаўсёды, як спадзяваўся Іван. Але былы паліцай вярнуўся ў вёску. Тут Шамякін больш падрабязна знаёміць чытача з гісторыяй Шышкі, з яго жонкай, зусім да яго не падобнай, і дачкой. Галоўнае — пранікненне ў псіхалогію здрадніка і забойцы. У свой час, на судзе адразу пасля Перамогі, паліцая нішто не палохала — абы жыць. «У калоніі ён зусім супакоіўся і, пераконваючы іншых асуджаных, што ўся яго віна толькі ў тым, што ён пад "пьяную лавачку" паступіў у паліцыю, патроху і сам сябе пераканаў, што сапраўды віны за ім ніякай няма. Аб расстрэле партызанскіх сем'яў навучыўся ўспамінаць так, каб зноў жа апраўдаць сябе». А потым, па-фарысейску рэлігійны, увогуле ўпэўніўся, што грахі свае выкупіў і адмаліў. Шлях тыповы для многіх вязняў ГУЛАГа. Не варта думаць, што там пакутавалі адны нявінныя авечкі. Былі і нявінныя. Але ўсё ж нямала было сапраўдных злодзеяў. Тым не менш ні адзін ніколі не прызнаваўся ў сапраўдных злачынствах: або асуджаны «за каласкі», або за «спазненне на работу», або за іншае падобнае, на што ўладныя загады сапраўды існавалі, але мелі зусім не такія формы пакарання, як нам сёння імкнуцца прадставіць. Кожны, як і Шышка, апраўдваў сябе. Тым і адрозніваюцца адмоўныя персанажы Шамякіна ад станоўчых, людзей зусім не без недахопаў, — адсутнасцю ў першых сумлення.

Аўтар дае абсалютна дакладны дыягназ таго, што прывяло Шышку да работы ў паліцыі, да здрады — нават не дзяржаве і ладу, а сваім аднавяскоўцам: «разумовая прытупленасць, няўменне ўзняцца над сваімі эгаістычнымі жаданнямі, асэнсаваць падзеі часу не з пункту гледжання свайго “я” і свайго “сёння”, а з улікам інтарэсаў усіх людзей, з улікам будучыні народа і сваёй, ні на міг не аддзяляючы сябе ад народа».

Гэта якраз тое, што найбольш хвалявала Шамякіна ў яго сучасніках, нават калегах і кіраўніках дзяржавы. Але ўсё ж пісьменнік яшчэ спадзяваўся на народную мудрасць, на сілу калектыву. Таму наступны важны эпізод твора — партыйны сход у саўгасе, які дае магчымасць і больш падрабязна пазнаёміць чытача з раённым і саўгасным начальствам (як аб’ектывізавана, так і з пункту гледжання Батрака), і паказаць супярэчлівыя думкі і пачуцці Івана. Малады парторг саўгаса, былы журналіст і будучы пісьменнік Забаўскі, зрабіў незвычайны, нефармальны даклад — як развагу пра праблемы, найбольш маральна-этычныя; і гэта штурхнула Івана расказаць людзям пра сваю бяду. Праўда, да гэтага апавядаў пра яе на машынным двары сябрам. Слухалі яны па-рознаму. Маладыя раўнадушна, «як глядзяць фільмы па тэлевізары». А Івану карцела расказаць неяк інакш і больш шырокай грамадзе. Тут таксама псіхалагічна ўсё абгрунтавана: любы цырыманіял, а кожны сход, бясспрэчна, цырыманіял, узвышае дзеянні і словы на ім.

Іван выступае на сходзе і, адначасова паказвае рэакцыю на яе розных людзей, іх рэплікі, нават думкі.

Пісьменнік тут ставіць адразу некалькі надзвычай важных праблем і сярод іх тую, якая хвалявала яго пастаянна: што больш важна, гаворачы мовай таго часу, — базіс ці надбудова: накарміць людзей, апрануць ці выхаваць духоўна, культурна, у пачуцці справядлівасці. Сам Шамякін пакутліва разважаў пра названую дылему ўсё жыццё і часам на крытыку ладу, якую чуў ад розных людзей, нават уласных дзяцей, адказваў тэзісам аб неабходнасці клопату партыі і дзяржавы перш за ўсё пра дабрабыт народа. (Неаднаразова ён гаварыў: «Чалавека неабходна найперш накарміць»). Хоць сам далёка не быў упэўнены ў неабходнасці пастаяннага і няўхільнага імкнення абавязкова дагнаць заходнія краіны па ўзроўні матэрыяльнага камфорту.

Да камфорту імкнулася жонка Івана Тася, але таксама і да нечага іншага, што не магла нават выказаць словамі: яе часта апаноўвала «нейкае неасэнсаванае, незразумелае адчуванне, што яна не паспела зрабіць ці пражыць... прапусціла ў жыцці па няведанні — ніхто не падказаў! — нешта асаблівае, самае цікавае, незвычайнае і прыгожае». Чым далей, тым усё часцей Тася з’яўляецца на старонках твора — як гераіня, якая ўрэшце знайшла выхад, вырашыла нейкім чынам калізію. Яна ўвесь час у руху, у працы (пісьменнік часта паказвае сваіх герояў у дзеянні, а таксама праз жэсты, міміку, дробныя дэталі) і пры гэтым пастаянна думае пра сям’ю — мужа, сына Карнея, дачку Валю. Высвятляецца, што ў дваццацігадовай Валі каханне з парторгам Забаўскім. Радасная падзея, мары пра шчаслівае будучае сям’і, уласны жыццярадасны характар перабіваюць адчуванне бяды, якой жыве яе Іван. І толькі страшная трагедыя — пагібель у аварыі лепшага сябра Івана — Хвёдара Шчэрбы, які ехаў на машыне Батрака, поўнасцю выводзіць Тасю з душэўнай раўнавагі, пасяляе жах у душы. Версія, што аварыю падстроіў Шышка, павісае ў паветры — даказаць яе пакуль немагчыма, як ні імкнецца сумленны начальнік ДАІ, але сама Таісія Міхайлаўна не сумняваецца ў ёй (потым, у фінале, яе пацвярджае жонка Шышкі Марына). Тася ўжо не можа быць спакойнай: яна зноў-такі ў пастаянным руху, але нервовым, мітуслівым, хаатычным.

Шамякін не нагнятае драматызм, робіць час ад часу эмацыйныя перапынкі, напрыклад, падрабязна апісвае першую, няўдалую жаніцьбу парторга Забаўскага, будучага зяця Батракоў, дае яму дастаткова падрабязную характарыстыку — не як парторгу, а як чалавеку. Такі прыём неабходны і па іншай прычыне: Забаўскі

ўваходзіць у раней шчаслівую сям'ю Батрака і будзе ў ёй цяпер абаронцам і як бы каардынатарам, як раней была Тася. Ці раўназначная замена — іншая справа. Кожны чалавек увогуле непаўторны, і замяніць яго нельга. І ўсё ж Шамякін клапаціўся пра чытача і не мог пакінуць яго ў адчаі за тых герояў, якіх той палюбіў, бо фінал твора — адзін з самых драматычных у пісьменніка: Тася, ідучы да Шышкі як медсястра, абараняючыся ад яго, выкрытага Марынай, забівае здрадніка.

Як ужо гаварылася, Шамякін шмат разважаў над фіналам і не быў задаволены ні адным з варыянтаў. Раман ставіць праблему, якая, відаць, у прынцыпе не мае вырашэння. Сама Тася думала аб «непазбежнасці таго, што зрабіла. Каб застаўся Іванаў боль, боль яго памяці, страшна падумаць, што было б з ім. Яна павінна была ўзяць яго боль! Цяпер у Івана будзе другі боль — за яе. Але ад такога болю ёй будзе спакойна, дзе б яна ні знаходзілася». Аднак такі выхад з сітуацыі задаволіць, на першы погляд, не можа. Усё роўна ж боль застаецца, і Іван не можа быць шчаслівы, бо будзе папракаць сябе за вінаватасць у яе несвабодзе. Тася ж спакойная, магчыма, таму, што зразумела, чаго яна не паспела «зрабіць ці пражыць», — інакш кажучы, зразумела сваё жыццёвае прызначэнне, а яно не можа быць у сумленнага чалавека без пакут і болю: яе Іван напакутаваўся, яна ж усё жыццё пражыла шчаслівa і ў прынцыпе бесклапотна — неабходна і ёй узяць на сябе частку пакут.

Такім чынам, сюжэт твора ўтварае пошук Іванам Батраком выхаду з уласнай душэўнай неўладкаванасці і адчування грамадскага непарадку, але выхад у дадзеным выпадку знаходзіць яго жонка, для якой шчасце сям'і аказваецца даражэйшае за ўласнае жыццё і свабоду. Гаворка ідзе, уласна кажучы, пра сілу любові, пра духоўныя магчымасці чалавека, які па-сапраўднаму любіць. Гэтая праблема таксама заўсёды хвалявала Шамякіна і неаднаразова паўставала ў яго творах, напрыклад, у аповесці «Гандлярка і паэт». Урэшце, сапраўдная любоў заўсёды азначае ахвярнасць, выхад за ўласныя межы. Іван як разумны чалавек, бясспрэчна, гэта ўсведамляе.

Пры ўсім пры тым празаік не задаволены ні банальнымі ісцінамі, ні аблегчанымі рашэннямі. Нездарма героі твора — Іван, Забаўскі, начальнік ДАІ Драмака, малады пракурор — пастаянна ў сумненнях і ў пошуках найлепшага рашэння, прычым іх пошук далёка не заўсёды канчаецца паспяхова. А ідэя чалавечнасці выпрабоўваецца не толькі фіналам, а рэалізуецца ў самім вобразе думак, ладзе пачуццяў і галоўных герояў, і нават другарадных — дырэктара саўгаса Астаповіча, Драмакі, жонкі Шышкі Марыны.

Для самога Шамякіна вышэйшая ісціна, якою вывяралася шмат што ў жыцці, — свяшчэнная для яго пара Вялікай Айчыннай вайны. Гэта не гучныя словы — сапраўды было так: Шамякін — адзін з нямногіх, хто ў часы ўсеагульнай здрады і раўнадушша да лёсу краіны не здрадзіў ні Перамозе, ні памяці загінуўшых блізкіх і таварышаў, ні ўласнаму, сумленна пражытаму, жыццю. Якраз гэтая памяць у ім жыла заўсёды, і невыпадкова не толькі яго ваенныя творы, але і творы з тэмамі мірнага часу абавязкова маюць рэтраспекцыяй ваенныя падзеі. Вельмі часта рэтраспектыўная частка, якая аказваецца, як правіла, у сярэдзіне таго ці іншага рамана, з'яўляецца і яго лагічным цэнтрам. Сапраўды, забойства Шышкам родных Івана і ёсць сюжэтны стрыжань твора, вызначае яго асноўную фабульную лінію.

Як і ўсе яго равеснікі, пісьменнікі ваеннага пакалення, Шамякін жыў адчуваннем свайго абавязку зноў і зноў распавесці свету пра тое значнае і цяжкае, што ўбачыў, перажыў у ваенныя гады. Праўда, ён не жыў пад акупацыяй, але жылі яго бацькі, сёстры, жонка, дачка, і з імі магло здарыцца тое ж, што з роднымі Іванькі. Тэма паліцэйшчыны на Беларусі ўвогуле надзвычай балючая і цяжкакранальная. Адна справа — ворагі, іншая — свае. Шамякін ведаў некалькі выпадкаў помсты былым паліцаям, калі яны вярталіся з Сібіры. Яго і хваляваў — не юрыдычны, а чалавечы аспект праблемы: ці мелі права родзічы забойцаў на помсту? Шамя-

кіну хацелася б зразумець тых людзей, якія не маглі даравацъ здраду і пагібель родных. Пра тое, якая балючая для яго была гэтая калізія на працягу ўсёй творчасці, сведчыць яшчэ першая аповесць, дзякуючы якой ён і ўвайшоў у літаратуру, — «Помста» (1946 г.). У прынцыпе любая індывідуальная калізія ў канечным выпадку выяўляе пэўны сацыяльна-гістарычны канфлікт, а ён тут — глабальны: супрацьстаянне сіл дабра і зла, гуманізму і фашызму.

Вельмі часта сацыяльна-гістарычны канфлікт рэалізуецца ў мастацкай літаратуры праз калізіі сустрэчы, выбару і перспектывы. Значную частку ў калізіі сустрэчы маюць сітуацыі, звязаныя з вяртаннем героя або на радзіму, або ў сваё дзяцінства і маладосць. У Шамякіна дадзеная калізія падаецца своеасабліва: на радзіму вяртаецца той, хто не мае на яе права, але галоўны герой, сустрэўшыся з антаганістам, сапраўды, вяртаецца ў маленства.

Пісьменнікі ваеннага пакалення пастаянна правяралі сваіх герояў на сюжэтных зломах, ставячы персанажаў перад антытэзай абавязковага выбару. Звычайна мы гаворым пра праблему выбару ў творах В. Быкава. Але яна рэалізуецца і ў іншых пісьменнікаў. Прычым вельмі часта той ці іншы выбар робіцца задоўга да крызіснай сітуацыі — ён у значнай ступені абумоўлены ўсёй духоўнай біяграфіяй героя. Так і ў Шамякіна, але ўсё ж яго аўтарскае рашэнне ў дадзеным рамане адметнае: галоўны герой перад выбарам, але нічога рашыць не можа, — вырашаюць за яго.

Што ж тычыцца калізіі перспектывы, то тут асабліва важна паглядзець на сутнасць канфлікту твора з далечыні нашага часу, у якім усё больш пануе ідэалогія сацыял-дарвінізму, пастаянныя здзелкі людзей са сваім сумленнем, што насамрэч і нараджае, у канечным рахунку, ідэалогію фашызму.

Іван Шамякін быў упэўнены ва ўзаемадачыненнях мінулага і сучаснага. Успаміны яго герояў пра мінулае валодаюць для аўтара запаветным маральна-філасофскім сэнсам. Дарослы Іван здолеў захаваць сумленне маленькага Іванькі, якога вайна вымусіла пасталець заўчасна і спазнаваць тое ў паводзінах дарослых, што б не ўцямілі сучасныя дзеці. Іван не можа здрадзіць і сваім родным — маці, бацьку, цётцы. Асабліва выдатна выпісаны вобраз маці, яе мужнасць у маральным супрацьстаянні з прыслужнікамі акупантаў, яе страх, боль за дзяцей, мужа. Гэта ж знаходлівасць маці, якая прадбачліва прарыла падземны ход з падпечча ў двор, выратавала сына.

Шамякін не толькі выдатна занатаваў рэаліі ваеннага часу, але і сцвердзіў маральныя перадумовы Перамогі як аснову жыццядзейнасці нацыі. Сапраўды, і тое, што Беларуская ССР увайшла ў ААН як самастойны геапалітычны суб'ект, і павага да беларушчыны (мовы, культуры) у савецкі час (пры ўсіх агаворках), і нават тое адзінае, што хоць неяк цэментуе народ сёння — шмат што абумоўлена мінулай вайной.

А ў паняцце гуманізму Шамякін уключаў усё — патрыятызм, мужнасць, таварыскасць, любоў. Але і нянавісць. Пісьменнік упэўнены, што Іван мае права на нянавісць — нават праз дзясяткі гадоў. Ніколі Іван Пятровіч не сумняваўся і ў самаахвярнасці беларускай жанчыны. З самаахвярнасці маці і жонкі ён увогуле звязваў сваю запаветную мару аб чалавечай еднасці.

У прынцыпе ўсё, што здарылася ў фінале, адбылося выпадкова (выкрыты сваёй жонкай як забойца Шчэрбы, Шышка накінуўся на Тасю з сякерай) і ў той жа час невыпадкова: былы паліцай захаваў свае жывёльныя інстынкты і ніколькі не перавыхаваўся, нягледзячы на сваю, як ён сам лічыў, веру ў Бога.

Але калі з Шышкам усё ясна, то больш хвалюе Шамякіна стан грамадства, лаяльнага да Шышкі. Адчай Івана і Тасі якраз ад таго, што грамада не адгукнулася на іх боль: і юрысты, і аднавяскоўцы лічылі, што Шышка сваё атрымаў (дваццаць пяць гадоў у лагеры і дзесяць на пасяленні ў Сібіры) і цяпер такі ж чалавек, як усе, і мае тыя ж правы. Іван чакаў грамадскага байкоту, а Шышку нармальна прымаюць у вёсцы; сам ён утварае секту для бабулек (а чаго можна

было чакаць, калі ў ваколіцах не было царквы, а людзі прагнулі далучэння да сакральнага?); Качанок звяртаецца да Шышкі з гаспадарчай патрэбай; іншы начальнік выпісвае яму матэрыял для новага дома; і нават сам парторг ходзіць побач са злодзеем па вуліцы. Забойца не мае права жыць так, як усе, — перакананы Іван Батрак. Магчыма, каб гэтая думка, якую сцвярджае раман, усталявалася ў грамадстве, каб яе ўкаранілі ў свядомасці людзей, мы б не мелі цяпер таго разгулу крыміналу, які маем.

Галоўнае: сцвердзіць каштоўнасць чалавечага жыцця. У савецкі час гэтая думка яшчэ вызначала грамадскую этыку, і, хоць пачалося ўжо занядбанне яе на практыцы, але лад яшчэ не дазваляў паміраць. Сёння, нягледзячы на шыкоўныя храмы і вяртанне як быццам да рэлігіі, на самай справе перамагае гнастычная тэорыя з яе падштурхоўваннем кожнага чалавека да свайго заўчаснага канца. Буржуазна-ліберальная ідэалогія літаральна штохвілінна праз СМІ ўбівае думку пра нікчэмнасць звычайных людзей — як быццам, каштоўная толькі інтэлектуальная, творчая эліта, а ўсе астатнія — быдла, сацыяльнае смецце, якое не мае права на існаванне. Адсюль і крымінал, і суіцыды, і большае шкадаванне забойцаў, чым іх ахвяр. Сам цяперашні лад, эканамічныя рынкавыя адносіны, што ўсталяваліся на постсавецкай прасторы, нягледзячы на ўсе юрыдычныя законы і гуманістычную рыторыку, вымагаюць уціску, прыгнёту, падаўлення і прыніжэння асобы. Дазвол на паміранне, раздзяленне людзей на лепшых і горшых — і ёсць сацыял-дарвінізм.

У дадзеным выпадку пра ГУЛАГ павінна ісці асобная размова, а я асноўваюся на ўласных назіраннях, на параўнанні эпох. Так, успамінаецца выключны грамадскі клопат у 50-я гады і нават яшчэ ў 60-я пра дзяцей, пра жанчыну-маці. Гэты клопат выяўляўся літаральна на кожным кроку, у кожнай дробязі. Дастаткова ўспомніць і вялікую колькасць сапраўды паэтычных фільмаў пра каханне — у параўнанні з сучаснымі пошлымі гламурнымі серыяламі. Урэшце, сапраўды ўсё пазнаецца ў параўнанні: у часы ельцыншчыны людзей загублена (ці дазволена ім паміраць) зусім не менш, чым у 30-я гады. Але тады была пабудавана вялікая цывілізацыя...

Разбурэнне СССР абумоўлена цэлым комплексам самых розных прычын. Але разумны чалавек не можа не бачыць каласальнай маральна-этычнай дэградацыі насельніцтва, прычым у сусветным маштабе, якое адбылося пасля развалу савецкай імперыі і, відаць, у выніку гэтага развалу. Адной з прычын вядомы расійскі сацыёлаг Сяргей Кара-Мурза называе незадаволенасць жыццём, якое было абумоўлена не толькі зайздрасцю да спажывецкай цывілізацыі Захаду, але і, як ні парадаксальна гэта гучыць, сумотай, нудой ад залішняй сацыяльнай абароненасці, а значыць, жыцця без канкурэнцыі, прыгод і барацьбы.

Шамякін не думаў пра будучае разбурэнне СССР — у час напісання рамана краіна выглядала як ніколі магутнай, але ён своеасабліва абыграў якраз важнейшае сацыяльнае дасягненне сацыялізму — юрыдычную абароненасць чалавека, павярнуўшы яе як бы адваротным бокам: яго адмоўны персанаж Шышка выдатна выкарыстаў гуманізм ладу. Ён жыве смела, упэўнена — нават пасля прызнання Івана. Шышка настолькі спакойны, што дом купляе за 12000 рублёў; больш за тое, піша скаргу на Івана ў пракуратуру, што той пагражаў яму, і пракурор вымушаны разбірацца, яшчэ і яшчэ раз, абараняючы правы паклёпніка, нагадваць Батраку пра яго боль. А Шышка, сапраўды, недасягальны — вось адкуль адчай Івана і Тасі. Гуманізм ладу меў выдаткі і нават разбэшчваў: «Магчыма, своеасаблівае разуменне дабрыні савецкай улады і перакананне, што ён, Качанок, увасабляе ўладу, а таму таксама павінен быць добрым і прывяло яго да думкі далучыць лагернага сувязіста [Шышку. — Т. Ш.] да аперацыі па даставанні дэфіцытных рэле». Лад прымушаў быць добрым, праяўляць увагу да чалавека. Але Шамякін паказвае, як лёгка было на асаблівасцях ладу паразітаваць такім, як Шышка, або мірыцца з уласным сумленнем і не думаць самастойна такім заўзятым чыноўнікам, як Качанок.

С. Кара-Мурза дае выдатны дыягназ сацыялізму як эфектыўнаму сацыяльнаму праекту для тых людзей, якія прайшлі праз бяду. Таму ў сацыялізм верыў шмат перажыўшы ветэран-франтавік Шамякін, верыў і яго герой — Іван Батрак, які спазнаў жахлівую трагедыю ў дзяцінстве і быў выхаваны дзяржавай. Яны цанілі дасягненні сацыялізму. «Але праект не адказваў на запатрабаванні грамадства паспяховага — грамадства, якое ўжо перажыло і забылася на бяду». Даследчык адзначае, што ў сацыялізму было шмат недахопаў, як у любога грамадства, — ідэалу няма, але загінуў ён, як ні дзіўна, ад сваіх вартасцей.

У сваёй фундаментальнай працы «Савецкая цывілізацыя» С. Кара-Мурза прыводзіць словы каталіцкага светара з Іспаніі: «У рынкавай эканоміцы наверх уздымаецца не той, хто больш разумны ці хто больш працуе, а той, хто здольны таптацца па таварышах, — толькі па іх целах можна падняцца наверх». Менавіта такі Шышка. І, значыць, за ім, па вялікім рахунку, у перспектыве — будучае, тое будучае, у якім мы цяпер жывём. Боль, неспакой, нават адчай Івана і Тасі — ад прадчування, што чакае іх дзяцей і ўнукаў: або здрада сумленню, або жыць пад шышкамі.

Праз усю творчасць Шамякіна праходзіць пакутлівы пошук той сілы ў свеце, што можа выратаваць чалавецтва, якому пагражае бездухоўнасць. Сілу такую пісьменнік не знайшоў. Больш за тое, у 1990-я гады і ў пачатку «нулявых» ён убачыў літаральна разгул сілы супрацьлеглай, дзякуючы якой бездухоўнасць сцвердзілася канчаткова. І ў канцы жыцця заўсёдны аптыміст Шамякін зрабіўся сапраўдным песімістам...

У 1970-я гады Шамякін яшчэ спадзяваўся і марыў, хоць і расчараванні сцераглі яго ледзь не кожны дзень. Яго складаны духоўны пошук выявіўся ў мастацкай паўнаце і жыццёвай стэрэаскапічнасці паказу не толькі знешніх падзей, але і ўнутраных станаў сваіх герояў. Адсюль насычанасць твора вобразнымі элементамі, якія, сюжэтна звязваючыся паміж сабою і з роздумамі герояў, сукупна павялічваюць складаную шматмернасць мастацкай ідэі.

У рамане ёсць сцэны, што, як быццам, прама не звязаны з сюжэтам, але яны неабходныя або для стварэння атмасферы (перадача атмасферы часу — моцная рыса празаіка), або апісваюць характары і псіхалагічны стан персанажаў, якія так ці інакш іграюць ці будуць іграць сваю ролю ў лёсе герояў (цётка Івана, Шчэрба, Драмака, пракурор, яго жонка). Усё разам істотна рассоўвае рамкі паказу як унутранага стану персанажаў, так і жыццёвых праблем, што хвалююць герояў і аўтара.

Прычым аўтар нідзе не надакучвае: яго апісанні, дыялогі, маналогі, аўтарская мова настолькі своеасаблівa і арганічна перакрыжоўваюцца, уваходзяць адно ў другое, што пры чытанні ніколі не ўзнікае стомленасці. Самыя розныя наратыўныя ўзроўні і сродкі стварэння вобразаў гарманічна суіснуюць, суадносяцца паміж сабой і ўтвараюць цэласную мастацкую сістэму. Сцэны выключна драматычныя замяняюцца паказам хатніх спраў і вытворчых праблем, калектыўныя гутаркі — роздумам ці ўспамінам, аб’ектывізаванае апавяданне — усхваляваным маналогам ад першай асобы. Пераплеценасць лёсу герояў (сапраўды, усё ў жыцці звязана паміж сабой), залежнасць лёсу ад жыццёвай біяграфіі, сучаснага ад мінулага робіць не толькі раман «Вазьму твой боль», але і ўсе творы празаіка ўнутрана свабоднымі, пазбаўленымі любой догмы. Нездарма Шамякін карыстаўся такой велізарнай чытацкай папулярнасцю, а галоўнае — ён добра перачытваецца. А гэта найбольш яскравае сведчанне таленавітасці аўтара і мастацкасці твора — калі яго хочацца перачытваць.

Ігар ШАЛАДОНАЎ

# У ЗАСЕНІ ШЧЫРАГА СЛОВА*

*(агляд беларускай аповесці за 2012 год)*

Аповесцю *«Дэзерцір»* («Маладосць», № 2) **Міхась Карпечанка** стварыў сваю адметную варыяцыю ў поглядзе на падзеі даўно мінулага ліхалецця, драматызм і трагізм якога дрыготкім рэхам адгукаецца ў сэрцах не толькі яшчэ жывых апошніх сведкаў вайны, але і ў душах іх нашчадкаў, па законе генетычна-фантомнага болю.

У паказе складанай ваеннай рэчаіснасці аўтар імкнецца засяродзіць увагу на раскрыцці псіхалагічна-глыбіннага, галоўнага нерва любой вайны, тым больш такой грандыёзнай і бязлітаснай — канфлікт паміж мерай індывідуальнай свабоды і грамадзянскім абавязкам салдата, з незаўсёднай сумяшчальнасцю яго экзістэнцыянальнай эмацыйна-пачуццёвай сутнасцю душы індывіда з татальнай машыннай праўдай дзяржавы.

Праблема дэзерцірства ў раскрыцці падзей Вялікай Айчыннай вайны ў беларускай літаратуры пачала распрацоўвацца ўжо са знакамітай паэмы А. Куляшова «Сцяг брыгады», дзе выводзіцца вобраз салдата-дэзерціра Ворчыка, які вымушаны быў сам сабе капаць магілу, усвядоміўшы ўсю недарэчнасць свайго ганебнага ўчынку.

Асабліва выразную карціну дадзенай маральна-духоўнай праблематыкі змог распрацаваць у савецкай літаратуры В. Распуцін, стварыўшы трагічна-каларытны вобраз Андрэя Гуськова з аповесці «Жыві і помні». М. Карпечанка ў мастацкай тканіне свайго твора змог пашырыць матывацыйную праблематыку праявы дэзерцірства, увёўшы ў яе распрацоўку шматаспектны і псіхалагічна-паглыблены план вечнага змагання дабра і зла.

У вялікім кантэксце галоўны канфлікт твора вырастае да межаў метаканфлікту парадыгм Благадаці і Закона. Рэлігія Закона (у ваенны час асабліва катэгарычна і востра) падзяляе людзей на чыстых і нячыстых, сваіх і ворагаў, з прычыны захавання знешніх форм, норм аб часе і месцы дзеяння, якія і вызначаюць, дзе і як яны павінны выкарыстоўвацца. Паводле Евангелля выратавацца толькі Законам нельга. Таму аўтар аповесці і задаецца такімі складанейшымі пытаннямі быційнага існавання чалавека на вайне.

Чым найперш павінен кіравацца ён падчас ваенных дзеянняў: законамі любові, праўды, дабрыні ці толькі прадпісанымі статутамі-законамі ваеннага часу? Як сумясціць у вузкім коле індывідуальнай свядомасці і свабоды агульначалавечыя, хрысціянскія імператывы благасці з жорсткімі статутнымі патрабаваннямі змагання са злом? У Евангеллі Благадаць не адмяняе Закон, яна імкнецца яго толькі папоўніць, пераплавіць энергетку яго полымя ў цяпло фаворскага агню, асноўным тыглем якога і выступае душа чалавека.

Галоўны герой аповесці, чырвонаармец Сямён Шаройка, трапіўшы ў суровыя абставіны і выпрабаванні, усяляк імкнецца захаваць унутраную прастору ду-

* Заканчэнне. Пачатак у № 9, 2013 г.

шэўнай цеплыні, каб не ўзлавацца на ўвесь свет, не стаць механічным вінцікам выканання высакароднай місіі змагання з сусветным злом — фашызмам.

Немалады ўжо чалавек, які тры гады правёў на фронце, а зараз пасля лячэння ў палявым лазарэце павінен быў вярнуцца ў сваю стралковую роту, «…у сыры, як заўсёды ў спешцы выкапаны, акопчык-магілку перадавой, каб зноўку апынуцца на самым сподзе апраметнай вайны». Радавала і лячыла цела і душу франтавіка толькі тое, што раён, дзе ён нарадзіўся, і яго родная вёска Рапнёўка вызвалены ад ворага.

І ў галаву Сямёна запала надзея-думка паспрабаваць угаварыць ваенурача шпіталя, каб ён адпусціў яго падчас лячэння хоць ненадоўга, каб пабачыць родную вёску, хату, якія знаходзіліся амаль побач, у нейкіх трыццаці кіламетрах, і даведацца пра лёс жонкі і дзяцей, якіх столькі не бачыў. Толькі суровая жанчына-ваенурач няўмольная і катэгарычная і нават не стрымалася, папракнула Сямёна:

« — Некаторыя без нагі, бязрукія, але вунь, як на фронт ірвуцца! Не ўтрымаць іх… Фашыстаў хочуць біць. Святой помстаю гараць *і адной толькі ёю жывуць*…(курсіў наш. — І. Ш.)». Пакутай было Шаройку чуць зняважлівыя ў свой адрас словы, але «злосць на чэрствую жанчыну, якая бурліла ў сэрцы, нібыта вада ў чыгунку, паступова выпарвалася, і яе месца ўжо займалі невымоўная скруха, невыносная балючая крыўда».

Радасць-надзея наведаць родных, спатоліць душу веданнем пра іх жыццё пры акупацыі, павінна была згаснуць пад бязлітасным правам закона вайны, салдат мусіць выконваць загады камандзіраў, толькі такі катэгарычны прынцып можа хутчэй прыблізіць час перамогі.

Але надарылася так, што воляй лёсу Сямён, кіруючыся ў сваю роту на перадавую, патрапіў у магнетычнае поле кропкі *моманту-ісціны*, калі апынуўся на раздарожжы паміж дарогай у Каменку, дзе яго чакалі салдаты, і дарогай, якая называлася Казельскім Шляхам, «дзе Сямён ведаў кожную паваротку, кожную калюжыну, кожны мосцік, і па якой ён здатны ісці нават з заплюшчанымі вачыма. …Сляпым, нямым, глухім. І вяла б Шаройку па Казельскім Шляху выключна памяць уласных ног. Гэта была дарога да роднай Рапнёўкі, да той незабыўнай, снёнай тысячы разоў уяўленай ім за вайну хаты-пяцісценкі, у якой, так хацелася зараз верыць Сямёну, чакаюць яго жонка і трое дзяцей».

Рацыянальна Сямён разумеў, што яго нез’яўленне ў патрэбны час на перадавой пагражала яму, па законах ваеннага часу, расстрэлам, таму што ён фактычна і фармальна станавіўся злосным парушальнікам Статута — дэзерцірам. Толькі падсвядома спазнаная вопытам праўда жыцця, архетыпная памяць продкаў, змагла ўзвысіць яго да той вышыні разумення чалавечнасці, якая не дазваляе чалавеку да канца спапяліць сваю душу і сэрца, ператварыцца толькі ў спустошаны механізм выканання загадаў.

Няма сапраўднага салдата, які не цапліць у сабе любоў, спагаду, памяць да родных, блізкіх суседзяў, аднавяскоўцаў, суайчыннікаў, усіх тых, каго ён і павінен бараніць ад варожай навалы. Няма ў пэўных сітуацыях той дакладнай меркі-мяжы, якая б давала поўную раскладку асуджэння паводзін чалавека на шалях Феміды (багіні правасуддзя), бо лінія гэта, хутчэй за ўсё, праходзіць не толькі ў лінейным зямным вымярэнні, а і ў тым вымярэнні жыцця, якое нітуе чалавека з Сусветам і Богам.

Апынуўшыся ў роднай хаце, убачыўшы спакутаваную і моцна пастарэлую за гады акупацыі жонку, пачуўшы яе горкі аповед пра трагічную гібель свайго сына, збалелае і высмагленае сэрца салдата-Шаройкі не вытрымлівае той меры зла, якое на яго долю выпадае і ў сне-трызненні разрываецца. Яно разрываецца толькі таму, што яно, сэрца, заставалася *жывым*, духоўна відушчым, тым, якое можа ўспрымаць і аддзяляць святло ад цемры, дабро ад ліха, рай ад пекла, а аддзяляючы, заўсёды быць скіраваным да светлага, гарманічнага, узвышанага.

Яго апошняе ціха вымаўленае перадсмяротнае слова « — Даруйце…» — скіравана, на нашу думку, у першую чаргу да Божага даравання, дзе Сямён каецца за тое, што не мае ўжо ў сабе моцы для змагання са злом, бо вычарпаў да дна свой вітальны і душэўны чалавечы рэсурс.

У гэтым «даруйце», безумоўна, прысутнічае і пакаянне за тое, што ён парушыў свой салдацкі абавязак, паддаўшыся эмацыйна-пачуццёваму парыву сэрца, якое вымушана было азлобіцца на шматлікія непрыемнасці і душэўныя раны ваеннай суровай рэчаіснасці і паспрабавала прыглушыць і зацямніць асноўны модус змагання з самай моцнай на той час злой сілай.

Карэннае пашкоджанне чалавечай прыроды праяўляецца найперш у тым, што ў індувідууме дзейсны пачатак не суадносіцца з пачаткам маральна-духоўным, які толькі і можа спазнаваць і ставіць межы людской дзейнасці. Як вядома, вітальны ды і інтэлектуальны пачаткі ў чалавеку амаль ненасытныя, бязмежныя, бо існуюць аўтаномна, незалежна ад маральных норм, самі па сабе і ніякіх межаў не жадаюць ведаць.

Сямён Шаройка, паводле мастацкай канцэпцыі аўтара аповесці, заслугоўвае права на зорку на сваім пасмяротным помніку не толькі таму, што зрабіў непасрэдны салдацкі ўнёсак у барацьбу з фашызмам, заслужыўшы медаль «За адвагу», але найперш яшчэ таму, што перамог зло ў сабе, не даўшы з сябе зрабіць істоту носьбіта-аўтамата, які жыве толькі пачуццём *адной святой помсты.*

Вышкаленая, механізаваная не толькі тэхнічна, але і ідэалагічна нямецкая армія ўяўляла сабой ідэальную машыну па чалавеказабойстве. Роўнай ёй па моцы і магчымасцям знішчэння на той час не існавала. Перамагчы яе магла толькі больш арганічная грамадская і чалавечая канструкцыя, якая ўтрымлівала б у сабе больш якасны і вышэйшы імператыў маральнасці, а таксама такая, што выплавіла ў сабе больш адухоўленую жывую экзістэнцыю быцця.

Нам зараз навязліва ўнушаюць ідэю аб раўнапраўнай адказнасці за вялікія чалавечыя ахвяры падчас Вялікай Айчыннай вайны паміж савецкім народам і нямецкім фашызмам, камуфлюючы гэта пад канфлікт адыёзных фігур Гітлера і Сталіна. Больш за тое, вялікія страты, якія панёс савецкі народ, імкнуцца спісаць за кошт бесчалавечнасці тых палкаводцаў, чый геніяльны ваенны талент, памножаны на нечалавечыя фізічныя і інтэлектуальныя напружанні, дапамог дасягнуць жаданай перамогі.

Але перамога савецкага салдата была магчымай у першую чаргу толькі таму, што ён у сваёй аснове з'яўляўся больш высакародным, не стаў толькі машынай-аўтаматам знішчэння, захаваў у сабе жывую душу чалавека, а таму і пераможцы. Вось гэта выразна раскрывае гісторыя Сямёна Шаройкі ў аповесці М. Карпечанкі «Дэзерцір».

Тэме Вялікай Айчыннай вайны прысвечана таксама дакументальная аповесць **Юліяна Высоцкага** «Двое з пякельнага бамбардзіроўшчыка» («Полымя», № 2). У аснову твора пакладзены баявы эпізод, які адбыўся 29 чэрвеня 1941 года. У гэты дзень на тэрыторыі Мінскага раёна быў збіты савецкі бамбардзіроўшчык дальняй авіяцыі «ДТБ — 3Ф», які пілатаваў старшы лейтэнант Уладзімір Сашыхін і тры члены экіпажа. Сведкамі бою з нямецкай ваеннай калонай сталі сяляне навакольных вёсак, яны бачылі, як з падбітага самалёта выскачылі два лётчыкі, гэта былі камандзір-пілот і стралок-радыст Дзмітрый Янаў. Дзякуючы дапамозе мясцовых жыхароў ім удалося выжыць, прайсці дарогамі цяжкіх выпрабаванняў і змагання на вайне, а затым, праз 34 гады зноў сустрэцца разам у Мінску. Лётчыкі памяталі сваіх выратавальнікаў, жыхары вёскі Камянец, непадалёку ад якой упаў палаючы самалёт, таксама не забылі подзвіг экіпажа бамбардзіроўшчыка.

Такія ўзаемапошукі лётчыкаў і мясцовых школьнікаў-следапытаў прывялі да таго, што ў 1973 годзе Сашыхін і Янаў, а таксама адшуканыя сем'і загінуўшых капітана Дворніка і сяржанта Зуева прыехалі ў Мінск, пабывалі на месцы гераічнага подзвігу. А затым ва ўрачыстай абстаноўцы імёны членаў слаўна-

га бамбардзіроўшчыка былі занесены на помнік «Гераічным экіпажам» ля 65-й мінскай школы.

Жонка капітана Дворнікава, зрабіўшы запыт у архіў Савецкай Арміі, атрымала несуцяшальны адказ: Сашыхін, Янаў, Зуеў, Дворнік не вярнуліся з баявога задання, прапалі без вестак. Таксама доўгі час нічога не ведала пра свайго мужа жонка сяржанта Зуева, нават не атрымала пахавальнага ліста і ёй не плацілі дапамогу на сына.

Як добра вядома, вайна лічыцца закончанай толькі тады, калі яе апошні салдат застаецца пахаваным. Калі лічыць так, то рэха той самай бязлітаснай і крывавай вайны нас яшчэ доўга будзе трымаць у сваім магнетычным полі. І мы паранейшаму ў вялікім даўгу перад загінуўшымі і жывымі ветэранамі таго грознага і гераічнага часу.

Падзеі, раскрытыя ў гэтай аповесці, — сапраўды яскравы прыклад для сённяшніх маладых людзей, якія павінны ведаць і помніць, як здабыта мірнае і спакойнае жыццё, якое ім прынеслі іх дзяды і прадзеды больш за паўвека назад. І калі мы часам даволі фрывольна ставімся да дасягненняў і здабыткаў савецкага перыяду, то ці не ператвараемся ў тых Іванаў без роду, якія не помняць і не шануюць славу і гонар сваіх продкаў.

Вайсковай тэматыцы прысвечаны твор **Анатоля Сульянава** «*Доўгая ноч у Пружанах»* («Нёман», № 12). У цэнтры гэтай аповесці надзвычайнае здарэнне, што адбылося ў пераднавагоднюю ноч на радыёлакацыйнай станцыі войск РВСН пад Пружанамі ў часы былога СССР. Валерый Старшы, генерал прыгранічнай акругі, едзе высветліць, чаму салдат радыёлакацыйнай роты цяжка параніў прапаршчыка, а з аўтаматам пакінуў пост.

Падчас пошуку яго генерал асабіста правярае мясцовасць магчымага знаходжання ўцекача і скіроўвае сваю ўвагу на бліжэйшы хлеў. Калі ідзе да яго па заснежаным полі, з кожным крокам напаўняецца падсвядома нарастаючай трывогай. Старшаму ў шуме ветру пачуўся чыйсьці ўзлаваны голас: «Стой!». Аднак генерал падумаў, што гэта яму прымроілася, таму працягваў няспешна ісці наперад. Настойлівы, патрабавальны голас: «Стой!» пачуўся зноў. Трывога нарастала, выклікаючы страх. У галаве ўзмоцнена працавала думка: «Ісці ці не ісці». Старшы вырашыў: «Не! Трэба ўсё ж даплясціся да гэтага праклятага хлява».

Салдат-уцякач у апошні момант кінуўся бегчы і быў схоплены сяржантам, які падаспеў.

Прыведзены эпізод з’яўляецца псіхалагічнай квінтэсэнцыяй фабульнай структуры твора. Ён утрымлівае ў сабе галоўны нерв далейшых павучальных разваг і гутарак генерала, якія той праводзіць з парушальнікам.

Чалавек, каб адпавядаць свайму прызначэнню, увесь час павінен быць падрыхтаваным і ўмець зрабіць *крок наперад*, нягледзячы на ўсе складанасці сітуацый, якія яму выпадаюць. Толькі тады можна пачуваць сябе *свабодна*, калі выходзіш за межы зададзенасці становішча, у якое ён патрапіў. І тут да месца філасофская сінтэнцыя Гегеля аб тым, што свабода — гэта пазнаная неабходнасць. А калі яна, неабходнасць, якая ад цябе вымагаецца, пазнана, адэкватна ўспрынята, то яна ў чымсьці і пераадолена ўжо, і чалавек становіцца больш-менш свабодным у авалоданні ёю. Найперш гэты выхад з жыццёвай зададзенасці, дэтэрмінаванасці можа адбыцца толькі тады, калі чалавек паспрабуе выйсці на прастору духоўнай сустрэчы з іншым чалавекам. Гэта сустрэча з іншым, як з самім сабой, і дапамагае абодвум героям аповесці — і сівому генералу, і бязвусаму салдату — адчуць сябе сапраўднымі людзьмі.

На працягу доўгіх гутарак з радавым Сямёнам, Старшы пераконваецца ў тым, што віна салдата куды меншая, чым могуць «выціснуць» з яго ў далейшым бойкія следчыя. Таму, прасякнуты да Сямёна бацькоўскай сімпатыяй, ён лічыць сваім абавязкам дапамагчы гэтаму яшчэ пакуль слабаму, няшчаснаму чалавеку, стаць сапраўдным салдатам, які на яго асабістым прыкладзе паспра-

бue знайсці правільную сцяжынку-нітачку ў сваіх далейшых нялёгкіх жыццёвых выпрабаваннях.

Зайздросную творчую актыўнасць і даволі сур'ёзны маральна-духоўны аналіз сацыяльнай сітуацыі 80—90-х гадоў XX стагоддзя зрабіла ў аповесцях «*Артыкул 7 «Б»* («Маладосць», № 6) і «*Таннае золата*» («Полымя», № 6) **Валянціна Кадзетава**. Яна даволі глыбока закранае грамадска-сацыяльную атмасферу таго перабудовачнага перыяду, які паступова пачаў уцягваць нас у варонку працэсу першапачатковага накаплення капіталу. У гэты час асаблівую вастрыню набывае паленіка сімвалічных сіл «злата і булата». Падобны канфлікт выдатна раней быў выпісаны геніем А. Пушкіна:

«Всё моё», — сказало злато;
«Всё моё», — сказал булат.
«Всё куплю», — сказало злато;
«Всё возьму», — сказал булат.

Сімвалічнай назвай аповесці «Артыкул 7 «Б» пісьменніца адразу скіроўвае нашу ўвагу на канфлікт чалавека з закрытым грамадствам, якім уяўляў сябе былы СССР. У больш шырокім кантэксце мастацкі канфлікт можна разглядаць як канфлікт улады і актыўна-творчай, інакш думаючай часткай інтэлігенцыі. Дыягназ медыцынскага кодэксу хвароб пад шыфрам артыкула 7 «Б» даводзіў тое, што чалавек, якому пастаўлены такі дыягназ, лічыўся псіхічна хворым, шызафрэнікам.

Гэты медыцынскі артыкул прадстаўнікі ўлады, асабліва кампетэнтныя органы часта выкарыстоўвалі ў барацьбе з вольнадумаючымі. Галоўны герой аповесці Кадзетавай малады паэт і летуценнік Андрэй Андрэевіч Раманаў, чые першыя спробы ў паэзіі атрымалі публіцыстычную апрабацыю, жыве марамі і спадзяваннямі будучага паўнакроўнага жыцця.

Ён хоча паступіць ва ўніверсітэт на факультэт журналістыкі, каб прафесійна займацца сваёй любімай справай, складаннем вершаў, і затым выдаць свой першы зборнік. Але зусім нечакана і незаўважна Андрэй становіцца аб'ектам пільнай увагі супрацоўнікаў камітэта бяспекі.

Справа ў тым, што будучы па сваім характары чалавекам адкрытым і паюнацку душэўна шчырым, ён перакананы, што сапраўдны паэт-творца павінен натхняць людзей на лепшае жыццё. Унутрана ён перакананы, што галоўная задача творцы — гаварыць людзям праўду.

Супастаўляючы перадачы афіцыйнага радыё і «Свабоднай Еўропы», Андрэй паступова пачаў сумнявацца ў справядлівасці і адэкватнасці з рэчаіснасцю той інфармацыі, якую давала афіцыйная прапаганда. Пра гэта ён разважаў са сваімі, як быццам добрымі сябрамі. Хутка пра яго даведаліся ў КДБ. Яны прыпісалі юнаку не толькі антысавецкую прапаганду, а яшчэ і стварэнне падпольнай арганізацыі. Неўзабаве яго садзяць для запалохвання на невялікі тэрмін у псіхушку і выпускаюць адтуль з воўчым білетам артыкула 7 «Б». Пасля гэтага Андрэю зачынена дарога ва ўніверсітэт, ад яго адвярнуліся многія былыя сябры і нават каханая. Жыццё пайшло насуперак ягоным ранейшым сонечным марам. Яно для творча адоранага чалавека з тонкім складам душы стала амаль невыносным. Крыўда на ўладу глыбока пасялілася ў яго збалелым сэрцы. Таму, калі прыйшоў час галоснасці і быццам новых перамен у жыцці, Андрэй імкнецца выкарыстаць гэты шанец, каб атрымаць не толькі рэабілітацыю, але і дамагчыся, каб пакаралі тых, хто зламаў яму жыццёвы лёс.

Аповесць і заканчваецца спробай Раманава пазбавіцца ад унутранага страху і намерам напісаць ліст Генеральнаму пракурору. Спачатку герой твора ў звароце да высокай інстанцыі піша на чыстым лісце машынкі слова «Прашу…», але затым вырывае гэты ліст і, пачынае новы: «Я, Раманаў Андрэй, Андрэевіч, патрабую…»

Цікава, што аўтар, даўшы персанажу такое прозвішча, імя і імя па бацьку, на нашу думку, сімвалічна зашыфравала кантэкст сацыяльна-палітычнага канфлік-

ту таго часу праз супастаўленне дзвюх каларытных, знакавых фігур таго гістарычнага перыяду Андрэя Андрэевіча Грамыкі і Алеся Разанава. Намінатыўнае як бы перагукванне героя твора з яркімі прадстаўнікамі як вышэйшай улады былой дзяржавы, так і каларытнай фігурай нацыянальнай інтэлігенцыі, выразна дэманструе і выяўляе галоўны канфлікт твора.

Няздольнасць уладнай структуры СССР кіраваць грамадскімі працэсамі так, каб у народа не адбіралася макра і мікра-сацыяльная ментальная энергія самавыяўлення, яе няздатнасць асэнсоўваць сябе як цэласны суб'ект існавання, як вядома, хутка прывяло суперкраіну да немінучага краху. Бо нават тады, калі ўладны суб'ект з'яўляецца класічным увасабленнем усіх магчымых маральных і экзістэнцыянальных пазітыўных якасцей і разам з тым разрывае адносіны са сваёй інтэлігенцыяй, ці хоць бы з яе часткай, такая ўлада набывае вялікі патэнцыял няўстойлівасці, расканцэнтраванасці, бо не мае магчымасці выбудаваць гнуткі цэласны фармат сацыяльнай іерархіі, як асновабудову любога суб'екта гісторыі.

Рашучае жаданне героя аповесці В. Кадзетавай «Артыкул 7 «Б» дабіцца справядлівасці ў жыцці, безумоўна, маральна апраўдана, але як гэта зрабіць найбольш эфектыўна і прадуктыўна для ўсяго грамадства? Адказ на гэта пытанне застаецца пакуль адкрытым як у творы, так і ў жыцці.

Аповесць «Таннае золата» ў большай меры прысвечана раскрыццю другой фундаментальнай сілы сацыяльнага жыцця першапачатковага накаплення капіталу — золату. Менавіта ў час хаатычных крызісных працэсаў на прасторы былога СССР у 90-я гады XX стагоддзя пачалося хуткае ўстанаўленне панавання новага куміра часу — залатога Цяльца. Грошы сталі вызначальным паказчыкам жыццёвага табеля аб рангу.

Сацыяльная сітуацыя канца 80-х — пачатку 90-х гадоў, пры якой хутка вярталіся капіталістычныя формы эканамічнага развіцця, стварала мноства калізій і канфліктаў у грамадстве. Наяўнасць вялікіх грошай, якія амаль імгненна звальваліся адным, быццам манна нябесная, рабіла іх паўнаўласнымі валадарамі жыцця, але большая частка народа нечакана апынулася ў жабрацкім становішчы і ператварылася ў рыначную масу, якою можна проста маніпуляваць, купляць яе і гандляваць ёю. Лозунг «купляецца ўсё» стаў асноўным каштоўнасным лейтматывам генератараў позняй перабудовачнай стратэгіі, а таксама аўтараў «шокавай тэрапіі». Грамадства шпарка завальвалася ў прорву рэгрэсіўнай парадыгмы выжывання. Усё гэта спараджала агромністы ўсплёск драматычных і трагічных жыццёвых калізій і канфліктаў. Адной з ахвяр гэтага змрочнага перыяду стала і галоўная гераіня аповесці дзевятнаццацігадовая маці-адзіночка Таня.

У экспазіцыі твора праз думкі-развагі яе В. Кадзетава адразу задае мінорна-драматычны, душэўна-надрыўны тон у раскрыцці падзейна-фабульнай структуры. Таня адчувае сябе пасля нядоўгай адсутнасці ў родным пасёлку няўтульна, адчуджана. Усё ў ім рэзка перамянілася — як агульны фон паселішча, так і самі людзі, у якіх таксама адбыліся значныя ўнутраныя перамены.

Шукаючы да дня нараджэння сваёй дачцэ Надзейцы цацку, маладая маці з сумам і жалем заўважае, што замест ранейшых пушыстых мядзведзянят і чабурашак на рынку футравых цацак з'явіліся нейкія экзатычныя «цацкі-вырадкі, мутанты, народжаныя нечай хворай фантазіяй», усялякія бэтманы, шрэкі. Не менш муціраванымі апынулася і ўся навакольная рэчаіснасць, і стасункі паміж людзьмі. Таня псіхалагічна-душэўна ўяляе сабой ужо зусім хворую, зламаную істоту, якую ў жыцці трымае толькі пачуццё жалю і адказнасці за дачку. Маладая жанчына з горыччу і сумам спавядае: «Не падумайце, што я якая-небудзь сучасная амазонка і што я ганаруся сваёй абыякавасцю да мужчын і да кахання ўвогуле. Не, мне *хочацца хацець* быць каханай, *хочацца хацець* кахаць, але *я не магу і не ўмею* гэтага хацець. Я страціла адно з галоўных жаночых жаданняў, і не ведаю, ці ўваскрэсне яно ўва мне калі-небудзь, ці я так і застануся "інвалідам жыцця"».

Далей даволі падзейна-падрабязна раскрываецца тыповая гісторыя вярбоўкі-падману, якую прарабіў з маладой загадчыцай вясковага клуба Таняй, махінатар-гандляр жанчынамі Вадзім і яго напарніца Марына. Яны вербавалі маладых жанчын, прыманьваючы іх вялікімі заробкамі, на прыстойную працу за мяжой. Аднак пасля перапраўкі «жывы тавар» трапляў у рукі прытоннай мафіі, якая прымушала жанчын працаваць прастытуткамі, жорстка эксплуатуючы іх.

Сваімі сумленнымі развагамі Таня шчыра вытлумачвае асноўны матыў, які прымушае большасць такіх, як яна, маладых дзяўчат, быццам матылька, які ляціць на полымя, паддавацца чарам сваіх спакушальнікаў. «Беднасць не загана, і яе не трэба саромецца». Беднасць не загана? Так, не загана, але ж, пагадзіцеся і не вартасць. А ўвогуле паняцце «беднасць» несуадноснае з такімі, як «загана» і «вартасць». А вось з такім паняццем, як *«бяда»* не толькі суадноснае, але часам і тоеснае. Вось былі б цяпер у нашай сям'і *грошы* (курсіў наш. — І. Ш.), мы б Наташцы камп'ютар купілі, і яна меней па гэтых дыскатэках бегала б . А яму, бацьку так званаму, аднапакаёўку прыдбалі б. Хай бы там піў хоць запіўся. А сабе? Сабе я перш за ўсё купіла б … шмат чаго!»

Працэс крызіснага развалу краіны стварыў небывалыя ўмовы для таго, каб грошы, будучы па сваёй аснове і логіцы функцыянавання толькі сродкам гармапізацыі людскіх адносін, ператварыліся ў *бяду,* сталі штуршком страшных пераўтварэнняў і вычварных мутацый у людскіх стасунках і чалавечых душах.

Перажыўшы жорсткія здзекі і пакуты, звязаныя з прымусовай працай у прытоне, Таня, праўда, змагла вырвацца на волю і вярнуцца на Радзіму. Ды не ўсім гэта стаецца пад сілу. Таму імпануе моц духу гэтай пакуль кволай маладой жанчыны, якая нягледзячы на ўсе цяжкасці, жыве верай у лепшае: «Само жыццё паставіць усё і ўсіх на свае месцы, кожнаму аддасць належнае. І *тым* таксама».

Калі Таня была падманам заманена нядобрымі людзьмі на заробкі за мяжой, то гераіні аповесці **Яўгена Хвалея** *«Вяселле на Кіпры, або Паляванне на замежнага жаніха»* («Полымя» № 5), наадварот, самі праяўляюць бурную дзейнасць, каб пакінуць сваю краіну і як мага лепш уладкавацца ў жыцці, трапіўшы ў райскае месца квітнеючага Захаду. Ірына Вальчук, паводле характарыстыкі аўтара, «… чарняўка, з шырокай белазубай усмешкай ... Яна не шмат увагі ўдзяляла вучобе, часта атрымлівала не вельмі высокія адзнакі». Затым паступіла ў — тэхнікум, дзе хутка сышлася з блізкай па светапоглядзе Інай. Празаік праз эпізод першага знаёмства гэтых дзяўчат стварае вельмі арыгінальную ў сімвалічным плане сітуацыю:

« — Будзем знаёмы. Мяне зваць Іна. А цябе?

— Ірына.

— Выкінь «ры» — і будзем дзве Іны. І Бог наканаваў нам сябраваць. Пайшлі разveемся па «Брадвеі», — Іна так назвала самы шырокі праспект сталіцы».

Гэтая парада «*выкінь ры*», якую так лёгка прымае Ірына, і раскрывае вызначальную рысу гераінь. Новаспечаныя гетэры асноўнай мэтай свайго жыцця ставяць завалоданне багатым жаніхом, які мог бы забяспечваць ім бесклапотнае існаванне, што і стала прынцыпам іх руплівай дзейнасці. Пры гэтым, яны для найхутчэйшага дасягнення жаданага стараюцца пазбавіцца, *выкінуць* за борт любы духоўны і маральны, як яны лічаць, баласт, што перашкаджае ім. Наглядзеўшыся тэлевізійных перадач, якія на ўсе лады расхвальваюць заможнае жыццё на Захадзе, гэтыя летуценныя прыгажуні лічаць сябе пакрыўджанымі на Радзіме, і таму з такой лёгкасцю імкнуцца трапіць у іншае, на іх думку, лепшае жыццё. Але жыццё, як жыццё, яно ўсюды мае сваю напружанасць існавання, сваю ўсталяваную структуру правіл і абавязкаў, да якіх трэба сябе напружваць і прывучаць. Таму нярэдка, заваражаныя знешнім бляскам заможнага Захаду, яны, як матылькі, трапляюць у нябачную павуціну.

З часам такія дзяўчаты, задаволіўшы прыхамаці свайго цела і капрызы характару, паступова ўсведамляюць сапраўдны кошт даброт замежнага свету. І часта застаюцца расчараванымі, душэўна апустошанымі, а невылечная настальгія стано-

віца найчасцей іх далейшым спадарожнікам. Але яны стараюцца сваю душэўную нямогласць прыглушваць размовамі і развагамі аб свеце без межаў, аб адкрытым грамадстве. Аднак, каб быць адкрытым, трэба штосьці мець у сабе, стаць якімсьці суб'ектным цэнтрам, які дазваляў бы чалавеку мець хоць нейкую кропку апоры на гэтай зямлі, ад якой ён мог бы адпіхнуцца і паспрабаваць уладкаваць свой лёс.

Менавіта такога героя сустракаем у аповесці **Міхася Южыка** *«Хто там, за дзвярыма!»* («Маладосць», № 4). Малады паспяховы спецыяліст па менеджменце Антон Вашнін спрабуе разбрацца ў сваім складаным, на яго погляд, лёсе, таму і дзеліцца ў перапісцы з аўтарам сваімі драматычнымі перыпетыямі. Жыве Антон у Каліфорніі, зарабляе нядрэнныя грошы, і яго душа надзеленая тонкім складам інтэлектуальнай рэфлексіі, усяляк імкнецца знайсці адказ на пытанне: чаму ён, маючы, здавалася, усе задаткі для самарэалізацыі, застаецца за бортам ці *за дзвярыма* (паводле аўтарскай канцэпцыі) паўнавартаснага і асэнсаванага жыцця, як на Радзіме, так і за мяжой?

У пакутлівых роздумах герой драму свайго няўдалага лёсу імкнецца спіхнуць на няўмольную сілу наканавання. «Нічога нельга было змяніць. І ад гэтага робіцца ніякавата. Нібы ўцягнулі мяне ў добра пастаўлены спектакль, дзе можна было дзейнічаць толькі па задумцы ўладарнага рэжысёра. Як балюча адчуваць сябе марыянеткай у нейчых руках. Але ад болю ратуе пакора».

Антону так хочацца схавацца ад адказнасці за сваё існаванне ў свеце, што гатоў перакласці яе на ўсіх іншых, апроч сябе. Будучы адзіным любімым і спешчаным дзіцём сваіх бацькоў, ён з маленства прывык толькі да таго, каб усё і ўсе круціліся вакол яго, каб задавальняліся толькі яму патрэбныя і жаданыя правілы жыццеўладкавання. Павышаная эгаістычнасць яго характару і стала той асноўнай прычынай ягоных бед. Усялякія спробы растапіць халодны лёд эгацэнтрызму, эмацыйна-нервова ўспрымаліся ім як замах на яго свабоду.

Нарцысцызм персанажа ярка праявіўся ў тым, што ў люстэрку жыцця ён бачыў толькі сябе, не заўважаючы вакол нікога іншага, вартага ўвагі. Маці, жонка, цесць ці проста першыя сустрэчныя людзі, усе яны тым ці іншым чынам раздражнялі Вашніна. Яго завышаная самаацэнка не дазваляла яму каго-небудзь паважаць. Таму і даводзіць да вар'яцтва і да спробы самазабойства сваю жонку, якая мела няшчасце шчыра пакахаць такога сябелюбца.

Адзіны выхад з жыццёвага тупіка Антону бачыцца ў тым, каб пакінуць, па ягоным успрыманні, гэтую краіну псіхапатаў і ідыётаў. Ён вырашае пашукаць шчасця сярод людзей, якія так паважаюць і ганарацца сваімі прынцыпамі індывідуальнай свабоды,таму эмігруе ў ЗША. Толькі і там не знаходзіць душэўнай раўнавагі.

У сваім апошнім лісце да аўтара ён прызнаецца ў тым, што трэці год запар, у адзін і той жа дзень, калі скалечыла сабе жыццё яго былая жонка, выязжае на бераг Ціхага акіяна, каб паспрабаваць крыху разабрацца ва ўсім.

Відавочна, што Антону, нягледзячы на ўсе яго намаганні і нават лячэнне не ўдаецца пакуль зліцца з акаляючай прасторай, пазбавіцца ад свайго мінулага і стаць стопрацэнтным амерыканцам. Хоць мясцовыя псіхіятры вельмі настойліва ўнушаюць яму «не шкадаваць пра страчанае» і «забыць здані мінулага».

Гледзячы на хвалі Вялікага акіяна, ён ужо жадае бачыць у гэтым «мутным водным люстэрку» не толькі сябе, але і краявід маленькай краіны, аддаленай ад яго вялізнай воднай прасторай, а душа яго крыху баліць за некалі блізкага чалавека, якому прынёс столькі гора. Настойліва хоча пазбавіцца «зданяў мінулага», каб канчаткова астудзіць цяпло душы і тады, безумоўна, у ёй запануе «*зіма Каліфорніі*» і назаўжды зачыняцца *дзверы* да роднага ачага. Толькі ці будзе такі Антон Вашнін сапраўдным грамадзянінам зямлі.

У другой сваёй аповесці *«Калыханка»* («Полымя», № 12) М. Южык у цэнтр мастацкай прасторы твора зноў жа ставіць любоўна-сямейны канфлікт. Калі Антона Вашніна, ад імя якога вядзецца аповед у аповесці «Хто там, за дзвярыма!»,

вельмі непакоіць і раздражняе, як яму здаецца, псіхічна-нездаровая прывязанасць ягонай жонкі да яго персоны што правакуе ў ім невыцерпную істэрычную нервовасць, то гэтым разам галоўны герой дырэктар фірмы Глеб Сіўцоў, наадварот, пакутуе ад недахопу душэўнай увагі і *павагі* да сябе з боку жонкі Тамары, якая, як яму здаецца, толькі за грошы і дастатак, якія ён прыносіць у сям'ю, церпіць яго. Сіўцаў перакананы ў тым, што жонка «выбірала яго, як рэч. Не! Як машыну з выгодным салонам, і галоўнае, безадказным маторам, які будзе тарахцець для яе ўсё жыццё».

Ёсць нешта агульнае, што вельмі зближае герояў гэтых твораў. Агульнай рысай з'яўляецца тое, што ў абодвух персанажаў адсутнічае пачуццё *павагі* да сваіх выбранніц. *Павага* — ж такая душэўная якасць, што ўнутрана дазваляе выбіраць сабе ў спадарожнікі людзей роўных, і пры гэтым захоўваць жыццёвую раўнавагу, пры безумоўна няўлоўным ваганні характараў на шалях рэчаіснасці. Павага — гэта той унутраны духоўны цэнтр душы, які дазваляе шукаць у іншым чалавеку лепшае, дасканалае, тое што павінна зближаць з ім.

Аднак Антон Вашнін і Глеб Сіўцоў маюць адзін псіхалагічна-духоўны комплекс непаўнацэннасці, які выдатна раскрыў сам Антон падчас сваіх роздумаў пра жаніцьбу. Бацькі яго пражылі доўгі век разам, бо ва ўзаемаадносінах паміж імі, «… як быццам раўнапраўе заўсёды віталася». Для сябе ён выбраў іншую стратэгію: «Муж — цэнтр сям'і, усе вакол яго круціцца павінны… І Антон памятаў прымаўку, што прыгожая жонка — чужая жонка…. Ганарлівы быў Антон чалавек, самалюбны і сябелюбны. І галава яго, акрамя прыродных інстынктаў, магла на розум пераключыцца. А розум пільным вартавым стаяў ля брамы жыцця, перасцярагаў, не даваў слепа аддацца жарсцям, але і не дазваляў атрымліваць суцэльную асалоду ад маладога жыцця, як гэта рабіла большасць равеснікаў».

Глеб паступіў інакш, чым Антон, ажаніўся на прыгожай дзяўчыне, але перакананы: прыгожая жонка — чужая жонка. Гэта ніколі не давала яму душэўнага спакою, вечна правакавала ў ім пачуццё непераадольнай хваравітай рэўнасці. А дзве іншыя якасці характараў герояў — *самалюбства і себялюбства* — канчаткова стварылі прастору духоўнага вакуума вакол іх, незалежна ад таго, што яны людзі шмат у чым інтэлектуальна адораныя і мэтанакіраваныя.

Фіяска жыццёвых стратэгій сваіх герояў М. Южык адначасна праглядае і праз прасейванне настрояў і нораваў іхняга акружэння. Дух пераможцы, жарсць нажывы, холад эгаізму — тыя валькірыі крызіснага часу, якія сталі ў многім дамінантным фонам іх існавання і прымушаюць маральна-духоўную прастору жыцця скурчвацца як шчыгрынавую скуру, знікаць.

Змрочную карціну дэградацыйнай зоны людскога існавання стварыў у аповесці *«Кароль Капайла і яго атачэнне»* **Міхась Зізюк** («Маладосць», № 12). Праз экспазіцыю і эпілог тэкст твора абрамляецца ў рэлігійна-міфалагічнае сюжэтнае кола, дзе паказаны падзеі, звязаныя з укрыжаваннем Хрыста. Рэальна ўяўленыя і перажытыя кожным чалавекам Хрыстовы мучэнні ў імя роду людскога, паўстаюць той патэнцыяльна магчымай кропкай, якая можа стварыць для сучаснага чалавека траекторыю яго дарогі да духоўнага ўзвышэння над прорвай драматычна-крызіснай рэчаіснасці.

Дрыготкасць, непрадказальнасць чалавечага існавання раскрываецца праз вобраз бізнесмена Лявона Сухадольскага, які толькі нядаўна лічыў сябе ўлюблёнцам фартуны, «трымаючы невялічкую прыватную фабрыку па вырабе мэблі, дзе працавала каля трох дзясяткаў работнікаў, і цвёрда стаяў на нагах». Але нечакана ўсё абвалілася. Пасля пасядзелкі ў бары з прыгожымі дзяўчатамі ён апынуўся на вялізным гарадскім сметніку без грошай і дакументаў. На ягонае здзіўленне гэтае месца аказваецца не такім ужо і бязлюдным, яго насельнікі тыя, хто не змог утрымацца ў звычайным жыцці.

Аднак амаль кожны з іх у душы так ці інакш марыць вырвацца адсюль. Ды ў рэальнасці такі прарыў аказваецца амаль нікому не па сіле. Мінулае, якое апусціла

гэтых людзей на дно ракі жыцця, цяжкім грузам ляжыць на іхнім лёсе. Каб праверыць дзейсную рашучасць гэтых людзей вырвацца з ямы, у якой яны апынуліся, М. Зізюк стварае ў аповесці авантурна-абвостраную сітуацыю іх рэакцыі на тое, што нечакана на іх зваліўся паўнюткі дыпламат долараў.

Калі зрабіць рэмінісцэнцыю ў літаратурны працэс 20—30-х гадоў, асабліва ў творчасць К. Чорнага, то можна заўважыць, што класік беларускай літаратуры таксама ў сваіх творах часта прыбягаў да праверкі маральных якасцей персанажаў праз адлюстраванне іх адносін да багацця, грошай, золата, якія нечакана трапілі ім. Прыгадаем эпізод з рамана «Трэцяе пакаленне», калі Міхал Тварыцкі прыносіць раней схаваны ім гаршок з золатам, каб аддаць рабочым, якія будуюць электрастанцыю. Аднак яны не праяўляюць тых экзальтычных эмоцый, на якія разлічваў Міхал. Для іх золата толькі вартая ўвагі рэч, якая пойдзе на агульную карысць. У людзей жа Капайлавай брыгады дыпламат з доларамі выклікае цэлую гаму розных эмацыйна-пачуццёвых і роздумных рэакцый. У кожнага з іх ужо ёсць свой індывідуальна-канкрэтны план па рэалізацыі сваёй часткі гэтага скарбу.

Але для многіх гэты план мае чыста эгаістычны, пажадлівы характар. Калі золата ў фінале чорнаўскага рамана як бы аб'ядноўвае людзей, то «залаты дыпламат» аповесці М. Зізюка, наадварот, раз'ядноўвае іх, кідаючы па сутнасці на шлях самазнішчэння. Аднак аўтар імкнецца захаваць у творы аптымістычны прасвет у такім самаразбуральным светаўладкаванні.

Вобраз Хрыста, яго самаахвярны подзвіг, які абрамляе аповесць з зачыну і да эпілога, робіць гэты сімвал, той кропкай пачатку і фінішу, альфай і амегай, што з'яўляюцца адзіным магчымым спосабам выратавання кожнага паасобку і ў адзінай гуманістычна-хрысціянскай сістэме каардынат. Выбар заўсёды ёсць, як дакладна зазначае пісьменнік у фінале твора, справа толькі за воляй чалавека зрабіць яго.

Грошы, золата, фінансы, якія набылі ў наш час велізарную, адчужаную ад чалавека моц, пачынаюць ствараць вакол людзей квазіпрасторы, дзе як бы правяць баль ананімныя, шмат у чым сатанінскія сілы. Яны імкнуцца маніпуляваць чалавечымі эмоцыямі і ведамі, каб навязаць свае чалавеканенавісныя законы, якія б адабралі ў людзей іх асноўную жыццёвую функцыю — развівацца, прыглушылі прагу пошуку шляхоў да выхаду за рамкі крызіснага стану сучаснага быцця.

А што такія катастрафічныя сцэнарыі для чалавецтва магчымы ўжо ў бліжэйшым будучым, яскрава могуць засведчыць сюжэты фантастычных аповесцей 2012 года «*Апошняя надзея*» **Сяргея Белаяра** (Маладосць, № 9), «*Пераступіць мяжу*» **Генадзя Аўласенкі** («Нёман», № 1), *«Тэрапія»* **Юрася Нератка** («Маладосць», № 6—7).

Не абышлі ўвагай празаікі і такую жанравую разнавіднасць сярэдняй празаічнай формы, як гістарычная аповесць. Так у часопісе «Маладосць» (№ 10—11) змешчаны твор «*Праклён мітрапаліта Феафіла*» **Уладзіміра Мужылоўскага**. У прадмове аўтар прыводзіць змест з Евангелля ад Марка (13 : 12), дзе гаворыцца аб канцы свету і аб прыходзе спачатку Антыхрыста, а пасля Сына Чалавечага. «Прадасць жа брат брата на смерць, і бацька дзяцей, і паўстануць дзеці на бацькоў, і ўсмерцяць іх».

Гісторыя шмат разоў давала падставы людзям гаварыць пра тыя ці іншыя перыяды свайго развіцця, як пра апошнія дні свету. Адзін з такіх крызісных момантаў нашай мінуўшчыны — перыяд супрацьстаяння паміж сабой Вялікага Княства Літоўскага і Масковіі ў канцы XV стагоддзя і стаў для У. Мужылоўскага матэрыялам для мастацкага даследавання чалавечых лёсаў гэтай жорсткай эпохі.

У цэнтры канфлікту драматычны лёс дачкі вялікага маскоўскага князя Івана III Алены, якая стала жонкай вялікага князя літоўскага Аляксандра і вымушана на сабе адчуць увесь цяжар нядобрасуседскіх стасункаў паміж дзвюма праваслаў-

нымі краінамі. Вялікая жарсць Івана III да ўсеўладнасці, заваявання, сатанінскае жаданне стаць нават вышэй за Бога на зямлі адбілася самым негатыўным чынам на лёсе яго нашчадкаў.

Паводле сюжэта твора падчас захопу, разбурэння і гвалту Вялікага Ноўгарада, які ўчыніў Іван III, было зроблена яшчэ адно гнюснае святатацтва — скінуты з сабора вялікі звон рэспубліканскага горада, сімвал веры вольнага народа. Гэты звон, як піша аўтар, жывая істота, быў волакам прыцягнуты ў Маскву, дзе яго прылюдна знішчылі. За гэты ўчынак наўгародскі мітрапаліт Феафіл пракляў вялікага князя і яго род.

Алена, жывучы пры дабрадзейным мужы, балюча адчувае ўсю несправядлівасць і пачварнасць паводзін свайго бацькі і прысвячае сваё нядоўгае жыццё вымаленню ягоных грахоў. Яна добра разумее, што зрабіць гэта магчыма толькі шляхам вялікага подзвігу любові і веры да людзей і іх святынь. І гэты падзвіжніцкі абавязак яна самаахвярна здзяйсняе. Усю моц сваёй душы яна аддае намаленню абраза Маці Божай Багародзіцы Адзігітрыі, якая ўвабрала ў сябе магутную энергію Боскага і людскога дабрадзейства, і стала адной са святых ахоўніц роднай зямлі.

Паводле падання намаляваны евангелістам Лукой на чатырох дошках гэты абраз з'яўляецца адным з хрысціянскіх святынь Беларусі. Праўда, месцазнаходжанне, як Крыжа Еўфрасінні Полацкай, так і абраза Маці Божай Багародзіцы Адзігітрыі, па сённяшні дзень невядома.

Думаецца, што аўтар аповесці ў аснове сваёй задумы і ставіў ідэю аб тым, што калі святыя рэліквіі, якія павінны ахоўваць наш край, знойдуць сваё ўваскрашэннне на Беларусі, мы зможам з іх дапамогай перажыць апошнія дні свету і дачакацца прыйсця Сына Божага.

Нечаканай разнавіднасцю гістарычнай аповесці стала аповесць-нарацыя «*Залаты амулет*» **Івана Саверчанкі** («Маладосць», № 5). Дасведчаны знаўца беларускай старажытнай літаратуры, а тым самым і гісторыі нашага гераічнага мінулага, ён падае сваю арыгінальную версію біяграфіі знакамітай асобы Беларусі — Полацкага князя Усяслава Чарадзея.

Сваім прыдамкам *нарацыя* І. Саверчанка хоча больш выразна акрэсліць сутнасць таго, што гісторыя, а тым больш далёкая мінуўшчына — гэта найперш аповед, у якім выключнае значэнне набывае прысутнасць самаго аўтара, наратара. Менавіта ад шырыні і панарамнасці яго светапогляду, ад ідэйна-вобразнага і стылістычнага афармлення ў многім і залежыць гарманічнае выяўленне дылемы мастацкай праўды і гістарычнай ісціны.

Не кананічны гістарычны дыскурс павінен дыктаваць волю мастацкаму ўвасабленню мінуўшчыны, а ўнутраная воля аўтара, якая дазваляе праз веданне факталогіі знаходзіць аптымальную логіку паводзін герояў. Ведаючы найбольш значныя перыпетыі жыцця і смерці Усяслава, пісьменнік пастараўся ўнесці ў свой тэкст як мага больш быццам бы дробязных дэталей эпохі, але менавіта яны даюць магчымасць адчуць сам дух той эпохі, яго зямляную і нябесную суладнасць і повязь.

Па вялікім рахунку мы зараз жывём у такой рэальнасці, дзе ідэальнаму ў мастацтве і жыцці амаль адмоўлена ў праве на існаванне. Сучаснаму чалавеку шмат у чым супрацьпаказана імкненне ў праве быць і станавіцца асобай. Да гэтага змушае ўвесь лад сённяшніх імператываў жыцця. Для многіх жывы свет успрымаецца як нейкая адчужаная ад нас з'ява, прасеяная праз лінзу тэлевізара ці камп'ютарнага манітора, якія аддаляюць ад рэальнага свету рэчаў. Для многіх ужо шчасце пражыць жыццё па шаблоне, адобраным нейкай ананімнай бамонднай камандай, якая імкнецца навязаць свае ўзоры паводзін, характар думак, куміраў для перайманне. Пры гэтым баімся прызнацца сабе, што сапраўдным героем можа быць не толькі нейкі там Шварцнегер ці Бэтман, а просты чалавек, які жыве побач з табой і стварае вакол сябе прастору жыццесцвярджэння. Сучасным празаікам патрабу-

ецца шмат у чым па-новаму заўважыць такога жывога чалавека і пастарацца ўвасобіць яго не ў саладжавым серыяльным флёры, а ў яго будзённым непадробным напружанні праблем часу.

Даволі ўдалую спробу ў поглядзе на героя нашага часу змагла зрабіць **Таццяна Пяшко** ў аповесці «*Выпраўленне памылак*» («Полымя», № 1). Сама назва твора нясе падвоеную сэнсавую нагрузку для яго ідэйнага зместу. З аднаго боку выпраўленне памылак — прафесійны абавязак настаўнікаў, работа якіх ляжыць у аснове аповесці, а з іншага — у цэнтры ўвагі куды больш складаная праца па наладжванні добразычлівых, чыстых адносін між людзьмі. Галоўная гераіня настаўніца-філолаг Вольга Міхайлаўна, якая сваім простым, здавалася б, жыцейска-мудрым стаўленнем да працы, калег, аднавяскоўцаў абуджае ў іх адваротную рэакцыю чалавечай дабрыні і суцяшэння.

У наш шмат у чым раз’яднаны час, калі раўнавартасную моц атрымалі амаль усе магчымыя жыццёвыя інтарэсы і ідэалы, часам даволі цяжка знаходзіць аргументацыю карыснасці і апраўданасці найбольш відочных, але разам з тым найбольш душэўна-энергетычна затратных прынцыпаў жыцця. Толькі ўнутраны духоўны стрыжань чалавека, яго сумленне становяцца галоўным компасам ягонай дзейнасці. Праца настаўніка з’яўляецца важнейшай справай у стварэнні ачышчальных шлюзаў на шляху да выпрацоўкі новага высакароднага стаўлення да чалавека.

Дабрыня, спагада, такт, якія быццам нязмушана праяўляе Вольга Міхайлаўна, прысутнічаюць у ёй праз узмоцненую ўнутраную работу душы і сэрца. Ёй у многім прыходзіцца штораз у сабе шукаць тую нітку Арыядны, якая і тчэ ўзор яе сумленнага жыцця.

Літаратурны герой, які спавядае прынцыпы на ўзвышэнне чалавечай іпастасі і сваім дзеяннем садзейнічае апраўданню жыцця, можа стаць арыенцірам для сучаснай мастацкай рэалізацыі. Ён не можа быць навязаны пісьменніку, а павінен выкрышталізавацца з арганікі жыцця як багіня Афіна з марской пены. З’яўленне такога новага рэалістычна-арганічнага героя ў сучаснай беларускай літаратуры — задача звышзапатрабаваная. Будзем чакаць ад нашых мастакоў слова яе паспяховага вырашэння.

**Уладзімір ЛІЎШЫЦ**

# «У МЯНЕ ШЧАСЛІВЫ ПІСЬМЕННІЦКІ ЛЁС...»

Калі б так сказаў пра сябе пісьменнік, які выдаў на працягу жыцця дзясяткі кніг мільённымі тыражамі, меў шматлікія званні і ўзнагароды, то з такім выказваннем можна было б пагадзіцца. Аднак гэтыя словы належаць Льву Разгону, які свае лепшыя 17 гадоў жыцця правёў у лагерах ГУЛАГа і на доўгія гады быў адарваны ад літаратурнага працэсу, а галоўную кнігу жыцця пісаў у «стол», не спадзеючыся, што яна будзе надрукавана пры ягоным жыцці.

І ўсё ж... Ён лічыў сябе шчаслівым.

## Унук кантаніста

Леў Разгон нарадзіўся 1 красавіка 1908 года ў Горках Магілёўскай губерні. Яго дзед Абрам Мендэлевіч быў кантаністам — так у 1805—1856 гг. у Расіі звалі непаўналетніх салдацкіх сыноў, якія з дня нараджэння лічыліся за ваенным ведамствам. Яўрэі, паводле ўказа Мікалая I аб увядзенні для іх вайсковай павіннасці (26 жніўня 1827), прызываліся з 12 гадоў. Адслужыўшы 25 гадоў у царскай арміі, ён у сярэдзіне XIX стагоддзя ў пошуках працы пасяліўся ў Горках — маленькім павятовым цэнтры.

Адзін з яго сыноў — бацька Льва Разгона, Мендэль Абрамавіч (1878—1942), — працаваў у саматужных майстэрнях, якія выпускалі вядомы на ўсю Расію крэм «Казімі-метамарфоза». Пазней Леў напіша ў сваіх успамінах «Позавчера и сегодня»: «...чытачы рускіх газет і часопісаў пачатку нашага стагоддзя на ўсё жыццё, напэўна, запомнілі назву “Крэм Казімі-метамарфоза”. На кожнай апошняй старонцы большасці газет і часопісаў — ад “Вестника Европы” да “Сатирикона” — сярод аб’яў і рэклам абавязкова кідаліся ў вочы гэтыя словы над малюнкам басейна, у якім гарэзавалі напаўаголеныя жанчыны і мужчына, твар якіх быў акуратна падзелены напалову. Адна палова бліскала свежасцю і чысцінёй, іншая — ад мноства вяснушак — нагадвала зязюльчына яйка. Гэта была рэклама крэму...»

У гады Першай сусветнай вайны бацька пісьменніка быў прызваны ў царскую армію і ўдзельнічаў у баявых дзеяннях, дэмабілізаваўся ў 1918-м. У пачатку 20-х гг. у пошуках заробку пераехаў у Маскву, дзе ўладкаваўся спачатку ў гарбарна-футравую майстэрню, а затым гардэробшчыкам у НКПЗ. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі быў у Бундзе, а ў 1924 уступіў у ВКП (б). Маці — Гліка Ізраілеўна (у дзявоцтве Шапіра, 1880—1955), паходзіла з забяспечанай сям’і і атрымала адукацыю. Яна добра ведала яўрэйскую літаратуру, захаплялася паэзіяй і пісала вершы, музіцыравала. Сваім дзецям прывіла любоў да кніг і цягу да ведаў.

У 1905 годзе ў Горках адбыўся пагром. Пьяныя мабілізаваныя разламалі некалькі яўрэйскіх лавак. На шчасце, ахвяр не было. Пагромшчыкаў спынiў атрад яўрэйскай самаабароны. Л. Разгон успамінаў М. Гейзеру, што ў «адказ» на гэта яўрэі мястэчка знайшлі «асаблівы» спосаб барацьбы з грамілами. «У нашай сям’і, і не толькі ў нашай, новыя дзеці сталі “з’яўляцца рэгулярна год за годам”»

(М. Гейзер «Да успокоится душа...» http://www.lechaim.ru/ARHIV/90/geyzer.htm). Акрамя Льва ў сям'і з'явіліся сыны: Ізраіль (1906—1987) і Абрам (1911—1989). Абрам і Леў у 30-х гг. падвяргаліся рэпрэсіям.

Бацька не адмовіўся ад сваіх сыноў і быў выключаны з партыі. А людзям, якія сядзелі за казённым сукном, як успамінаў Л. Разгон, ён сказаў: «Мы ж не для таго рабілі рэвалюцыю, каб нашых дзяцей саджалі ў турмы».

А калі яго любімы сын Ізраіль у адчаі ўсклікнуў: «Як мог ты спакойна развітацца з партыяй? Успомні, з якімі цяжкасцямі цябе прымалі з-за таго, што ты быў бундаўцам!» — бацька са сваім звычайным спакоем адказаў: «Сынок! Дык я ж з гэтай партыі выйшаў! А ўступаў тады ў іншую, зусім іншую...»

## «Горкі мне часта сніліся...»

Да 1915 года, а затым з 1918 па 1923 год сям'я Разгонаў жыла ў Горках, дзе ён скончыў шэсць класаў сямігодкі другой ступені. Дарэчы, пра жыццё ў Горках Л. Разгон вельмі займальна распавядаў у кнізе ўспамінаў «Позавчера и сегодня». У яе вельмі цікавы лёс. Пісаў яе для сваёй дачкі Наташы, без усялякай надзеі на выданне, калі быў у ГУЛАГу. Рукапіс дачка згубіла. Пра гэта ён расказаў праз 35 гадоў у часопісе «Юность», дзе друкаваліся яго апавяданні з кнігі «Непридуманное».

І вось поспех! Пра гэта прачыталі людзі, якія знайшлі рукапіс і захоўвалі яго. Яны патэлефанавалі яму, каб прыехаў па ўказаным адрасе. Дзверы адчыніла жанчына, якая трымала ў руках сшытак. «Я заплакаў...» — успамінаў Разгон.

Ён не планаваў выдаваць свае ўспаміны. Але планы змяніла паездка ў Ізраіль.

Згадваючы пра яе, неяк сказаў пісьменніку М. Гейзеру: «Я па-сапраўднаму шчаслівы чалавек не толькі таму, што ў дзевяноста з лішнім год я яшчэ магу на роўных выпіць бутэльку гарэлкі з такім хлопчыкам, як вы, але яшчэ і таму, што запаведзь: "У будучым годзе ў Ерусаліме" для мяне спраўдзілася. Я пабываў у гэтым выдатным горадзе, і гэта быў сапраўдны трыумф у маім жыцці» (М. Гейзер «Лев Разгон: "Что остается после людей?"» http://www.sem40.ru/).

Падчас паездкі ён надрукаваў урыўкі сваіх успамінаў у рускамоўнай прэсе. І вось нечаканы званок. Як сведчыў Л. Разгон, у кнізе «Позавчера и сегодня» аб гэтых публікацыях даведаўся ізраільскі генерал, нашчадак яўрэя Гендамана з Горак, які прыехаў сюды яшчэ ў канцы XIX стагоддзя. Ён запрасіў Разгона да сябе дадому, каб яго дзеці ўбачылі чалавека, які нарадзіўся ў далёкім беларускім мястэчку — радзіме іх продкаў.

У канцы 2007 года я змясціў у газеце «Вести», якая выходзіць у Ізраілі, інфармацыю, што ў сувязі з напісаннем кнігі пра гісторыю Горацкай яўрэйскай абшчыны шукаю выхадцаў з Горак. Мне патэлефанавала сакратар Яакава Хісдая і паведаміла, што Л. Разгон сустракаўся з яе шэфам.

Яакаў расказаў мне, што яго бацька, Шымон Гендаман, быў у Горках купцом першай гільдыі і прыехаў у Эрэц-Ісраэль у 1912 годзе. Пасяліўся ў Тэль-Авіве і стаў насіць прозвішча Хісдай. Там заснаваў фабрыку па вытворчасці ваты. Памёр у 1958 годзе. Яго сын, Яакаў Хісдай, нарадзіўся ў Ізраілі ў 1938 годзе. Служыў салдатам і афіцэрам у дэсантных войсках, удзельнічаў у Шасцідзённай вайне, дзе ў баі пад Газай быў паранены, атрымаў Ордэн адвагі. У 1978 годзе ён дэмабілізаваўся і стаў вывучаць гісторыю, абараніў дысертацыю па гісторыі яўрэяў Польшчы ў Яўрэйскім універсітэце ў Ерусаліме, дзе працаваў выкладчыкам. Затым скончыў юрыдычны факультэт і стаў адвакатам.

Як вядома, сустрэча з генералам і яго сям'ёй зрабіла моцнае ўражанне на пісьменніка. І ён палічыў, што яго ўспаміны будуць цікавыя не толькі сваякам, але і чытачам. І вырашыў іх надрукаваць. А тут яшчэ надарыўся выпадак: да яго ў госці прыйшоў прадпрымальнік І. Колераў, які, будучы арыштаваным, прачытаў

артыкулы Л. Разгона. Ён прапанаваў дапамогу ў публікацыі кнігі, і яна выйшла ў 1995 годзе ў Маскве і Тэль-Авіве, а потым яе надрукавалі ў Італіі.

Заўважце, паважаныя чытачы, у Італіі зацікавіліся гісторыяй невялічкага беларускага горада!

Калі кніга выйшла, Л. Разгон адаслаў асобнік у родныя Горкі. Цяпер яна знаходзіцца ў архіве музея. На ёй даравальны надпіс: «Горацкаму гісторыка-этнаграфічнаму музею на добрую памяць ад аднаго з тых, хто нарадзіўся і правёў дзяцінства ў гэтым горадзе. Леў Разгон. 3.11.1995 г.»

У гэтай кнізе значныя гістарычныя і этнаграфічныя падрабязнасці аб Горках дарэвалюцыйных і першых гадоў Савецкай улады. З асаблівай цікавасцю чытаюцца старонкі, дзе распавядаецца пра тое, як праходзілі яўрэйскія нацыянальныя святы і абрады, пра вядомых жыхароў горада. Гэта — І. Разгон, родны брат пісьменніка, доктар гістарычных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Э. Шапіра, стрыечны брат, палкоўнік у адстаўцы, узнагароджаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны ордэнам Суворава трэцяй ступені № 1, І. І. Разгон, Георгіеўскі кавалер падчас Першай сусветнай вайны, актыўны ўдзельнік грамадзянскай вайны, намеснік камандуючага Чарнаморскім і Балтыйскім флатамі, начальнік упраўлення ўзбраення Народнага Камісарыята Ваенна-Марскога флоту СССР і многія іншыя.

Леў Разгон заўсёды памятаў аб сваім родным горадзе. У 1987 годзе, апынуўшыся ў Маскве ў камандзіроўцы, я ў часопісе «Огонёк» даведаўся ягоны нумар тэлефона і папрасіў яго аб сустрэчы. І вось я ў невялікай кватэры на Малой Грузінскай. Гаспадар сустрэў мяне ветліва і з усмешкай, і мы апынуліся ў маленькім кабінеце, застаўленым паліцамі з кнігамі.

Пачаліся роспыты пра Горкі, іх гісторыю і людзей, аб стварэнні ў Горках гісторыка-этнаграфічнага музея.

— Горкі мне часта сніліся, калі я быў у лагеры, — сумна сказаў ён.

Я запрасіў яго на адкрыццё музея.

Ён расказаў, што ў 1975 годзе, падчас нарады дзіцячых літаратараў у Мінску, ён папрасіў старшыню Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Танка даць аўтамашыну, і яны разам з жонкай наведалі Горкі.

— Я не пазнаў іх, — сказаў Л. Разгон. — Толькі тэрыторыю Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Гэта зусім новы горад. Тых Горак ужо няма. Узрадавала наведванне дзіцячай бібліятэкі, дзе я ўбачыў некалькі сваіх кніг. Таму прыехаць туды другі раз не змагу. Гэта вышэй маіх сіл.

Пры расставанні дастаў з паліцы вялікі канверт, з якога выняў пажоўклую газету і сказаў:

— Гэты рарытэт — першы нумар Горацкай павятовай газеты «Луч Интернационала» за 1919 год — мае бацькі захоўвалі ўсё сваё жыццё. Я дару яго будучаму музею.

Зараз гэта газета займае ганаровае месца ў экспазіцыі Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея.

## Зяць людаеда?

У 1923 годзе сям'я Разгонаў пераехала ў Маскву. Там Леў скончыў школу другой ступені. Затым працаваў у першым маскоўскім Доме піянераў. Яшчэ падчас вучобы ў Горках зацікавіўся літаратурай, з вялікім задавальненнем пісаў у «Вестник знаний» — рукапісны часопіс. «Такім чынам, — успамінаў у кнізе «Позавчера и сегодня», — я ўжо ў нявінным падлеткавым узросце (было мне дванаццаць—трынаццаць гадоў) праявіў незвычайныя здольнасці да публіцыстыкі і разумення метадаў журналісцкай дзейнасці».

У Маскве ён пачаў пісаць у «Комсомольскую правду». Яго заўважылі і сталі заказваць брашуры па праблемах выхавання. У 1930 годзе былі надрукаваны першыя з іх: «Рабочая комната: (Из истории одного отряда)» і «Как надо рабо-

тать (Пионеры в борьбе за советский аппарат)» у бібліятэчцы піянера-актывіста ў серыі «Жемчужины опыта».

Адначасова Л. Разгон вучыўся на гістарычным факультэце 2-га Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (цяпер Маскоўскі педагагічны ўніверсітэт). Затым ён рэдагаваў кнігі ў выдавецтвах «Молодая гвардия», «Детгиз», працаваў рэдактарам у часопісе «Вожатый». У аўтабіяграфіі пісаў: «Гэта былі найцікавейшыя гады станаўлення і развіцця савецкай дзіцячай літаратуры. Маладая была літаратура, маладыя былі і ўсе яе аўтары і рэдактары».

У 1933—1936 гг. працаваў старшым оперупаўнаважаным у АДПУ. Пра гэтыя гады ягонага жыцця падрабязных звестак няма. Сам ён пра гэта таксама нідзе не пісаў. У «Википедии» адзначаецца, што служыў у спецаддзеле НКУС, якім кіраваў Г. Бокій.

Падчас нашай сустрэчы я адважыўся запытацца пра гэта.

— А адкуль Вы гэта ведаеце? — здзівіўся ён.

Я адказаў, што пра гэта мне распавёў наш зямляк Генадзь Апанасавіч Церахаў, які пачынаў працу сакратаром у Горацкай пракуратуры, скончыў юрыдычную ВНУ. І ў свой час быў намеснікам, а затым старшым памочнікам Генеральнага пракурора СССР. Л. Разгон ужо збіраўся мне нешта адказаць, але ў гэты час зазвінеў тэлефон і ён амаль паўгадзіны размаўляў па ім. Затым зайшоў на кухню і, вярнуўшыся, задаў мне пытанне па гісторыі Горак. Падалося, што яму не зусім прыемна гаварыць на гэтую тэму. Таму я сваё пытанне не стаў паўтараць.

Вядома, што ў гэты час Л. Разгон пазнаёміўся, а затым ажаніўся з Аксанай — дачкой Г. Бокія, аднаго з начальнікаў АДПУ. На сайце «Соловки — энциклопедия» пра Г. Бокія пішуць, што ён быў «крымінальнікам да 1917 г.» Так, сапраўды, ён 12 разоў арыштоўваўся, сядзеў у турме, быў у сібірскай ссылцы. Але крымінальнікам не быў. У яго лёс тыповага рэвалюцыянера-бальшавіка. Вучыўся ў Горным кадэцкім корпусе, а з 1900 года — член РСДРП. У 1902 годзе сасланы ва Усходнюю Сібір за падрыхтоўку дэманстрацыі. У 1904 годзе Бокій уведзены ў склад Пецярбургскага камітэта РСДРП. У красавіку 1905-га арыштаваны. Амніціраваны па Кастрычніцкім маніфесце, але ў 1906 годзе зноў арыштаваны. У снежні 1916 года ён увайшоў у склад Рускага бюро ЦК РСДРП. А адразу пасля падзення самадзяржаўя ўзначаліў у Рускім бюро аддзел зносін з правінцыяй.

«Гэта быў чалавек са старадаўняй інтэлігентнай сям'і, добрага выхавання, вялікі аматар і знаўца музыкі, — пісаў Л. Разгон. — Пішу гэта зусім не для таго, каб дадаць хоць крыху белай фарбы да выявы Глеба Бокія. Ні адукацыя, ні паходжанне, ні нават прафесія нікольki не перашкаджалі чэкістам быць абмазанымі нявіннай крывёю з галавы да ног... Бокій пасля забойства Урыцкага стаў старшынёй Петраградскай ЧК і на працягу некалькіх месяцаў кіраваў "чырвоным тэрорам"...

А падчас Грамадзянскай вайны, з 1919 года, быў начальнікам Асабістага аддзела Усходняга фронту, а затым і Туркестанскага. Як няма патрэбы тлумачыць характар гэтай дзейнасці, так і немагчыма падлічыць колькасць нявінных ахвяр на яго сумленні».

Аднак неўзабаве Г. Бокію была даручана новая праца. У маі 1921-га пастановай Малога Саўнаркама ствараецца савецкая крыптаграфічная служба ў выглядзе Спецыяльнага аддзела пры УЧК. Начальнікам новай структуры прызначаецца Г. Бокій. Былі ў структуры Спецаддзела і падраздзяленні, інфармацыя аб якіх лічылася асабліва сакрэтнай. У прыватнасці, лабараторыя з навукоўцаў самых розных спецыяльнасцей. Кола пытанняў, што вывучаліся падраздзяленнямі, якія працавалі ў гэтай лабараторыі, незвычайна шырокае: ад вынаходства разнастайных прыстасаванняў, звязаных з даследаваннямі сонечнай актыўнасці, да акультных навук і «снежнага чалавека». Цяпер пра гэты аддзел напісана нямала нарысаў і матэрыялаў, на жаль, часам фантастычных.

16 мая 1937 г. Г. Бокія арыштавалі. Ёсць версія, што яго выклікаў да сябе М. Яжоў і запатрабаваў выдаць шэраг сакрэтных дакументаў, спаслаўшыся

на адпаведны загад І. Сталіна. Быццам бы Г. Бокій адказаў Яжову: «А што мне Сталін? Мяне Ленін на гэта месца паставіў». Дадому ён ужо не вярнуўся (яго расстралялі 15 лістапада 1937 г.). У 1956 годзе быў рэабілітаваны.

«...Гэты жывы чалавек, у гонар каго быў названы параход, — людаед — галоўны ў той тройцы АДПУ, якая прыгаворвала людзей да тэрмінаў і расстрэлаў...» — так характарызаваў яго акадэмік Дзмітрый Ліхачоў (Избранное: Великое наследие. Заметки о русском. — СПб.: 1998).

Пісьменнік Аркадзь Ваксберг у артыкуле «Масон, зять масона», напісаў, што Г. Бокій камандаваў «не толькі Салавецкімі лагерамі «асобага прызначэння», але і ўсімі іншымі канцлагерамі...» (Литературная газета, 1990, № 52).

Ліхачоў і Ваксберг, як і іншыя даследчыкі тэмы «ГУЛАГ у СССР» дапускаюць памылку. Так, Г. Бокій з’яўляўся, як сцвярджаюць шматлікія гісторыкі ГУЛАГа натхняльнікам і распрацоўшчыкам ідэі контррэвалюцыйнага лагера для інтэлігенцыі і палітычнай апазіцыі. Але, заўважым, што Пастанова СНК СССР «О организации Соловецкого лагеря принудительных работ» была прынята яшчэ пры У. Леніне 2 лістапада 1923 года. Цікава, што з 21-га наркама, якія прынялі гэтую пастанову, дзесяць — былі рэпрэсіраваны. Гэта значыць, яны, па сутнасці, падпісвалі сабе прысуд. А шырокую вядомасць Г. Бокій атрымаў у сувязі з тым, што ў тыя гады яго імем назвалі параход, які прывозіў зняволеных на выспу.

Чаму мы так падрабязна расказалі пра Г. Бокія? Ды таму, што знаёмства з яго дачкой і жаніцьба на ёй адыгралі важную ролю ў жыцці Л. Разгона.

Вядома, што ён на некаторы час уваходзіў у кола калякрамлёўскай эліты. У кнізе «Непридуманное» ўзгадвае, што ў гэты час меў магчымасць быць па запрашальным білеце на пасяджэннях 17-га партыйнага з’езда РКП(б). Быў знаёмы з партыйнымі дзеячамі А. Рыкавым, І. Масквіным, В. Асінскім і нават з сумна вядомым М. Яжовым.

У 1936 годзе вярнуўся да працы ў «Детгиз». Але ўлетку страшнага 1937 года Л. Разгону прыйшлося «ахоўваць прыроду» — працаваць сакратаром у Маскоўскім таварыстве сяброў зялёных насаджэнняў. Праўда, неўзабаве, як «ахвяру перагібу» вярнулі ў «Детгиз», але ненадоўга.

## «На кожнага ў НКУС былі свае катаванні...»

Спачатку арыштавалі цесця. Потым чарга дайшла да яго жонкі і дачкі Аксаны. 18 красавіка 1938 г. арыштавалі і Льва. Падышла чарга? Хутчэй за ўсё, так. Але быў і данос. Калі пачалася перабудова, у архіве КДБ яму далі прачытаць сваю «следчую справу». А там прысутнічала інфармацыя, што «гаворачы аб кінакарціне “Пётр І” і іншых, Разгон заявіў: «Калі справы так далей пойдуць, то хутка мы пачуем “Божа, цара захоўвай”...» (Разгон Лев. Плен в своем Отечестве. М.: 1994. С. 89).

Пасля нядоўгіх допытаў, Л. Разгон падпісаў паказанні. Тлумачачы гэта, ён казаў, што «на кожнага ў НКУС былі свае катаванні». Яго прымусілі падпісаць абсурдныя паказанні на сябе, зусім не засоўваючы пад пазногці іголкі, а паабяцалі даць вялікую дозу інсуліну яго маладой жонцы.

Падманулі! Не далі, і Аксана памерла ад цяжкай формы дыябету на этапе, па дарозе ў лагер. Памерла ў 22 гады. Родным удалося выратаваць іх маленькую дачку Наташу.

Праз 50 гадоў нашаму земляку давялося абараняць гонар сваёй жонкі, калі доктар філалагічных навук Б. Сакалоў у «Энциклопедии булгаковской» (1997) напісаў, што Г. Бокій завёў на сваёй дачы бардэль, куды ўцягнуў і сваіх юных дачок.

Мастак Барыс Жутоўскі быў сведкам і ўдзельнікам сустрэчы Л. Разгона ў Інстытуце сусветнай літаратуры. Вось як ён гэта апісвае ў артыкуле «Вызов на дуэль», надрукаваным у «Известиях»:

«— Вы — спадар Сакалоў Барыс Вадзімавіч? — спытаў мой Дуэлянт, схіліўшы галаву да пляча.

— Ну.

— Я — Леў Эмануілавіч Разгон. Я хацеў бы задаць вам наступнае пытанне, — ледзь дачакаўшы «ну», працягнуў Лёва. — З якіх крыніц вы запазычылі інфармацыю, надрукаваную ў вашай кнізе, пра тое, што Глеб Іванавіч Бокій завёў на сваёй дачы бардэль, куды ўцягнуў і дзвюх сваіх юных дачок?

— Узяў гэта ў асабістай справе Бокія ў КДБ, на Лубянцы, — адказаў «Мартынаў», не цямячы яшчэ да канца, што яго чакае.

— Вы — ілжэц, — сказаў Лёва, — і нягоднік. У асабістай справе Бокія на Лубянцы я сам бачыў усяго чатыры лісткі: два пратаколы допытаў, прысуд аб расстрэле і даведка аб прывядзенні прысуду ў выкананне...

Пасля чаго Лёва пацягнуўся на дыбачках, каб дастаць, і ляснуў суперніка па мордзе».

Далей Б. Жутоўскі адзначыў: «Так, ён зрабіў гэта, паказаўшы, што гонар мёртвых і жывых, яго, мой, наш, мае цану, і што грэбаваць гэтым няварта ніколі» («Известия», 12.09.1988 г.).

Між тым, сексуальная паталогія ў Г. Бокія, відаць, была. Валерый Шамбараў у кнізе «Государство и революция» (М.: 2001) і Г. Іофе «Белое дело» (М.: 1989) пісалі, што, як стала вядома ў час службы, у 30-х гадах, Г. Бокій у 1921—1925 гг. арганізаваў у Кучына «дачную камуну» пад сваім кіраўніцтвам. Сюды яго набліжаныя павінны былі прыязджаць па выхадных днях разам з жонкамі. На ўтрыманне «камуны» яны ўносілі 10 працэнтаў месячнага заробку. Хадзілі там распранутыя, п’янствавалі, разам наведвалі лазню і арганізоўвалі групавыя оргіі.

Праўда, пасля гэтага прайшло больш як дзесяць гадоў. Л. Разгон ажаніўся на дачцэ Бокія ў 1935 годзе і наўрад ці Г. Бокій выкладаў падрабязнасці сваёй «дзейнасці» зяцю, да таго ж супрацоўніку АДПУ.

## «5 сакавіка я ніколі не бываю цвярозы...»

21 чэрвеня 1938 г. па прысудзе Асобай Нарады пры НКУС Л. Разгон атрымаў 5 гадоў ВПЛ. У восень таго ж 1938-га ён трапіў ва Усцьвымлаг, у якім зняволеных выкарыстоўвалі на лесанарыхтоўках да поўнай знямогі. Прыйшлося працаваць на лесапавале, дзе захварэў на цынгу. Але пашанцавала: не памёр ад галоднай смерці. Меў вышэйшую адукацыю і яго паставілі на вельмі важную ў лагеры пасаду нарміроўшчыка, гэта значыць, па-лагернаму, Л. Разгон стаў «прыдуркам». Так звалі ў канцлагерах людзей разумовай працы — пісараў, лекараў, інжынераў і бухгалтараў. І толькі дзякуючы гэтаму, ён выжыў.

Лагеры ГУЛАГа: перасыльныя пункты Котлас, Зімка, Мехбаза — этапы жыцця зэка Л. Разгона. У сакавіку 1943 года, за паўтара месяца да заканчэння тэрміну зняволення, яго зноў арыштоўваюць. Ужо ішла вайна, і стандартным было абвінавачванне ў «паражэнчаскай агітацыі ў ваенны час». Па новым прысудзе павялічылі тэрмін зняволення, але Л. Разгон падаў касацыйную скаргу, дзе пісаў, як ён, яўрэй, можа агітаваць за перамогу Германіі, калі фашысты ставяць перад сабой мэту знішчыць усіх яўрэяў.

І адбылося дзіва.У чэрвені 1943 года другі прысуд адмянілі, і зэк Л. Разгон атрымаў статус «замацаванага за лагерам да асобага распараджэння», які дазваляў жыць за межамі зоны ў бараку для вольнанаёмных. У 1945 годзе ён нават атрымаў пашпарт, але вызвалілі яго толькі ў 1946 годзе. І ён разам з другой жонкай Рыкай, дачкой аднаго з лідараў правых эсэраў — Яфрэма Саламонавіча Берга, з якой звязаў яго лёс у адным з перасыльных лагераў, паехаў у Стаўрапаль. Гэта быў адзін з гарадоў, дзе дазвалялася жыць былым зняволеным. Там яму ўдалося ўладкавацца на працу ў метадычны кабінет кіравання культасветы. Але ў 1949 годзе

спачатку адправілі ў ссылку жонку, а летам 1950-га арыштавалі і яго. Следчыя ўжылі звычайны артыкул — «антысавецкая агітацыя». Знайшліся і сведкі. Л. Разгон успамінаў, што адзін з іх сказаў: «Аб антысавецкай дзейнасці арыштаванага мне вядома, што аднойчы ў размове са мной ён хваліў музыку кампазітара Рубінштэйна...»

Адным з асноўных пунктаў абвінавачвання ў яго справе быў «паклёп на кіраўнікоў партыі». Гэта здарылася, калі ў друкарні рыхтавалі выставу «Сталінскі план пераробкі прыроды» і не атрымліваўся якасны партрэт Сталіна. Тады Л. Разгон сказаў, што «такая пятрушка атрымалася таму, што клішэ занадта падпілавалі...»

Маўляў, кіраўніка дзяржавы назваў «пятрушкай». Вось за гэтую «пятрушку» і атрымаў дзесяць гадоў лагераў і пяць гадоў пазбаўлення ў правах.

Пасля абвяшчэння прысуду папрасіў матэрыялы сваёй справы і паперу, каб напісаць касацыйную скаргу. Калі яму адмовілі, абвясціў галадоўку. Не прымаў ежы і вады некалькі дзён, яго сілком кармілі і перавялі ў турэмны шпіталь. Ён перамог, скарга была напісана і пададзена, але Вярхоўны суд пакінуў прысуд без змен. Ізноў пацягнуліся гады лагераў...

5 сакавіка 1953 г. памёр Сталін. У інтэрв'ю «Общество забывает, что был 37-й год», надрукаваным у «Известиях» да яго 90-годдзя, Л. Разгон сказаў: «...я трымаўся адчуваннем таго, што калі перажыву Сталіна, то застануся цэлы і што я жыву ў спаборніцтве з ім. І вось гэтае спаборніцтва я 45 гадоў таму выйграў. З тых часоў 5 сакавіка я ніколі не бываю цвярозы. Гэта маё свята» («Известия», 10.04.1998 г.).

Аднак прайшлі яшчэ два гады ў зняволенні, пакуль ён атрымаў доўгачаканую свабоду.

У 1987 годзе ў інтэрв'ю з пісьменнікам Станіслам Рассадзінам Л. Разгон казаў: «Мае сямнаццаць гадоў, як я назваў сваю кнігу, — "палону ў сваёй айчыне", былі, вядома, гадамі самых вялікіх няшчасцяў, але і самымі важнымі. Да лагера я быў іншым чалавекам. Не тое каб дрэнным — не, ні каму не здрадзіў, нікога не пакрыўдзіў. Але будучы вернікам у камунізм, любячы Савецкую ўладу, зразумеў сваю адказнасць за ўсё толькі ў лагеры.

Зразумеў сваю галоўную віну і стаў дзіка шкадаваць людзей — а да лагера не шкадаваў... Гэта што значыць: не шкадаваў? Зразумела, было шкада, што людзі гінулі ад голаду, шкада кулакоў, якіх ліквідавалі як клас, але, казаў я сабе, што рабіць, гістарычная неабходнасць! Такі жаль наогул мог быць у каго заўгодна, нават у Берыі, але ў лагеры я навучыўся шкадаваць проста людзей. Як Івана. Як Пятра. І, акрамя таго, паўстала пачуццё сораму перад імі, якое мяне не пакідае і цяпер: я ж падтрымліваў гэтую ўладу...»

## «Я ім усё нагадаю, усё распавяду...»

У 1955 годзе Л. Разгон вяртаецца ў Маскву, дзе працуе рэдактарам у выдавецтве «Детская литература», затым намеснікам дырэктара Дома дзіцячай кнігі. Шмат піша і публікуецца. Звяртаецца да розных жанраў: гісторыка-рэвалюцыйнага, біяграфічнага, навукова-публіцыстычнага. З'яўляўся аўтарам кніг: «Волшебство популяризатора» (1962), «Шестая станция. Один год и вся жизнь» (1964), «Мир, в котором дети — не гости» (1969), «Живой голос науки» (1970), «Один год и вся жизнь» (1973), «Сила тяжести» (1979), «Зримое знание» (1983), «Семь жизней» (1992). Гэта кнігі пра вядомых вучоных К. Ціміразева, А. Ферсмана, П. Лебедзева, П. Штэрнберга, І. Губкіна, У. Абручова і многіх іншых. Ён таксама аўтар кніг пра пісьменнікаў Васіля Яна, Юрыя Карынца, знаўцу кніг Мікалая Рубакіна: «В. Ян» (1960), «Под шифром "РБ"» (1966), «Юрий Коринец» (1980). Прыхільна крытыкай быў сустрэты яго раман «Сила тяжести» (1979), аповесці «Московские повести» (1983).

Аналізуючы творчасць Л. Разгона, І. Мацяш у гэты перыяд пісаў: «У якім бы жанры ён ні выступаў, ён — пісьменнік адной тэмы. У двух словах яе можна вызначыць так: веды і гуманізм... У паняцце “веды” Разгон ўключае ўсю драму чалавечай гісторыі з павольным, але ўпартым набліжэннем да навуковай, тэхнічнай, сацыяльнай праўды. А “гуманізм” характарызуе маральны бок мэты і сродкаў гэтага руху».

У 1965 годзе яго прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў СССР. Многія кнігі мелі некалькі выданняў. Але ці быў ён шчаслівы, публікуючы іх?

Наўрад. Бо сапраўдная творчасць пачыналася для Л. Разгона, калі, адклаўшы рукапісы навукова-папулярных кніг, браўся за апавяданні аб гадах, праведзеных у лагерах.

Фелікс Гімельфар у артыкуле «Зять масона» пісаў, што сярод блізкіх сяброў Л. Разгона быў вядомы пісьменнік Уладзімір Парудамінскі, які цяпер жыве ў Кёльне. Парудамінскі ўспамінаў: «Я блізка сябраваў з нябожчыкам Львом Разгонам. Калі ён пачаў пісаць свае турэмна-лагерныя апавяданні, што склалі пасля «Непридуманное», якое праславіла яго (гэта было, здаецца, у канцы 1960-х), ён у вялікай таямніцы чытаў іх некаторым сябрам, у тым ліку і мне. Аднойчы Разгон сказаў мне, што хацеў бы, каб я захоўваў у сябе асобнік рукапісу, і пра гэты мой асобнік не павінна ведаць ні адна жывая душа. Наўрад ці ў аглядны час атрымаецца ў нас надрукаваць рукапіс, — дадаў ён. — Пасылаць яго за мяжу я пакуль не хачу. Калі я памру, права распараджацца рукапісам застанецца ў Рыкі, калі памрэ Рыка, ты вольны паступаць з кнігай па тваім меркаванні...»

Аднойчы, калі апавяданняў набралося ўжо даволі шмат, Разгон папрасіў мяне з’ездзіць з ім у Кіеў: ён хацеў паказаць іх пісьменніку Мікалаю Дубаву, з якім даўно сябраваў і з меркаваннем якога вельмі лічыўся.

Мікалай Дубаў, аўтар «Мальчика у моря» і «Беглеца» — рэчаў, якія ўваходзілі ў залаты фонд тагачаснага, «твардоўскага» «Нового мира», — быў рашучы ў меркаваннях, часам максімалісцкі. Ён ці ледзь не ўсю ноч напралёт прасядзеў над рукапісам Разгона, а раніцай выбраўся да сняданку са свайго шчыльна набітага папяросным дымам кабінета і без хітрыкаў заявіў: «Ты павінен адкласці ўсю тую лухту, якой займаешся, і цалкам прысвяціць сябе толькі гэтай кнізе».

Калі мы пасля далейшай, падрабязнай ужо гутаркі аб апавяданнях выйшлі з Разгонам прайсціся па горадзе і аддыхацца, Лёвачка раптам спыніўся, заплакаў і сказаў з адчаем: «Я 17 гадоў быў пазбаўлены магчымасці пісаць. Я не ў сілах пісаць толькі ў стол».

Прайшло некалькі гадоў з той сустрэчы. Л. Разгон па-ранейшаму працаваў над сваімі навукова-папулярнымі кнігамі, артыкуламі аб дзіцячай літаратуры і толькі ў вольны час — над апавяданнямі «для сябе». І толькі дэмакратызацыя і звязаная з ёй галоснасць далі магчымасць Льву Разгону пачаць выдаваць успаміны пра гады, праведзеныя ў засценках ГУЛАГа, якія ён пісаў больш за дваццаць гадоў без усякай надзеі на тое, што калі-небудзь будзе магчымасць іх надрукаваць.

Пісьменнік К. Чукоўскі неяк сказаў: што «У Расіі трэба жыць доўга!» Гэта ў поўнай меры адносіцца да Л. Разгона. Ён пражыў доўгае жыццё і заўсёды выглядаў маладым. Адзін з яго сяброў, Булат Акуджава, прысвяціў яму ў 1993 годзе «Песенку Льву Разгону». Спачатку ішоў эпіграф: «Лёва, як ты молада выглядаеш!» — «А мяне доўга трымалі ў халадзільніку... (У лагеры)», а затым і сама «песенька»:

Я долго лежал в холодильнике,
Омыт ледяною водой.
Давно в небесах собутыльники,
А я до сих пор молодой.

Але галоўнае было не ў яго знешнім выглядзе. Галоўнае — ён дажыў да таго часу, аб якім марыў усё жыццё. У названым вышэй інтэрв’ю ў газеце «Известия» ён сказаў: «...у самыя крутыя моманты я быў перакананы, што калі выжыву, я ім усё нагадаю, усё распавяду».

Кніга «Непридуманное» была надрукавана ў 1988 годзе, а праз пяць гадоў дапоўненая і некалькі перапрацаваная выйшла пад назвай «Плен в своём отечестве».

У кнігах ён распавёў пра людзей, з якімі звёў яго лёс у лагерах: аб сваяках партыйных і савецкіх дзеячаў, вайскоўцах і простых людзях. Пры гэтым ахвяры паўстаюць не пад выдуманымі, а пад сапраўднымі імёнамі. Там ёсць, напрыклад, апавяданне пра жонку Калініна — Кацярыну Іванаўну (нарыс «Жонка прэзідэнта»), якая пасля лесапавалу патрапіла на «блатную» працу — выдаляць у лазні гнід з адзежы зняволеных. З цікавасцю чытаюцца апавяданні пра военачальнікаў Чырвонай Арміі, сярод якіх быў М. Лісоўскі, прафесійны ваенны, намеснік начальніка Генеральнага штаба Чырвонай Арміі (нарыс «Ваенныя»).

Дарэчы, М. Лісоўскі, як піша Л. Разгон, быў перакананы ў непазбежнасці вайны з Германіяй і прадказваў ваенныя няўдачы ў першы перыяд яе. А ўвесну 1942 года, успамінае Л. Разгон, ён «...з амаль абсалютнай дакладнасцю накрэсліў усе напрамкі будучага ўдару нямецкіх войскаў на поўдзень і паўднёвы ўсход... Было нешта жахлівае ў тым, што прафесійны работнік, які ўсё жыццё рыхтаваўся да вайны, сядзіць...»

І нам становіцца зразумелым, чаму перамога над фашысцкай Германіяй дасталася нам такой дарагой цаной. Бо лепшыя вайскоўцы сядзелі ў турмах. Цікава, што Мікай Васільевіч — наш зямляк — родам з вёскі Адахоўшчына Мінскай губерні.

Асобны нарыс у кнізе прысвечаны турэмшчыкам, сярод якіх былі розныя людзі, у тым ліку і тыя, якіх Л. Разгон называў «рабаўладальнікамі». Менавіта з іх дапамогай загінулі ў лагерах мільёны нашых суайчыннікаў.

Пісьменнік Данііл Гранін лічыць, што гэтая кніга «...узбагачае нашы ўяўленні аб савецкім грамадстве эпохі сталінскага ўсеўладдзя. Усё, што ў ёй напісана, — без найменшага выключэння — ідзе ў скарбонку гістарычнай памяці народа». Нездарма пераклалі на многія еўрапейскія мовы.

## «Калі б не яўрэйскія песні...»

Леў Разгон быў рускім пісьменнікам. Але ніколі не забываў, што ён яўрэй і нарадзіўся ў Горках, дзе амаль палову жыхароў складалі яўрэі. У кнізе «Позавчера и сегодня» пісаў: «Ці ведаю я ідыш? Бо я яўрэй, і яўрэйская была некалі маёй роднай мовай. Я кажу «яўрэйская», таму што слова «ідыш» у перакладзе на рускую азначае «яўрэйская» і таму што іншай яўрэйскай мовы мы не ведалі. ...я ведаў яўрэйскую мову! Я ведаў усе яе тонкасці, слоўцы, непрыстойнасці, песні... Па вечарах мама нам чытала Шалом-Алейхема, Перэца, Мендэля Мойхер-Сфорыма, чытала вершы, і пасля яе смерці я даведаўся, што некаторыя з іх былі яе ўласнымі.

А потым гэтая родная мова стала выцясняцца іншай, якая стала таксама роднай, яшчэ больш роднай, — руская. Не, я не разлюбіў сваю першую родную мову, я па-ранейшаму любіў яўрэйскія песні, не прапускаў ніводнага спектакля ў Яўрэйскім камерным тэатры, з задавальненнем укручваў у гаворку яўрэйскія прыказкі і прымаўкі. Але паступова яна перастала быць маёй мовай, я казаў і са мной гаварылі толькі на рускай. Нават мама гаварыла са мной па-руску, і пісаць навучылася па-руску, каб перапісвацца з двума сынамі, што жылі на далёкіх выспах ГУЛАГа.

Я не забыўся ідыш, не перастаў яе разумець, я па-ранейшаму ведаў яе настолькі, каб атрымліваць задавальненне ад гульні Міхаэлса і Зускіна. Але бездапаможна ўсміхаўся і адказваў па-руску, калі да мяне звярталіся па-яўрэйску.

Узімку 39 года на 3-й штрафной камандзіроўцы нашага лагпункту да мяне падышоў немалады, досыць патрапаны лагерным жыццём яўрэй і загаварыў са мной па-яўрэйску. Я адказаў, вядома, па-руску. Мой суразмоўца паківаў галавой.

— Не, калі ласка, — настойваў ён, — я прашу вас гаварыць са мной па-яўрэйску.

— Але я не ўмею. Я толькі разумею. Амаль усё разумею.

— Успамінайце. Кажыце, як умееце. Вы тут адзіны, з кім я магу размаўляць на сваёй мове. Дастаўце мне такую радасць!

Як было адмовіць таварышу па штрафной камандзіроўцы! І я пачаў гаварыць з ім па-яўрэйску, запінаючыся, падоўгу ўспамінаючы словы. Мой суразмоўца цярпліва чакаў, зрэдку падказваў. Ля лагернага вогнішча мы садзіліся побач, і ён распавядаў мне пра сваё няўдачлівае жыццё мінскага яўрэя. Ён быў да мяне ўважлівы, добры і, аднойчы, тыдні праз два пасля нашага знаёмства, сказаў:

— Вы нават не заўважаеце, што ўжо свабодна гаворыце са мной па-яўрэйску!

Я сапраўды зразумеў гэта толькі пасля яго слоў. І мне захацелася здзівіць яго: не толькі размаўляць з ім, але распавядаць аб прачытаных кнігах, спяваць песні майго маленства, успамінаць святы Пурым і Ханука... Але не паспеў. Мяне скруціў скорбут, напаўжывога мяне павезлі на галаўны лагпункт...»

Пісьменнік М. Гейзер пісаў: «Маючы зносіны з Л. Разгонам апошнія дзесяць гадоў, калі яму было ўжо за 80, пытаўся, што ёсць свабода ў яго паняцці. У адказ гучала: «Вы ж ведаеце, я быў рэдактарам дзіцячага выдавецтва і шмат чытаў пра імкненні да свабоды герояў Дзюма, Стывенсана, Гюго. Але іх імкненне да свабоды мне здавалася рамантыкай, і не больш. Гэты ж сэнс слова “свабода” ў турмах, у лагерах я ўспрыняў як нешта біблейскае. Адзін з разумнейшых яўрэяў, Генрых Гейне, сказаў, што аб свабодзе на ўсіх мовах гавораць з яўрэйскай інтанацыяй, бо зыход яўрэяў з Егіпта быў першым урокам свабоды ўсяму чалавецтву».

Мацвей Гейзер успамінаў, што пры адной з сустрэч ён казаў: «Ведаеце, Мацвей, калі я бачу вас, размаўляю з вамі, мяне цягне да “яўрэйства”. Слова нейкае дзіўнае — “яўрэйства”. Я яго ў думках перакладаю — идишкайт — гучыць выдатна».

І ён успомніў Горкі, дзе нарадзіўся ў 1908 годзе, маму, бабулю, Меламед з хедара, у якім атрымаў першыя ўрокі на ідыш будучы рускі пісьменнік Л. Разгон. Асабліва часта вяртаўся ён да песень свайго маленства, песень, якія пранёс праз усё жыццё.

«Калі б не яўрэйскія песні, я б, напэўна, забыўся аб сваіх каранях». І ён заспяваў старую яўрэйскую песню пра дзяцей у хедары, пра тое, як рабін вучыць іх азбуцы, і яны раптам пачынаюць разумець, як шмат таемнага сэнсу ў яўрэйскіх літарах. Гэтую песню ён так любіў, што спяваў яе на вечары ў Цэнтральным Доме літаратараў, прысвечаным прэзентацыі маёй кнігі «Яўрэйская мазаіка»...

— Так, яўрэйскія мястэчкі спачатку зніклі, гэта было ў першыя дзесяцігоддзі пасля рэвалюцыі, а потым, пазней, былі знішчаны ў выніку вайны з фашызмам. Але дух дабра, дух праведнасці, дух любові адзін да аднаго, уласцівы «штэтлам», не ўзнёсся ў нябёсы...

* * *

У апошнія гады пісьменнік шмат працаваў у мемарыяльным таварыстве «Мемориал», камісіі па памілаванні пры Прэзідэнце Расіі. Ён пісаў артыкулы, пастаянна ўдзельнічаў у перадачах на радыё і тэлебачанні. Ён лаўрэат прэміі імя Сахарава «За грамадзянскую мужнасць пісьменніка», ганаровы грамадзянін італьянскага горада Арэццо. У 1998 годзе яго імем назвалі зорку ў сузор’і Авен.

Вядома, што Л. Разгон глыбока суперажываў усе падзеі, якія адбываліся ў свеце і Расіі. І чарговы сардэчны прыступ у яго пачаўся якраз у той момант, калі расійскае ТБ паказвала ролік з адсечанымі галовамі і іншымі зверствамі.

Вялікі гуманіст, добры чалавек Леў Разгон не здолеў перажыць гэта і памёр 8 верасня 1999 года. Але жывуць яго кнігі, яго светлы вобраз. Будзем спадзявацца, што яго кнігі будуць выдадзены і ў роднай Беларусі.

А з далёкага сузор’я Авен на нас свеціць зорка па імені «Разгон».

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЖЫЦЦЁ АБАРВАЛАСЯ НА ЎЗЛЁЦЕ

Сярод тых, каго ў другой палове 30-х гадоў мінулага стагоддзя заўважыў і падтрымаў Кузьма Чорны, быў і празаік Уладзімір Кандраценя. Не здзіўляйся, шаноўны чытач, што гэтае імя табе мала што гаворыць. Так сталася, што не адно дзесяцігоддзе яго згадваць забаранялася, а адзіная кніга У. Кандрацені «Любоў», якая выйшла ў 1938 годзе (другое выданне яе пабачыла свет праз год), надзейна захоўвалася ў так званых «спецхранах». Калі ж нейкім чынам прозвішча У. Кандрацені ўсё ж трапляла ў друк, дык таго, па чыёй віне гэта адбылося, чакалі непрыемнасці, прытым немалыя. А што гэта і на самай справе так, аўтар згаданых радкоў змог адчуць больш як сорак гадоў назад на ўласнай скуры.

Набліжаўся да свайго завяршэння 1972 год. Часопісу «Полымя» спаўнялася 50 гадоў. Чытачы старэйшага ўзросту добра ведаюць, што такая «круглая дата» на той час карысталася ў партыйных чыноўнікаў вялікай пашанай. Нездарма падобныя юбілеі адзначаліся шырока і з размахам. Не мог застацца ад гэтай важнай справы і «ЛіМ», у якім я тады працаваў усяго тры месяцы, пераехаўшы са Слуцка. Тагачасны галоўны рэдактар Хведар Жычка даў адпаведныя ўстаноўкі загадчыку аддзела літаратуры Яўгену Каршукову, а той, у сваю чаргу, заданне «перакінуў» мне. Пачалі думаць-развважаць, як лепей адзначыць у штотыднёвіку гэтую падзею. У рэшце рэшт, спыніліся на тым, што змесцім выступленне каго-небудзь з кіраўніцтва часопіса і раскажам пра змест асобных ягоных нумароў.

Артыкул «Шлях часопіса» напісаў тадышні адказны сакратар «Полымя» Алесь Масарэнка. Я ж, параіўшыся і з А. Масарэнкам, і, канечне ж, з загадчыкам аддзела, накіраваўся ў тагачасную Беларускую дзяржаўную бібліятэку імя У. І. Леніна (сёння Нацыянальная бібліятэка Беларусі), у аддзел беларускай літаратуры.

Заказаў першы нумар «Полымя» за 1922 год, некалькі нумароў, што выходзілі ў 30-я гады, апошні даваенны і першы з тых, што з'явіліся пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Занатаваў патрэбныя прозвішчы з іх, назвы асноўных публікацый. Праз дзень матэрыял «Старонкі гісторыі» быў падпісаны Хв. Жычкам у друк, а 8 снежня 1972 года і выйшаў нумар «ЛіМа», у якім паўтары паласы займалі юбілейныя «палымянскія» матэрыялы.

Як быццам усе засталіся задаволены. Ды нядоўга аўтарскае сэрца «спявала». Ці не ў панядзелак пасля выхаду гэтага нумара штотыднёвіка Варлен Бечык, напаткаўшы мяне ў калідоры рэдакцыі, запытаўся: «І што ж гэта Вы напісалі?» У «ЛіМе» працавала жонка Варлена Леанідавіча, і ён часта заходзіў у нашу рэдакцыю. На маё: «А што?» ён папрасіў згаданы нумар «ЛіМа», разгарнуў яго на юбілейным развароце: «Чытайце!»

Нічога не разумеючы, я «прабег» нататку «Перад самай вайной»: «Вершы Я. Купалы, Я. Коласа, апавяданні Ц. Зарэчнага, А. Платнера, навелы У. Кандрацені, М. Цялешкі добра дапаўняюць нумар».

«Што, кажаце? — перапытаў В. Бечык, — ды асобныя з гэтых прозвішчаў цяпер не называюцца». Каб супакоіць мяне, дадаў: «Не бойцеся, нікому не скажу». Падумаў і сказаў: «Хоць знойдуцца тыя, хто такую «памылку» не прапусціць. Не столькі, каб Вам насаліць, колькі Хведару Жычку!»

Так і сталася. Яшчэ праз які дзень Хведар Дзмітрыевіч не знаходзіў сабе месца: «Што ж ты напісаў! А мы, мы прагледзелі!» Аказваецца, віной усяму былі тры прозвішчы: Ц. Зарэчны, У. Кандраценя і М. Целеш. Апошняга ў газеце няма? А гэта я дапусціў памылку, назваўшы М. Целеша М. Цялешкам. Адкуль мог я, учарашні раённы журналіст, ведаць, што гэтая самая «тройка» фігуруе ў афіцыйнай ідэалогіі як зборышча «ворагаў». Праўда, можа б, столькі шуму і не было, а то поруч з імі назваў Я. Купалу і Я. Коласа.

Яшчэ праз некалькі дзён галоўны выклікаў мяне да сябе і сказаў: «У ЦК збірайся!» Пайшоў я да загадчыка сектара друку Каленчыца. Прызнаюся шчыра: ён асабліва на мяне «не наскокваў». Магчыма, не апошнюю ролю сыграла тое, што, як высветлілася ў час гаворкі, у школе нас вучыў адзін і той жа настаўнік — Васіль Міхайлавіч Чаркас. Не, мы з Каленчыцам землякамі не былі, але гэты Чаркас некалькі гадоў вымушаны быў працаваць далёка ад сваёй роднай вёскі Мацкевічы, што ў Капыльскім раёне, у якой нарадзіўся і Каленчыц. У той самай школе ён працаваў, якую заканчваў я.

Давялося пісаць тлумачальную запіску. Каленчыц выйшаў з кабінета. Сядзі, маўляў, думай, як да ўсяго дайшоў. А думаць было пра што, тым больш, што перад гэтым Каленчыц сказаў: «А навошта вам было ў Мінск пераязджаць?» Сапраўды, навошта? Кватэры няма, прапіскі таксама. А за гэтую «справу», якую, відаць, раскруцілі ўсур'ёз, са сталіцай давядзецца развітвацца. Назад у Слуцк не паедзеш, месца маё занята.

Пакідаў ЦК я ледзь не са слязьмі на вачах, а потым… Добрыя два тыдні па гэтых трох прозвішчах у «ЛіМе» працавала камісія з ЦК, у якую ўваходзілі загадчык аддзела культуры С. Марцалеў і загадчык аддзела прапаганды і агітацыі С. Паўлаў. Неаднаразова выслухоўвалі мае тлумачэнні, распытвалі іншых супрацоўнікаў. І ўсё акцэнтавалі ўвагу на тым, што У. Кандраценю за супрацоўніцтва з немцамі расстралялі партызаны, а два іншыя мае «героі» апынуліся пасля вайны за мяжой.

Нарэшце выклікалі мяне да сябе чарговы, і, як высветлілася, апошні раз (засядалі С. Марцалеў і С. Паўлаў усе гэтыя дні ў кабінеце Хв. Жычкі. Сказалі нешта накшталт: «Верым Вам, Вы сапраўды ненаўмысна зрабілі гэта, а напісалі па няведанні». Я сказаў: «Да пабачэння», на што пачуў у адказ з усмешкай: «Да пабачэння! Але лепей нам так больш не сустракацца!»

Была пасля гэтага ў мяне выпадковая гаворка са Сцяпанам Александровічам. Сцяпан Хусейнавіч аказаўся чалавекам больш дасведчаным наконт лёсу У. Кандраценi: «Не даказана, што партызаны яго расстралялі. Хутчэй за ўсё самі немцы за сувязь з партызанамі». С. Александровіч нагадаў мне і пра зборнік апавяданняў У. Кандраценi «Любоў», зазначыўшы, што з аўтара яго цягам часу мог бы вырасці цікавы празаік.

Саму кнігу я на той час, зразумела, у руках патрымаць не змог, а з асобнымі апавяданнямі У. Кандраценi пазнаёміўся. Як высветлілася, друкаваўся ён у асноўным у часопісе «Полымя». На жаль, што-небудзь больш істотнае пра лёс самога пісьменніка даведацца так і не ўдалося. Трэба было б, канечне, пагутарыць са старэйшымі літаратарамі, хто мог бы з У. Кандраценем сябраваць ці проста сустракацца. Ды ніхто, да каго ні звяртаўся, нічога пэўнага сказаць не мог.

Як ні дзіўна, не дапамог і Станіслаў Шукевіч. Хто-хто, а Станіслаў Пятровіч пра літаратурнае жыццё 30-х гадоў, здавалася, ведаў усё. Хоць, чаму здзіўляцца. У. Кандраценя з'явіўся ў Мінску толькі недзе ў 1935 годзе, а 15 лістапада 1936 года С. Шушкевіча арыштавалі як «ворага народа». Таму і не сышліся іх шляхі-дарогі, а тым больш, што на той час У. Кандраценя толькі ўваходзіў у літаратуру, а С. Шушкевіч быў у журналісцкім і пісьменніцкім асяроддзі чалавек ужо вядомы. І не ў апошнюю чаргу з-за свайго таварыскага характару.

Першым, хто вярнуў імя У. Кандраценi з небыцця, стаў Васіль Жураўлёў, які ў 1990 годзе выступіў у «ЛіМе» (№ 30, 27 ліпеня) з артыкулам «Жывая ручаінка». Пры гэтым ён спаслаўся на ўспаміны Рыгора Няхая, а Рыгор Восіпавіч, аказва-

ецца, разам з У. Кандраценем вучыўся на літаратурна-лінгвістычным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута і сябраваў з ім. Пазней да высвятлення біяграфіі У. Кандрацені падключыўся Лявон Шырын. Удвух з В. Жураўлёвым яны і напісалі артыкул-персаналію пра яго, што ўвайшла ў біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» ў шасці тамах. Гэтыя ж звесткі пра У. Кандраценю прыводзяцца і ў даведніку «Беларускія пісьменнікі. 1917—1990», выпушчаным выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 1994 годзе.

Нарадзіўся У. Кандраценя ў сакавіку 1917 года ў вёсцы Смалічы цяперашняга Капыльскага раёна, хоць, як сцвярджаў Р. Няхай, — радзіма пісьменніка сённяшні гарадскі пасёлак Чырвоная Слабада Салігорскага раёна, колішняя Вызна. Спачатку У. Кандраценя вучыўся ў Смалічоўскай сямігодцы, якую скончыў у 1932 годзе. У гэтым жа годзе паехаў у Бабруйск і тры гады вучыўся на рабфаку, затым пераехаў у Мінск, стаў студэнтам. Педістытут скончыў у 1939 годзе з адзнакай. Размеркавалі настаўнікам у Чырванаслабадскую сярэднюю школу. Праўда, да працы так і не прыступіў. У тым годзе разам з Іванам Грамовічам, Усеваладам Краўчанкам і Піменам Панчанкам знаходзіўся ў творчай камандзіроўцы на Украіне, а па вяртанні з яе быў прызваны ў армію. З’яўляўся супрацоўнікам армейскай газеты.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны часць, у якой служыў У. Кандраценя, пад Полацкам аказалася ў акружэнні. Разам з іншымі ён трапіў у палон, але пашчасціла нейкім чынам уцячы. Вярнуўся да бацькоў у Смалічы. Ёсць звесткі, што па прапанове партызанскага камандавання У. Кандраценя ўладкаваўся настаўнікам ў Чырванаслабадскую школу, а таксама, па ўспамінах Р. Няхая, прыведзеных В. Жураўлёвым, «дапамагаў дзетдомаўцам (у пасёлку быў дзетдом), якіх не паспелі эвакуіраваць і якія апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы. Дапамагаў здабываць харчаванне, знаходзіць нейкае адзенне і г. д.».

Пасля працаваў дворнікам у сірочым прытулку ў Слуцку, куды перабраўся ў верасні 1942 года. Там стварыў падпольную групу, якая ў снежні была выдана правакатарам. Наконт гэтага В. Жураўлёў, зноў жа са спасылкай на Р. Няхая, сведчыць наступнае: «У 1942 годзе да У. Кандрацені нібыта звярнуўся знаёмы яму чалавек і клікаў у партызаны. Аднак гэты чалавек не карыстаўся у Кандрацені даверам. А праз нейкі час пасля гэтага да немцаў трапляе загадкавым чынам не менш загадкавая папера, дзе партызаны нібыта сур’ёзна нагадвалі Кандраценю пра тое, што той не выконвае (ці не своечасова выконвае) нейкія важныя партызанскія даручэнні». Р. Няхай лічыў, «што хутчэй за ўсё гэта была падложная правакацыйная папера, і з’явілася яна, відаць, не «без дапамогі» таго чалавека (хто ён?), якому У. Кандраценя не паверыў ці не да канца паверыў як партызанскаму сувязному».

На сённяшні дзень дакладна ўстаноўлена, што немцы расстралялі У. Кандраценю ў Слуцку 23 лютага 1943 года. Дата, відаць, была выбрана невыпадкова — акурат Дзень Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога флоту СССР. Усё, як кажуць, пастаўлена на сваё месца, і ў сумленнасці У. Кандрацені сумнявацца не даводзіцца. Што да гаворкі пра яго, як пісьменніка, дык, на жаль, даводзіцца канстатаваць, што зрабіў ён не так і шмат. Для празаіка ж, безумоўна, акрамя таленту вельмі шмат значыць і жыццёвы вопыт, а які ён мог быць у юнака, якому не споўнілася і трыццаці?! Жыў у вёсцы, вучыўся ў горадзе, служыў у арміі… А потым вайна з яе суровымі выпрабаваннямі. Не да таго, каб пісаць. Галоўнае — выжыць. Але выжыць так, каб не запляміць сваё імя.

«Аднак, — як слушна гаворыць В. Жураўлёў, — у нашай літаратуры, трэба меркаваць, ён (У. Кандраценя. — А. М.) быў чалавекам невыпадковым. У. Кандраценю вельмі хутка запрыкмеціў і вылучыў сярод маладых празаікаў К. Чорны і не прамінаў выпадку падтрымаць і акрыліць яго сваёй добразычлівай увагай. Падчас некалькі важкіх і, на першы погляд, мала прыкметных дэталяў могуць сказаць нам пра пісьменніка многае і даюць магчымасць пэўным чынам заглянуць у заўтрашні дзень яго творчай эвалюцыі».

Праўда, наконт ацэнкі К. Чорнага застаецца верыць на слова. Рэч у тым, што па збегу нейкіх непрадбачаных і незразумелых абставін, у буйнейшых кнігасховішчах сталіцы (Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Прэзідэнцкая, імя Я. Коласа) за 1938 год адсутнічае нумар «ЛіМа» менавіта за 22 чэрвеня, а ў ім і была змешчана рэцэнзія К. Чорнага на кнігу У. Кандрацені «Любоў». Дарэчы, за гэтую кнігу па рэкамендацыі К. Чорнага малады аўтар і быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Затое ёсць сведчанні пра яго апавяданні Міхася Клімковіча, Рыгора Мурашкі… А галоўнае — сёння можна прачытаць самі творы У. Кандрацені.

Відаць, трэба пагадзіцца з В. Жураўлёвым, што «друкавацца У. Кандраценя пачаў дзесьці ў пачатку 30-х гадоў». Прынамсі, ці не першае яго апавяданне «Спаганяюць падаткі», апублікаванае ў газеце «Палеская праўда», датавана 1932 годам. Хоць у дачыненні да гэтага твора азначэнне «апавяданне» можна аднесці з вялікай доляй умоўнасці. Фактычна — гэта звычайны нарыс, пры тым напісаны вельмі няўпэўнена. Хоць чаго можна чакаць ад 15-гадовага аўтара?! Па сутнасці, перад намі звычайная спроба пяра, што ідзе ад жадання самому пісаць. Але жаданне гэтае пакуль не падмацавана належным уменнем, я б сказаў, арганізаваць фактычны матэрыял, адкінуўшы ўсё выпадковае. Да ўсяго пераважае кніжнасць, а адсюль другаснасць таго, пра што расказваецца, хадульнасць персанажаў.

Аўтарскай самастойнасці бракуе і апавяданню «Днямі асеннімі». Яно спачатку было змешчана ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» (1935, № 3), а крыху пазней передрукавана часопісам «Работніца і калгасніца Беларусі (1936, № 1—3). Увогуле, у гэтым творы сюжэт у многім знаёмы па літаратуры 20-х гадоў, калі абавязкова ўслаўлялася новае жыццё і пры гэтым яно супрацьпастаўлялася таму, што было раней. Перад намі паўстае звычайная вясковая сям’я, якая засталася без гаспадара. Ён, вярнуўшыся з турмы, доўга не пражыў. Маці мусіць адна ставіць дзяцей на ногі.

Адным словам, у хаце і голад і холад і спадзявання на лепшае няма. Толькі марна так думае спакутаваная, і маральна, і фізічна, Волька. Зноў жа паварот сюжэта: у вёсцы з’яўляецца пасланец партыі. Няцяжка здагадацца, што ён і становіцца для герояў твора У. Кандрацені ўвасабленнем усяго таго лепшага, што можа быць у жыцці, калі чалавек ужо не толькі сам змагаецца за сваю долю, а і атрымлівае маральную падтрымку тых, хто гатовы (і ўмее!) згуртаваць вакол сябе людзей. Шкада толькі, што ў творы не абышлося без звычайнага апісальніцтва, калі персанажы не раскрываюцца псіхалагічна глыбока, а ўсяго выступаюць рупарам аўтарскай ідэі.

Куды мацнейшым атрымалася апавяданне «Крык гневу» («Полымя рэвалюцыі», 1935, № 10), хоць і гэтым разам аўтар не ідзе далей звычайнага супрацьпастаўлення дабра і зла, а носьбітамі апошняга, зразумела, выступаюць тыя, хто прыгнятае народ і пры любым выпадку здзекуецца з яго. Галоўны ж герой Андрэй Кедрын — звычайны «пан сахі і касы». Ледзь зводзіць канцы з канцамі. А тут яшчэ пастаянныя сутычкі з жонкай, якая хоча, каб хоць які парадак у гаспадарцы быў і не зважае на тое, што давесці да ладу ўсё вельмі цяжка, бо і таго не хапае і гэтага: «Жонка ўжо ні раз казала яму, каб загарадзіў плот нанава, нават кляла, але як толькі Андрэй пачынаў у яе дапытвацца, чым жа гэты плот гарадзіць, дык яна змаўкала, як у рот вады набраўшы. Цвікоў купіць — не купіш: пры душы граша беднага няма. От і заставалася адно: ісці ўкрадкі дубцоў лазовых высекчы».

Магчыма, усё і ўладзілася б. Магло б стацца і так, што Андрэй неяк дамовіўся б з лесніком — усё ж дубцы лазовыя — не бярвенні, колькі іх трэба. Ды ў яго даўно канфлікт з Саўкам Вярыгам і той, у сваю чаргу, «здаўна ў ладу не жыў з Андрэем і ўсё шукаў якое прычэпкі, каб паказаць сваю ўладу над галадранцам, які асмеліўся аднойчы, нават перад людзьмі, абразіць яго начальніцкі гонар».

Правільней у дадзеным выпадку сказаць: найшла каса на камень. Што Саўка Вярыга чалавек жорсткі, пастаянна гатовы паказваць і даказваць сваю ўладу над сялянамі — сумнення няма. Але нельга сумнявацца і ў тым, што Андрэй Кед-

рын з тых, хто ніколі і ні ў чым не ўступіць, а тым больш лістом слацца перад начальствам не збіраецца. Падобнае адбылося і гэтым разам. Здавалася б, калі пасля самавольнай парубкі па дарозе яго заспеў Вярыга, Андрэй мусіў хоць неяк паспрабаваць уладзіць канфлікт. Ды дзе там, пра гэта і гаворкі не магло ісці.

З аднаго боку — упартае нежаданне лесніка хоць неяк зразумець, што ў чалавека нявыкрутка, таму і пайшоў у лес. З другога — яршыстая задзірыстасць Кедрына, якая да нічога добрага не можа прывесці, паколькі ўлада на баку Вярыгі. Тым не менш Андрэй у роспачы забіў сякерай леснікавага сабаку. На што «Саўка сіпла зарагатаў: «Будзеш ты помніць маю дабрату!» І гэта аказалася не проста пагрозай. Праз некаторы час Андрэю загадалі плаціць штраф дзвесце злотых «за самавольную парубку лесу ў сервітуце пана Гжэцкага».

Тым самым канфлікт у апавяданні па сутнасці дасягае свайго апагея. Прадчуваеш — абавязкова адбудзецца нешта непрадбачанае. Адчуваеш, бо ведаеш — штраф плаціць Андрэю няма чым. Паліцэйскім, што прыйшлі па яго, застаецца хіба забраць карову. Але ж гэта апошняе, дзякуючы чаму сям'я Кедрына хоць неяк трымаецца. Страціць карову — памерці з голаду.

З вуснаў персанажа вырываецца роспачнае: «За што?» Праўда, далей перадаючы душэўны стан свайго героя, У. Кандраценя, не сказаць, каб дасягаў вялікай праўдзівасці. Усё ж, калі ўважліва ўчытацца ў тэкст, зразумееш, што ў роспачы крычыць не столькі Кедрын, колькі яго вуснамі паказвае сваё разуменне безвыходнасці становішча сам аўтар.

І сапраўды — «За што? Мо за рукі гэтыя шурпатыя, што спачыну ніколі не знаюць, варочаюць сваю і чужую зямлю, выцягваюць з хлявоў непадаткія пласты гною?... Чаму? Мо таму, што зрэб'е — грубое, каструбаватае — пакрывае цела і з ног не сыходзяць лапці-атопкі, падвязаныя канаплянымі аборамі?.. Ды і мо таму яшчэ, што куска хлеба ніколі няма на стале?»

Парадокс ці не так? У. Кандраценя ведаў, што ў дадзены момант герой твора не можа паводзіць сябе інакш, але ведаючы гэта, не мог знайсці патрэбных слоў, каб усё перадаць праўдзіва і пераканаўча. Безумоўна, сказвалася яшчэ і адсутнасць мастакоўскага вопыту, не знаходзіліся патрэбныя словы, а «выліваліся» на паперу тыя, што нагадвалі сабой зусім не шчырае праяўленне стану чалавека, які аказаўся на мяжы вар'яцтва з-за таго, што яго гатовы пазбавіць апошняга ў жыцці апірышча. Дарэчы, праз некалькі радкоў У. Кандраценя Кедрына інакш як вар'ятам і не называе, бо адбылося тое, у што і паверыць страшна. Андрэй, зразумеўшы, што карову, нягледзячы на ўсе яго пратэсты, забяруць, «не памятаючы сябе, вылецеў на двор і кінуўся к адчыненаму хляву. Узмахнуў сякерай. Паліцэйскі войкнуў, бразнуўся патыліцай аб сцяну і асеў на дол.

Малодшы паліцэйскі застыў, спапялеў. Шырока адкрытымі вачыма глянуў ён на вар'ята: стаяў той са сцятымі сківіцамі і вочы яго былі не вочы — вострыя іголкі. Бледныя вусны вар'ята раптам скрывіліся канвульсіўнай ухмылкай, ён ступіў крок наперад, захлынуўся дзікім істэрычным рогатам:

— За… ха… Другога сабаку!.. Забіў другога сабаку! А ты… ты чаго глядзіш?.. Даядай мяне… Ну… Грызі… — уздоўж цела бязвольна віселі вузлаватыя рукі, бледныя вусны дрыжэлі ад нутранога рогату…»

Уладзімір Кандраценя таму і называе Кедрына вар'ятам, што Андрэй з-за вялікіх перажыванняў пазбавіўся розуму. І ў гэтым сваім вар'яцтве ён небяспечны, бо наўрад ці можа адказваць за свае далейшыя ўчынкі. Маючы гэта на ўвазе, а таксама помсцячы за забітага таварыша, малодшы паліцэйскі яго застрэліў.

На гэтым эпізодзе, бадай, і можна было б паставіць у творы апошнюю кропку. Але У. Кандраценя меркаваў, што паведаміў яшчэ не ўсё, а ў выніку прыйшоў да непатрэбнага натуралізму: «Каля адчыненага хлява ў лужыне густой крыві ляжаў распластаны чалавечы труп, а побач валялася ссечаная калматая галава з раззяўленым ротам і адкрытымі ашклянелымі вачыма». Дый нават на гэтым не спыніўся. Паводле аўтарскай задумы ўсе кропкі над «і» павінен расставіць старэйшы Андрэеў сын:

«— Паспяшыў ты, бацька… Не паслухаў сына. Хіба адзін у полі воін?.. Эх, бацька… А ты хацеў ваяваць адзін… І от… Яшчэ не час быў… Але той час настане… Чуеш, бацька!

…Настане час расплаты!»

Для свайго часу гэта гучала пераканаўча. Ва ўсякім разе — палітычна абгрунтавана. А не ўлічваючы тагачасных рэалій, У. Кандраценя, як і іншыя празаікі, а таксама паэты, не мог не пісаць. Іншая рэч, наколькі яму пры гэтым удавалася праўдзіва адлюстраваць жыццё. Праўда, нельга забываць, што і крытыка, выконваючы сацыяльны заказ, патрабавала ад літаратуры быць на пярэднім краі барацьбы за новае жыццё, а значыць, выкрываць заганы «праклятага» мінулага. Таму і назіраецца нярэдка так, што тое, за што некалі У. Кандрацeню хвалілі, сёння выглядае інакш, чым звычайнае пісанне на «злобу дня». Ці не найлепшае пацвярджэнне таму — апавяданне «Фінал», якое, дарэчы, і адкрывае кнігу «Любоў» (акрамя згаданага твора ў яе ўвайшлі таксама апавяданні «Капа сена», «Фінал» і невялікая аповесць «Каханне»).

Пісаў «Фінал» У. Кандраценя хутчэй за ўсё пад уражаннем тагачасных падзей, а дастаткова перагарнуць старыя падшыўкі газет, каб упэўніцца, што тады толькі тым і займаліся, што выкрывалі розных «ворагаў», найперш з ліку колішніх паноў ці падпанкаў. Дзеянне твора адбываецца ў адной з глухіх вёсак, аўтарам дакладна пазначаны і час яго. У самым пачатку чытаем:

«Канец снежня трыццатага года.

Па выглянцаванай палазамі дарозе стомлена брыдуць двое мужчын».

Як неўзабаве высвятляецца, гэта наведваюцца ў родныя ім мясціны Уладак і Аркадзь. Брыдуць сюды, каб адпомсціць за несправядлівасць, якую, як ім здаецца, пацярпелі ад тых, хто пазбавіў іх багацця. Прага помсты паступова ператвараецца ў лютую нянавісць:

«— Але ты зразумей!.. — калаціўся, нібы ў ліхаманцы, Аркадзь, ужо цяжка ступаючы па сыпкім снезе. — Забралі ўсё дачыста, жабраком зрабілі… Калі ласка, маўляў, грамадзянін Жуковіч, бяры сякеру, пілу, ідзі лес валіць. Чуў такое, га?.. Кроў маю атруцілі!.. Я адпомшчу!... Я парву яго цела на кускі… Я сам, я сваімі зубамі ўчаплюся ў горла… Перагрызу храсткі… — ён ужо не крычаў, а шыпеў, гнеўна паблісквaючы расшыранымі зрэнкамі валавяных вачэй. — Я ўчыню такую расплату, такую… У жылах людзей застыне кроў, страх агорне самых смелых…»

У назву апавядання У. Кандраценя ўкладваў, на яго думку, глыбокі сэнс. Фінал — гэта як тое непазбежнае, што абавязкова мусіць адбыцца. Фінал — заканамернае завяршэнне таго, што не можа рана ці позна скончыцца. Сваё разуменне фіналу і ва ўжо згаданых Уладака і Аркадзя. Праўда, калі апошні, як відаць з твора, ні перад чым не спыніцца, дык Уладак, бадай, у параўнанні з сябрам куды больш спакойны. Ён яшчэ здатны цвяроза ацэньваць і сітуацыю, і ўчынкі. Як быццам прадбачыць, што для абодвух з іх фінал можа быць зусім не такім, як таго ім хочацца: «Яно, гэтае праклятае слова, стала кашмарным. Павер, я бачыў у сне… слова фінал і замест слова раптам пачынае душыць нейкае калматае страшыдла…»

Ды што Аркадзю гэтыя ваганні, сумненні, для яго ўсё ясна раз і назаўсёды і ён даўно зразумеў, што ніколі ад свайго не адступіцца і нікога не пашкадуе: «Не пераношу слёз. Трэба рэзаць, кроў пускаць». Аднак, як і можна было здагадацца, чытаючы апавяданне, помсты ва Уладака і Аркадзя не атрымалася. Фінал стаў зусім іншым. Тыя, хто хацеў бяды іншым, самі наблізілі сабе далёка нешчаслівы фінал.

Відочна, што ў творы адсутнічаюць жывыя вобразы, а характары персанажаў (найперш адмоўных) атрымаліся хадульнымі. Той жа Аркадзь ды і Уладак таксама аўтарам паказаны такімі, якімі і павінны былі быць ва ўяўленні і самога тагачаснага чытача, і крытыкі.

У рэшце рэшт, як сведчыць рэцэнзія Пав. Хадарэнкі «Любоў і нянавісць», што з'явілася ў «ЛіМе» пасля выхаду кнігі «Любоў» (1939, № 32, 12 верасня), гэтае апавяданне і прываблівала ўвагу менавіта згаданым вобразам: «Аркадзь і Уладак — хітрыя, каварныя ворагі, садысты, прайшоўшыя замежную школу разведкі. Цярпенне і пабойлівасць — вось іх дэвіз. Яны пабойліва і цярпліва чакаюць моманту, калі ў спіну лепшых людзей нашай краіны можна будзе ўсадзіць халоднае і бліскучае лязо нажа, калі можна будзе напіцца іх гарачае крыві. Злачынны план правальваецца, бо «там, дзе з-пад снегавых намётаў вытыркала чорная павуціна калючага дроту, начную цемру свідравалі сотні вачэй».

Крытыка не цікавіла (дый не магло цікавіць) тое, а ці справядліва абышліся новыя ўлады з Уладакам і Аркадзем, пазбавіўшы іх пастаяннага жытла. Калі багатыя — значыць, ворагі працоўнага люду. І гэтым усё сказана! Іншая рэч тыя, хто ніякага спуску ўсім гэтым эксплуататарам не дае. Завяршаючы гаворку пра гэтае апавяданне, Пав. Хадарэнка рабіў такое падагульненне: «Мастацкая сіла апавядання «Фінал» у яго жыццесцвярджальнасці. Бальшавіцкая праўда заўсёды перамагае — такая ідэя гэтага апавядання». І гэта ў той час, калі канцоўка твора гучыць проста-такі парадыйна. Адна з гераінь Ганна, упэўніўшыся, што ўсё закончылася добра, не хавае радасці: «Трэба было забыць балючую рану ў сэрцы ды ісці сустракаць новы дзень з поўнымі даёнкамі цёплага пахучага сырадою».

Аднак і той жа Пав. Хадарэнка (нельга не аддаць яму належнае) не да ўсіх твораў, змешчаных у кнізе, паставіўся з гэткім захапленнем. Прынамсі, ён пісаў: «Апавяданне «Каля граніцы» — няўдача аўтара. Пячатка рыхласці, вадзяністасці ляжыць на ім. З першых жа старонак сустракаемся з даўно вядомым у літаратуры, па традыцыі пераходзячым з аднаго твора ў другі, дзедам-героем, які можа «такую штуку адкалоць, што малады пазайздросціць». Зразумела, дзед Ахрэм жыве на граніцы, ловіць шпіёна, у якім пазнае былога пана. Жывыя людзі ў гэтым апавяданні заменены дрэнна адціснутымі гравюрамі».

Ацэнка прынцыповая, а заўвагі слушныя. Адно дзіўна: гэтае апавяданне ў параўнанні з «Фіналам» усё ж куды мацнейшае ў мастацкіх адносінах. Чаму ж у такім разе Пав. Хадарэнка слабейшы твор пахваліў, а гэты раскрытыкаваў? Хутчэй за ўсё адказ трэба шукаць у палітычных рэаліях.

Апавяданне «Фінал», як ужо відаць, напісана ў рэчышчы тых арыенціровак, што ставіліся перад літаратурай у 30-я гады, і рэцэнзент, каб не наклікаць на сябе бяды, не мог не сказаць пра яго ўхвальных слоў. Іншая рэч — апавяданне «Каля граніцы». Канечне, у ім гэткім смелым ваякам паказаны «дзед-герой», які пераходзіў з твора ў твор. Але ж апавяданне не толькі пра затрыманне шпіёна. Дый усё падаецца як расказ самога Ахрэма, які злавіў свайго колішняга пана.

Уладзімір Кандрацэня паспрабаваў раскрыць у творы тую атмасферу, што панавала ў прыгранічных мясцінах, хутчэй за ўсё родных яму. Нездарма герой-апавядальнік, які выступае ад першай асобы, прызнаецца: «А я нядаўна прыехаў на канікулы ў родную вёску. Зімою дома не быў, так што пра многія падзеі я толькі што здагадваюся».

А Смалічы ж і знаходзіліся побач з тагачаснай дзяржаўнай граніцай з Польшчай. Але добрыя намеры ў аўтара засталіся толькі намерамі, чаго не мог заўважыць і Пав. Хадарэнка. А паколькі ён палітычнае чуццё выявіў, пахваліўшы «Фінал», дык тут не мог дазволіць сабе паставіцца да твора аб'ектыўна, не баючыся папрокаў, што тым самым ставіць пад сумненне смеласць і мужнасць савецкіх людзей, гатовых заўсёды затрымліваць ворагаў і шпіёнаў.

Не ўдалося і жаданне У. Кандрацэні перайсці на спавядальную манеру. Замест простай, гутарковай мовы ў творы з самага пачатку сустракаешся са складанымі канструкцыямі: «Мы касілі сёння дальнюю сенажаць, касілі ўвесь дзень пад гарачым сонцам каля самай граніцы.

Шчымліва ныюць зняроджаныя мускулы. Ва ўсім целе стомленасць, цяжкая, як каменная глыба, і прыемная, як пякучая, ясная радасць. Весела і на душы пры-

емная лёгкаць, — пэўна такія адчуванні поўняць чалавека, які зрабіў і для другіх людзей, і для самога сябе нешта вельмі каштоўнае. Той, хто цураецца працы, таму ніколі не адчуць багатай радасці адпачынку».

Разам з тым бачыцца і імкненне аўтара вызваліцца з палону другаснасці, прысутнічае жаданне пісаць проста і даходліва. А галоўнае — У. Кандраценя спрабуе глыбей зазірнуць у душу тых, пра каго расказвае. Прамоўленае дзедам Ахрэмам: «Хораша слухаць добрае слова чалавека, што ідзе з душы, — не выказаць, як хораша…» набывае глыбокі сэнс. Не сакрэт, што і сам пісьменнік жадаў стаць тым чалавекам, які прамаўляе пра іншых «добрае слова». Ён пільна прыглядаўся да блізкай яму сучаснасці, ён шукаў прататыпаў сваіх будучых твораў сярод людзей, якіх ведаў. А лепш за ўсё ведаў тую вёску, якая ў пераважнай большасці верыла ў змены, што адбываліся ў яе жыцці І, як бы там ні было, а людзі паступова прывыкалі да калектыўнай працы, хоць пры гэтым прыціранне адзін да аднаго адбывалася вельмі няпроста.

Што гэта сапраўды так, відаць і з апавядання «Капа сена». І гэты твор У. Кандраценi не пазбаўлены пэўных выдаткаў, што называліся вышэй. Слова яшчэ не заўсёды слухаецца пісьменніка. Не ўдаецца яму наблізіцца да мовы простай і разам з тым па-мастацку дасканалай, а ў дачыненні да гаворкі персанажаў — ярка індывідуальнай. Але адчуваецца ўжо і тое, што талент хутка сталее. Асобным празаікам для гэтага патрабавалася нямала гадоў, а У. Кандраценю хапала года-другога, калі прыняць пад увагу, што апавяданне «Капа сена» было ўпершыню апублікавана ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» ў 1936 годзе, у восьмым нумары.

Магчыма, і гэты твор меў на ўвазе Міхась Клімковіч, калі пісаў у артыкуле «Маладая свежая сіла» («ЛіМ», 1938, № 25, 6 мая): «…І яшчэ адна светлая рыса выпірае ў творчасці маладых пісьменнікаў — прынамсі, кажучы, аб празаіках, у тав. Краўчанкі Усевалада, і тав. Кандрацені Уладзіміра: яны пішуць пра новага чалавека вёскі не «умозрительно», не па прынцыпу стварэння антыпода таму селяніну, якога яны калісь ведалі, а па прынцыпу паказу новых якасцей чалавека, якія яны бачылі ў жыцці на вёсцы. Таму іх творы набываюць выключную цікавасць і значнасць у беларускай літаратуры».

І яшчэ адно слушнае меркаванне М. Клімковіча: «…Кандраценя валодае назіральнасцю і майстэрствам паказу мастацкай дэталі… Мастацкая дэталь: строгая прадуманасць сюжэта, што дае магчымасць паказаць асноўнага героя з некалькіх бакоў, раскрыць адну за другой рысы яго характару, — дапамаглі Кандраценю пазбегнуць схемы ў паказе новага чалавека, і даць яго так, як ён ёсць, з яго станоўчымі якасцямі і з спадчынным рабаціннем. Прычым робіцца гэта не гвалтоўным прысцёгваннем адмоўных рыс станоўчага тыпу, не выдумваннем такіх сітуацый, якія патрэбны толькі аўтару, а чытачу, — робіцца гэта простым расказам пра зусім няпростыя жыццёвыя здарэнні, якія прышлося асэнсаваць і зводзіць у адзіны сюжэтны малюнак».

Галоўны герой апавядання Астап з тых сялян, якія хоць і ўступілі ў калгас, але не сказаць, каб ён праяўляў асаблівую ініцыятыву ў працы. Хоць і не цураецца работы, тым не менш лішняга на сябе не возьме. Так атрымалася і гэтым разам, калі «з самага ранку брыгадзір паслаў на сена пяць падвод на… грудок». На адной з іх гаспадар Астап. Управіў як быццам няблага, але мужчыны не маглі не заўважыць, што адну капу ад лесу пакінуў. Ды Астапу што, з яго, як з таго гусака вада… Асноўная работа зроблена і хопіць… Давялося па сена ехаць найбольш гаспадарліваму Кірылу, а назаўтра ён выказаў Астапу ўсё, што наконт гэтага думаў:

«Ты, брат, не сярдуй, не надзімай губу (бачу ж я). Такая ганарыстасць, яна, брат, як пыл: чуць дзьмухні — от тым часам яе і няма. Не сярдуй на мяне, бо трэба ж адзін другому паказваць, дзе якая шчыліна робіцца. Не сярдуй, свае людзі — памірымся. А тую капу я забраў, хоць з возам насілу ў гумно ўехаў».

Як відаць у канцы твора, У. Кандраценя валодаў і здатнасцю, і талентам (дарэчы, найлепш яны праявіліся ў навеле «Генерал», пра якую гаворка пойдзе ніжэй).

Неўзабаве пасля гэтай размовы з Кірылам Астап прысутнічаў на сходзе калгаснікаў. І, як чалавек усё ж сумленны, не мог не адчуваць прыкрасці ад таго, што гэтак здарылася. Таму «як толькі назвалі яго прозвішча, ён усім целам падаўся наперад з цвёрдым намерам загаварыць пра сваю памылку». І як жа быў здзіўлены, калі пачуў, што «праўленне мяркуе прэміяваць за ўдарную, сумленную працу» лепшых калгаснікаў, у тым ліку і яго, Астапа. А ўсё таму, што Кірыла нікому нічога не сказаў. Заўважыўшы недаўменне Астапа, ён толькі ўсміхнуўся і, як гэта бывае звычайна сярод мужчын, прапанаваў усё належным чынам адзначыць.

Аднак найбольшая мастакоўская ўдача У. Кандрацені ў яго кнізе — невялікая аповесць «Каханне». Дарэчы, наконт гэтага тагачасная крытыка была аднадушная. Пав. Хадарэнка сведчыў: «Значным крокам наперад у творчым развіцці Кандрацені з'яўляецца яго невялікая аповесць «Каханне». У аповесці малады пісьменнік паставіў перад сабой вялікую, цяжкую, але патрэбную тэму — тэму выкарчоўвання перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей».

Рыгор Мурашка ў артыкуле «Літаратурныя парасткі» («ЛіМ», 1938, № 60, 30 кастрычніка) прыйшоў да высновы: «Аўтар ставіў перад сабой мэту паказаць, якім шляхам праходзіць фарміраванне свядомасці чалавека. З гэтай задачай ён у асноўным справіўся».

Ну, і вядома, была высокая ацэнка К. Чорнага. Дый нельга не прымаць пад увагу, што менавіта гэты твор У. Кандрацені быў перакладзены М. Дзягцярам на яўрэйскую мову і змешчаны ў часопісе «Штэрн» (1938, № 7).

Як ужо відаць з назвы, аповесць і сапраўды пра каханне. Але не толькі пра каханне як вышэйшае праяўленне пачуццяў двух людзей (у дадзеным выпадку Алеся і Марыны, якія не могуць адзін без аднаго), а і пра каханне ў больш шырокім разуменні, што патрапляе пад вызначэнне любоў. Любоў да чалавека. Любоў да дабра, справядлівасці, здатнасць не паступіцца сумленнем.

Аднак, калі ўнікнуць у аповесць глыбей, становіцца відочным, што безумоўная аўтарская ўдача не столькі вобразы Алеся і Марыны, хоць яны і пададзены і раскрыты пісьменнікам на дзіва праўдзіва і пераканаўча, колькі вобраз заможнага селяніна Арцёма: «Вось ужо другі год, як уступіў Арцём у калгас. Сям'я працуе не пакладаючы рук, ёсць на стале і хлеб і к хлебу. А цяпер такое ўрадзіла жыта, што сярпа не ўбіць — густое ды высокае, на працадзень яшчэ больш прыдзецца».

Толькі б радавацца чалавеку! Ды дзе там! Арцём не толькі працалюбівы, а і сквапны. Ён пераступіў ужо тую мяжу, што аддзяляе звычайнае жаданне жыць заможна ад рашучасці любым спосабам разбагацець. І У. Кандраценя не ідзе супраць жыццёвай праўды, калі паказвае свайго героя менавіта такім, а не іншым: «Аднак унутры гняздзіцца неадступнае назойлівае пачуццё, смутна будзіць думку: «Каб аднаму гэтулькі багацця… От жыў бы, паміраць не трэба! Ну, але ж такі ўсякаму трэба!»

А дзе сквапнасць, прага нажывы любой цаной, там і паўкроку да подласці. Акурат так і адбылося з Арцёмам, калі ён заўважыў грошы, якія згубіў Алесь. Сума немалая, бо Алесь працаваў сакратаром сельсавета, і вёз палучку. Прага нажывы і штурхнула Арцёма на тое, каб схаваць іх. Не спыніла нават тое, што Алесь кахае яго дачку Марыну.

Як ні ў адным сваім творы, У. Кандраценя паўстае ў аповесці тонкім псіхолагам. Ён не пакідае без увагі нічога, што адбываецца ў душы Арцёма пасля таго, як той прыхаваў грошы пад кустом. У Арцёма суседнічае некалькі пачуццяў. Ці не на першым месцы радасць, што займеў такое багацце. Разам з тым не пакідае яго і трывога, што ўсё заўважыў Саўка, які знаходзіўся поруч з ім. А яшчэ, няхай і на самым сподзе душы, засталося ў яго пачуццё сумленнасці, і яно дае аб сабе знаць.

Найвышэйшае дасягненне Кандрацені-псіхолага дыялог, што адбываецца ў Арцёма з Саўкам. Як высветліцца неўзабаве, той пра схаваныя грошы ўсё ведае, бачыў, як Арцём падабраў іх. Але да пары да часу маўчыць. І тым самым выклікае яшчэ большы неспакой у Арцёма:

«Арцём палахліва скасавурыў схаванае ў сівізне вока, яму здалося, што Саўка бачыць яго навылёт і ўсё ведае… Яго непрыемна кальнуў страх, цела зрабілася нейкім мякка-бязвольным, а дзесьці зусім блізка, за кустом пачуўся сухі шорах, ён прыгадаў Арцёму шэлест трохрублёвак… Было страшна, а ў глыбіні нутра нешта млява ныла: «Гэтулькі грошай!..» І ён выразна чуў як шамацяць папяровыя грошы… Страх ледзяным холадам абдаваў сэрца, і Арцём не стрываў:

— Што гэта?

— Дзе?

— Чуеш… шапоча, як жывое…

— Ды нічога. Грошы…

Ахоплены жахам, Арцём аж прыкіпеў да зямлі.

— Што ты… што, — прашаптаў ён, сіняя пляміна на шчацэ пабялела. — Што ты выдумляеш?..»

Падобная сітуацыя, калі Арцём з-за свайго пастаяннага страху трапляе ў камічнае становішча, адбываецца і ў канторы калгаса. Нездарма кажуць, што на злодзеі і шапка гарыць. Калі старшыня запытаўся: «Вы забралі грошы?», Арцём ледзь не падскочыў:

«— Грошы?.. Якія грошы?..

— Не ведаеце?

— Грошы… Нашто мне чужое?..

— Тут гаворка не пра чужое, — усміхнуўся старшыня і ад задавальнення паціснуў шырокімі плячыма. — Вы свае забярыце, у праўленні грашовы аванс раздаюць».

Канечне, сёння зводзіць усё ў характары і паводзінах Арцёма да перажыткаў капіталізму — у лепшым выпадку смешна. І наўрад ці трэба ўспрымаць прасталінейна словы Саўкі, сказаныя Арцёму, калі той дае сваю ацэнку ягонай сквапнасці: «От што, чалавеча. Табе і душу трэба падмаладзіць: на ёй многа сажы асела са старога коміна. Завесці б цябе ў лазню ды венікам, венікам гарачым. Каб тая сажа змылася».

Тым не менш, працягваючы гэтую гаворку, нельга не адзначыць, што на душы Арцёма і сапраўды яшчэ шмат… сажы. Ды не нейкай там старой, звязанай з усімі перажыткамі, а «сажы» дваістага характару. Як быццам несумяшчальнае суседнічае: працалюбства і сквапнасць. Апошняй, як відаць пасля ўсяго перажытага Арцёмам, бадай, паменшае, а наконт працалюбства, дык паболей бы такіх рупных і старанных гаспадароў на зямлі.

На жаль, прызыў у войска не лепшым чынам сказаўся на творчай актыўнасці У. Кандрацені. Пасля выхаду кнігі «Любоў» ён змог апублікаваць яшчэ толькі тры творы: апавяданні «Корч» («Полымя рэвалюцыі», 1940, № 1), «Мая сястра» («Полымя», 1941, № 2) і навелу «Генерал» («Полымя», 1941, № 3). Хоць, хутчэй за ўсё, нешта засталося і ў аўтарскіх запасніках і не было своечасова прапанавана ў друку, а з пачаткам вайны недзе загінула.

На апавяданне «Корч» поруч з іншымі творамі гэтага жанру, як напісанымі самім У. Кандраценем, так і яго калегамі па пяры, звярнуў увагу ў артыкуле «Агляд апавяданняў 1940 года» («Полымя», 1941, № 3) М. Клімковіч. Пры тым аналіз яго вынес на пачатак сваёй гаворкі: «…Прозу 1940 года можна і патрэбна ацаніць як цвёрды крок беларускай літаратуры наперад па шляху больш глыбокага адлюстравання рэчаіснасці, большага яе набліжэння да сучаснасці, як бы не намагаліся дамарошчаныя скептыкі ад літаратурнай крытыкі давесці адваротнае. Апавяданні Лынькова, Кандрацені, Зарэчнага, Белянічова, Семяніхіна, аповесці Стаховіча, не кажучы ўжо аб больш грунтоўных празаічных творах 1940 года — яркія сведкі гэтаму».

І тут жа М. Клімковіч канкрэтызуе свае развагі: «Возьмем для прыкладу апавяданне Кандрацені «Корч». Праўда, гэтае апавяданне не без заган і ў сэнсе кампазіцыі і ў сэнсе выразнасці абмалёўкі герояў: лірычныя адступленні і афарызмы

апавядання не заўсёды сягаюць мэты, бо не заўсёды ў іх заключаны багаты жыццёвы вопыт. Аднак апавяданне дае поўнае жыццёвае ўяўленне аб тым чалавеку, аб новых адносінах да працы, якія скаліся ў лепшай перадавой часткі сялянства ў працэсе барацьбы за калектывізацыю. Гэтае апавяданне — кавалак жыцця, якое паказана радам трапна знойдзеных мастацкіх дэталей».

Заўвагі М. Клімковіча, калі адкінуць у развагах выразы, характэрныя для свайго часу, слушныя. Сапраўды У. Кандраценя не ўсюды і не заўсёды належным чынам справіўся з матэрыялам, пакладзеным у аснову твора. Як і адзначалася ўжо, яму часам цяжка дасягнуць той шчырасці, непасрэднасці ў гаворцы, без якой нельга, калі расказ вядзецца ад першай асобы. Разам з тым, пісьменнік імкнецца пераадолець гэта. А яшчэ, гэтым разам, з самага пачатку заінтрыгоўвае чытача:

«Аратыя паехалі ў Лубяны, за гумнамі аддалялася жалезнае сакатанне калёс.

— Няшчасце? Якое няшчасце?..

На затравелым росным прыгуменні я паспешліва запрагаў каня: сёння будзе ў нас гарачы дзянёк! Толькі ўзяўся засупоньваць хамут — выбягае з-за гумна брыгадзір наш, Васіль. Белая шапка ўсхвалёвана збіта на патыліцу, а ў руцэ барак ад параконнага плуга: на бойку — няйначай спяшыць брыгадзір. Ён ніколі не ходзіць, як людзі, а ўсё подбегам, подбегам: мала часу чалавеку на багатыя справы яго.

Убачыўшы мяне, ён раззлавана сказаў:

— Што тут нарадзіш! Няшчасце…»

Як даведаўся апавядальнік, памёр адзін з калгаснікаў Антон, якога ён добра ведаў. Далейшы расказ — вяртанне на шмат гадоў назад. Рэтраспекцыя патрэбна, каб больш даведацца пра Антона і атрымаць уяўленне аб тым, што ж падштурхнула яго да заўчаснай смерці.

Уладзімір Кандраценя, быццам не апавяданне піша, а паведвае чытачу даўняе паданне: «… Даўным-даўно, пэўна ж не за маю памяць у звонкім старажытным бары, каля балацяных Радовак, ускапалі працавітыя нашы прадзеды заросшую драцяным верасам прагаліну, шырока раскарчавалі яе лес і назвалі гэтае месца Лубянамі». Застаўся стаяць сярод поля толькі адзін «стары разлапісты дуб». Як ні стараўся гаспадарлівы Антон, ды не змог зваліць яго. На шчасце, неяк ударыла ў дрэва маланка, спляжыла яго, спаліла. Ды пень, зразумела, усё ж застаўся. Вырашыў Антон яго выкарчаваць. Сусед дапамагаць адмовіўся, таму давялося ўсё рабіць самому: «Загнаў пад вытырклую лапу карча падзвіжнік і з усяе сілы пацягнуў уверх, быццам хацеў сарваць усю накіпеўшую горыч. Канец падзвіжніка на той бок карча ўеўся ў зямлю. Антону ж здалося, што гэта корч паддаецца. Яшчэ раз паднатужыўся з гарачкі — і тут здарылася тое, чаго ніяк нельга было прадбачыць»… Антон «з мярцвеючым сэрцам паваліўся на раллю».

Надарваўся Антон ад такой працы, а вось да лекара своечасова і не звярнуўся, а калі праз шмат гадоў трапіў у бальніцу, то ўжо было позна.

Тое, што здарылася з ім, апавядальнік растлумачвае, як яшчэ адно сведчанне таго, як губіць чалавека… праклятае мінулае. І шле ён «страшнае праклящце старому свету». І дадае: «Няхай не змаўкае гэтая святая нянавісць». І, вядома ж, тое, што было, супрацьпастаўляе таму, што ёсць: «Ляжыць цяпер поле каля ног нашых — чыстае, прасторнае, без задзірванелых меж. Яно то ціха спускаецца ў нізіну, то падымаецца плаўнымі ўзгоркамі, сходжанае нашымі нагамі поле — шырокае, шырокае…

За работу, хлопцы!»

Сёння для нас у гэтым апавяданні, безумоўна, важны не «класавы падыход». Нас цікавіць, наколькі ўдалося аўтару раскрыць характар галоўнага героя. І тут, несумненна, У. Кандраценя дасягнуў поспеху. Хоць месцамі і не абышлося без выдаткаў (прынамсі, і М. Клімковіч заўважыў, што ненатуральнымі выглядаюць перажыванні Антона перад тым, як легчы ў бальніцу), у цэлым паўстае праўдзівы характар чалавека-працаўніка, сапраўднага гаспадара на зямлі.

Але, гаспадара! Відочна ж, што за корч Антон таму і ўзяўся, што не хацелася яму, каб той тырчаў на полі. Узяўся, як і мусіць брацца гаспадар, жадаючы ўсё

давесці да ладу. Такое сцвярджэнне, канечне, ідзе насуперак таму, што ўкладваў у вобраз свайго галоўнага героя сам аўтар. Ды не будзем гэтаму здзіўляцца. Галоўнае, што і праз не адзін дзясятак гадоў пасля свайго напісання, апавяданне «Корч» чытаецца з цікавасцю, выклікае роздум.

Што да апавядання «Мая сяброўка», дык сутнасць таго, што хацеў сказаць У. Кандраценя, можна вызначыць гэтымі развагамі героя-апавядальніка: «Можа, не раз яшчэ стрэну я журботна-ціхія сонечныя дні восені, але ніколі не забуду, беражна пранясу ў сэрцы да канца дзён маіх памяць аб верасні трыццаць дзевятага года».

Шкада аднак, што нічога новага гэты твор для разумення тых падзей не дадае, усё пабудавана па схеме, у якой абавязкова знаходзіцца і месца тым, хто эксплуатуе народ і здзекуецца з яго.

У навеле ж «Генерал» (як пазначана аўтарам, яна пісалася ў лютым 1941 года, у Полацку, дзе на той час служыў У. Кандраценя ў арміі) вельмі ярка і непасрэдна раскрыліся гумарыстычныя якасці таленту пісьменніка. А яшчэ адразу адчуваецца, наколькі больш упэўнена трымае ён пяро ў руках. У. Кандраценя ўжо не проста піша, а дакладна адчувае слова, старанна ўзважваючы яго ў думках, перш чым паставіць у радок: «Некалькі дзён засаб стаялі звонкія маразы. Нават высокае неба нагадвала сабою сінявата-халодную размашыстую ільдзіну.

Па вуліцах мястэчка людзі не хадзілі, а проста бегма беглі, каб хутчэй схавацца ў хату.

А ў суботу неба пашарэла, стала серабрыстым, быццам выкаваным з настыўшага на марозе металу, і здавалася — простым вокам заўважыць можна было ў паветры мігатлівыя матавыя іскаркі, якія халодным агнём абдавалі твар і рукі… А тут яшчэ к абеду ўсхадзіўся вецер — няласкавы госць далёкай поўначы.

У намерзлую сцяну Іванавай хаты глуха пастуквала няшчыльна прыбітая аканіца, пастуквала ўпарта, быццам намагалася разбудзіць гаспадара, задрамаўшага на цёплым чэране печы».

А сам гаспадар — былы салдат рускай арміі, які любіць паўспамінаць пра колішнія паходы. І як жа ўзрадаваўся Іван, калі даведаўся, што ў іхнюю хату прыйдзе адпачываць сам генерал — акурат праводзіліся вайсковыя вучэнні. Праўда, ён здзівіўся, калі той спыніўся на парозе. Генерал быў малады, амаль юнак: «Хлопцу на выгляд можна было даць не больш дваццаці пяці год».

Ды хіба ўзрост важны?! Галоўнае, генерал аказаўся чалавекам дасведчаным і ў яго з Іванам завязалася шчырая і непасрэдная гаворка. Найперш, канечне, пра справы вайсковыя.

Івана можна зразумець. Ён жа — «жыхар маленькага заходнебеларускага мястэчка, загубленага сярод дрымучых лясоў Белавежы», а тут гэткі чалавек у ягонай хаце, дый размаўляе нароўне, не глядзіць на цябе звысака: «Каб не позні час, то Іван гатоў бы ўсе хаты Залесся ababегаць, каб расказаць людзям пра мудрага генерала, «выказаць сваё захапленне».

Як жа здзівіўся Іван, калі назаўтра даведаўся, што генерал начаваў у … суседа. А прычына ўсяму — яго забыўлівасць. Калі вяскоўцы абмяркоўвалі, як лепей прывецiць вайскоўцаў, ён, запрашаючы да сябе генерала, памылкова назваў не нумар сваёй хаты, а суседавай, і мусіў размаўляць усяго-наўсяго з … шафёрам генерала.

Такі ён, апошні твор У. Кандрацені, які дайшоў да нас. Дасціпны, гумарыстычны і разам з тым глыбокі па змесце. Пісьменнік з любоўю абмаляваў характар свайго героя, паказаўшы яго чалавекам хоць і простым, ды не пазбаўленым пачуцця ўласнай годнасці, здатным паразважаць усур'ёз і аб тым, што ў свеце дзеецца, а не толькі ў яго роднай старонцы.

Магчыма, з цягам часу і з'явіцца магчымасць перавыдаць лепшае з напісанага У. Кандраценем. А пакуль… Пакуль мы павінны памятаць, што працаваў у беларускай літаратуры такі пісьменнік, жыццёвы лёс якому адмераў усяго дваццаць шэсць гадоў. Але, як для свайго ўзросту, зрабіў ён не так і мала.

**Вольга БРЫЛОН**

# КОЖНАЯ ПРЭМ'ЕРА — ПАДЗЕЯ ВЯЛІКАЙ ЗНАЧНАСЦІ

***У** 2010—2012 гг. Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Казінца на сцэне Белдзяржфілармоніі паставіў чатыры буйныя музычна-тэатральныя спектаклі: «Гусляр» Ігара Лучанка, Уладзіміра Мулявіна, «Песня пра долю» У. Мулявіна, а таксама «Апокрыф» і «Люцыян Таполя» Ларысы Сімаковіч. Гэта своеасаблівая тэтралогія — сапраўдная вяха ў найноўшай гісторыі музычнага мастацтва Беларусі, бо кожная прэм'ера ператварылася ў падзею вялізнай значнасці ў культуры нашай краіны. Пра тое, як ствараліся гэтыя адметныя пастаноўкі, і апавядаецца ў нарысах музыказнаўцы Вольгі Брылон.***

## БЕЛАЕ І ЧОРНАЕ

### Ігар ЛУЧАНОК. Уладзімір МУЛЯВІН.

### Паэма-легенда «Гусляр» паводле паэмы Янкі Купалы «Курган»

**Дзеючыя асобы і выканаўцы:**

*Гусляр — Пётр Ялфімаў.*

*Князь — Ян Жанчак.*

*Світа Князя, госці — Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік і дырыжор — Наталля Міхайлава.*

*Вакальны квартэт у складзе:*

*Сяргей Мядзведзеў,*

*Павел Хасанаў,*

*Уладзіслаў Даніловіч,*

*Сяргей Савіцкі,*

*Фальклор-тэатр «Госціца».*

*Канстанцін Гарачы (фартэпіяна, клавішныя).*

*Мастак — Валянціна Лойка.*

*Рэканструкцыя партытуры, аркестроўка — Аляксандр Крамко.*

*Рэжысёр-пастаноўшчык — Ларыса Сімаковіч.*

*Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народны артыст Беларусі, прафесар Міхаіл Казінец.*

*Прэм'ера адбылася 17 снежня 2010 года.*

Добра памятаю той дзень, калі прапанавала Міхаілу Антонавічу аднавіць песняроўскую праграму «Гусляр». Гэта было ў апошнія дні студзеня 2009-га, адразу пасля нашумелага канцэрта нашага аркестра з Іосіфам Кабзонам, які прылятаў у Мінск, каб выступіць у дзень нараджэння Мулявіна. Каласальны рэзанансны канцэрт з удзелам мэтра адняў шмат сіл, тым больш, што адбываўся ён 12 студзеня, — а гэта значыць, што ў сувязі з падрыхтоўкай праграмы ўсе мы, практычна, не бачылі ні Новага года, ні Каляд.

А перад гэтым быў яшчэ вельмі напружаны снежань... Пра адпачынак не ішло ніякай размовы! Але цяпер, пасля звышінтэнсіўнага працоўнага графіка з'явілася магчымасць крыху расслабіцца. І ў першую чаргу такую ж магчымасць атрымаў, канечне ж, сам Казінец.

Я ўжо колькі часу выношвала ідэю пастаноўкі «Гусляра», але не было зручнага моманту, каб яе агучыць. І вось, калі мы сустрэліся пасля невялічкіх і цалкам заслужаных «канікулаў», я асмелілася.

— Міхаіл Антонавіч, даўно хацела спытаць Вас. Як бы Вы паглядзелі на аднаўленне праграмы «Песняроў» «Гусляр» па Купалу? Па-мойму, гэта цікава зрабіць у аркестры!

Казінец доўгім позіркам паглядзеў на мяне і нічога не адказаў. Ён задумаўся, але пасля невялікай паўзы пачаў разважаць услых:

— Трэба падумаць. Ідэя добрая, але ёсць жа кантата Лучанка «Курган», я яе памятаю! Я хачу ўбачыць партытуру Лучанка. Можа, лепш узяць Лучанка, а не тое, што зрабіў Мулявін, ці спалучыць іх?

...На другі дзень з раніцы я патэлефанавала Ігару Міхайлавічу. Канечне, мэтай званка было даведацца ў яго наконт партытуры «Кургана», але мне хацелася хутчэй абрадаваць яго навіной, што аркестр будзе аднаўляць «Гусляра». Аднак Лучанок чамусьці не праявіў ніякіх эмоцый. Потым спытаў:

— Хто будзе дырыжыраваць?

— Казінец.

Больш Ігар Міхайлавіч ніякіх пытанняў не задаваў. Аркестравай партытуры кантаты, па ягоных словах, дома не было, і ён параіў звярнуцца ў бібліятэку Саюза кампазітараў.

Міхаіл Антонавіч сам схадзіў туды і знайшоў гэтую партытуру. Кантата «Курган» была напісана І. Лучанком для салістаў, змешанага хору і сімфанічнага аркестра ў далёкім 1962 годзе. Гэта студэнцкі твор Ігара Міхайлавіча, у якім, безумоўна, шмат цікавых драматургічных і вобразных знаходак, а галоўнае — мноства цудоўных мелодый. Але праграма «Гусляр», якую Мулявін у 1978 годзе стварыў з ансамблем «Песняры» на падставе кантаты «Курган», зусім іншы твор, цалкам пераасэнсаваны ў плане інструментарыя, драматургіі, вакальнай падачы. Спалучаць іх разам немагчыма. Так лічыла я, але апошняе слова заставалася, зразумела ж, за Міхаілам Антонавічам. Ён папрасіў перапісаць яму песняроўскую праграму «Гусляр», каб параўнаць яе з «аналагавай» партытурай Лучанка. Прайшло яшчэ колькі часу, калі, нарэшце, Казінец абвясціў сваё рашэнне.

— Будзем аднаўляць праграму «Песняроў» да 80-годдзя аркестра, — як заўсёды, скорагаворкай сказаў ён. — Час яшчэ ёсць. Саша Крамко зробіць партытуру, прыцягнем хор Міхайлавай.

Закончыўшы размову, Казінец тут жа пабег у суседнюю рэпетыцыйную залу да кіраўніка Дзяржаўнага камернага хору Наталлі Міхайлавай, каб дамовіцца з ёй аб сумеснай працы. Ведаю гэтую ягоную рысу: калі загараецца нейкай ідэяй, то неадкладна і самаручна вызначае для сябе важныя ключавыя пытанні...

Аркестр чакала вялікая праца, хоць часу было нават зашмат: 80-годдзе аркестра планавалася адзначаць у снежні 2010-га, а, значыць, наперадзе амаль два гады! Як доўга чакаць...

Аляксандр Крамко прыступіў да стварэння партытуры «Гусляра» ў снежні 2009 года. Потым я пыталася ў яго, колькі часу ён затраціў непасрэдна на гэта.

Аказалася, рэкордна мала — усяго тыдзень! Я заўсёды захапляюся гэтым рэдкасным дарам нашага цудоўнага музыканта Крамко. Як у «Гусляры», так і потым — у «Песні пра долю» — ён працаваў выключна па слыху. З гэтай нагоды жартуе, што напісаў вялізныя «дыктанты».

Нішто сабе дыктанты! Для таго, каб асэнсаваць маштаб ягонай працы, трэба ўявіць сабе, што ўся творчая спадчына «Песняроў» — гэта выключна аўдыё- і відэаматэрыялы. Ніякіх нот не захавалася, — такі вось сумны факт. І Крамко аднаўляў мулявінскія творы, як сапраўдны майстар-рэстаўратар — асцярожна і клапатліва, стараючыся пачуць і зберагчы кожную ноту інструментальнага і вакальнага гучання. А яго задача ж удвайне складаная, бо ён распісвае пачутае непасрэдна на аркестр і дасягае стопрацэнтнага аднаўлення гучання. Сапраўды ювелірная праца, выкананая да таго ж з неверагоднай хуткасцю!

Бясспрэчна, у асобе Крамко Міхаіл Антонавіч мае неацэннага памочніка, ролю якога цяжка пераацаніць. Можна адназначна сцвярджаць: уся праца па аднаўленні «Гусляра» і «Песні пра долю» на пачатковым этапе пачыналася не толькі з дырыжорскай волі Казінца, але і дзякуючы неверагоднаму аранжыравальніцкаму таленту Крамко, які з юнацтва заўзяты прыхільнік «Песняроў» і ведае ледзь не на памяць усе лепшыя іх творы — ад песень да буйных праграм.

Але, паўтаруся: да таго моманту, як аркестр прыступіў да працы над «Гусляром», прайшло вельмі шмат часу.

Партытура была напісана за год да прэм’еры. Прыкладна тады ж абмяркавалі кандыдатуры выканаўцаў галоўных партый. Міхаіл Антонавіч прапанаваў Пятра Ялфімава ў ролі Князя, а я — Зміцера Вайцюшкевіча ў ролі Гусляра Казінец прыхільна паставіўся да гэтай прапановы, тым больш што Вайцюшкевіч зусім нядаўна вельмі артыстычна праспяваў у адным з нашых канцэртаў жартоўную песню «Як я ехаў да яе» ў апрацоўцы Мулявіна. Яго амплуа паэта-барда, як здавалася, удала спрацавала б на вобраз знанага купалаўскага Гусляра.

Атрымаўшы карт-бланш ад боса, адразу патэлефанавалі Вайцюшкевічу і прадзюсару Ялфімава Таццяне Касмачовай і адразу ж атрымала згоду абодвух бакоў. Праўда, Таццяна неяк мімаходам сказала, што Пётр будзе спяваць партыю Гусляра, аб якой даўно марыў. Я была так задаволена вынікам перамоў у прынцыпе, што тады не звярнула на гэта асаблівай увагі: у працэсе работы ўсё ўладкуецца, тым больш, што да прэм’еры яшчэ столькі часу!

Стратэгічна важнай ідэяй Міхаіла Антонавіча была прапанова запрасіць да ўдзелу ў пастаноўцы Дзяржаўны камерны хор на чале з Міхайлавай. Як сапраўдны мастак, Казінец адразу ж адчуў, што высакароднае гучанне змешанага хору ўпрыгожыць вакальны строй, надасць яму яшчэ большую глыбіню і абдымнасць. Але адкрытым пакуль што заставалася галоўнае пытанне: хто ажыццявіць пастаноўку?

...У чэрвені 2010 года тэлефаную Касмачовай з напамінам аб дамоўленасці. Таццяна ставіць перад фактам: калі Пётр і ўдзельнічае, дык толькі ў партыі Гусляра... Усведамленне таго, што Ялфімаў дае прынцыповую згоду ўдзельнічаць у праекце, падказвае, што трэба хутчэй згаджацца на ўсе яго ўмовы, каб раптам, не дай бог, не перадумаў! Да таго ж сам Казінец стаў першым, хто хацеў бачыць Пятра ў гэтай пастаноўцы ў любым «выглядзе» і пры любым раскладзе. «Адключыўшыся» пасля размовы з Касмачовай, выдыхаю паветра і разумею, што наперадзе цяжкая размова з Вайцюшкевічам, якому прыйдзецца адмаўляць: партыя Князя, якую ў «Песнярах» выконваў Улад Місевіч, а запісаў Анатоль Кашапараў, напісана для высокага голасу і зусім не падыходзіць да яго барытонавай тэсітуры. Да гонару Зміцера, ён успрыняў гэта з паразуменнем. Мы развіталіся па-сяброўску.

Вакантнай заставалася кандыдатура Князя. На яго ролю патрабаваўся моцны эстрадны вакаліст з высокім голасам. І першым, на каго прыпаў выбар, аказаўся

Ян Жанчак, з якім наш аркестр быў знаёмы па нядаўнім канцэрце «Незабыўнае», прысвечаным 40-годдзю «Песняроў». Ян вельмі экспрэсіўна праспяваў тады лучанкоўскія песні «Вераніка» і «Жураўлі на Палессе ляцяць».

Ян Жанчак — рок-выканаўца з усімі вынікаючымі наступствамі. Гэткі замкнёны на рок-музыцы, абаяльны «анархіст-пафігіст» з выключным музычным талентам і немагчыма прыгожай знешнасцю. Прапанову праспяваць Князя ў «Гусляры» ён успрыняў без усялякага энтузіязму, — гэта было яму зусім нецікава, так што роля Князя пакуль што па-ранейшаму заставалася вакантнай.

Улетку 2010 года, на сыходзе канцэртнага сезона, з асобай рэжысёра, нарэшце, вырашылася: згоду на працу дала Сімаковіч, вядомая сваёй апантанасцю беларускай ідэяй. Прапанова паставіць «Гусляра» прыйшлася ёй вельмі даспадобы. Ларыса — высокапрафесійны музыкант, валодае некалькімі спецыяльнасцямі. Яна — кампазітар, хормайстар, піяністка і спявачка! Да таго ж доўгія гады кіруе фальклор-тэатрам «Госціца», дзе выступае як харэограф. А рэжысёрскае рамяство засвоіла ў філармоніі, дзе працуе і зараз. Канечне, Сімаковіч адразу пацікавілася наконт выканаўцаў галоўных партый. А даведаўшыся, што яе сын Ян Жанчак не даў згоды на партыю Князя, вельмі збянтэжылася.

— Дурань! — вырвалася ў яе. — Не разумее, што гэта за роля! Ён не «ўехаў»!.. Я буду размаўляць з бацькам, павінны ўгаварыць. Я бачу яго побач з Пецем.

Бацька ў Яна — вядомы беларускамоўны паэт Барыс Жанчак. Канечне ж, аргументы бацькоў былі для Яна куды больш значныя, дый у якасці рэжысёра выступала маці... Так Ян трапіў у праект.

Працу над «Гусляром» меркавалася пачаць увосені 2010-га, напачатку новага канцэртнага сезона. Па прапанове дачкі Мулявіна Марыны да ўдзелу ў пастаноўцы запрасілі таксама групу «Лявоны», салістам якой з'яўляўся Ян Жанчак.

...Як толькі скончыўся летні адпачынак, Казінец пачаў працу над музычнай партытурай. Музыка «Гусляра» аркестрантамі была сустрэта вельмі прыхільна. Рэпетыцыі праходзілі гладка, у працоўным рэжыме, хоць у адсутнасць салістаў і хору артыстам аркестра няпроста скласці цэласнае ўражанне аб творы. Да ўдзелу ў праекце запрасілі выдатнага беларускага джазавага піяніста Канстанціна Гарачага, які іграў то на раялі, то на электронных клавішах і прымяняў з іх дапамогай неабходныя гукавыя спецэфекты. Паступова вобразны строй і змест сталі праступаць усё ярчэй. На рэпетыцыі пачала прыходзіць рэжысёр Сімаковіч, якая даволі смела ўмешвалася ў працу дырыжора, перапыняла яго, спрачалася... Такое безапеляцыйнае парушэнне субардынацыі, аднак, сустракалася Казінцом з нечуванай цярпімасцю, выкліканай жаданнем як мага якасней зрабіць агульную работу. І чым больш насядала Ларыса, тым больш спакойным рабіўся Казінец. Толькі аднойчы, калі Сімаковіч у творчым запале пачала патрабаваць ад яго ўдакладніць дырыжорскі жэст, ён не вытрымаў і гучна прамовіў:

— Пакажыце самі!

Наступіла мёртвая цішыня, Ларыса змоўкла, ад нялоўкасці ўсе апусцілі вочы, але Міхаіл Антонавіч тут жа працягнуў рэпетыцыю і хутка зняў напружанасць. Музыканты ведаюць, што падобныя ўмяшальніцтвы ў працу дырыжора не столькі не прынятыя ў практыцы, колькі недапушчальныя ў прынцыпе. На рэпетыцыі пануе Дырыжор, ён і толькі ён — гаспадар працэсу, ён і толькі ён прымае рашэнні, дыктуе сваю волю аркестрантам. Ніхто апроч яго не мае права ўмешвацца ў партытуру. Але Казінец цярпліва выслухоўваў Сімаковіч і заўсёды імкнуўся зразумець пажаданні, якія яна акрэслівала перад ім як рэжысёр-пастаноўшчык. А шматаблічная Ларыса яшчэ рыхтавала «Лявонаў» у якасці хормайстра, а таксама ставіла пластычныя нумары з «Госціцай» і навучэнцамі харэаграфічнага вучылішча. Таму Міхаіл Антонавіч, які заўсёды цэніць чужыя таленты, так беражліва ставіўся да ўсіх меркаванняў і пажаданняў Сімаковіч.

Нарэшце, пачаліся сцэнічныя рэпетыцыі. Аркестр размясціўся па баках

сцэны, а ў цэнтры па загадзе рэжысёра была ўсталявана высокая прыступкавая канструкцыя, задрапіраваная ў чорным колеры. Яна сімвалізавала курган. З яе ў акружэнні «чорнай» світы апускаўся пры першым з'яўленні Князь, і на яе ж узносіўся няскораны Гусляр.

На авансцэне ўсталявалі ўнушальны трон, седзячы на якім, грозны Князь назіраў за гасцямі і дапрошваў Гусляра. Артысты хору ў ролі гасцей у асобных эпізодах з'яўляліся на сцэне, але пераважна знаходзіліся і спявалі ў ложы побач са сцэнай. Ложа была задрапіравана гэтак жа, як трон — бліскучай матэрыяй, якая эфектна зіхцела ў промнях пражэктараў. «Лявоны» стаялі ў цэнтральнай кропцы сцэны. Яны як апавядальнікі, ад імя якіх разгортваўся сюжэт, увесь час знаходзіліся на ёй. Пётр Ялфімаў у ролі Гусляра па волі рэжысёра разам з маладымі артысткамі міманса дзейнічаў і на авансцэне, і ў глядзельнай зале. Дарэчы, і Жанчак, і Ялфімаў спявалі ў так званыя гарнітурныя мікрафоны (яны мацуюцца за вухам, а база — на поясе), што дазваляла ім свабодна рухацца, а Ялфімаву — яшчэ ўдзельнічаць у пластычных сцэнах.

Свабодная прастора сцэны была вельмі невялікай, але рэжысёру ўдалося арганічна запоўніць яе так, што аркестр і дырыжор, якія стваралі музыку тут і цяпер, рабіліся непасрэднымі ўдзельнікамі спектакля. Важную ролю ў рэжысёрскай канцэпцыі ігралі вобразы анёлаў: Белы (трапяткая прыма «Госціцы» Саша Грахоўская) — анёл-захавальнік Гусляра, Чорныя (артысткі міманса) — цёмныя сілы, якія нібы кланіраваліся з аднаго, вялікага Зла. Яны безаблічныя, усюдыісныя, шматлікія, і ад іх няма выратавання. Чорныя анёлы забівалі Гусляра, эфектна выносячы яго на доўгіх «сярэдневяковых» мячах за кулісы.

Набліжаўся дзень канцэрта. Складанасць гэтага праекта і ў тым, што «Гусляра» планавалася паказваць у 2-м аддзяленні, а ў 1-м з аркестрам павінны былі іграць яго вядучыя салісты, — як-ніяк канцэрт юбілейны! Аркестр вымушаны быў рыхтаваць свайго роду дзве прэм'еры ў адзін вечар, бо праграма 1-га аддзялення таксама патрабавала грунтоўнай падрыхтоўкі, у тым ліку зусім новых твораў.

І вось, нарэшце, прэм'ера. Перапоўненая зала (яблыку няма дзе ўпасці!). Міністр культуры Павел Латушка віншуе аркестр з юбілеем. У сваім прывітальным слове ён гаворыць, што творчасць калектыву з'яўляецца «залатым музычным фондам Беларусі» і зачытвае адрас ад Прэзідэнта з пажаданнямі «невычэрпнага натхнення». Пачынаецца канцэрт. Дырыжоры Казінец, Аляксандр Высоцкі і Аляксандр Крамко змяняюць адзін аднаго за пультам. Пры гэтым усе яны сядзяць на сцэне па цэнтры — так задумаў Міхаіл Антонавіч, а рэалізаваць ідэю дапамагае незвычайная рассадка аркестра, адразу «зараджаная» на 2-е аддзяленне.

Адзін за адным гучаць нумары з бліскучымі сола цымбалістак Ларысы Рыдлеўскай і Галі Лазовік, баяніста Улада Плігаўкі, флейтыста Славы Помазава... Крамко з дудой наперавес павольна ўзнімаецца на сцэну прама з глядзельнай залы ў інструментальнай п'есе «Курган» (яшчэ адно ўдалае ўвасабленне паэмы Купалы кампазітарам Уладзімірам Кур'янам) і зрывае шквал авацый віртуознай ігрой на сваім экзатычным інструменце, а феерычная аркестравая п'еса «Бесаме мучо» ў эфектнай аранжыроўцы Крамко канчаткова ўзводзіць і «запальвае» публіку. Але ўсе з нецярпеннем чакаюць прэм'еры «Гусляра», якая павінна стаць кульмінацыяй вечарыны.

Невялікі перапынак, і публіка зноў займае месцы ў зале.

Аднекуль з таямнічай цішыні ўзнікае цымбальны шолах. Твары музыкантаў засяроджана-сур'ёзныя. Падуладныя чуйнай руцэ дырыжора, аркестранты павольна разгортваюць музычны аповед. Пругкай хадой на сцэну выходзяць «Лявоны» на чале з Сяргеем Мядзведзевым, які ўсёй сваёй каларытнай постаццю так нагадвае Мулявіна — нездарма ж працаваў пад яго кіраўніцтвам у «Песнярах»!

*Паміж пустак балот беларускай зямлі,*
*На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,*
*Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,*
*Ўдзірванелы курган векавечны,* — пачынаюць «Лявоны»... Рэзкія дысанансы аркестра — і з'яўляецца Князь, акружаны сваёй чорнай світай, як павук павуцінай. Сцэна разгульнага вяселля напоўнена прадчуваннем бяды, што падкрэслівае акцэнт на чырвоны колер: нібы кроплі крыві, раскіданы па падлозе пялёсткі ружаў, трывожнымі бліскавіцамі ўспыхвае чырвань хустак у руках харыстаў-гасцей Князя. У разгар гулянкі па прыхамаці Князя прыводзяць Гусляра... Да гонару Сімаковіч, увесь спектакль яна вырашыла сучаснай мовай, без ануч, лапцей, бутафорскіх парыкоў і стылізаванага грыму. Дый увогуле смешна было ўяўляць рок-спевака Ялфімава ў падобным абліччы! Таму «невыдумная світка — убор на плячах», «барада, як снег белы» і «гуслі-баі» ў Гусляра красамоўна адсутнічалі — і дзякуй богу! Пётр паўставаў перад гледачамі басанож, апрануты ў доўгую белую кашулю навыпуск і такія ж белыя льняныя нагавіцы. А вось «незвычайны агонь у задумных вачах» Гусляра Ялфімаў забяспечыў па поўнай праграме, як і ні з чым не параўнаны, бездакорны, фантастычны вакал! Маналог Гусляра, якога калісьці спяваў сам Мулявін, у выкананні Ялфімава прагучаў моцна і натхнёна. Пётр праявіў усе свае лепшыя якасці: бездакорнае адчуванне стылю, тэмбравае багацце голасу, чысціню інтанацыі, выдатную дыкцыю, якая дазваляе яму ў спевах дэманстраваць ідэальную беларускую мову. Ну, а пра дыяпазон голасу Ялфімава і гаварыць няма чаго — ён сапраўды бязмежны! Князь і Гусляр — поўныя антыподы. Але ў нашай пастаноўцы паміж Ялфімавым і Жанчаком адсутнічала ўзроставая мяжа. Абодва маладыя і прыгожыя, як акцёры-выканаўцы яны ўступалі ў нейкае творчае спаборніцтва, што надавала спектаклю асаблівую пікантнасць. І хаця роля Князя па маштабе і значнасці саступае партыі Гусляра, Жанчак вельмі пераканаўча справіўся з задачай, экспрэсіўна праспяваўшы даволі складанае арыёза Князя.

Сцэна расправы над Гусляром з яе напружанымі астынатна-храматычнымі гучаннямі аркестра і адмысловай вакальнай паліфаніяй у партыі «Лявонаў» дасягнула гукавога апагея, абарваўшыся на магутным дысанансным акордзе... І, нібы голас самога Купалы, з неабсяжнай далечыні чыста, строга і пранікнёна загучаў а капэльны хор:

*«Не часалі дамоўкі яму сталяры! // Не заплакалі бліжнія вочы; // Змоўклі гуслі і ён з той пары — да пары; // Сум і ціша залеглі, як ночай».*

Спевы, без перабольшання, праймалі да слёз, да самай глыбіні... У зале ўсталявалася чуйная цішыня.

І зноў вярнулася найпрыгажэйшая тэма роднай зямлі, з якой пачыналася паэма-легенда: ці то вецер шуміць над застылым курганом, ці то пераборы гусляў чуюцца над ім... Ціха і выразна Сяргей Мядзведзеў чытае апошнія радкі:

*«Кажуць, каб хто калі зразумеў голас той, // Не зазнаў бы ніколі ўжо гора... Можна тут веру даць, толькі слухаць душой... // Курганы шмат чаго нам гавораць...»*

Магутныя акорды аркестра, нібы вялікія званы, вянчаюць сваім моцным гучаннем фінал...

Цяжка апісаць, што пачалося ў зале з гэтымі апошнімі акордамі! Воплескі і крыкі «Брава» перараслі ў бясконцыя авацыі. Ніводзін чалавек не пакінуў свайго месца, і ўся зала ў адзіным парыве вітала ўдзельнікаў і стваральнікаў спектакля!

«Трох праўдзівых і трапных слоў — ажыятаж, аншлаг, авацыі — недастаткова, каб распавесці пра падзею таго філарманічнага вечара, — пісала ў рэцэнзіі на канцэрт музычны крытык Святлана Берасцень. — Толькі знаходзячыся ў зале, можна было адчуць, як, захаваўшы сябе, сваю непаўторную цымбальную аснову, змяніўся наш народны аркестр: у інструментальным голасе беларускай

зямлі ўпэўнена загучалі самавітыя шляхетныя інтанацыі, традыцыя злучылася з крэатыўнымі знаходкамі, акадэмічнае майстэрства напоўнілася духам імправізацыйнасці. Колькі выканальніцкіх прыдумак і штрыхоў, эксперыментаў у спосабах гуказдабывання, свежых санорных эфектаў, артыстызму, элементаў тэатралізацыі!»

Упершыню за ўсю гісторыю аркестра ён зрабіўся стваральнікам і дзеючай асобай музычна-тэатралізаванай пастаноўкі. Сімаковіч стварыла спектакль на аснове канцэртнага калектыву на ФІЛАРМАНІЧНАЙ СЦЭНЕ! Эксперымент цалкам апраўдаў сябе, пра што сведчыла нечуваная глядацкая цікавасць да праекта. Праўда, адданыя раўніцелі «чысціні стылю» выказвалі сур'ёзную заклапочанасць тым, што падобная музыка не ўласціва аркестру Жыновіча і што трэба вярнуцца да сваёй стыхіі, выконваць фальклор і ўвогуле — спыніць пошукі ў накірунку эстраднай музыкі.

«Не ўсіх пераканала і само спалучэнне народных інструментаў з электронікай: можа, больш уразіла б іх супрацьстаўленне?», — сцвярджала музыказнаўца Надзея Бунцэвіч. Такіх меркаванняў, канечне ж, можна было чакаць. Але аркестр імя Жыновіча развіваецца, мяняецца — хаця б з прычыны таго, што змяніліся самі цымбалы. Яны ўжо даўно не вясковыя, не прымітыўныя, абмежаваныя ў тэхнічных магчымасцях, як гэта было раней.

На жаль, многія не бяруць гэта ў разлік, а шкада! Сёння цымбалы — высока-тэхналагічны інструмент з неабмежаванымі тэхнічнымі магчымасцямі. І яго «народнасць» звязана, бадай, толькі з паходжаннем. Трэба ўспрымаць гэта як гістарычны факт, а не як нагоду для спрэчак, варта ці не варта іграць на цымбалах эстрадную музыку!

Ну, а пра майстэрства маладых цымбалістаў, якія за апошнія гады прыйшлі ў аркестр імя І. Жыновіча з лёгкай рукі Казінца, і гаварыць не даводзіцца. Гэта — непераўзыдзеныя прафесіяналы, пераможцы і лаўрэаты мноства найпрэстыжных міжнародных конкурсаў, якія выконваюць усю музыку сусвету.

Дарэчы, не менш спрактыкаваныя і ўзброеныя прафесіяй таксама музыканты іншых груп нашага аркестра — баяннай, ударнай, духавой. Так што разважанні наконт «аркестра, які мы ледзь было не згубілі», на маю думку, падаюцца сёння не пераканаўчымі, нават рэтраграднымі і зусім не адпавядаюць патрабаванням часу. Сапраўдная ж праблема, якую высветліла прэм'ера, заключалася ў іншым: ці ёсць будучыня ў нашага «Гусляра» і як эксплуатаваць спектакль далей? Было зразумела, што як мінімум адно прадстаўленне яшчэ адбудзецца, і зусім хутка: удава Мулявіна Святлана Пенкіна прапанавала Міхаілу Антонавічу паказаць «Гусляра» на традыцыйным канцэрце ў дзень нараджэння Мулявіна, які яна стараецца праводзіць у філармоніі штогадова. Казінец прыняў гэту прапанову, і за першай прэм'ерай «Гусляра» адбылася другая — 12 студзеня 2011 года. На гэты раз прыйшоў нават Лучанок, якога не было на першым паказе, нягледзячы на нашы актыўныя запрашэнні. «Да гэтай прэм'еры я ішоў як кампазітар 50 гадоў: Янка Купала, Уладзімір Мулявін, беларускі народны аркестр... Не верыцца, што гэта збылося...» — сказаў ён, звярнуўшыся да публікі.

І зноў — фантастычны прыём гледачоў, цалкам прадказальны. Але, на вялікі жаль, пасля гэтага паказу спектакль «Гусляр» скончыў сваё сцэнічнае жыццё. 2011 год быў юбілейным для Мулявіна, — яму споўнілася б 70 гадоў. Дырэктар аркестра Барыс Ліўшыц прыклаў шмат намаганняў, каб з нагоды гэтай даты ажыццявіць пракат «Гусляра» хаця б па абласных цэнтрах Беларусі. Але з гэтага нічога не атрымалася. Стварэнне відэафільма «Гусляр» на падставе нашага праекта запланаваў у 2011 годзе «Белвідэацэнтр», але выбухнуў крызіс, і фільм так і не знялі...

А Міхаіл Антонавіч ужо абдумваў новыя праграмы. Як сейбіт, ён заўсёды ўпэўнена ідзе толькі наперад.

# ТАЯМНІЦА «АПОКРЫФА»

## Ларыса СІМАКОВІЧ.

### Мюзікл-прытча «Апокрыф» паводле аднайменнага твора Максіма Багдановіча

**Дзеючыя асобы і выканаўцы:**

*Музы́ка — Ян Жанчак.*

*Апостал Пётра — Віталь Міхалькевіч.*

*Апостал Юры — лаўрэат Міжнароднага конкурсу Аляксандр Жукаў.*

*Гаспадар — Уладзіслаў Даніловіч.*

*Душа — Наталля Салава.*

*Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік — Наталля Міхайлава.*

*Фальклор-тэатр «Госціца», мастацкі кіраўнік — Ларыса Сімаковіч.*

*Аранжыроўка — Аляксандр Крамко.*

*Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, прафесар Міхаіл Казінец.*

Гэты твор М. Казінец асабіста замовіў Сімаковіч неўзабаве пасля прэм'еры «Гусляра». Дакладней, ён замовіў ёй стварыць для аркестра любы твор буйной формы паводле паэзіі Максіма Багдановіча. Набліжалася яго 120-годдзе, і аркестр не мог застацца ў баку ад гэтай падзеі. Такім чынам, Міхаіл Антонавіч поўнасцю даверыўся Ларысе як кампазітару і прадаставіў ёй карт-бланш: яна была абсалютна свабодная ў выбары твора, які павінен быў быць агучаны аркестрам і пастаўлены на сцэне філармоніі, зноў-такі, самім аўтарам 9 снежня 2011 года — у дзень нараджэння Максіма.

Сімаковіч абрала «Апокрыф» — філасофскі твор, напісаны паэтам у 1913 годзе. У самой назве было нешта таямнічае, загадкавае... Увогуле, апокрыф — некананічная біблейская легенда. У Багдановіча гэта — разважанне пра існасць жыцця і сутнасць мастацтва, без якога немагчыма гэта жыццё. Хрыстос і прарокі спускаюцца на зямлю, але застаюцца неапазнанымі. Народ — працавіты, шчодры і наіўны — не заўважае ні свайго хараства, ні прыходу Хрыста. І толькі Музы́ка адразу ж пазнае яго, але, наблізіўшыся, выбачаецца: «Сорамна мне, бо сягоння дзень працы і ўсе клапоцяцца каля зямлі; адзін я нікчэмны чалавек». — «І сказаў яму Хрыстос: не смуціся ў сэрцы сваім. Ці ж не твае песні спяваюць яны цяпер, у часе жніва! Таму не схіляй нізка галавы твае, і не хавай аблічча ад вачэй людскіх».

Які моцны філасофскі імператыў! Мастацтва самадастатковае, нібы сцвярджае Багдановіч, і гэта канстанта зноў падкрэсліваецца словамі: «Нашто тыя каласы, калі няма васількоў?... Няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы». Калі ўлічыць, што ў «Гусляры» галоўным быў акцэнт на тэме ўзаемаадносінаў мастака і ўлады, дык «Апокрыф» у чымсьці быў працягам гэтай тэмы, толькі ў яшчэ больш канцэнтраваным выглядзе. Гаворка ішла пра самакаштоўнасць Мастацтва і выключнасць Мастака як носьбіта і стваральніка цудоўнага.

Канечне ж, невыпадкова Сімаковіч абрала менавіта гэты твор, — было б дзіўна, калі б яна яго абмінула! Тут удзячная глеба для рэалізацыі кампазітарскай фантазіі, і Ларыса ўключыла яе на поўную моц. Галоўнай дзеючай асобай яна

зрабіла Музы́ку, які аказваўся не столькі героем «Апокрыфа», колькі ўвасабляў сабой вобраз самога Багдановіча. Таму ў яго вусны ўкладзены вершы Максіма, што не ўваходзілі ў тэкст «Апокрыфа», у тым ліку «У краіне светлай», якія леглі ў аснову эфектнага фіналу. Пры гэтым Ларыса пісала ролю Музы́кі, канечне ж, для Яна і трапіла з гэтым у самы яблычак, бо менавіта Жанчак у рэшце рэшт і аказаўся галоўнай фішкай пастаноўкі. Тэкст «Апокрыфа» даваў шырокі прастор для паказу народнай песнятворчасці: па сюжэце, Хрыстос і прарокі праходзяць між працуючых людзей, чуюць песні жнеек і пытаюцца ў Музы́кі: «Калі пяюць песні ў вас?

Музы́ка адказаў: пяюць на Каляды, на Запускі, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўку, на зажынках і дажынках.

Пяюць на радзінах і хрэсьбінах, пяюць дзіцё калыхаючы, і самі дзеці пяюць, гуляючы; пяюць на ігрышчах і на вяселлях, і на хаўтурах, і ў бяседзе, і ў працы, і на вайну ідучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Увесь круглы год пяюць».

Здаецца, «Апокрыф» быццам спецыяльна быў напісаны для таго, каб яго ўвасобіла на сцэне менавіта Сімаковіч з яе ўсім вядомым культам беларускага этнасу, які яна спавядае як кіраўнік фальклор-тэатра «Госціца». Твор Максіма Багдановіча — неўзараная цаліна для калектыву такога кшталту! Ларыса не пашкадавала сваіх кампазітарскіх ідэй, каб прадставіць аўтэнтычныя спевы «Госціцы» ва ўсёй прыгажосці. У пастаноўцы аказаліся задзейнічаны ажно пяць спявачак «Госціцы».

Спевы Хрыста кампазітар даручыла Дзяржаўнаму камернаму хору Міхайлавай, патлумачыўшы, што вобраз Хрыста ў яе творы неперсаніфікаваны. А вось партыі апосталаў Пётры і Юр'і Ларыса пісала на канкрэтных артыстаў. Імі былі музыканты гурта «Лявоны» Сяргей Мядзведзеў і Павел Хасанаў, якія зусім нядаўна разам з Янам так удала праспявалі ў «Гусляры». Гэтая ж каманда меркавалася перайсці ў «Апокрыф».

Але гурт «Лявоны» раптоўна распаўся, і трэба было шукаць барытона і тэнара на партыі прарокаў Пётры і Юр'і. Заўважу, што партытуры я тады яшчэ не бачыла, музыкі не ведала і кіравалася толькі ўласным уяўленнем пра тое, якімі павінны быць выканаўцы гэтых роляў. Складанасць заключалася яшчэ і ў тым, што трэба было зразумець, эстрадныя гэта спевакі ці акадэмічныя.

Сама Сімаковіч больш схілялася ў бок апошніх. Да таго ж патрабаваліся артысты з такой фактурай, якая павінна была б безагаворачна выдаваць у іх «прарокаў». Маю на ўвазе комплекс знешніх дадзеных, якія толькі адны і былі ў спадручных сродках рэжысёра: зноў-такі, Ларыса была абмежаваная ўмовамі напаўканцэртнага выканання. Іншымі словамі, «прарокі» знешне павінны былі адпавядаць сваім біблейскім прататыпам.

На ролю Юр'і адразу ж удалося дамовіцца з салістам опернага тэатра Аляксандрам Жукавым. Высокі, прыгожы, з добрымі вакальнымі данымі, ён вызначаецца вялікай сур'ёзнасцю ў працы. Жукаў вопытны артыст і вельмі адказна паставіўся да нашай прапановы. Забягаючы наперад, зазначу, што ён зрабіў самае добрае ўражанне на ўсіх. Роляй апостала Юр'і па-сапраўднаму пранікнуўся і «пражыў» яе, зрабіўшы сваёй. Ну, а на стадыі рэпетыцый праявіў сябе як чалавек дакладны і звышнадзейны, што заўсёды вельмі важна ў праектах, падобных нашым, дзе большасць артыстаў — запрошаныя, і часам вельмі цяжка вызначыць зручны для ўсіх графік. Жукаў не падвёў ні разу. А вось з выканаўцам Пётры выйшла неспадзяванка. Спачатку ўсё складвалася ўдала: я дамовілася з Валерыем Падуковым. Некалькі апошніх гадоў ён працуе ў «Сябрах», а раней быў салістам хору опернага тэатра і заадно выступаў у групе Пятра Ялфімава. Рост Валерыя пад два метры, а знешнасць, без перабольшання, біблейская. Доўгія густыя валасы на прамы прабор, высакародны твар, апраўлены пікантнай бародкай і вусамі... Іканапісны лік, ні больш ні менш! А голас які!

Перамовы з Валерыем былі нядоўгімі: ён адразу ж згадзіўся, толькі папрасіў узгадніць удзел у нашым праекце са сваім непасрэдным босам Анатолем

Ярмоленкам. Па маёй просьбе Казінец адразу ж патэлефанаваў Ярмоленку і ўсё ўладкаваў.

Калі праз некалькі дзён Падукоў зайшоў у кабінет Міхаіла Антонавіча па ноты, той быў проста ашаломлены яго выглядам. Валерый забраў ноты і адкланяўся, а мы яшчэ доўга абмяркоўвалі яго эфектную рамантычную знешнасць і арыстакратычныя манеры. Але літаральна праз дзень Валерый патэлефанаваў мне на мабільны і сказаў, што падрыхтоўка «Апокрыфа» супадае з камерцыйнымі гастролямі «Сяброў». Як чалавек адказны, Валерый перамовіўся са сваім былым калегам па працы ў хоры опернага тэатра Віталем Міхалькевічам і прапанаваў яму ўдзел у праекце замест сябе, і той згадзіўся. У гутарцы са мной Валерый спасылаўся на яго добры комплекс сцэнічных і вакальных даных.

Канечне ж, Міхаіл Антонавіч быў вельмі расстроены такім паваротам падзей, але што было рабіць! Такім чынам, Міхалькевіч трапіў у праект, скажам прама, завочна і выпадкова. Як паказала далейшае развіццё падзей, ён паставіўся да працы даволі абыякава, фармальна, што відавочна адбілася на выніку. Але ў сваім аповядзе я крыху апярэдзіла падзеі. Таму што на першапачатковым этапе ніхто, апроч Сімаковіч і Казінца, не меў ніякага ўяўлення аб будучым творы. Ларыса толькі пачынала пісаць музыку і прыносіла напісаныя сцэны Міхаілу Антонавічу, так бы мовіць, на экспертызу. Пры гэтым яны вялі сябе як загаворшчыкі: калі Казінец адпускаў аркестр, Ларыса прыходзіла да яго ў кабінет, прыціскаючы да грудзей нотныя аркушы, і сядала за фартэпіяна. Яны зачыняліся — і ніхто не меў права перашкаджаць і трывожыць двух захопленых творчым працэсам мастакоў. Было бачна, што Міхаілу Антонавічу музыка падабаецца.

— Я не стрымаўся, у мяне слёзы стаялі ў вачах, калі яна паказала фінал. Выдатная музыка! — прызнаўся ён пасля адной з такіх сустрэч «за зачыненымі дзвярыма».

Я была заінтрыгаваная. Дарэчы, аднойчы Ларыса і мне паказвала чарнавы варыянт песні Музы́кі, партыю якога яна вырашала ў эстрадна-песеннай стылістыцы. А яшчэ адкрыла сакрэт, што ў сатырычнай сцэне Гаспадара (гэту эпізадычную ролю выконваў саліст філармоніі Уладзіслаў Даніловіч) спарадзіравала цытату з песні «I Love Belarus», чым выказала ўвесь свой сарказм з нагоды конкурсу «Еўрабачанне». Вось у тым і заключалася галоўная інтрыга «Апокрыфа»: як у ім маглі адначасова спалучацца акадэмічныя і эстрадныя спевы? Жанр араторыі і мюзікла? Глыбокая філасофія і адкрыты фарс?..

А Міхаіл Антонавіч быў ужо поўнасцю пад уплывам магіі «Апокрыфа». Ён адразу ж прыняў музыку Сімаковіч і літаральна закахаўся ў яе. Яго не задаволіла толькі якасць аркестроўкі, але гэта — хвароба амаль усіх прафесійных беларускіх кампазітараў, якія не ведаюць выканальніцкіх магчымасцей і тэмбраў нашага аркестра. Ларыса наступіла на тыя ж граблі, хаця хто-хто, а яна падчас працы над «Гусляром» як раз мела магчымасць пільна прыгледзецца і вывучыць спецыфіку інструментарыя аркестра Жыновіча.

Аляксандру Крамко было даручана перааркестраваць партытуру «Апокрыфа», і ён выканаў гэта даручэнне перад самым адыходам аркестра на адпачынак. Казінец у апошні дзень забраў гэту партытуру з сабой і ўсё лета старанна вывучаў. Калі ён прынёс яе на першую рэпетыцыю, я была ашаломлена. Жартам кажучы, фаліянт зведаў шырокую эвалюцыю і прайшоў тры стадыі: «корочка-книжечка-тряпочка». Глянцаваная папера стала падатлівай і мяккай ад шматлікіх перагортванняў, многія старонкі пакрэслены чырвоным алоўкам. Памер, які ў асобных сцэнах мяняўся ў кожным такце (а як жа без гэтага! Ларыса была б не Ларысай!), Міхаіл Антонавіч для зручнасці пазначыў паверх нот гіганцкімі лічбамі «4», «2», «3» па ўсёй даўжыні аркуша. Словам, гэту партытуру ён літаральна «ўзараў» і ў такім вось «спартыўным» настроі ўзбег за пульт.

У адрозненне ад яго, музыканты свае ноты бачылі ўпершыню, і, калі Казінец адразу ж задаў ім хуткі тэмп, у аркестры пачаліся незадавальненні і нараканні.

Не атрымоўвалася іграць з ліста без папярэдняй чыткі такую няпростую музыку! Адразу ж узнік канфлікт, які Міхаіл Антонавіч пераЖЫЎ даволі хваравіта. Ён палічыў, што музыканты першапачаткова не ўспрынялі твор, які яму асабіста быў ужо такім дарагім і блізкім, хоць прычына была зусім у іншым: замест таго, каб разбіраць музыку, ён як дырыжор адразу ж пачаў «ствараць», а ствараць пакуль што яшчэ не было чаго. Ён проста не даў музыкантам магчымасці больш-менш пазнаёміцца з партыямі, «разагнацца», так бы мовіць. Яму падалося, што аркестр адразу ж не прыняў «Апокрыф», але гэта было зусім не так, пра што потым не раз гаварылі яму самі аркестранты. Тым не менш, рэпетыцыі набіралі абароты. Праўда, сабраць усіх салістаў разам было вельмі і вельмі цяжка — гэта, на вялікі жаль, наша пастаянная праблема. Жанчак увесь час прападаў на нейкіх адборах-праслухоўваннях — то на «Еўрабачанне», то на «Новую хвалю»; дзяўчаты з «Госціцы» кожны раз прыходзілі паасобку, а Віталь Міхалькевіч напярэдадні прэм'еры ўвогуле некуды знік, — не з'явіўся на прагон і адключыў мабільны тэлефон, чым ледзь не давёў мяне да інфаркту. Флегматычнасць і абыякавасць Віталя ўжо не проста раздражнялі, а прыводзілі ў стан шалёнасці. Ларыса, як звычайна, была незадаволена ўсім: якасцю перааркестроўкі сваёй партытуры, спевамі хору, ігрой аркестра, адсутнасцю рэквізіту на рэпетыцыях («Дзе яблыкі?! Дзе кошыкі?!»), інертнасцю пастановачных службаў, недастатковай кемлівасцю мастака па святле, які ніяк не мог ажыццявіць яе мастацкіх задум...

Але найбольшае незадавальненне выклікаў Міхалькевіч. Ён зусім не збіраўся вучыць сваю партыю на памяць, у адрозненне ад другога «прарока»: Жукаў зрабіў гэта на самых першых рэпетыцыях і ў далейшым больш клапаціўся аб вобразнасці, стараўся падаць роль не толькі вакальна, але менавіта па-акцёрску. Віталь жа ўпарта трымаў перад сабой ноты і зусім не збіраўся з імі развітвацца. У выніку так і засталося: апостал Юр'я спяваў на памяць, вольна, а апостал Пётра важна дакладваў тэкст, трымаючы перад вачыма папку з нотамі.

Гэта тым больш недарэчна, што спевакоў урэшце апранулі ў сцэнічныя касцюмы. Да апошняга было незразумела, у якім выглядзе салісты будуць спяваць — у канцэртных смокінгах, ці ў сцэнічных строях. Іх жа спецыяльна не шылі! На дапамогу прыйшла дырэктар музея Мулявіна Святлана Пенкіна-Мулявіна, якая дазволіла скарыстаць касцюмы «Песняроў» з музея. Яны даволі ўдала падышлі да нашага спектакля. Па меры набліжэння да прэм'еры, нягледзячы на агульную нервовасць абстаноўкі, усё паступова станавілася на свае месцы. Музыка Сімаковіч заззяла ва ўсёй сваёй моцы і хараstве, яе мастацкія вартасці былі бясспрэчныя. А Міхаіл Антонавіч па-ранейшаму заставаўся ў стане нацягнутай струны і не расслабляўся ні на хвіліну. Я ні да гэтага, ні потым не помню яго ў такім заклапочаным, засяроджаным стане на працягу стольkіх дзён! Ён нібы ўвесь час думкамі вяртаўся да той першай, няўдалай рэпетыцыі «Апокрыфа» і па-ранейшаму ўсім сэрцам змагаўся за гэты твор, хоць цяпер мастацкі вынік вялікай працы ўсіх стваральнікаў «Апокрыфа» быў ужо абсалютна відавочны. І гэта адзначалі нават бясстрасныя члены мастацкага савета філармоніі пасля генеральнага прагона. Значнасць прэм'еры «Апокрыфа», што набліжалася, яшчэ больш узрастала ў сувязі з тым, што яе вырашылі зрабіць цэнтральнай падзеяй урачыстага сходу, прысвечанага 120-годдзю Багдановіча. Ад усяго гэтага хваляванне за вынік нашай працы павялічвалася яшчэ больш. Міхаіл Антонавіч узяўся дапоўніць канцэрт другім аддзяленнем, дзе прагучалі б папулярныя песні на вершы Багдановіча.

У той памятны вечар зоркі нам усім відавочна спрыялі. Прыемна было выходзіць на сцэну перапоўненай залы, якая сабрала ўвесь цвет беларускай інтэлігенцыі. Мой голас звінеў ад хвалявання, хоць у такі адказны вечар права пасаваць перад хваляваннем не павінна быць ні ў кога. Мы проста працавалі, як заўсёды. У кожнага ж — свая праца... Міхаіл Антонавіч правёў спектакль «Апокрыф» натхнёна. Складанае, шматслойнае музычна-тэатралізаванае палатно

пранеслася літаральна на адным дыханні і па-сапраўднаму ўзрушыла ўсіх прысутных. Аркестр выдатна справіўся са сваёй задачай і заслужана здабыў лаўры пераможцаў нароўні з хорам, «Госціцай» і салістамі. Ну, а аўтар твора і рэжысёр-пастаноўшчык Сімаковіч увогуле была сустрэта як трыумфатар. Публіка наладзіла бясконцую авацыю, з розных канцоў залы чуліся крыкі «брава», артысты кланяліся і кланяліся, а гледачы ўсё ніяк не хацелі адпускаць іх са сцэны, так што давялося нават бісіраваць фінал. Нечуваная з'ява! Міхаіл Антонавіч свяціўся ад шчасця. Поспех прэм'еры заслужана кампенсаваў усе яго трывогі. Песеннае аддзяленне ў параўнанні з «Апокрыфам» для аркестра і дырыжора было лёгкім экзерсісам, і перад выхадам на сцэну пасля антракта Міхаіл Антонавіч з задавальненнем пажартаваў:

— Ну што, пайду, падырыжырую на чатыры чвэрці!

Знаёмыя мелодыі на вершы Багдановіча «Зорка Венера», «Па-над белым пухам вішняў», «Лявоніха», «Слуцкія ткачыхі», «Вераніка» і іншыя выконвалі Жукаў, Жанчак, саліст «Сяброў» Аляксандр Камлюк, салістка нашага аркестра Наталля Салава, жаночы ансамбль «Дыямант» (нашы пастаянныя партнёры) і Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам Міхайлавай. На выкананне адной з песень — «Ой, чаму я стаў паэтам» з мулявінскага цыкла «Вянок» (яе спяваў Жанчак) — быў запрошаны вядомы арганіст Канстанцін Шараў, які дапоўніў гучанне аркестра магутным тэмбрам вялікага канцэртнага аргана. Атрымалася вельмі эфектна!

Другое аддзяленне было даволі лаканічнае, але многія палічылі, што пасля «Апокрыфа» яно нават залішняе, бо не зрабіла такога ж моцнага ўражання.

«Атмасфера святкавання юбілею вялікага нацыянальнага паэта атрымалася сапраўды святочнай і ўзнёслай, — пісала пасля прэм'еры музычны крытык Таццяна Мушынская. — Багдановіч аб'яднаў усіх — сталых творцаў і «зялёную» моладзь, прадстаўнікоў дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, людзей з рознымі поглядамі, творчых асоб, якіх у прынцыпе немагчыма сустрэць на адных і тых жа імпрэзах. Аб'яднаў, узняў, далучыў да пытанняў вечных і заўжды актуальных».

На вялікі жаль, падзея велізарнай значнасці для ўсёй айчыннай культуры, падзея, ахінутая імем выдатнага паэта Багдановіча, падзея, у якой былі занятыя вядучыя нацыянальныя калектывы, была праігнаравана беларускім тэлебачаннем пад нябачнай фармулёўкай «нефармат», да якой мы, на жаль, ужо прызвычаіліся... Паўтору «Апокрыфа» не было. Ён увайшоў у гісторыю беларускай музычнай культуры яркай знічкай і застаўся ў памяці тых, хто яго нарадзіў і прыняў у свет.

***Працяг будзе.***

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# ПАРТРЭТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ: РАЗМОВА З СУЧАСНІКАМ

**Таццяна ПАДАЛЯК, Дыялогі на мяжы стагоддзяў. Класікі і сучаснікі ў інтэр'еры часу.** *У 2 ч. Ч. 1. Мн.: «Выдавецкі дом «Звязда», 2013.*

Часам, аглядаючы перыядычны друк, узнікае некаторае шкадаванне, што разам са старымі газетамі і часопісамі знікаюць у нікуды тыя ці іншыя публікацыі. А яны ж маюць права на новыя сустрэчы. Перагарніце старонкі «СБ. Беларусь сегодня» ці «Звязды», такіх часопісаў, як «Беларуская думка», «Полымя», «Нёман», упэўнены, што пры ўважлівым знаёмстве вы і самі акрэсліце тыя накірункі, тыя публікацыі, што вылучаныя і сабраныя разам маглі б стаць асобнымі кнігамі. Назаву толькі некаторыя імёны. Толькі з аднае газеты — «СБ. Беларусь сегодня». Адам Мальдзіс паслядоўна выпісвае на старонках самай тыражнай газеты краіны свае доследы пра беларускія скарбы за мяжой, пра знакамітых суайчыннікаў, якія праславілі Беларусь у свеце. Людміла Рублеўская (а да нядаўняга часу — і ў суаўтарстве з Віталем Скалабанам) звяртаецца да вузлавых момантаў у гісторыі беларускай культуры, беларускай літаратуры. А Віктар Корбут займаецца гісторыка-краязнаўчымі росшукамі. Складзеныя разам газетныя выразкі замяняюць, паверце, многія кнігі. Чаму і «Выдавецкі дом «Звязда» сумесна з рэдакцыяй газеты «СБ. Беларусь сегодня» і запачаткавалі серыю кніг «Беларусь вчера и сегодня»… Але ж ёсць і іншыя аўтары, іншыя выданні…

І ўсё ж журналісты, якія падоўгу працуюць у перыядычным друку, не так часта прыходзяць да чытача з асобнымі аўтарскімі кнігамі. На крайні выпадак — да выдання сваіх аўтарскіх кніг падыходзяць у большасці выпадкаў дастаткова адказна, не пякуць зборнікі газетных ці часопісных артыкулаў як блінцы. Хутчэй збіранне раней надрукаванага становіцца для майстроў пяра ў пэўнай ступені падсумоўваннем іх творчай работы на працягу многіх гадоў. У ранейшыя дзесяцігоддзі, праўда, выдавецтвы самі праяўлялі ініцыятыву, і калі мелася патрэба ў злабадзённай публіцыстыцы, то найперш звярталіся з замовамі да штатных супрацоўнікаў газет і часопісаў. Хто ж, як не яны, добра ведаюць жыццё, знаходзяцца ў эпіцэнтры многіх падзей?!. Можна, у прыватнасці, узгадаць многія ініцыятывы выдавецтва «Беларусь». Датычыліся яны і палітычнай публіцыстыкі, дарожных нататак, расповядаў пра нашага сучасніка. Была публіцыстычная серыя і ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». У памяці — зборнікі нарысаў Алеся Шагуна, Анатоля Сілянкова, Леаніда Левановіча, Васіля Ткачова… Іншая справа — цяпер, калі часам руплівасць у галіне публіцыстычных вышукаў саступае імгненным інфармацыйным патрэбам, калі надрукаванае ў перыёдыцы губляе актуалii ці не на другі дзень пасля выхаду газеты ці часопіса. І тым не

меней ёсць і сёння нямала прыкладаў, калі слова газетчыкаў прыцягвае, з'яўляецца вартым ўвагі праз месяцы і нават гады пасля першай сустрэчы з чытачом. Нядаўна ў «Выдавецкім доме «Звязда» пабачыла свет кніга кандыдата філалагічных навук, дацэнта Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Таццяны Падаляк «Класікі і сучаснікі ў інтэр'еры часу. У 2 ч. Ч. 1». Разам аб'яднаны публікацыі журналісткі, змешчаныя ў парламенцкай і ўрадавай газеце «Звязда» на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў.

Таццяна Падаляк — дасведчаны ў айчыннай культуры, айчынным асветніцтве журналіст. Ці многа азначае гэтая, здавалася б, на першы погляд сціплая характарыстыка? Калі быць уніклівым у яе сутнаснае вымярэнне, быць гранічна шчырым у вызначэнні, то на самай справе вельмі і вельмі шмат. Дасведчанасць у культуры — гэта ж не толькі веданне пра тэатры і кіно, выяўленчае мастацтва і музыку, не толькі ўважлівы погляд на сучасны літаратурны працэс. А яшчэ, што, магчыма, і з'яўляецца болей важкай характарыстыкай, — разуменне суадносін адукаванасці, абазнанасці ў тых ці іншых з'явах жыцця, усведамленне ўплываў артэфактаў на выхаванне чалавека-адзінкі і ўсяго грамадства. Таццяна Уладзіміраўна доўгі час працавала ў «Звяздзе» карэспандэнтам, загадчыкам аддзела культуры, намеснікам галоўнага рэдактара. Досыць шмат выступала на старонках роднага выдання. Найчасцей — з інтэрв'ю, дыялогамі, творчымі партрэтамі дзеячаў культуры. Якраз матэрыялы такога характару і склалі яе кнігу. Хто з'яўляецца героямі «Дыялогаў…»? Сярод суразмоўцаў публіцыста — празаік і паэт Таіса Бондар, паэт-песеннік Аляксандр Лягчылаў, актрысы Галіна Бальчэўская, Лілія Давідовіч, паэтэса Ніна Мацяш, кінарэжысёр Ігар Дабралюбаў; прафесар, доктар філалагічных навук, настаўнік многіх і многіх журналістаў краіны Барыс Стральцоў, шматгадовы рэдактар «Звязды» Аркадзь Тоўсцік; прафесар, кіназнаўца Ефрасіння Бондарава, мовазнаўца Міхаіл Цікоцкі, народны мастак СССР, Герой Беларусі Міхаіл Савіцкі, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, акцёр Фёдар Шмакаў, кампазітар-самародак Аляксандр Шыдлоўскі, народны паэт Беларусі Пімен Панчанка… Пра сваіх бацькоў, мужоў расказваюць дзеці, жонкі Кузьмы Чорнага, Андрэя Бембеля, Івана Чыгрынава, Яна Скрыгана, Петруся Броўкі, Іосіфа Жыновіча, Максіма Танка… Уявіце, колькі сустрэч дорыць усяго адна кніга!..

Чытаючы (а для мяне асабіста — гэта яшчэ і перачытванне раней знаёмых «звяздоўскіх» тэкстаў) інтэрв'ю, дыялогі, інтэрв'ю-партрэты, напісаныя эмацыйна, выдатнай мовай, неўпрыкмет вызначаю для сябе, што кніга ўяўляе сабою партрэт беларускай нацыянальнай культуры. Міркуйце самі. Кнігу адкрывае гутарка, якая прысвечана рэдактару-выдаўцу «Нашай нівы» Аляксандру Уласаву («Усё жыццё я працаваў бясплатна — як мог, дапамагаў простым людзям…»). Развагамі пра яго лёс, сямейнымі ўспамінамі дзеліцца Рыма Ігараўна Гірыловіч — яе дзед Павел быў родным братам Уласава. Публікацыя адрасуе нас да пачатку XX стагоддзя. Аўтар і яе суразмоўца (а матэрыял жа перш-наперш рабіўся для газеты, адпаведна трэба было ўлічваць тэкставую прастору, праяўляць лаканічнасць у выбары багатага фактычнага матэрыялу) паспелі шмат распавесці і пра розныя часіны, і пра месца ў іх Уласава. Між іншым, яго лёс адметным, паслядоўна беларускім заставаўся і пасля «нашаніўскага» перыяду. Як сведчанне — словы ўнучатай пляменніцы: «У 1921 годзе Беларусь была падзелена на дзве часткі. Па-жывому… Уласаў апынуўся на тэрыторыі Заходняй Беларусі. За спробу адкрыцця ў Радашковічах беларускай гімназіі быў арыштаваны польскімі ўладамі і змешчаны ў канцлагер у Стшалкове. І ўсё ж гімназія імя Францыска Скарыны

была створана, працавала з 1922 па 1929 год.

Аляксандра Уласава вучні паміж сабой называлі «дзядзька Гром» — за гучны бас. Дарэчы, ён быў актыўным членам Таварыства беларускай школы, засядаў у польскім сенаце як пасол ад радашковіцкіх сялян.

Ён змагаўся за Беларусь, за мову. Абураўся, што палякі ціснуць, топчуць беларушчыну. Ён дамагаўся, каб дзеці беларусаў мелі магчымасць вучыцца на роднай мове, патрабаваў перакласці цяжар падаткаў на плечы заможных, не насаджаць на беларускіх землях польскае чыноўніцтва, падтрымліваў Браніслава Тарашкевіча ў тым, каб былі створаны рабоча-сялянскі ўрад і Заходняя Беларусь далучылася да БССР…»

Настойлівы першапраходца на ніве беларускасці на пачатку XX стагоддзя, Уласаў называў сябе «беларускім інтэлігентам». І сапраўды быў беларускім інтэлігентам. Цеплыня, з якой унучка перадае сямейныя паданні пра знакамітага дзеяча культуры, асветніка, журналіста, настройвае на многія развагі. І пра вартасці інтэлігентнасці, і пра сапраўдныя складнікі беларускасці ў паводзінах… Настройвае і на меркаванні, развагі, што такіх людзей, як Уласаў, часцей успамінаем агулам, аддаючы ім даніну павагі ў розных спісах і пераліках. А вось жывых, рэльефных асоб, якія стаяць за пералікам спраў і дзеяў, не бачым, як і не ўсведамляем усю важкасць іх постацяў, усю чалавечнасць, з якой яны ўварваліся ў жыццё, стараліся зрабіць яго лепшым не толькі для сябе, а для тых, хто быў побач, лепшым — для наступнікаў. І дзякуючы чаму многае пасля было зроблена руплівымі нашчадкамі… Мне здаецца, што даўно наспеў час у гісторыка-публіцыстычнай кнізе пра Аляксандра Уласава. І мо, калі не Падаляк, то якраз нехта з журналістаў узяўся б за ажыццяўленне гэтага творчага, надзвычай важнага праекта.

«Пошукі будучыні Кузьмы Чорнага і філасофія гісторыі ў «чалавечым вымярэнні» — размова з дачкою класіка айчыннай прозы Рагнедай Мікалаеўнай Раманоўскай. Размова пра вытокі сучаснай беларускай літаратуры, пра тое, як празаік імкнуўся, кажучы словамі Алеся Адамовіча, «глядзець на сваё скрозь павелічальнае шкло сусветнай культуры чалавеказнаўства», каб «перад цэлым светам казаць сваё слова ад імя народа, якому ёсць што паведаміць не толькі пра сябе, але і пра самое чалавецтва». Падаляк не проста выяўляе майстэрства разгаварыць сваіх суразмоўцаў. Журналістка ў кожнай з тэмаў выяўляе ўласную дасведчанасць, выбудоўвае размову, каб і герой яе, і яна сама сказалі галоўнае, паказалі асоб, яркіх персанажаў беларускай нацыянальнай культуры рэльефна, вобразна. Каб пасля прачытання ў чытача былі тыя ці іншыя падставы для развag, асэнсавання літаратурных і мастацкіх, культурных з’яў.

Уласнае, прыватнае ў біяграфіі творцаў становіцца выразным фонам для выкладання пэўных характарыстык грамадскага, палітычнага, сацыяльнага развіцця нашай краіны. Часам нас чакаюць адкрыцці, паўстаюць факты, якія ў дачыненні да парадных біяграфій творцаў замоўчваліся альбо проста на іх не звярталі ўвагу раней. Як і ў выпадку з інтэрв’ю-расповедам, прысвечаным бліскучаму цымбалісту, дырыжору, кампазітару, педагогу, народнаму артысту СССР Іосіфу Жыновічу. Цікава, між іншым, што ў 1930 годзе будучы легендарны музыка скончыў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Хаця паралельна вучыўся ў музычным тэхнікуме. І толькі пазней звязаў свой лёс з кансерваторыяй. Расказвае дачка — Антаніна Іосіфаўна: «…На музыку ён, мабыць, асабліва не разлічваў — хацеў атрымаць «сур’ёзную» вышэйшую адукацыю. Дарэчы, ён паступіў адразу на некалькі факультэтаў Белдзяржкансерваторыі: выканальніцкі, кампазітарскі і дырыжорскі… Увесь час ён не прыпыняў канцэртную дзейнасць, майстэрства цымбаліста-

віртуоза яшчэ больш адточвалася…» І яшчэ адзін факт. У 1935 годзе Жыновіча выключылі з кансерваторыі як сына кулака. А пасля і арыштавалі. Абвінавачвалі ў тым, што ў 1920 годзе як белапольскі афіцэр выступаў супраць савецкай улады. Было, праўда, у тым 1920-м Іосіфу ўсяго 12 гадоў… Гэта не перашкодзіла асудзіць таленавітага чалавека на 10 гадоў пазбаўлення волі. Ссылку адбываў у Мардовіі. Выратаваў старэйшы брат (на той час — кандыдат тэхнічных навук, ён працаваў у Маскве), які звярнуўся да сястры Леніна — Марыі Ільінічны Ульянавай, якая загадвала Бюро скаргаў у Камісіі савецкага кантролю. Факт гэты стаў вядомым у сям'і толькі праз 15 гадоў пасля смерці кампазітара.

«Музыка слова Міхаіла Цікоцкага» — гутарка з мовазнаўцам, які ўсё сваё свядомае жыццё аддаў вывучэнню беларускай мовы. «Ці ёсць будучыня ў беларускай мовы?», — вельмі завострана пытаецца публіцыст Падаляк у свайго суразмоўцы. І вось што адказвае Цікоцкі: «— Хочацца верыць, што спраўдзяцца думкі Янкі Купалы — каб «беларускае слова з грамадой мільёнаў з светам гаманіла…» Перакананы: мова жыве і будзе жыць. Як навукоўцу мне шкада, што зараз мала вывучаецца творчасць нашых цудоўных беларускіх пісьменнікаў — менавіта з пункту гледжання эстэтыкі слова, моўнага майстэрства. Гэта справа, канешне, вельмі далікатная і складаная: трэба не толькі дасканала ведаць творчасць, але і адчуваць мову пісьменніка».

З іншых матэрыялаў кнігі вылучаюцца дыялогі з народным мастаком Беларусі Міхаілам Савіцкім. Падаляк некалькі разоў запрашала гэтага таленавітага, з выразнай грамадзянскай пазіцыяй чалавека да размовы з чытачом «Звязды». І было гэта ў 1995, 1996, 2001, 2002, 2005, 2007 гадах. Напісанае пра Савіцкага мне бачыцца асобнай невялікай кнігай. Мо з часам Таццяна Уладзіміраўна і напіша кнігу пра вялікага нашага сучасніка. Яна ж сумела разгаварыць Савіцкага, вылучыць праз яго адказы галоўнае, што цікавіць чалавецтва. Распытваючы пра вайну, пра ўласны вопыт выжывання мастака ва ўмовах фашысцкага канцлагера, Таццяна Падаляк вылучыла ў сваіх шматгадзінных размовах вельмі важныя філасофскія накірункі. І пытанні, і адказы вымалёўваюць вобраз мастака і чалавека, які пакутліва разважае над самой трагедыйнасцю нашага жыцця, нашай прысутнасці ў свеце. Няма ў клопаце жыццесцвярджальным, гуманістычным пустога патымізму, ёсць іншае — спакойныя развагі пра высокую адказнасць чалавека за ўласныя ўчынкі, за стасункі чалавека-адзінкі з грамадствам увогуле. Гутаркі з Савіцкім напоўнены і аўтарскімі адступленнямі, якія істотна дапаўняюць дыялогі. Адно з іх працытую: «… так ужо складваўся лёс, што ўсё ў яго жыцці адбывалася не «дзякуючы», а «насуперак» абставінам.

У творчых колах асоба Савіцкага ўспрымаецца, мякка кажучы, неадназначна і ў многім неадэкватна. Павага да таленту, да бліскучай адукаванасці багата аздабляецца зайздрасцю і злосцю: пункт гледжання Савіцкага на мастацтва і жыццё, яго аргументы падзяляюцца не ўсімі. Пра яго можна пачуць і зусім недарэчнае: маўляў, Савіцкі — наогул ненацыянальны, пракамуністычны мастак…

Савіцкі ніколі не спрачаецца з крытыкамі-ганьбавальнікамі. Ён проста працуе. Словам, што камянямі ляцяць з розных бакоў, проціпастаўляе сваю работу.

«Ненацыянальны мастак» — гучыць абсурдна ў дачыненні да Савіцкага, творчасць якога грунтуецца на агульначалавечых каштоўнасцях, спрадвечных народных уяўленнях аб тым, што такое дабро і зло, святло і цемра, жыццё і смерць, боль і радасць…

Што з намі здарылася, калі мы з прымітыўнай тэндэнцыйнасцю падыходзім да творчасці Майстра?

— У пасляваенны час мяне, былога вязня, адкрыта называлі ворагам

Савецкай улады. Партыйныя сходы пісалі рэзалюцыі: ідэалагічны дыверсант, у архівах ляжаць гэтыя тамы… А зараз некаторыя пішуць, нібыта я пры камуністах працвітаў!

— Мінулае лагерніка — цяжкі груз, але як удалося прабіцца?

— Бернард Шоу сказаў: «Працуйце, усё астатняе прыйдзе само».

А якая прыгожая назва ў размовы з Піменам Панчанкам: «Праўда веку! Зрабі нас дужымі…» Сустрэча з народным паэтам Беларусі ў кнізе Падаляк вярнула мяне асабіста да раней прачытаных кніг Пімена Емяльянавіча — «Крык сойкі», «Вячэрні цягнік», «Млечны шлях», «Снежань», «Маўклівая малітва», «І вера, і вернасць, і вечнасць», «Пры святле маланкі»… Раскіданыя па часе выданні, яны ў мяне на хатняй паліцы стаяць адной бібліятэкай. Бібліятэкай думак, настрояў, перажыванняў… І следам за прачытаным у кнізе Падаляк душой і сэрцам дакранаюся ізноўку да панчанкаўскіх слоў: «Кажуць, мова мая аджывае // Век свой ціхі: ёй знікнуць пара. // Для мяне ж яна вечна жывая, // Як раса, як сляза, як зара»…

Ёсць у кнізе сустрэч і адкрыццяў, падараваных чытачу Падаляк, надзвычайна высокі эмацыйны настрой, разумны піетэт перад фундаментальнымі асновамі існавання чалавека на Зямлі — перад словам, мовай, культурай, традыцыямі… Чытаючы гутаркі, артыкулы, прысвечаныя народнаму пісьменніку Янку Брылю ( «Свабода аўтарскай прысутнасці»), «Некар’ерысцкі характар» Фёдара Шмакава», «Нарачанскія сосны Максіма Танка», «Гродзенскі вальс Аляксандра Шыдлоўскага: краты не заслоняць зор…», «Кругі лёсу Яна Скрыгана», «Скульптар Андрэй Бембель і яго ТАТА-літарны рэжым», «Пятрусь Броўка: «Пахне чабор», «Пошукі будучыні Кузьмы Чорнага і філасофія гісторыі ў «чалавечым вымярэнні», іншыя дыялогі, творчыя партрэты, не проста пранікаешся павагай да герояў, а яшчэ набіраешся ад іх сілы і моцы, духоўнай трываласці. Сімпатычныя, добрыя, беларускія персанажы, абраныя журналісткай у героі, складаюць сапраўды лепшую частку беларускай інтэлігенцыі.

Знаёмства з кнігай публіцыста і вучонага (паралельна з газетнай работай Таццяна Уладзіміраўна шмат гадоў выкладае ў Інстытуце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта) нагадала пра тое, што варта болей увагі надаваць выданню такога кшталту літаратуры. У лепшых газетных і часопісных публікацыях — не толькі партрэт часу і пэўных пакаленняў. Публіцыстычныя работы такога характару яшчэ і нагадваюць пра галоўныя вартасці ў выхаванні маральных, духоўных каштоўнасцей грамадскага развіцця. Дарэчы, свет пабачыла першая частка кнігі дыялогаў. Таццяна Падаляк, падсумоўваючы зробленае ў «Звяздзе», падрыхтавала працяг кнігі. Спадзяёмся, што і ён  хутка пабачыць свет. А яшчэ вельмі хацелася б, каб матэрыялы падобнага кшталту працягвалі з’яўляцца на старонках самой «Звязды». Чытачу гэта патрэбна!..

Эмануіл ІОФЕ

# ПЕРШАЯ КНІГА ПРА АРХІЎ І БІБЛІЯТЭКУ КІРАЎНІКА РЭСПУБЛІКІ

**Пантелеймон ПОНОМАРЕНКО. Личный архив и книжное обозрение. Сводный каталог.** *Мн.: «Издательский дом «Звязда», 2013.*

Панцеляймон Панамарэнка быў кіраўніком БССР на працягу дзесяці гадоў. За гэты час кіраўніцтва Беларусі зведала як светлыя (уз'яднанне БССР і Заходняй Беларусі), так і змрочныя (палітычныя рэпрэсіі, неаб'ектыўная ацэнка дзейнасці Мінскага антыфашысцкага падполля ў 1941—1942 гадах) старонкі сваёй гісторыі.

Увогуле, ён чалавек неадназначны. Быў здольным палітыкам, але не пазбаўленым каварства, і ў той жа час вельмі кемлівы і адукаваны. Яго рэзалюцыі на шматлікіх дакладных запісках партыйных і дзяржаўных дзеячаў рэспублікі, прадстаўнікоў вышэйшага партызанскага камандавання сведчаць аб выдатных здольнасцях адразу зразумець сэнс справы, аналізаваць магчымыя крокі і прымаць неабходныя рашэнні.

Калі згадаць акружэнне Сталіна ў 1948—1953 гадах, то Панамарэнка з'яўляўся, бадай, адным з самых адукаваных паплечнікаў «правадыра ўсіх народаў». Ён унёс істотны ўклад у развіццё эканомікі, навукі і культуры БССР. У той жа час да ягоных успамінаў, як і да многіх яго работ, трэба адносіцца вельмі крытычна. Гэтыя публікацыі пазначаны памкненнем пакінуць аб сабе і сваёй дзейнасці выключна добрую памяць.

У чытача адразу ўзнікае пытанне:

«У чым каштоўнасць і вартасці гэтай кнігі? Што ў ёй новага?»

Па-першае, без усякага перабольшання, яна па многіх параметрах сапраўды ўнікальная. Хоць яе складальнікі і бібліяграфічны рэдактар Т. Рошчына назвалі яе «Зводным каталагам», па сутнасці, гэта даведнік, як падкрэсліваў адзін з галоўных ініцыятараў яе стварэння і аўтар кароткага біяграфічнага нарыса «Пантелеймон Пономаренко» В. Скалабан, дый іншыя складальнікі і, можна дадаць, энцыклапедычны.

Па-другое, упершыню ў Беларусі, краінах СНД і ва ўсім свеце ў кнізе, падрыхтаванай сумеснымі намаганнямі беларускіх і расійскіх архівістаў, бібліятэкараў і музейных работнікаў, прыведзена навуковае апісанне асабістых збораў віднага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча СССР і БССР, якія знаходзяцца ў розных сховішчах Мінска і Масквы.

Па-трэцяе, знаёмства са зместам гэтага выдання дазваляе ўвесці ў навуковы зварот дакументы і экспанаты, якія раскрываюць дзейнасць Панамарэнкі як кіраўніка БССР у 1938—1948 гады і даследчыка партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Так у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваюцца даклады, выступленні, артыкулы і іншыя цікавыя яго дакументы, рукапісы манаграфій, кніг, даведнікаў, дакументы, сабраныя Панцеляймонам Кандратавічам па гісторыі Вялікай Айчыннай

вайны, Заходняй Беларусі і па іншых тэмах (фонд. 1466. Вопіс № 1).

Па-чацвёртае, чытачам «Полымя», на мой погляд, найбольшую цікавасць уяўляюць матэрыялы, прысвечаныя ўзаемаадносінам Панамарэнкі з дзеячамі навукі, літаратуры і мастацтва Беларусі і ўсяго Савецкага Саюза.

Мала каму вядома, што ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва знаходзіцца калекцыя здымкаў дзеячаў літаратуры і мастацтва, сабраная ім.

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ёсць шэраг кніг з асабістай бібліятэкі Панамарэнкі. Сярод іх — «Круглы год: выбранае» Э. Агняцвет (1966) у супервокладцы, з даравальным надпісам на тытульным лісце: «Глыбокапаважанаму Панцеляймону Кандрацьевічу Панамарэнку — даўняму нашаму добраму другу. Эдзі Агняцвет. Масква, 18.XII.68 г.» У гэтай жа бібліятэцы захоўваецца зборнік А. Астрэйкі «Слуцкі пояс», выпушчаны ў 1943 годзе партызанамі з надпісам «П. К. Панамарэнку — кіраўніку бальшавікоў Беларусі на ўспамін. Анатоль Астрэйка. 5.II/1944 г.» і кніга «Лесные огни» (1945) з даравальным надпісам: «Клапатліваму выхаваўцу беларускай літаратуры П. К. Панамарэнку на добры ўспамін. Анатоль Астрэйка. 2.I.1946».

У асабістай бібліятэцы Панцеляймона Кандратавіча знаходзілася 12 кніг народнага паэта Беларусі П. Броўкі, якія цяпер таксама захоўваюцца ў акадэмічнай бібліятэцы. Па аўтографах відаць, што Пятрусь Усцінавіч быў вельмі ўдзячны Панамарэнку за падтрымку ім плённага супрацоўніцтва. Так, у красавіку 1949 года на тытульным лісце кнігі вершаў і паэм «Избранное», выдадзенай у Маскве пасля ад'езду Панамарэнкі з Беларусі, ён напісаў: «Дарагі Панцеляймон Кандратавіч! Ніколі не забыцца тых год, у якія мы пры вас працавалі, раслі і вучыліся. Дазвольце ж, з гэтаю кніжкаю ад усяго сэрца пераслаць Вам шчырую падзяку за ўсё! Пятрусь Броўка... Мінск». Праз год Панамарэнка атрымаў ад Броўкі кнігу вершаў «Дороги жизни» з такім надпісам: «Дарагому Панцеляймону Кандратавічу Панамарэнку. Ідуць, адыходзяць гады за гадамі, // Нямала прышлося падзей перажыць. // Прайшлі мы дарогу вялікую з вамі, // Ніколі дарогі тае не забыць! Пятрусь Броўка. 1950 г.». А вось які аўтограф напісаў Пятрусь Усцінавіч на кнізе «Стихотворения и поэмы», што выйшла ў Маскве ў 1951 годзе: «Дорогой Пантелеймон Кондратьевич! Ещё и еще раз поклон Вам из Советской Белоруссии. Здесь всё помнит и любит Вас! Петрусь Бровка. Февраль, 1952».

Сярод кніг беларускіх пісьменнікаў у акадэмічнай бібліятэцы знаходзіцца і неўміручая камедыя В. Вольскага «Несцерка» (1946) з такім даравальным надпісам: «Панцеляймону Кандратавічу Панамарэнку з глыбокай пашанай ад аўтара. В. Вольскі. 12.II/—1946 г. Мінск».

Ёсць пэўныя падставы для высновы, што Панамарэнка вельмі цаніў творы Якуба Коласа. У яго асабістай бібліятэцы знаходзілася 19 кніг Канстанціна Міхайлавіча з даравальнымі надпісамі і адна кніга пра жыццё і творчасць Песняра (складальнікі І. Курбека і М. Базарэвіч, 1967). Даравальныя надпісы гавораць самі за сябе: «Глыбокапаважанаму П. Панамарэнку, шчыраму другу беларускага народа на памяць ад Якуба Коласа. 22.I.1947 г.»; «Глыбокапаважанаму, дарагому П. К. Панамарэнку, зычліваму другу беларускага народа ад Я. Коласа. 24.XII.1947 г.»; «Дорогому Пантелеймону Кондратьевичу Пономаренко на память о хороших белорусских днях. Якуб Колас. 23.XII.1949 г. г. Москва»; «Дорогому Пантелеймону Кондратьевичу Пономаренко. Час праходзіць. Сляды ж творчай працы на карысць народу застаюцца. А людзі,. пакінуўшыя гэтыя сляды, не забываюцца. Якуб Колас. 21.IX.1951 г.»; «Глубокоуважае-

мому, дорогому П. К. Пономаренко на память о Белоруссии, о белорусских лесах. Якуб Колас. 27.XI.1952 г.».

На адной з дзвюх кніг народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы такі надпіс: «Дарагому Панцеляймону Кандратавічу Панамарэнку з глыбокай пашанай і шчырай падзякай за клопаты аб беларускай савецкай літаратуры. Кандрат Крапіва.1/III—1948 г.»; на тытульным лісце другой: «Дарагому Панцеляймону Кандратавічу Панамарэнку, заслужыўшаму любоў і падзяку ўсяго беларускага народа, з гарачым павіншаваннем у дзень пяцідзесяцігоддзя, з пажаданнем доўгіх год шчасця і далейшай плённай працы на славу нашай сацыялістычнай Радзімы. Кандрат Крапіва.7—VIII — 1952 г.».

На другім месцы па колькасці кніг беларускіх пісьменнікаў у асабістай бібліятэцы Панамарэнкі пасля Я. Коласа, безумоўна, стаіць народны паэт Беларусі А. Куляшоў. Ён падарыў Панцеляймону Кандратавічу 18 кніг. Прывядзём некаторыя аўтографы: «Глыбокапаважанаму П. К. Панамарэнку, самаму аб'ектыўнаму крытыку і найбольшаму прыяцелю беларускай савецкай літаратуры — на памяць ад аўтара кнігу вершаў і паэм, напісаных за апошнія 10 год (1935—1945 гг. Ар. Куляшоў. 1/XII — 45 г. г. Мінск»; «П. К. Панамарэнку — Кіраўніку беларускіх партызан у гады Айчыннай вайны — з павагай і ўдзячнасцю за стрэчы і гутаркі з беларускімі пісьменнікамі, за сустрэчы і гутаркі, якія прынеслі карысць і аўтару гэтай паэмы. Ар. Куляшоў. 6/XII 45 г. г. Мінск» (паэма «Прыгоды цымбал»); «Глыбокапаважанаму Панцеляймону Кандрацьевічу Панамарэнку — першаму чытачу гэтае поэмы ў арыгінале — з любоўю і ўдзячнасцю за тыя сардэчныя клопаты, якія натхнялі і натхняюць на далейшыя творчыя поспехі. Ад шчырага пачуцця. Ар. Куляшоў. 6.III.48 г.» (паэма «Прапор брыгады»); «Глубокоуважаемому Пантелеймону Кондратьевичу Пономаренко от всего сердца, как и всегда на память об авторе книги, который многим обязан Вам, вашим работам и советам. Ар. Кулешов. 20.VII.48 г. г. Москва».

Сярод кніг бібліятэкі К. Панамарэнкі і рэдкае выданне: «Выбраныя творы» Я. Купалы, выдадзеныя ў 1946 годзе, з аўтографам на тытульным лісце: «Вельмі паважанаму Панцеляймону Кандратавічу Панамарэнка, які заўсёды ўважліва і шчыра адносіцца да памяці Янкі Купалы. З глыбокай пашанай. В. Луцэвіч. 16.V 46».

Свае кнігі Панамарэнку дарылі вядомы савецкі пісьменнік В. Лідзін, М. Лужанін, М. Лынькоў, І. Любан, М. Машара, А. Міронаў, Я. Мазалькоў і іншыя. Шасцю кнігамі прадстаўлены народны паэт Беларусі Максім Танк, заслугоўваюць увагі ягоныя даравальныя надпісы. Так, 21 снежня 1943 года на тытульным лісце паэмы «Янук Сяліба» ён напісаў: «Паважанаму Панцеляймону Кандратавічу Панамарэнку, імя чыё нераздзельна і назаўсёды звязана з гераічнай вызваленчай барацьбой беларускага народа, з яго перамогай, з росквітам яго культуры». Разгарнуўшы «Выбраныя вершы» М. Танка, выдадзеныя ў 1947 годзе, чытаем: «Паважанаму Панцеляймону Кандрацевічу Панамарэнку, кіраўніку Рэйкавай вайны. Тысячы дотаў немецкіх, а ў іх не лічыць вартавых. // Чыгуначны шлях ляжыць, як струна. // Загад Панамарэнкі, загад партызанам з Масквы, // Каб ранены звер нямецкі ад болі смяротнай узвыў: // Рэйкавая вайна! Рэйкавая вайна!... Максім Танк. Мінск, 17— II— 1948 г.». А 8 чэрвеня 1949 года на тытульным лісце кнігі вершаў «Каб ведалі» Танк напіша: «Глыбокапаважанаму Панцеляймону Кандрацьевічу Панамарэнку гэтыя вершы з Беларусі, з краіны, якую ён шчыра пакахаў, і з краіны, дзе шмат у яго сяброў, якія заўсёды яго ўспамінаюць. З пашанай. Максім Танк. Масква».

Гаворачы пра кнігі беларускіх пісьменнікаў у асабістай бібліятэцы Панамарэнкі, нельга не згадаць зборнік

апавяданняў І. Чыгрынава «По своим следам» (1968), раман І. Шамякіна «У добры час» (1953) з даравальнымі надпісамі.

Міжволі прыходзіш да роздуму пра вельмі складаную, вострую і разам з тым даволі далікатную тэму «Пісьменнік і ўлада». Па-мойму, невыпадкова большасць кніг, падораных Панамарэнку, адносяцца да 1940-х — сярэдзіны 1950-х гадоў, калі Панцеляймон Кандратавіч займаў высокія пасады ў Беларусі, у ЦК ВКП(б), КПСС, Савеце Міністраў СССР, быў першым сакратаром ЦК Кампартыі Казахстана, на дыпламатычнай рабоце і меў даволі вялікі ўплыў у кіруючых колах СССР. Колькасць кніг змяншаецца з 1961 года, калі ён быў выведзены са складу ЦК КПСС. Гэта, праўда, не адносіцца да партызанскіх камандзіраў і актыўных удзельнікаў партызанскага руху ў час Вялікай Айчыннай вайны, якія працягвалі прысылаць яму свае кнігі аж да апошніх дзён ягонага жыцця.

Цікава пазнаёміцца з успамінамі былой загадчыцы аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі Л. Збралевіч «Из истории библиотеки П. К. Пономаренко». Толькі адна заўвага. На старонцы 175 Збралевіч называе Панамарэнку сакратаром ЦК КПБ у 1939—1948 гадах і начальнікам Беларускага штаба партызанскага руху. Дапушчана некалькі фактычных памылак.

Па-першае, Панцеляймон Кандратавіч быў першым сакратром ЦК КП(б)Б у 1938—1947 гадах, кіраўніком урада БССР у 1944—1948 гадах і начальнікам Цэнтральнага штаба партызанскага руху ў 1942—1944 гадах. Начальнікам Беларускага штаба партызанскага руху ў 1942—1944 гадах з’яўляўся П. Калінін.

Каштоўныя матэрыялы змешчаны ў раздзеле «Государственная публичная историческая библиотека России». Аказваецца, што сярод кніг з асабістай бібліятэкі Панамарэнкі знаходзяцца такія кнігі, як «Вянок» М. Багдановіча (1927), творы Ф. Багушэвіча, К. Буйло, М. Васілька, А. Гаруна, М. Гарэцкага… А ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь з асабістай бібліятэкі Панамарэнкі прадстаўлены кнігі Я. Купалы, М. Янчука, Б. Тарашкевіча.

Самым адданым і ўдзячным Панцеляймону Кандратавічу заставаўся П. Броўка. Пра гэта сведчаць яго аўтографы на кнігах, падораных яму, што захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. На фарзацы кнігі «Ты — мая пчолка = Ты моя пчёлка: лірыка, 1935—1970» (1972) такі даравальны надпіс: «Дарагому Панцеляймону Кандратавічу Панамарэнку некалькі слоў маладой лірыкі — ад старога Пятруся Броўкі». На тытульным лісце зборніка «Пишу о сердце человечьем» (1974) народны паэт Беларусі напісаў: «Дорогому Пантелеймону Кондратьевичу Пономаренко. О пережитом за многие годы и многие, незабываемые, вместе с Вами — от всего сердца! Петрусь Бровка. Февраль 1975 г.». А гэта на кнізе вершаў і паэм «И молодость и зрелость» (1979): «Дорогому Пантелеймону Кондратьевичу Пономаренко. С кем прошла моя молодость и наступила зрелость. Спасибо за всё. Петрусь Бровка. Июнь 1979».

Зацікавяць чытача і экспанаты Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Гэта сем падарункаў Панамарэнку: пісталеты, пісталеты-кулямёты, самаробныя нажы. У гэтым жа музеі знаходзяцца рэдкія фатаграфіі і дакументы Панцеляймона Кандратавіча, рукапісныя часопісы.

Вельмі добра, што ў кнізе маюцца імянны ўказальнік і спіс скарачэнняў.

Аднак, адзначаючы шматлікія вартасці яе, нельга не выказаць некаторыя заўвагі. Лепш было б, каб складальнікі больш дакладна прытрымліваліся двух важнейшых прынцыпаў адбору кніг з асабістай бібліятэкі Панамарэнкі — тэматычнага і храна-

